Эх вёска, любая вёска!..

І як прыемна, што з кожнай хвілінай, з кожным перакатам каткоў далее гэты зьнялюбелы горад!

Як прыемна, што так шпарка нясецца поезд, рэжацца ў чорную мякаць ночнае цемры...

Эх, каб яшчэ шпарчэй...

Каб—як птушка, як бліскавіца...

Вёска, вёска! Любая вёска...

*(Працяг будзе)*

# ХАТКА НАД БАЛОТАМ

## Тарас Гушча

### I

Калі я думаю аб гэтай хатцы, я ўспамінаю лета. У маіх вачох стаіць поле з яго прыгожымі ўзгоркамі, а на полі пакалыхваецца шэра-зялёнае жыта, пераліваецца хвалямі жывога срэбра, і кожны раз, калі ніжэй прыгінае вецер гэтыя хвалі, адтуль, як зоры, усьміхаюцца махрастыя васількі. Я нават чую аднатонную многагалосную песьню ржаных каласоў на зялёных прасторах палёў, а над гэтымі прасторамі сінее бяздоннае неба. І гэтае яснае неба, і поле, залітае белымі праменьнямі сонца, і гэты высокі бор і хвойнік, раскінуты па ўзгорках, і тыя хутаркі сярод мяккалістых зялёных ліп і клёнаў і садзікаў, разьведзеных з такою стараннасьцю,—усё гэта зьліваецца ў адзін гармонічны рысунак, а ў сярэдзіне гэтага рысунку стаіць адзінокая хатка над самым балотцам.

Калі пазіраеш здалёк на гэтую хатку, на яе адзінокую постаць і на маленькі хлявушок, што прытуліўся да яе, бы дзіця да маткі, то нейк мімаволі ўстае вобраз пакрыўджанай жанчыны, што пайшла ўпрочкі з сяла і ў невясёлым раздум'і спынілася на дарозе сярод поля. Здалёк хатка здаецца досыць паважнаю будынінаю, і гэтую паважнасьць ёй прыдае высока паднятая стромкая саламяная страха. Але-ж далячыня і пэўная адлегласьць маюць тую ўласьцівасьць, што паказваюць рэчавістасьць ня так, як ёсьць яна ў сапраўднасьці. Зблізка гэтая хатка мае далёка не такі фарсісты выгляд, як здалёк. Стромкая страха яе абвісла, пазьдзірана вятрамі, і лезе салома з яе, як валасы з галавы, апанованай горам, клопатам, бядою-згрызотамі. Хатка мае прыбудовачку—сенцы з тонкіх нямоцных дошак, праз якія дзьме вецер, засякае дождж і сьвеціцца неба. Прыбудоўка скідана, як відаць, на скорую руку, і ў сярэдзіне гэтай дашчанай сьцяны ўстаўлены пабеленыя дзьверы ад нейкай разабранай непадалёку дачы. Ці яны зьбіраліся служыць свайму звычайнаму прызначэньню, ці проста былі ўціснуты сюды, каб залатаць дзірку ў сьцяне,—сказаць трудна, тым болей, што яны і не адчыняліся, прыбітыя плянкаю.

Хатка над балотцам стаіць на нізкім цэмантовым падмурку, а на яе ганачку, таксама цэмантовым, прыбіта падкова, як сымболь шчасьця і ўдачы. Але гэтага шчасьця і гэтай удачы ня было цяпер тут, бо нават і пара ластавачак, вылепіўшы гняздо пад самым воўкам, ня вывела сваіх

дзетак: іх павыцягала з гнязда кошка пана Зыгмуся і пані Даміцэлі, прадраўшы зьверху страху над гняздом. Ня мела шчасьця і кошка, бо ёй самой прыходзілася здабываць сабе спажытак. Ня было шчасьця і ўдачы і прусаком, што густа засялялі шчыліны, пячуру і падпечак: іх патруціў японскім парашком дачнік, наняўшы пад дачу хатку над балотам. Ня меў удачы і сам дачнік, бо пан Зыгмусь і пані Даміцэля рабілі яму згрызоты ўсё лета. Ня было шчасьця і гаспадыні хаткі над балотцам, бо яна прадала яе чыгуначніку, і сама засталася бяз нічога пасьля таго, як вышла замуж і муж кінуў яе, прагуляўшы грошы. Ня мае ўдачы і чыгуначнік, купіўшы гэтую хатку, бо яму ніяк не ўдаюцца пляны прыбраць зямлю, што каля хаткі над балотцам. Ня мае ўдачы і шчасьця і пан Зыгмусь і пані Даміцэля, бо іх жыцьцё... Але аб іх жыцьці я і хачу злажыць апавяданьне. А калі і гэтаму апавяданьню не пашанцуе, то тады прыдзецца прызнаць, што падкова ня ёсьць сымболь удачы і шчасьця.

II

Пан Зыгмусь і пані Даміцэля родам з пад Сувалак. Яны нават і не паны, а простыя людзі. Калі-ж іх называюць панамі, то з тае толькі прычыны, што яны родам з Польшчы і гавораць папольску, бо ўжо нейк увайшло ў звычай называць панамі тых, хто гаворыць папольску. І сам пан Зыгмусь і пані Даміцэля не протэстуюць, калі іх называюць панамі. Наадварот, ім гэта вельмі падабаецца. Яны-ж і ня простыя палякі, а з мазуроў, а мазуры і ёсьць самыя настаяшчыя палякі. Так зазначае і пан Зыгмусь і пані Даміцэля. Розьніца-ж паміж звычайнымі палякамі і мазурамі складаецца з таго, што звычайныя палякі ў размове часта ўжываюць „пшы“, а мазуры „псы“. Там, дзе звычайныя палякі кажуць „жэ“, мазуры „зэ“. Напрыклад, калі пан Зыгмусь выказвае адносіны мазура да музыкі і танцаў, зьвязаных з музыкаю, то ён кажа:

У мазуза така дуса,
Зэ як заграс, то сень руса.

Гэта значыць: „У мазура такая душа, што калі заграць, то ён узрушыцца“. Цяпер-жа, адарваўшыся ад свае краіны, пабыўшы за час вайны і бежанства ў розных кутках Расіі, а потым асеўшы ў хатцы над балотцам, пан Зыгмусь і пані Даміцэля страцілі чыстату мазурскае мовы і гавораць польска-расійска-беларускім жаргонам. А пані Даміцэля, маючы здольнасьць да каталіцкіх модлаў і да сьпеваў па кантычцы і да сьпеваў наогул, пераняла шмат романсаў і іншых модных песень ад другой галіны славянскай творчасьці. У нядзелю ці ў якое-небудзь каталіцкае сьвята пан Зыгмусь надзяваў боты і мізэрненькія галіфэ і ішоў да касьцёлу вёрст за дзесяць, а пані Даміцэля аставалася дома. Яна брала кантычку, садзілася дзе-небудзь на аблюбаваным месцы, чытала ўголас малітвы, сьпявала сьвятыя песьні, аддаючы гэтым пэўны падатак пану богу. Але часу ў яе многа, а знайсьці сабе работу яна ня ўмее ці проста

ня хоча, і тады яна аддаецца марам або ўспамінам аб тым, што было і прайшло. Часта ні з таго, ні з сяго ў такіх разох завядзе яна песьню:

Ах, зачем эта ночь
Так была хороша!
Не болела-бы грудь,
Не страдала-б душа.

Пані Даміцэля любіла гэты раманс і сьпявала яго часта. Калі на гэты час і пан Зыгмусь быў дзе-небудзь блізка, то і ён далучаў сюды свой голас. Як мужчына, ён стараўся выводзіць таўшчэй. Але пан Зыгмусь быў чалавек невялічкі, шчупленькі, і голас у яго быў бурклівенькі, як у ката, калі ён распачне на печы сваё варкатаньне. Натыкнешся, бывала, на сцэну гэтага дуэту, і мімаволі разьбярэ нейкі сьмех, бо словы і тон гэтага рамансу і той запал, з якім сьпяваюць пан Зыгмусь і пані Даміцэля, так не адпавядаюць тым асобам, чыімі вуснамі выконваецца ён: пані Даміцэля мае гадоў пад пяцьдзесят, а пан Зыгмусь на пяць гадоў болей. І паскупілася прырода на хараство для іх, ды мала таго— яна і пакрыўдзіла іх: у пані Даміцэлі хворыя ногі і каўтун на галаве, а пан Зыгмусь зьяўляецца як-бы жывым аргумантам вядомай тэорыі Дарвіна аб пахаджэньні чалавека. Проста аж нейк крыўдна было за пана Зыгмуся. І калі ён першы раз зьявіўся тут, і яго пабачыў Мікалай Юшкевіч, то ён так быў зьдзіўлены, што спыніўся і стаў разглядаць пана Зыгмуся, а потым спытаў:

— А брат ты мой! ці ты чалавек, ці ты хто?

— Цловек, цловек!—тарапліва запэўніваў пан Зыгмусь Мікалая Юшкевіча і сьмяяўся дробненькім сьмехам.

Між сабою пан Зыгмусь і пані Даміцэля жывуць не заўсёды ў згодзе, хоць яны і моцна прывязаны адно да другога. Непаразуменьні ў іх бываюць па некалькі разоў на дзень, асабліва, калі яны сядзяць у хаце. Але гэтыя непаразуменьні няглыбокага характару і зараз-жа зьмяняюцца згодаю. Пані Даміцэля любіць гарох і бульбу, а пан Зыгмусь—буракі і капусту. Пан Зыгмусь загадае зварыць „кіслэго“, а пані Даміцэля паставіць на плітку „цыгунэцак з грохем“,—і сварка гатова. Пан Зыгмусь есьць гарох і бурчыць, аздабляючы сваё бурчэньне словам „холера“. А трошачкі счакаўшы, яны бяруць ручную цялежачку, зробленую панам Зыгмусем, і ў найлепшай згодзе едуць у хвойнік зьбіраць дровы. А яшчэ трошкі счакаўшы, з дарог даносіцца голас пані Даміцэлі:

— Ах, зачем эта ночь так была хороша!

### III

Каля хаткі над балотцам стаіць невялічкі прыгрэбнічак. Здалёк ён нават і няпрымецен—такі ён маленькі, мізэрненькі! Радам з прыгрэбнічкам у некалькіх ад яго кроках выкапан няглыбокі калодзеж, даўно нячышчаны, з кволенькім зрубам.

Прыгрэбнік—летняя рэзыдэнцыя пана Зыгмуся, яго майстэрня і спальня. На самай сярэдзіне прыгрэбніка ляжыць скрыня. Праўда, яна больш падобна да вечка ад скрыні, чым на самую скрыню. Гэта і ёсьць ложак пана Зыгмуся і пані Даміцэлі. Яны маглі-б спаць і ў кухні, але пан Зыгмусь таксама хоча мець сваіх дачнікаў. У яго ёсьць добры чалавек, к таму-ж яшчэ і зямляк,—кухар з дому адпачынку. Гэты кухар вельмі добра ведае францускую кухню, і каб ён паехаў у Польшчу, то яго цанілі-б там на вагу золата. Вось чаму, калі яны зыйдуцца з панам Зыгмусем, то гавораць аб тым, як-бы перабрацца ў Польшчу. На дзеле-ж ні той, ні другі перабірацца туды зусім ня хоча, а калі яны і гавораць аб гэтым, то толькі затым, каб аддаць падатак свайму патрыотызму. Кухар і тут жыве някепска: бярэ добрую пэнсію, мае чыстае, на гарадзкі манер, адзеньне і гладкае цела. А ў горадзе ён мае буржуйскую кватэру і значны запас усялякага дабра, бо кухар—чалавек спрытны, ня сьпіць у шапку. У пана Зыгмуся хоць і ёсьць у Польшчы маёнтак, што выявіцца потым, але ў яго ёсьць тут свае пляны, праўда, покі што адны толькі пляны.

Як маленькі павучок, сядзіць пан Зыгмусь у сваім прыгрэбнічку, мармоча сабе пад нос бурклівенькім галаском нейкую песеньку, поркаючы шылам стары сялянскі бот ці стоптаны чаравік вясковай красуні,—пан Зыгмусь трохі ведае шавецкае рамяство,—і тчэ сваю павуцінку, каб залучыць у яе хоць крышанок таго шчасьця. У пана Зыгмуся ёсьць адна толькі мерка, з якою падыходзіць ён да жыцьця і да штодзенных яго праяў: якую карысьць можна здабыць ад кожнага моманту быцьця і як здабыць яе? Бо пан Зыгмусь чалавек бедны, бо жыць пану Зыгмусю цяжка. Вось і цяпер ён мяркуе, як выкарыстаць гаспадарскіх дачнікаў. Гаспадаром кухні зьяўляецца ён: чыгуначнік дазволіў яму жыць тут, даглядаць хату. Значыцца, ён можа выпусьціць кухню пад дачу кухару, а сам перабярэцца ў прыгрэбнічак. А ў прыгрэбніку летам—адна асалода: гэта—дача на дачы. Нават і тады, калі чыгуначнік перанясе адгэтуль хату, пан Зыгмусь мае дзе прыпыніцца. Прыпынак гэты—прыгрэбнік. Можна таксама мець нейкую карысьць і з калодзежа, бо і над калодзежам ён гаспадар. Праўда, калодзеж выкапан не яго рукамі, але калаўротак даставаць ваду папраўляў пан Зыгмусь. Дык ці не назначыць плату дачнікам за ваду?

Вось якімі думкамі жыве цяпер пан Зыгмусь.

На трэці дзень пасьля таго, як перабраліся дачнікі ў хатку над балотцам, пан Зыгмусь і пані Даміцэля зыйшлі з кухні ў прыгрэбнік, прычым пані Даміцэля вельмі старанна прыбрала кухню, падмяла, пасыпала жоўтым пясочкам. А на чацьверты дзень, пад вечар, на сьцежачцы, што вядзе ў дом адпачынку цераз хвойнічак і поле, паказалася цэлая процэсія. Паперадзе ішоў сам кухар, узваліўшы на плечы паходны ложак, за ім—жонка з белым вузлам, дзе былі ўвязаны падушкі, за жонкаю—дачка з меншаю сястрою на руках, а замыкаў гэтую процэсію кухараў сын, хлопчык гадкоў восем. Прайшлі поле, перасеклі дарожку, што

ідзе каля балотца, і накіраваліся ў хатку. Пан Зыгмусь з прыветнаю ўсьмешкаю рушыў ім на спатканьне і ўзяў вузел з рук жонкі кухара—пан Зыгмусь усё-ж такі быў і галантны кавалер. За панам Зыгмусем пайшла і пані Даміцэля. Яна ўзяла на рукі меншую кухараву дачку і прамаўляла да яе з ласкаю маткі. Каля хаты ўсе яны спыніліся, прычым кухар прывітаў дачнікаў „добрым вечарам“, а потым стаў цягаць у кухню клункі.

Дачнік пазіраў недаўменна.

— Ніцаво,—сказаў пан Зыгмусь да дачніка:—яны замінаць вам ня будуць—людзі спакойныя, харосыя.

— Як-жа гэта так? я наняў усю хату разам з кухняю, а вы напускаеце сюды неякіх людзей.

Тады пан Зыгмусь горда заявіў:

— У кухні я жыву, і кухню магу аддаць, каму хачу.

На дапамогу пану Зыгмусю прышла і пані Даміцэля.

— Тылько вам всыстко трэба, а бедны цловек нех гіне пад плотэм?..

Спрачацца з імі было цяжка.

— Няхай начуюць, што ты з імі зробіш?

Стаўшы на такі грунт, дачнікі пайшлі і далей. Была тут выказана і такая думка, што, бароначы свае інтарэсы, можна стаць прыгнятацелем пролетарыяту,—пана Зыгмуся і кухара.

— Няхай начуюць, што ты з імі зробіш?—згадзілася і дачніца;—і нам весялей будзе.

Яна, прызнацца, адчувала тут страх глушы і адзіноцтва.

Але ўночы кухарава дачка крычала так галосна-праразьліва, а яе матка, вельмі шляхетная дама ў маркізэтах, так усчувала сваю Тамару, і такі тут падняўся гармідар, што заснуць у гэтую ноч дачнікам не давялося. У Тамары быў коклюш. Сваім крыкам і кашлем яна абудзіла дачнікавых дзяцей. Падняўся концэрт дзіцячага плачу.

— Ах, абязьяна!—лаяўся за сьцяною дачнік і праклінаў пана Зыгмуся.

— Слухае крык сваіх дзяцей, няхай паслухае і чужога крыку, бурзуй!

Пан Зыгмусь на гэты час прышоў з прыгрэбніка.

— Уцякаць прыдзецца адгэтуль!—абураўся дачнік і чухаў патыліцу.

## IV

Цікава і само гэтае балотца. З боку поля стаіць над ім кучка рэдзенькіх хвоек. Яны ўжо не маладыя, але ім, відаць, нясуджана разрасьціся ў пышныя дрэвы, бо такі ўжо неўраджайны тут для іх грунт. З другога боку, ад дарогі, разраслося некалькі кучарава-кучаравых кустоў лазы, паніклых над долам. Яны такія густыя, такія пышныя і так многа ў іх гэтай жыцьцёвай сілы, што мімаволі звapачаюць на сябе ўвагу. Далей, за лозамі, раскінуўся малады гусьценькі беразьнячок. Але ўжо

за лозамі балотца канчаецца, пачынаецца тупкая лагчына, і расьце на ёй грудавая трава. Лагчына цягнецца да самага лесу, а там зноў пераходзіць у балота з густым, белым мохам, з багуном і бугайнікам. Само-ж балотца, дзе сапраўды ёсьць гразь, зусім невялічкае. Летам яно амаль што ўсё высыхае. Астаецца толькі лужынка вады насупраць хаткі—там, дзе адзін з былых гаспадароў пачаў капаць сажалку. Сажалка так і асталася нявыкапанаю, і карысьці ад яе нікому няма. Адны толькі жабы заводзяць вечарамі там свае концэрты ды малюсенькія сінявата-сьветлыя анталяжыкі туману зьвісаюць тут у ясныя летнія вечары.

Пан Зыгмусь цяпер гаспадарыць над гэтым балотцам. Але гэта адзін толькі маленечкі яго крок, адно дробненькае колца ў ланцужку яго затоенага вымеркаванага пляну, над якім так многа думае ён у сваім прыгрэбнічку, у дарозе да касьцёлу ці ў лес па дровы. Вось чаму з такім замілаваньнем глядзіць ён на гэтае балотца і так ахвотна, з захапленьнем забіваў колікі па краёх яго да самага лесу і ад лесу, каб нацягнуць на іх калючы дрот. А яго сякерка, такая мізэрненькая і так падобная да пана Зыгмуся, прагавіта крышыла смольнае, сырое цела жэрдак у хвойніку. Пайшла па балотцы трава расьці, спакусна зелянеецца для сялянскага вока—сена добрае будзе. Вось дзе выгада каню! У пана-ж Зыгмуся няма ні каня, ні каровы. Адзін толькі рабенькі япручок рохкае ў хлявушку, што прытуліўся да хаткі над балотцам, і сьведчыць аб тым, што ёсьць яшчэ жыцьцё і ў гэтым хлявушку.

Прыходзяць да пана Зыгмуся сяляне з вёсачкі, што стаіць за чыгункаю ў вярсьце ад хаткі над балотцам.

Ужо з трома гаспадарамі дагаварыўся пан Зыгмусь. Тры гаспадары прыводзяць цяпер коняй у яго загарадку. Пусьцяць іх на ўсю ноч, а самі дома сьпяць. І гаспадаром добра і пану Зыгмусю прыбытак ёсьць. Але самае важнае тут вось што: гаспадары з ім лічацца, з ім умовы робяць. Ужо адзін палец пана Зыгмуся ляжыць на зямлі, на тэй зямлі, што належыць да хаткі над балотцам.

Эх, зямля! Колькі думак людзкіх нячутнымі крокамі прайшло па табе, авіваючы цябе вяночкамі надзей і ружова-сьветлых мар аб шчасьці, аб куску надзеннага хлеба! Колькі нерасчытаных слоў шапацеў табе вецер шолахам збожжа, красак і травы на ўзьмежках! Колькі неразгаданых песень жыцьця перасьпевана табе за доўгія часы і гэтым сонцам, і гэтымі хмаркамі, і гэтым гоманам дажджоў, навальніц, і халодным сьмехам бялюсенькіх сьняжынак! Колькі тканін выткалі на табе сялянскія сохі і бароны, каб аздобіць цябе, і ў адплату за гэта ўзяць ад цябе падатак хлебам! Многа напісаў ляжыць на табе, а ты ўсё чакаеш, калі будзе палажан на тваім улоньні такі напіс, што зробіць канец калатні з-за дароў тваіх? І хто паложыць яго?

Зямлі-ж тут нямнога—шэсьць дзесяцін разам з балотцам. Але ўся яна ў адным куску і ўся ляжыць каля саменькае хаткі. Адчыніш акно,

і вусаты ячмень прыветна züківае табе галавою, павітаецца, нізка пакло-ніцца табе, да рукі прыпадзе. Гудзе песьнямі поле, і шум гаманлівага лесу даносіць вецер сюды. Прыгожа павіваюцца дарожкі ў полі, гэтыя красёнцы людзкога клопату і працы, а наабапал іх нахіляецца жыта.

Слаўная мясьціна, паквапны куток гэтая зямля, што каля хаткі над балотцам!

І хоча пан Зыгмусь прыбраць яе ў свае рукі, зрабіцца яе гаспадаром. І хіба ён ня мае права на яе. Праўда, зямля належыць да гаспадыні, што прадала хатку над балотцам. І насьледнік ёсьць на зямлю—гаспадынін сын, хоць ён яшчэ і малы. Але якое дзела пану Зыгмусю да іх? Усе галяцца на зямлю: чыгуначнік, сяляне. Ды хто, як ня пан Зыгмусь, мае на яе большае права? Ці мала палажыў ён працы на яе? Хто трымае парадак на ёй? Хто агарадзіў балотца і засеяў поле?.. Не, пан Зыгмусь не адступіцца ад яе!

V

Тры гады таму назад у пана Зыгмуся ня было такіх думак. Прышоў ён сюды чалавекам ціхім, пакорным. Яму трэба было знайсьці хоць які прыпынак, бо надыходзіла зіма, а прыпыніцца ня было дзе. Накіравалі яго людзі сюды, у хатку над балотцам.

Прышоў пан Зыгмусь і пані Даміцэля да ўдавы-гаспадыні. Гаспадыня жыла тут адна з малым дзіцем. Маркотна было ёй тут аднэй, асабліва цяпер, увосень, калі вечары такія доўгія, цёмныя, калі вецер так неспакойна ходзіць па полі за сьценамі хаты і так жудасна прыпадае халоднымі крыльлямі да саламянай страхі, як-бы ён пахаваў тут свайго сына, і сам астаўся сіратою. Глуха і пуста тут зімою. Страшна маладой жанчыне на гэтай адзіноце. Яна-ж непрызвычаена да сялянскага жыцьця, бо сама гарадзкая, гадавалася і вырасла ў горадзе, у гімназіі калісь вучылася. І ня ўмее Алена гаспадарку вясьці. Пачала патроху спускаць яе, каня прадала, зямлю апусьціла. А тут сёй-той з кавалераў пакручвацца пачалі каля Алены. Для адных павабна была сама ўдава, для другіх—яе гаспадарка, а для трэціх—усё разам. Яна-ж не манашка, жанчына маладая, кавалерамі не ганьбуе,—а ну-ж і замуж хто возьме, бо лепшага нічога тут і ня прыдумаеш.

Нізка пакланіўся гаспадыні пан Зыгмусь.

— Мая дарагая пані! ці ня пусьціла-б нас, пані, жыць у кухні? Мы будзем даглядаць вас, рабіць усякую работу, служыць вам.

І—плюсь у руку!

Гаспадыня трохі зьдзівілася і з цікавасьцю пазірала на неспадзяваных гасьцей.

— А хто-ж вы такія?

— Бежанцы, бежанцы мы, панечка, з Польшчы!

Пан Зыгмусь і пасьведчаньне паказаў.

Узяла гаспадыня пасьведчаньне.

— Будзем пані ногі мыць і тую воду піць,—нізка кланялася пані Даміцэля.

Падумала Алена, памеркавала. Ну, што-ж? двое старых, замінаць ня будуць,—няхай жывуць. Усё-ж весялей будзе тут ёй, хоць жывы голас людзкі чуць будзеш.

Такіх услужлівых і адданых ёй людзей Алена яшчэ ня бачыла—хоць ты іх да раны прыкладай. Проста як-бы нейкая міласьць звалілася тут з неба. Некалькі разоў на дзень хадзіў пан Зыгмусь да гаспадыні з дакладам. У гэтых дакладах рабіў ён свае ўвагі і выказваў думкі свае і аб хаце, як прывесьці яе ў належны парадак, і аб карове, як найвыгадней даглядаць яе, каб гаспадыні больш карысьці было, і аб гаспадарцы, каб падняць яе продукцыю, і наогул, як латвей абярнуцца тут, каб было лёгка і добра жыць на сьвеце. А пані Даміцэля ў хаце слугавала і забаўляла гаспадыню размовамі. Яна расказала, што за чалавек пан Зыгмусь і якія наогул яны людзі.

У пані Даміцэлі была багатая фантазія, і сваё даўнейшае жыцьцё ў Польшчы яна шчодра аздабляла поэтычнымі выдумкамі. У гэтых яе расказах ня было строга вытрыманай лініі, і яна часта ўпадала ў супярэчнасьці. У залежнасьці ад абстаноўкі расказу пан Зыгмусь прыймаў у яе розныя афарбоўкі і асьвятленьне. Часамі пан Зыгмусь апісваўся горкім пролетарам, якога эксплёатавалі багачы. Другі раз ён выступаў, як багаты чалавек, у якога быў свой маёнтак, свой дом і шыкарны сад. У іх тады працавала ў часе летніх работ безьліч народу. Пані Даміцэля з асаблівым замілаваньнем апісвала свой дом у маёнтку, дзе яна была гаспадыняю. Пакоі ў іх доме аж зіхацелі, а калі пані Даміцэля пасыпле яшчэ жоўценькім пясочкам, то тады было так хораша, што і вочы трудна адвесьці.

— А хіба ў вашым доме падлогі ня было?—пытае гаспадыня.

— Была, была. Ды якія яшчэ добрыя дошкі былі—шырокія, гладкія.

— А навошта-ж іх жоўтым пяском пасыпаць?—наіўна пытае Алена.

— У нас такі звычай у Польшчы.

У такіх разох гаспадыня маўкліва згаджаецца, дагадаўшыся, што пані Даміцэля „вярзе грушу на вярбе“.

У другі раз пані Даміцэля павядзе апавяданьне аб пану Зыгмусю, як аб польскім настаўніку, як ён у Польшчы вучыў дзяцей і як ім бываланазносяць людзі ўсякага дабра за гэта. А часамі пан Зыгмусь выступаў у ролі контрабандыстага, бо яны жылі пры нямецкай граніцы, і ў адну ноч ён зарабляў па пяцьсот рублёў і больш. У часе-ж вайны з немцамі пан Зыгмусь некалькі разоў перавозіў контрабандным парадкам цара Мікалая, каб заграніцаю ён мог пабачыцца і пагутарыць з Вільгельмам.

Але разам з тымі дакладамі, што рабіў пан Зыгмусь, і з тымі паслугамі, якія аказвала пані Даміцэля па сваёй ахвоце, гаспадыня хаткі

над балотцам пачала адчуваць, што яна тут ужо ня поўная гаспадыня. У самым нядоўгім часе няпрыметна нейк сталася так, што пані Даміцэля ня толькі даіла карову, але стала распараджацца і малаком. Наўперад Алена сама адлівала пэўную порцыю малака сваім падсуседнікам, а цяпер пані Даміцэля адлівала пэўную порцыю гаспадыні. А пан Зыгмусь з кожным днём вышэй падымаў галаву, як бедны чалавек, якога тут эксплёатуюць, але які мае шырокую магчымасьць абараніць сваё пролетарскае права. Мяккая і слабахарактарная Алена адступілася ад свайго гаспадарскага права. Карова перайшла ў распараджэньне паноў Балбоцкіх. А калі захварэла пані Даміцэля, то Алена варыла абед пану Зыгмусю, мыла і латала яго грубыя заношаныя нагавіцы і з гаспадыні зрабілася слугою.

## VI

Плакала ня раз Алена, седзячы адна ў сваёй каморцы.

Чаго яна плакала?

Многа было на гэта прычын. І самая важная прычына—няшчасны яна чалавек. Вышла замуж за старога і моладасьць сваю змарнавала. А цяпер і ўдавою засталася. Ня можа адна абярнуцца, ня ведае, што рабіць ёй, а паслухаеш людзей, яшчэ больш заблутаюць цябе, з тропу саб'юць. І горш за ўсё—пан Зыгмусь. І радачкі ёй няма з ім. Проста ня ведае, як збавіцца ад яго і ад пані Даміцэлі.

— Ідзеце вы ад мае галавы!—плача яна, калі дапякуць ёй падсуседнікі:—пажылі год і досыць. Дайце мне сьвяты спакой!

— Няма такога права, каб выгнаць беднага чалавека,—бурчыць пан Зыгмусь і панура глядзіць у зямлю.

— Я-ж вас не ганю, прашу вас. Жылі вы без мяне дагэтуль, жывеце і цяпер.

— Добры рахунак!—трасе галавою пан Зыгмусь, і ў голасе крыўда чуваць:—працавалі, працавалі, стараліся, рабілі на яе, дровы з лесу на сабе цягалі, а цяпер ідзі, куды хочаш. І гэта табе падзяка за тваю верную службу. Хто-ж нам за працу заплаціць?

— Пан Зыгмусь!—з дакорам кажа Алена:—не прасіла я ад вас работы і не прашу. І ці-ж вы ня бралі, не карысталіся маім дабром? Што хацелі, тое і рабілі. Ня я, а вы тут гаспадарамі былі. Хто малаком ад мае каровы карыстаецца? Чыім дабром сьвіней корміце? Сумленьня ў вас няма.

— Мы тут працуем і ад свае працы карыстаемся. Трэба быць справядлівым. Мы вам не батракі. Няма, мінуліся для вас тыя часы. А што нам належыць, тое нам трэба даць.

— Чаго-ж вы ад мяне хочаце?.. Бярэце ўсё і толькі ідзеце вы ад мяне, каб і вочы мае ня бачылі вас!

Алена закрывае твар і плача.

— Усяго нам браць ня трэба, мы людзі справядлівыя, але свайго я не папушчу.

Ня кажа пан Зыгмусь, чаго ён хоча і што яму належыць, але напамінае гаспадыні аб кодэксах законаў і аб той няэьмернай працы, што ён тут паклаў. Ён чуецца тут сьмела і наводзіць на Алену такі страх, што зусім паралізуе яе волю, і ёй нічога не астаецца, як толькі плакаць і скарыцца перад сілаю гэтых неперaможных фактаў і перад фактам свайго бясьсільля. А пан Зыгмусь козырам ходзіць, і не прапускае здарэньня і памуштраваць часамі сваю гаспадыню. А пані Даміцэля, астаўшыся адна ў кухні, чытае ёй нотацыі і спэцыяльную жаночую мораль, законы якой не захоўвае Алена. Алене гэта ўсё добра чуваць, дый гаворыцца яно затым, каб яна чула. Іх разьдзяляе тонкая перагародка, а каля печы ёсьць яшчэ і такая лёха накшталт громкагаварыцеля, што вельмі добра перадае голас. Алене цяжка змаўчаць. Яна садзіцца каля лёхі, а пані Даміцэля—каля другога канца яе ў кухні, і паміж імі пачынаецца лаянка.

— Ня ваша дзела, хто ў мяне бывае! Можа яшчэ пазваленьне прасіць у пані Даміцэлі.

— Людзкая кабета аднаго ўжо каго трымаецца, а то—тфу! Чорт ведае, у што абарочваецца дом.

Алена ўся аж трасецца, але стараецца быць спакойнай і спакойна дапякае пані Даміцэлі.

— Трымайцеся вы ўжо аднаго пана Зыгмуся, бо вам больш нічога і не астаецца. А вам за вашу вернасьць пану Зыгмусю бог на тым сьвеце ўсе грахі даруе. І ў Кальварыю хадзіць ня трэба.

Сказаўшы гэта, Алена залівaецца сьмехам.

— А што Зыгмусь?—падымае голас пані Даміцэля па той бок пячуры-лёхі:—прасі бога, каб табе такі дастаўся. Але ты гэтага ня варта, бо ў цябе што ня мужчына, то і муж.

— Такога мужа за тры грошы можна купіць. Мусібыць на сьвеце адна пані Даміцэля і згадзілася пайсьці за яго замуж, бо куды-ж дзецца з каўтуном?

Пані Даміцэля ня вытрымлівае і сыпле цэлы мех праклёнаў і розных ня зусім прыятных для жаночай цнатлівасьці слоў. Алена ў сваю чаргу не шкадуе фарбы, каб размаляваць чату панства Балбоцкіх. Цяпер яны ўжо ня слухаюць адна другую і громкагаварыцель-пячура ня можа справіцца з сваёю роляю. Нарэшце, пані Даміцэля зрываецца з свайго месца і, лаючыся, выходзіць на двор, моцна стукнуўшы дзьвярамі, каб і блізка ня быць каля гэтае „паскуды“.

Некалькі гадзін, а часамі і цэлую пору пасьля такіх стычак усякія дыплёматычныя зносіны перапыняюцца паміж гаспадыняю і падсуседнікамі, маўчаць, не гавораць. А назаўтра ўсё гэта як-бы забываецца, і іх жыцьцё зноў прымае тую дзіўную форму, якая нейк сама сабою вы-

працавалася з цягам часу. Усе яны адпускаюцца, робяцца болей далікатнымі ў адносінах сваіх і ўважнымі адзін да другога.

Часамі Алена выходзіць на поле, каб агледзець збажыну, а яе праваджае пан Зыгмусь. Пан Зыгмусь пачціва ідзе каля гаспадыні і лагодненька размаўляе бурклівенькім галаском аб розных гаспадарскіх пытаньнях і дае найлепшыя дарады ў інтарэсах гаспадыні. Алена робіць сапраўды ўражаньне гаспадыні і нават ня простай, бо яна адзета на гарадзкі лад, а на грудзях у яе красуецца якая-небудзь пышная чырвоная кветка.

Прайшлі яны раз дарожкаю каля свайго поля і спыняюцца ў канцы каля лесу, дзе стаіць старая кучаравая хвоя. Многа спогадзі было выказана панам Зыгмусем гаспадыні, бо яна адна, і ніхто ёй ня можа шчыра дапамагчы.

— Пані Алена!—зусім іншым голасам раптам загаварыў пан Зыгмусь.

Алена паглядзела на яго. Цёмныя вочы пана Зыгмуся, глыбока ўціснутыя ў ямкі пад нізкім лобікам, заблішчалі і замасьліліся.

— Жывеце са мною... як жонка,—дадаў, трохі замяўшыся.

— Што вы, пан Зыгмусь!—Алена жахліва адступаецца, пазіраючы на яго, як на гадзюку, гатовую ўкусіць яе.

— Хе-хе-хе!—ад пана Зыгмуся сыплецца дробненькі сьмяшок:— пані Алена! ну, што вам гэта значыць? Але вы ня будзеце мець ніякага клопату, ніякай бяды. Я буду рабіць на вас, буду вясьці гаспадарку, буду служыць, як самы верны і адданы слуга... Вы не ўважайце на мае гады...

— Ці вы звар'яцелі?! Вы мяне абражаеце!

І з агідаю кінуўшы на яго вачамі, заварочваецца, абураная, і ідзе назад.

— Найшоўся кавалер... малпа старая!

Гэты комплімэнт яна пасылае пану Зыгмусю, трохі адышоўшыся.

Пан Зыгмусь пачаў быў гаварыць, які ён яшчэ мужчына, але ня скончыў, бо Алена ня хоча яго слухаць, ня спыняецца. Хацеў дагнаць яе, ды спыніўся, высмаркаўся і спагадна паківаў сам сабе галавою.

— Мухі яшчэ ня ўсе з носа вылецелі,—кажа сам сабе пан Зыгмусь ды йдзе ў лес.

## VII

Алена больш і больш праконваецца, што змаганьне з падсуседнікамі ёй не пад сілу, што выжыць іх ніякім спосабам яна ня здолее, бо ўся палітыка пана Зыгмуся была наведзена на тое, каб апутаць яе ў канец і ня даць ёй тут ніякага ходу. І пачала Алена думаць, як даняць пана Зыгмуся. Перш-на-перш прадала яна карову—няхай-жа яны без малака жывуць. Але пан Зыгмусь на гэта і ўвагі не зьвярнуў, а малака ў яго не пераводзілася: шаўцоўствам сваім здабываў ён гэты продукт. Тады Алена адважылася на нешта большае: прадала хату, а сама вышла замуж. За сабою-ж яна пакінула зямлю, прыгрэбнік і хлявушок у тры

сьцяны: чацьвертаю сьцяною служыла яму хата. Сама-ж паехала з мужам у саўхоз, дзе ён служыў нейкім спэцам.

Хоць яна гэтым і падсекла той сук, на якім сама ліпела, затое-ж, падаючы разам з гэтым суком, яна моцна задзела і пана Зыгмуся і разьбіла ўсё яго пляны, клопаты і розныя меркаваньні, бо калі чыгуначнік перавязе адгэтуль хату, то пану Зыгмусю прыдзецца вандраваць у якоенебудзь іншае месца і адмовіцца ад свайго пляну, або залезьці і сядзець у прыгрэбніку, але гэта ён можа зрабіць з такім-жа посьпехам і з такою-ж карысьцю, сеўшы ў любую яму дзе-небудзь на полі ці ў лесе. Адным словам, пан Зыгмусь быў аглушан, а ўсе яго карты аказаліся зьмешанымі. Але сказаць, каб пан Зыгмусь вельмі моцна гараваў з прычыны такога павароту справы, ня прыходзіцца. Капіталаў ён тут не затраціў, а што ня вышлася так, як ён думаў, то што-ж тут дзіўнага? Або мала было ў пана Зыгмуся розных думак? Усё жыцьцё ён думаў і строіў усякія пляны. Часамі ўдавалася, а часамі і не. Дый трэба яшчэ агледзецца, памеркаваць і панюхаць. Вечарам пан Зыгмусь зусім заспакоіўся, і калі яны асталіся з паняю Даміцэляю адны на ўсю хату, то нават засьпявалі дуэт:

Ах зачем эта ночь
Так была хороша?

Новы гаспадар хаткі над балотцам быў чалавек моцны і фігураю, і характарам, і нават сваім прозьвішчам—Жарстак. У незабаве часу прышоў ён сюды, як гаспадар хаткі над балотцам, каб агледзець яе пагаспадарску, а разам з гэтым пацікавіцца і позыцыяй каля гэтай хаткі. Позыцыя яму вельмі спадабалася, але аб сваіх густах ён ня любіў гаварыць, таксама як нічога не сказаў ён тут і аб сваіх плянах. Пану Зыгмусю хацелася даведацца аб гэтых плянах, бо ён чуў, што яны ёсьць у Жарстака і што яны супадаюць з плянамі самога пана Зыгмуся.

— Добрая позыцыя,—пачынае пан Зыгмусь:—узялі-б вы яе ў свае рукі, карысьць была-б не малая.

— Пустая, падла, зямля,—махнуў рукою Жарстак. Ні цені зацікаўленасьці.

Пагутарыўшы аб сім-тым, Жарстак сказаў да пана Зыгмуся:

— Ну, сядзі сабе тут, даглядай хату.

Сядзеў пан Зыгмусь тут цэлую зіму, гадуючы прусакоў і разводзячы клапоў.

Напрадвесьні Жарстак здаў хату пад дачу, а пану Зыгмусю прыказаў перабрацца ў кухню. А калі ён даведаўся аб дачніках пана Зыгмуся, то ён прышоў і павыганяў іх вон, а пану Зыгмусю паківаў сваім гаспадарскім пальцам.

У Жарстака было сем сыноў, і чацьвёра з іх такія-ж дубы, як і іх бацька. Сілы было многа, і будка чыгуначніка стала для іх цесна. Вось чаму, купляючы хатку над балотцам, Жарстак так уважна і прыглядаўся

да яе позыцыі. А гэтая позыцыя вельмі выразна казала яму аб высокай сваёй вартасьці. Папершае—дачнае месца. А дачнікаў ніколі не бракуе на сьвеце, і калі яны плацяць добрыя грошы за звычайныя сялянскія хаты ў вёсках, то яшчэ большыя грошы можна браць, пабудаваўшы спэцыяльную дачу. А пабудаваць яе ня так ужо трудна. Падругое—замацавацца на зямлі ніколі не пашкодзіць, асабліва, калі яна блізка гораду.

І пачаў Жарстак хадзіць каля гэтае зямлі і намацваць грунт у сельсаветах і ў спэцыялістых па зямельнаму савецкаму кодэксу. Гэты кодэкс перашкод ня ставіў і даваў права карыстаць з зямлі тым, хто хацеў на ёй працаваць. Толькі спэкуляцыю зямлёю, куплю-продажу ён забараняе, і гэты пункт быў трохі ня з рукі Жарстаку: яму, як чалавеку абаротліваму, прасьцей было-б купіць і зямлю разам з хаткаю над балотцам. А так на яго дарозе ўстае больш перашкод. Зямля цяпер лічыцца за Аленаю і яе малалетнім сынам ад першага мужа. Да гэтае-ж зямлі хоча прысмактацца і пан Зыгмусь. Жарстак узважвае на вазе свайго практычнага мужыцкага розуму пана Зыгмуся і Алену і ня так яе самую, як яе мужа. Вага іх нікчэмная: пан Зыгмусь ніколі ня быў гаспадаром і ня будзе, бо зямля, стварыўшы яго, адарыла яго доляю насеньня лопуху, якое прыстае да лапця, да конскае грывы і да сабачага хваста і разносіцца па сьвеце, ня маючы пэўнага сталага месца. Сама Алена з зямлёю ня справіцца, а муж яе—прыблуда, чалавек ня тутэйшы і з тутэйшым краем нічым ня зьвязаны. Не, яны ня страшны яму, э імі справіцца лёгка. А вось ёсьць перашкоды болей трудныя: на гэтую зямлю маюць вока і сяляне суседняе вёсачкі, што за чыгункаю. Жарстак чуе ў іх сілу грамадзкую, сілу колектыву, і з гэтаю сілаю змаганьне больш цяжкае. Як на бяду, зямлі ў іх мала, яны адчуваюць у ёй вострую патрэбу. На іх долю нічога не давялося з панскіх зямель, бо на гэтых землях асталяваліся саўхозы. Жарстак думае аб спосабах, якія прывялі-б яго на зямлю, што каля хаткі над балотцам, і свае думкі ён тоіць у сабе, бо так вымагае гэтая зямельная стратэгія. Ён узважвае кожны свой крок, кожную сваю мысьль і кожнае сваё слова. Абходнымі дарожкамі ходзіць ён вакол сельсаветаў і намацвае грунт у вышэйшых гарадзкіх установах. Важна тут ня толькі дасягненьне пэўнае мэты, але і пачуцьце свае сілы і здольнасьці.

## VIII

Лініі жыцьця пана Зыгмуся і Алены пасьля таго, як прадала яна хату і выйшла замуж, мелі ў сабе ўласьцівасьці зыйсьціся зноў. Пан Зыгмусь бачыў цяпер ужо другога гаспадара хаткі над балотцам, і гэты другі гаспадар быў далёка ня тое, што першы, і пану Зыгмусю ня зыграцца з ім. Вось чаму мінулы час, калі тут гаспадарыла Алена, быў для яго цяпер такім дарагім часам, што і ўспомніць аб ім было добра.

Алена-ж не пражыла і поўгода замужам, як пачала каяцца, што прадала хатку, бо ў яе мужа знайшліся яшчэ жонкі, а грошы за хату ён

прапусьціў. Усяе тае карысьці з іх, што Алена купіла сабе паліто. І цяпер Алена ня мела ніякае цаны для яе мужа. Ен пачаў патроху ладзіцца, каб выехаць адгэтуль у Расію, дзе жылі, як ён казаў, яго багатыя бацькі. Алене-ж ён гаварыў, што паедзе туды падгатаваць грунт, а потым і яе забярэ да сябе. Алена, разумеецца, ведала, куды ён тут гне, і пагадзілася з сваёю горкаю доляю. Затое-ж мысьлі яе ўсё часьцей і часьцей залятаулі ў хатку над балотцам і даўжэй запыняліся там. Эх, як здуравала яна, што прадала хатку! Але гэтага мала: яна адарвалася ад свае зямлі, а за яе трэба налог плаціць, яе трэба засеяць. А хто ёй засее? Надыходзіць вясна, а з вясною нейк мімаволі цягне цябе на прастор, на поле. Што-б там ні было, а зямлю трэба засеяць, не дапусьціць, каб запуставала яна, бо гэтага толькі і чакаюць сяляне, каб прыбраць яе ў свае рукі.

І пачала Алена думаць-меркаваць. Вынікам такога думаньня-меркаваньня было яе пісьмо да пана Зыгмуся. Многа добрых слоў адводзілася ў гэтым пісьме пану Зыгмусю і пані Даміцэлі і сумеснаму жыцьцю ў хатцы над балотцам. Цікавілася Алена жыцьцём і здароўем пана Зыгмуся і пані Даміцэлі. Ну, словам, відаць было, што жанчыне хацелася пагаварыць, адвесьці душу. І прасіла Зыгмуся засеяць вясною зямлю, засеяць, што-б там ні сталася, бо ў яе нікога няма на сьвеце, хто-б ёй памог у гэтай справе. Яна прыедзе сюды сама як-небудзь напрадвесьні і расстараецца насеньня, а пан Зыгмусь няхай будзе ласкавы—патурбуецца засеяць, дастане каня, бо толькі адна надзея на пана Зыгмуся. А тое, што зьбяруць з поля, падзеляць справядліва.

Чытаў пан Зыгмусь гэты ліст і чуў, як ён расьце і падымаецца ў сваіх уласных вачох. Што там ні гавары, а бяз пана Зыгмуся не абыйдзешся, бо пан Зыгмусь—патрэбны і карысны чалавек, і не дарма ён жыве на сьвеце. Гэты ліст усьцешыў яго, падняў яго энэргію і даў новы ход яго мысьлям. Мінуты, праўда, мінуты доўгія, самалюбаваньня зьмяніліся мінутамі практычнага разважаньня... Не, пан Зыгмусь яшчэ паваюе. І зямлю ён засее. Ён і сам аб гэтым думаў і цяпер думае. Не, брат, зямлі ён ня ўпусьціць. Няхай Жарстак яшчэ трохі пачакае разгортваць свае кішэні. Пан Зыгмусь цьвёрда пастанавіў стаць на старану Алены, бо з Жарстаком піва ня зварыш і з сялянамі яму не па дарозе.

Як толькі сагнала з палёў сьнег, пан Зыгмусь сам зрабіў агляд зямлі, каб загадзя вымеркаваць, дзе што засеяць. К гэтаму часу ён зрабіў і сякі-такі запас насеньня. Бульбаю ён забясьпечан. Ячмень бадай што ёсьць. А рэшту Алена дастане. А не—ён і сам справіцца. І з канём, можна лічыць, справа уладжана. Пані Даміцэля таксама рыхтуецца да работы: яна хоча завесьці свой агарод. Удваіх выбралі яны мясьціну пад агарод. Мясьціна якраз добрая: тут калісь клуня стаяла, зямля ўгноеная. Агарод будзе насупроць хаты. Можна і часьць дворыка прыхваціць на адну-другую градку. Адзін канец агароду падыйдзе да самелькага прыгрэбнічка.

Вясна абудзіла ў іх нязвычайны рух і прынесла ахвоты да працы, да жыцьця і творчасьці. Пані Даміцэля памаленьку раздабывала рознага насеньня для свайго агароду.

Гэтымі-ж днямі наведалася і Алена сюды.

Спатканьне было такое радаснае, як-бы тут сустрэліся самыя моцныя, самыя шчырыя на сьвеце прыяцелі. З паняю Даміцэляю Алена пацалавалася, а пан Зыгмусь цалаваў рукі Алене. Гутарка так і лілася, так і сакатала, і гутарка самая прыязная, поўная спачуваньня.

— Залатое месца!—у захапленьні казала Алена, пазіраючы на сваю зямлю:—ах, пан Зыгмусь! падашукалася я, што прадала хату.

Хадзіла Алена ізноў па межах свае зямлі з панам Зыгмусем і ўсе яго пляны адобрыла і пахваліла. Пан Зыгмусь сьвяціўся ад здаваленьня і гарэў ахвотаю прыступіць да сяўбы і толькі чакаў добрае часіны.

Пабыла тут Алена дзён два. Яшчэ не пасьпела яна выехаць за вёсачку, як сюды прыпёр Жарстак. Від яго быў рашучы і грозны. Ён дачуўся, што ў яго хаце спынілася Алена, усердаваўся і прышоў, каб выгурыць яе адгэтуль. Яму было „не пад калдун“, што яна ўсё-ж такі за зямлю трымаецца, і ён хацеў зрабіць на яе ўплыў у тым сэнсе, каб гэтая зямля ня была ёй такою мілаю, прасьцей сказаць—хацеў аблаяць яе і выгнаць вон з хаты. Але яе ўжо ня было тут, і злосьць яго была скірована на пана Зыгмуся, на што пазволіў ён такой-сякой начаваць тут.

— Ты ў мяне глядзі: калі пусьціш яе сюды яшчэ хоць раз, то і сам выберашся з мае хаты!

Сярдзіты чалавек гэты Жарстак.

Не, з ім піва ня зварыш.

## IX

Пан Зыгмусь арлом ходзіць: хто скажа, што ён не гаспадар, не работнік? Хто з сялян папікне яго нядбайнасьцю, няздольнасьцю ў гаспадарскай справе?

У пана Зыгмуся ні адна пядзя зямлі не запуставала. Вы толькі паглядзеце, які майдан заваліў ён бульбаю! Над балотцам густою аксамітнаю шчоткаю ячмень пупырыцца, на той бок хаты пшаніца з зямлі выбіваецца, а поруч з пшаніцаю, па другі бок дарожкі, зялёнаю коўдрачкаю авёс па зямлі сьцелецца.

І як гэта пан Зыгмусь з сяўбою ўправіўся? Ён-жа ні каня, ні плуга ня мае! Але што значыць для пана Зыгмуся конь або плуг? А на што-ж яму розум дан? Хто скажа, што ў пана Зыгмуся розуму няма? А на што ўменьне з людзьмі абыходзіцца? Плуг ня так ужо цяжка пазычыць у добрых людзей, а ў яго загарадзі для чаго коні пасуцца? Вось так пан Зыгмусь, як вуж той між карэньняў, вывіваецца, выкручваецца. Сёньня запрог аднаго каня, заўтра другога. Ну, вядома, гаспадары за гэта „дзякуй“ ня скажуць яму, але як-жа інача? Калі справа сур'ёзная, то часамі на людзкое незда-

валеньне можна рукою махнуць. Тыдзень часу, і пан Зыгмусь з работаю ўправіўся.

І людзі казалі:

— Глядзі ты, які заядлы гэты палячок: дарма, што варона ў дзюбе панесьці можа, а поле абсеяў! І сабе хлеб будзе і Алену пракорміць.

Злаваліся некаторыя і зайдросьцілі.

А пан Зыгмусь на злосьць ім з лесу гной дабывае і посьцілкамі на сабе цягае з лесу дабро: калюшкі, мох і розную прэль і гніль і раскідае па папары, бо пан Зыгмусь увосень тут жыта сеяць будзе.

Пані-ж Даміцэля з рыдлёўкаю каля град увіхаецца і песьні сьпявае, сьвятыя песьні з касьцельнага набажэнства, як яно і трэба пры такой сур'ёзнай справе, каб улагодзіць пана бога. А гэтыя грэшныя песьні, дрындушкі, калі ўжо так хочацца табе сьпяваць, сьпявай у іншым месцы і ў іншы час.

Вось якія сібірныя людзі пан Зыгмусь і пані Даміцэля.

Што ні кажэце, а слаўна летам каля хаткі над балотцам! А калі хто любіць спакой і адзіноту, то гэтая слаўнота яшчэ павялічыцца. Тут сваё хараство, сваё жыцьцё, поўная гармонія жыцьця і хараства, якой не парушаюць нават такія дысонансы, як сварка пана Зыгмуся і пані Даміцэлі, бо яны ўсё-ж такі часамі сварыліся, але-ж гэта была патрэба іх жыцьця. Тут кожная палоска засеянага поля, кожная межачка, узгорак, лагчынка, лес, раскіданыя па полі купкі дрэўцаў, кожная пядзя зямлі з яе малюпасенькім насяленьнем,—гэта ўсё—высока-мастацкія строфы аднае вялічэзнае, дасканала напісанай поэмы жыцьця зямлі, вечна абнаўлянага, вечна маладога і вечна цікавага.

З таго часу, як пасяліліся тут Жарстаковы дачнікі, найболей цікавою арэнаю людзкога жыцьця стаўся прыгрэбнік—летняя, рэзыдэнцыя пана Зыгмуся. Цяпер пан Зыгмусь нейк астыў у сваім захапленьні зямлёю. Ён радзей паказваецца на полі, часьцей сядзіць на сваім куфэрачку, дзе хаваюцца яго шавецкія прылады, сядзіць у цяньку прыгрэбніка зашывае дратваю адстаўшыя падэшвы тандэтна зробленых сандалій дачнага люду або падбівае абцасы ці падноскі ў ботах. Ён нават і песень сваіх не сьпявае. Відаць, усё нешта думае, мяркуе. Непадабаецца яму Жарстак і, галоўным чынам, за тое, што ён так недалікатна павыганяў яго дачнікаў з кухні. Маўчыць і пані Даміцэля, поўзаючы каля сваіх град і апольваючы капусту. А часамі яны проста сходзяць кудысь на некаторы час, замкнуўшы прыгрэбнік. Праўда, праз колькі гадзін яны і варочаюцца. Раніцаю і вечарам пан Зыгмусь раскладае агонь у сваёй загародцы, а пані Даміцэля гатуе тут сьняданьне і вячэру. У гэтым выказваецца іх гнеў і протэст супроць Жарстаковых дачнікаў і самога Жарстака, у гэтым выліваюць яны і крыўду сваю: роля пакрыўджаных людзей часамі проста такі патрэбна чалавеку.

Нейк летам зноў прыехала сюды Алена, спынілася тут на некалькі дзён. Зноў хадзілі па полі з панам Зыгмусем, аглядалі свае нівы. Цяпер яна не начавала ў былой сваёй хаце, бо ў ёй жылі дачнікі; у кухні не адважвалася, каб ня мець няпрыемнасьці ад чыгуначніка, дый асаблівай патрэбы ня было цяпер у гэтым: прыгрэбнічак гасьцінна даваў ёй свой прытулак. Часамі-ж начавала і ў вёсачцы, дзе як-бы і кавалер новы наклёўваўся.

Самае цікавае жыцьцё пачыналася ў прыгрэбніку ўночы. Як толькі добра сьцямнее, у загарад пана Зыгмуся прыводзіў каня Максім з хутара Кляўцы. Чалавек ён быў ужо немалады і на адно вуха глухаваты. Ня было ў яго ніякіх такіх плянаў у жыцьці. Проста і веры ня было, што можна як-небудзь устроіцца лепей. Дзень пражыў—і добра, абы ня надта ўжо перадаць свайго, а таксама і ня ўпусьціць свайго. У вёсачцы, што за чыгункаю, жыла на правох батрачкі Прузына Кублік, незамужняя, але мела сына, хлопчыка гадоў восем. Каля хаткі над балотцам у часе начлегаў звычайна адбываліся іх спатканьні з Максімам, бо рабочым людзям ды яшчэ такім горкім бедаком, як яны, сустрэцца ў другі час няма калі. Прыехаўшы конна, Максім злазіў з каня, путаў яго і пускаў у загарад пана Зыгмуся, а сам выходзіў на дарожку, зашыўшыся ў лазовых кустох, і паглядаў на дарогу ў бок вёсачкі. Калі з узгорку, дзе стаіць густая купка расьлінак пры дарозе на ўзьмежку, выплывала з змроку постаць каня і чалавека, Максім кашляў і выходзіў на дарогу, выходзіў асьцярожна, каб не памыліцца, і толькі пазнаўшы сваю любую, ішоў ёй на спатканьне, браў ад яе каня, памагаў самой зьлезьці, карыстаючыся пры гэтым тымі спосабамі, што дыктаваліся каханьнем, адводзіў каня ў той-жа загарад пана Зыгмуся, а самі садзіліся ў зацішным куточку і заляцаліся. І гэтае права спатканьня куплялася імі за пэўную плату пану Зыгмусю. Плата давалася продукцыяй з тых гаспадарак, дзе жылі Максім і Прузына. А пан Зыгмусь міласьціва дазваляў ім карыстацца ня толькі загарадам, але і сваім прыгрэбнікам, бо ў кустох было росна, вільготна ўночы, а таксама не давалі спакою і камары. Але ўсё-ж такі гэтыя кусты, агорнутыя мрокам і цішынёю летняй ночы, ня раз чулі і палкія размовы каханьня і халодныя развагі жыцьця.

— Ну, а дзе-ж мы падзенемся, калі-б нам прышлося пажаніцца?— пытае Максім. Жаніцьба яго ня надта вабіць, чалавек ён ужо сталы, прывык бабылём жыць. Нашто-ж яму яшчэ гэты клопат? Ён і так можа каля бабы пабыць.

— А цяпер дзе мы дзяёмся?—адказвае пытаньнем Прузына:—жылі-б, нябось, жывымі ў зямлю не палезьлі-б. А мажа-б і на сваю гаспадарку ўзьбіліся.

— Дзе ты бачыла!—махае рукою Максім:—ня з нашым носам.

— Чаму? хіба не трапляецца людзям?

Прузына прыводзіць прыклады, а Максім слухае здаровым вухам.

— Не!—трасе ён галавою:—не пра нас гэта пісана.

— А каб дзе ў саўхозе замацавацца? Пахадзі, папытай.

— Што саўхоз!—Максім зьняважліва плюе:—і сваім няма дзе прыткнуцца... Вось, каб нам гэтую зямлю!—Максім ківае галавою на хатку над балотцам. Ён ведае, што гэта—пустыя мары, але чаму-ж і не памарыць?

Прузына маўчыць. Ей хочацца папікнуць Максіма нядбайствам, але і пакрыўдзіць ня хочацца чалавека.

— Пажаніліся-б—і кут сабе знайшлі-б.

— Трэба падумаць,—кажа Максім, хоць ён думаць зусім ня зьбіраецца,—на чорта? Усё роўна ня выдумаеш нічога. Але ён ведае, што Прузына хоча за яго замуж, яму нешта трэба сказаць ёй.

— Да я ўжо цябе і ўзяў-бы, каб у цябе была коўдра. А так што-ж? І акрыцца няма чым.

Прузына ўздыхае. Ох, коўдра! Эх, каб у яе была коўдра! Ей так хочацца свайго хоць маленькага шчасьця, свайго мужа, хоць-бы гэтага глухога на адно вуха Максіма. Усё-ж бы ў людзкіх вачох яна значна вырасла-б.

Рэшту ночы яны праводзяць у прыгрэбніку.

## X

У прыгрэбніку цёмна, зусім цёмна. Пан Зыгмусь у скрыні адзін: у пані Даміцэлі баляць ногі, ёй нездаровіцца, у кухні начуе. Пан Зыгмусь ня сьпіць. Ён разважае аб тым, што ён—у жыцьці значны чалавек. Яму толькі дзіўна, што значнасьці яго людзі не заўважаюць. А можа толькі з-за свае зайздрасьці казаць аб гэтым ня хочуць, бо нават і вось гэтая пара закаханых людзей, Прузына і Максім, што цяпер ляжаць тут-жа, пад самаю стрэшкаю прыгрэбніка, адчуваюць сваю залежнасьць і залежнасьць свайго шчасьця ад пана Зыгмуся. Пан Зыгмусь пазволіў ім спаць у прыгрэбніку, а мог-бы і ня пусьціць. Але ён пусьціў іх, бо ён чалавек даступны і добры. І дзівіць яго таксама, чаму ня бачаць людзі яго дабраты. За што так жорсткі да яго сяляне? Ён хацеў прыпісацца да іх грамады, каб мець права на надзел, ну, хоць-бы і на гэтую зямлю, бо ён так многа патраціў на яе свае працы. Яго-ж ня прынялі, паднялі нават на сьмех. „Дзіч, неадукаванасьць, вядома—мужыкі“,—вось чым можна вытлумачыць усё гэта, думае пан Зыгмусь.

Ня сьпіцца часамі пану Зыгмусю, асабліва, калі ўдзень дасьць добрага храпунца, і мысьлі ў галаве круцяцца, розныя мысьлі, чорт ведае, якія мысьлі. У такіх мысьлях можа часамі вінаваты Максім з Прузынаю, а можа нават і сама Алена, бо й яна тут недалёка ляжыць, з другога боку скрыні, але, выцягнуўшы руку, дастаць яе можна. Пан Зыгмусь успамінае, як некалі ён меў з ёю размову, закідаў слова, каб жыла з ім, як жонка. Ну, а што, каб пан Зыгмусь прыступіў сьмялей? Ён паварочвае галаву ў бок Алены, глядзіць на тое месца, дзе ляжыць

яна. Цёмна. Чувадь яе дыханьне. Сьпіць яна ці не? А што, каб яе крануць рукою, як-бы няўмысьля, ну, сосну, ці што? Пан Зыгмусь на момант затойвае сваё дыханьне, як-бы важыцца на нешта. Не, нязручна цяпер. Перад вачамі пана Зыгмуся ўстае пані Даміцэля. Што сказала-б яна, каб ёй цяпер сталі вядомы яго мысьлі, грэшныя, чорт-бы іх пабраў, мысьлі? Ну, разумеецца, добрага нічога не сказала-б. Але-ж пані Даміцэля--кабета старая, хворая і хоць сьпявае „Ах, зачем эта ночь“, але мысьлі яе часьцей каля свайго збавеньня пакручваюцца, а гарачыя парываньні сэрца пана Зыгмуся разьбівае холадам напамінаньня аб старасьці, з якою ніяк не стасуецца гэтае глупства.

Прузына і Максім штось заварушыліся пад нізенькаю стрэшкаю. Цмокнула губамі Алена і павярнулася на другі бок. Мысьлі пана Зыгмуся нейк палохаюцца і разьбягаюцца. І зноў у прыгрэбнічку стала ціха. Спакусныя мысьлі варочаюцца да пана Зыгмуся. Каб „з гэтага“ боку паладзіць з Аленаю, ён-бы ня выпусьціў зямлі з сваіх рук. А так—трудна. Проста нічога ня выйдзе, раз ён грамадою ня прыняты. Але як стаў ён думаць аб сабе і Алене ў новых стасунках, яму зноў успомнілася пані Даміцэля. Як-ні-як—замінае яна. А, урэшце, можна было-б і разьвесьціся—робяць-жа людзі так. А можна было-б і не разводзіцца. І так можна.

Пан Зыгмусь зноў глядзіць у той бок, дзе Алена ляжыць, і памаленечку суне туды руку, але зараз-жа зноў хавае яе ў скрыню. Трэба абмеркаваць гэта ўсё больш грунтоўна. Каб скрыня была трохі бліжэй да яе, было-б шмат спадручней. Пан Зыгмусь прыпамінае, што гэтая скрыня стаіць на падвалінках—можна падсунуцца. Нядобра толькі, што тут ёсьць лішнія людзі. Можа яны і не заўважаць, а калі і заўважаць, то нічога ня скажуць. Ды Алена ўсё-ж будзе лічыцца з гэтым, з пастароньнімі людзьмі. Пан Зыгмусь покі што нічога ня робіць, а толькі разважае. А ня кепска было-б, каб яна апынулася з ім у скрыні! Абнімалі-ж яе людзі, а пан Зыгмусь чым не чалавек? Ён асьцярожна мацае рукою каля скрыні: тут дзесь павінна быць калодка, яго шавецкая прылада. Абмацаў. Пан Зыгмусь упіраецца адным канцом калодкі ў зямлю прыгрэбніка, а плячамі націскае ў скрыню. Сілы ў пана Зыгмуся малавата, але скрыня ўсё-ж такі зрушваецца і чуць-чуць падаецца ў бок Алены. Пан Зыгмусь прыпыняецца, адпачывае, прыслухваецца. Першы крок зроблен і зроблен удала. Зноў бярэ калодку і яшчэ трохі падсоўваецца, але далей скрыня ўпынілася, відаць, у сук і далей ня рухаецца, як ні тужыцца пан Зыгмусь. Але—ша! Пан Зыгмусь раптам прыслухваецца: Алена варушыцца і дыханьне яе як-бы замірае. Ці не абудзілася?.. Відаць—слухае. Цяпер яна зусім блізка.

Пан Зыгмусь чуе, што сэрца яго калоціцца і рукі дрыжаць: набліжаецца самы важны момант. Што-ж яму далей рабіць? Крануць яе хіба лёгенька рукою і, калі ня ўдасца, то прыкінуцца, што гэта зрабіў ён няўмысьля? Пан Зыгмусь адважваецца: што будзе, то будзе!

Ён зноў суне руку, кранаецца Аленінага плячука, абмацаў галаву і ціха казыча ёй лоб. Алена прахватваецца, ускрыквае.

— Хто тут?—сопалаху, адрывіста пытае яна.

Пан Зыгмусь борзьдзенька аднімае руку, маўчыць і слухае. Губы яго расплываюцца ў усьмешку: пажартаваў, значыцца, з гаспадыняю. Але кончыць на гэтым ён ужо ня можа, і ў далейшым ён хоча якраз надаць характар жарту гэтаму зачэпліваньню жанчыны. І цікава ведаць, як п737рыме яна яго жарты? Алена ня сьпіць, думае, што гэта папрыгодзілася ёй: прысьнілася што ці пацук прабег па яе галаве?

Пан Зыгмусь набіраецца сьмеласьці. Падымаецца ціха, садзіцца. Аленіна ўвага раптам спыняецца на пану Зыгмусю: яна чуе, як ён шаволіцца ў сваёй скрыні, і ёй становіцца ўсё зразумелым. Чакае, што будзе далей. Яна чуе дыханьне пана Зыгмуся і займае такую позу, каб латвей было бараніцца. Пан Зыгмусь раптам цопае гаспадыню. Алена размахваецца і—плясь па мордзе!

— Наглец!—крычыць яна і, накінуўшы на сябе коўдру, зрываецца з пасьцелі, бяжыць, адчыняе ў прыгрэбніку дзьверы, а пан Зыгмусь хватае калодку і адсоўваецца з сваёю скрыняю ад таго месца, дзе ляжала Алена. У расчыненыя дзьверы ўрываецца сьвятло з усходняга неба, песьні жаваранкаў і чыстае ранічнае паветра.

Пан Зыгмусь ляжыць моўчкі—ён нічога ня бачыць і ня чуе, ён сьпіць, як-бы ні ў чым невінаваты. Не ўдалося. І брыдка, і крыўдна. І што будзе, калі даведаецца пані Даміцэля? Але ён прыпамінае, што гавораць у такіх разох у Польшчы: той ня мужчына, калі яго ня біла па мордзе за памаўзьлівасьць жанчына. Значыць, не адзін такі сквапны да кабет пан Зыгмусь. І яму робіцца лягчэй.

## XI

Думае Алена часамі, як будзе жыць далей.

Тры мясьціны ёсьць на сьвеце, дзе можа яшчэ прыпыніцца: прыгрэбнік, вёсачка і горад. Але прыгрэбнік, як паказала мінулая ноч, рэч небясьпечная. У вёсачцы можна паначаваць толькі зрэдка. У горадзе ў яе ёсьць сваякі. Часамі яна і жыве там. Але-ж усё гэта—часовыя прыпынкі, сталага-ж месца няма. І што рабіць, калі прыдзе зіма? І думаць аб гэтым ня хочацца.

І нашто прадала яна хату? Якое ліха нанесла ёй пана Зыгмуся і паню Даміцэлю? Каб не яны, хаты яна напэўна не прадала-б. А была-б хата, ня ведала-б і клопату.

У Аленіным сэрцы падымаецца цэлая бура проціў падсуседнікаў. І які кусішча зямлі засеяў бульбаю! Самы лепшы кусок, і гэтаю бульбаю дзяліцца з ёю ня хоча! А загарад! З гэтага загараду можна было-б сабраць пяцьдзесят пудоў сена. Дык-жа цэлае лета таўкліся ў ім коні, распараджаецца ім, як гаспадар. Чым больш думае аб гэтым

Алена, тым большая злосьць накіпае ў яе сэрцы. І злосьць гэтая хоча прарвацца. У Алены ёсьць і надзея вярнуць хату. Яна ў кожную хвіліну можа патрэбаваць, каб Жарстак прыняў з яе зямлі хату, і ён гэта павінен зрабіць, а ня зробіць па добрай волі, змушан будзе зрабіць гэта па суду. А куды ён дзене хату? Алена ведае, што Жарстак хацеў-бы прыбраць і яе зямлю, але ня можа: сяляне ніякім чынам ня пусьцяць яго сюды. Ёй гэта вядома дасканала. Яна даведалася з пэўных крыніц, што Захар Кудрэвіч і Сьцёпка Турлай падалі заяўленьне на яе зямлю, бо яна ня мае гаспадара, і яе абселі розныя авантурнікі. Зямля нішчыцца і пусьцее.

Ведаюць аб гэтым і пан Зыгмусь і Жарстак. Не, відаць не для іх гэтая зямля. Былая няпрыязьнь паміж імі згладжваецца. Сустрэнуцца— гутараць, як роўны з роўным. Жарстак—чалавек практычны. І хадзіў і меркаваў нямала, але ні выхадзіць, ні вымеркаваць нічога не ўдалося. Не, за зямлю ніяк не зачэпішся! Дый такая бяда: што тут золата закопана, ці што? Трэцюю часьць цаны за хату вярнулі дачнікі. І гэта добра. Ва ўсякім разе ён тут нічога ня страціў. А там яе і прадаць можна— грошы свае вярне. А прадаць яе трэба, бо страха згніла і столь зацякае. Перавозіць яе няма рахунку і паравазіць няма куды. Бяда толькі— купца не знаходзіцца.

І з Аленаю Жарстак не такі цяпер жорсткі. Што-ж? Ен ведае, што ёй цяжка і згодзен зрабіць комэрцыю з ёю. Няхай дае пяцьсот рублёў і жыве. Сам ён заплаціў Алене дзьвесьце. Комэрцыю трэба вясьці ўмеючы. Жарстак ведае, што хата Алене патрэбна, што новай пабудаваць яна ня зможа. А раз так, то тарапіць яго знасіць хату ёй і ня зусім з рукі, а там будзе лепей відаць.

Пан Зыгмусь змушан таксама прызнаць, што тыя карэньні, якія ён быў пусьціў тут, выдзімае вецер з зямлі. Яму вельмі выразна далі зразумець сяляне з вёсачкі, каб ён тут не мазоліў ім вачэй. Спэкулянтам яго нават называюць, і вінават у гэтым загарад і той спосаб, які ўжываў пан Зыгмусь, засяваючы зямлю каля хаткі над балотцам. „Падружыцца" з Аленаю не ўдаецца. Пан Зыгмусь прыпамінае адну і другую спробу падкаціцца да Алены. За першую спробу ён зарабіў „малпу", а за другую—па мордзе. А калі ён успомніў пры гэтым, як ён апошні раз падсоўваўся да яе ў сваёй скрыні, падпіраючыся шавецкаю калодкаю, то яму нават зрабілася брыдка. Добра яшчэ, што Даміцэлі не расказала, а каб і расказала, то пан Зыгмусь загадзя надумаўся, які спосаб ужыць, каб абараніцца. У гэтай „дружбе" пан Зыгмусь бачыў адзіны спосаб асесьці тут на зямлі. Але што яму гэтая зямля? Нашто яму зьвязвацца з ёю? Ці толькі шчасьця, што тут? Ці яму сьвет зачынены? Ці з яго здольнасьцямі ня знойдзе ён сабе куска хлеба? На чорта яму працаваць чорт ведае на каго? Пана Зыгмуся даўно запрашае на свой хутар Варакса. У каго ёсьць вочы, каб бачыць, і галава, каб думаць, той ведае, што

за чалавек пан Зыгмусь, і адразу ацэніць яго. Ды ўжо-б, калі-б на тое пайшло, ён і сеў-бы тут, але ня хоча гэтага клопату. Ён і Алену-б прыручыў, перарабіў-бы на свой лад, але проста ня хоча, ня хоча і—аман. А што ён трохі падражніваўся з ёю, дык гэта толькі жарты, жарты і больш нічога.

Пан Зыгмусь стараецца падняць свой аўторытэт у сваіх уласных вачох, і гэта яму лёгка ўдаецца. І з Аленаю трымаецца ён строга, строга і корэктна, а пры спатканьні з ёю вельмі солідна дзьме перш у адну, а потым у другую наздру, а не памужыцку, у абедзьве разам. З Аленаю ў яго і гаворка была наконта таго, як падзяліць збажыну. Гэтая размова скора перайшла ў сварку, бо пан Зыгмусь наадрэз адмовіўся падзяліцца бульбаю. На гэта яна няхай ужо выбачае. Ну, адным словам, было ясна відаць, што пэўны круг жыцьця блізіўся к канцу, прайшоўшы ўсе ступені свайго разьвіцьця.

Надышоў час жніва.

Белыя постаці жнеек-сялянак ныраюць у залатым моры дасьпелага жыта. Вышла з сярпом і Алена. Яна так шчыра бярэцца за работу. Яна хоча ўвайсьці цалкам у гэтую сялянскую работу, зьліцца з зямлёю, урасьці ў яе. Яна шчыра працуе ўвесь дзень, падстаўляе пад гарачыя праменьні сонца і сьпіну і проставалосую галаву. Але не ўцягнулася яна ў сялянскую работу. Рукі яе навярэджаны, і яна адчувае сябе, як пабітая, а назаўтра ня можа рук разгарнуць. Яна доўга не ўстае, вылежваецца, і гэтае захапленьне работаю ў яе прападае. Удзень ідзе яна ў вёсачку, а адтуль варочаецца пад вечар з шыкарным букетам кветак. Гэта ёй паднёс Самусь Каладзінскі. І на вёсцы жыве, а ведае, падла, гарадзкія манеры. Для Алены-ж гэты букет шмат чаго прамаўляе.

Зашастаў серп у жыце,—задрыжала лецейка, к восені тварам пахілілася.

## XII

Неспакойна шуміць вецер над лесам, надрыўна галосіць на апусьцелым полі, гудзе-вые ў голым вецьці дзікіх груш і верабін, параскіданых сям-там на пажоўклых узьмежках.

Панура стаіць адзінокая хатка над балотцам, а пры ёй той-жа нізенькі з плыткаю дзіраваю стрэшкаю хлявушок, шчыльна прытуліўшыся да хаткі. Калі глядзіш цяпер на іх маўклівыя, занямелыя постаці, то здаецца, што гэта пара жабракоў спынілася ў пустым бязьлюдным полі, ня ведаючы, куды, па якой дарозе пайсьці, і шаволіць вецер вырванымі пасмамі саломы на хаце, а скрозь гэтыя пасмы выступаюць голыя косьцікроквы і латы. На цэмантовым ганачку засталася тая-ж падкова, моцна прыбітая да ганку. Яшчэ ніжэй прыпаў да зямлі прыгрэбнічак, упёршыся ў зямлю нізка спушчанаю страхою. Сівенькі, кволенькі зруб калодзежа журботна скасіўся ў бок прыгрэбніка, а калаўротак занямеў нярухліва, апусьціўшы ўніз жалезны свой хвосьцік. Худасочная вішанька стаіць над

калодзежам, як палка, і шэпча рэдзенькімі пажоўклымі лісьцямі нейкую скаргу на сваю нядолю. Драцяная агарожа, так старанна зробленая калісь панам Зыгмусем, як труп, ляжыць, выцягнуўшыся, на долу, зачапіўшыся за бярозавыя колікі, таксама павырываныя з зямлі. Гаротна пазірае коміна над дзіраваю страхою хаткі над балотцам. Не павіваецца ўжо над ёю сіняваты дымок. Пуста ў хатцы, ніхто ў ёй ня жыве, пакінулі яе людзі, а ў прыстроечцы-сенцах гаспадарыць адзін толькі неспакойны вецер, высьвістваючы свае невясёлыя песьні, гайдаючы зьвіслыя сухія каласкі, пакалыхваючы дзікі вінаград, што моцна ўчапіўся за тонкія дошкі, за кроквы, пераплёўшы іх сваімі цапкімі лапкамі-вывітушкамі.

Ёмкая перакладзіна, прыбітая гваздамі ўпоперак дзьвярэй, вартуе цяпер хатку над балотцам. Толькі ўчора забіў Жарстак дзьверы тут, бо дачнікі даўно выехалі, а пан Зыгмусь толькі што выбраўся з прыгрэбнічка, забраўшы разам з скрыначкаю апошні свой скарб. Разьмеранаю ступою дыбае пан Зыгмусь па дарозе ў бок вёсачкі, крыху прыгнуўшыся, бо на плячох у яго куфэрачак з шавецкімі прыладамі. Гэты куфэрачак і прылады—неразлучныя спадарожнікі ў яго жыцьці. І калі пану Зыгмусю прыходзіцца цяжка, тады ён бярэцца за сваё шавецтва і гэтым здабывае сабе кусок хлеба. Вось чаму і сьмел у жыцьці пан Зыгмусь, не баіцца ніякіх зьмен і не гаруе, калі яго сустрэне няўдача. На крок ад яго ззаду ідзе пані Даміцэля з высокім кійком. На плячох у яе досыць ёмкі клунак. Галава яе з прычыны каўтуна абкручана палатнянаю наміткаю накшталт цёрла, што робіць яе фігуру вельмі паважнаю, і гэтая фігура засланяе сабою постаць пана Зыгмуся. Так вандруюць яны ня першы раз, шукаючы шчасьлівага месца на сьвеце. Кожны іх крок аддаляе іх ад хаткі над балотцам. У поўярсьце ад яе—досыць высокі ўзгорак. Пан Зыгмусь чуць падаецца ўбок, прапускае наперад паню Даміцэлю, а сам аглядаецца на хатку над балотцам. Панура яна. Стромкая страха, павырываная ветрам, глядзіць нейк журботна-журботна. Нявесела пазірае адно-адненькае акно, што выходзіць у бок поля. Але нічога не гаворыць яна, гэтая хатка, сэрцу пана Зыгмуся. А калі і пані Даміцэля абярнулася назад, то ён толькі сказаў:

— Дзюра, пся крэў!

І рушыў у дарогу, ужо не аглядаючыся назад.

# СЬЦЕЖКІ ЖЫЦЬЦЯ *)

А. Сянькевіч

## За саветы

### II

### Уладзівасток

Гэта была зацятая барацьба, барацьба, поўная гэроічнага трагізму. І гэроямі гэтай барацьбы былі не надзвычайныя, адмечаныя гісторыяй людзі—імі былі ўладары мускульных і мазольных рук у засаленых блузах і кэпі.

Закінутая аж на другі канец мацярыка, адрэзаная ад рэволюцыйнай пупавіны дзесяткам тысяч вёрст, у вакружэньні белых, жоўтых, цёмна-каляровых і іншых ворагаў, жменя пролетарыяту моцна трымала свае позыцыі.

І нават зьбітая з позыцый, загнаная ў падпольле, яна давала тон у барацьбе. Яе прысутнасьць адчувалі—адны ненавідзелі і пабойваліся, другія з захапленьнем па яе закліку йшлі на барацьбу, на сьмерць.

Бяз крыві прышоў Вялікі Кастрычнік.

Толькі земства, што формальна трымала ўладу, праз свайго главу абвясьціла:

„Падчынімся толькі сіле“.

Трэба было разыграць комэдыю. У Зямуправу прышоў узброены вінтоўкаю стары чырвонагвардзеец.

„Падпарадкуемся насільлю“, з пагардаю заявілі земцы і гуськом пакінулі ўстанову.

Але японцы рыхтавалі не комэдыю, а драму. На другі дзень існаваньня савецкае ўлады хтось выразаў сям‘ю выдатнага японскага комэрсанта.

І на другі-ж дзень высадзілі японскі дэсант. Каб наглядаць за японцамі, высадзіліся і амэрыканцы.

Памятаюцца мне апошнія дні савецкай улады. Горад стаў напаўняцца чэха-славакамі. Японцы з кожным днём рабіліся больш наглымі.

У Савеце ўвесь час ідзе гарачая праца. Ня сьпім начамі.

---

*) Гл. „Полымя“ № 8 за 1926 год.

Чырвонагвардзейцы з казённага заводу, грузчыкі з порту вартуюць бяз зьмены—тут-жа на варце засыпаюць. Усюды чуцён моцны, як сталь, голас старшыні Савету, Косьці Суханава.

Тут-жа ў Савеце, на сталох і засыпаем пасьля нязьмерна цяжкай працы.

Нэрвы напружаны.

Праменьні японскага прожэктару аблізваюць будынак Савету.

Чорныя хмары зьвісаюць усё ніжэй і ніжэй.

У пазакуцьці чутно зьмяінае шыпеньне белых.

Адусюль паўзуць злавесныя гудкі.

Рабочыя яшчэ цясьней згрудзіліся вакол сваіх правадыроў. Ні цені сумненьня. Усе поўны веры ў канчатковую перамогу.

---

Чэрвень. Дзень выдаўся ясны, прыгожы. Сонейка весела выкацілася з па-за сопак *) і памаленьку пачало пасоўвацца ўгару, заліваючы сваім сьветам і рабочыя хаткі, што прытуліліся да гары, нібы ластаўкіны гнёзды, і шэрыя казённыя будынкі ў Гнілым Вуглу.

У гэтыя дні ў мяне гасьцяваў прыбыўшы з Масквы амэрыканскі журналісты Ryes Williams. Учора да поўначы ён чытаў жывое пекнае апісаньне падарожжа ад Масквы да Уладзівастоку. Увесь ён захоплены рэволюцыяй. Сам прымаў чынны ўдзел у інтэрнацыянальным атрадзе.

Раніцаю мы варочаліся ў горад з Рускага Вострава.

З мора патыхала сьвежасьцю. Наш параходзік весела прабягаў, разьбіваючы хвалі, паміж кітайскіх ялікаў, якія сотнямі юлілі па заліву.

Перад намі, трошкі паводдаль ад берагу, стаялі гмахі японскіх і амэрыканскіх дрэдноутаў і крэйсэраў.

— Зьвярнеце ўвагу, таварышы,—кажу я,—на японскія броняносцы. Прынялі яны нейкі нязвычайны выгляд.

— Чаму-ж гэта чахлы з гарматаў паздыманы?

Сьмяртэльная махіна мела наогул баявы выгляд.

У гэты першы летні дзень я надзеў амэрыканскую пажаму і мяне на вуліцы прымалі за амэрыканца.

У горадзе было спакойна. Гудзеў трамвай. Гандляры кітайцы з вялікімі кашамі цераз плячо выкрыквалі: „Агурка“, „Крабы“! Служачыя, як і заўсёды, сьпяшылі на працу.

Вось прайшоў атрад японцаў з кулямётам на плячох і чагось зайшоў у гасьцініцу візаві будынку Зямуправы.

А адзінаццатай гадзіне пачаўся якісь надзвычайны рух. Бягуць, як спуджаныя вераб'і, па вуліцы кітайцы. Бягуць з будынку служачыя. Старыя „чыноўнікі“ чагось, бягучы, усьміхаюцца. Зразу, гадзюкі, паднялі галаву.

Званю.

---

*) Сопка—гара.

— Савет абкружан чэха-славакамі, патрабуюць здачы,—адказваюць мне.

Выбягаю на вуліцу. Вось схвацілі і павялі таварыша, які толькі перада мною выскачыў з будынку. Мяне не пазнаюць.

Зварочваю ў завулак. Зьмешваюся з натоўпам.

Вось яшчэ вядуць аднаго. Падыходзіць дама высшага сьвету і плюе ў твар. Якісь стары вайсковец у палкоўніцкай форме поркае ў жывот парасонам.

А ў штабе ўжо пачалася бойка. Тарахціць кулямёт, бухкаюць бомбы, ляскаюць вінтовачныя стрэлы. Там заселі слаўныя грузчыкі,—не здаюцца... Усе злажылі буйныя галовы...

Спатыкаю на аўтомобілі нашага начальніка міліцыі. Крычыць мне на хаду:

— Рабочым дан загад злажыць аружжа.

Дарэмная кроў—ісьці супроць ражна...

На рагу вуліцы яго арыштавалі.

Чэхі з ручнымі гранатамі, напалавіну ўзброеныя, займаюць вуліцу за вуліцай.

Вось вядуць кучку чырвонагвардзейцаў. Падганяюць прыкладамі. Апазналі аднаго мад'яра. Тут-жа ставяць к сьцяне. Мад'яр горда, з нянавісьцю глядзіць у вочы палачом.

Іду к халерным баракам. Там знаёмы фэльчар. Апранаю дакторскі халат і ў ім спатыкаю „гасьцей"—чэхаў. Пад нарамі, у клазэтах, у пограбе шукаюць „бальшавікоў".

Чэхі формальна перадалі ўладу эсэраўскаму земству,—фактычна захавалі яе за сабою. Выплыў на сьвет усесібірскі „опэрэтачны" ўрад Дэрбера. Бальшавіцкі савет сядзіць за чэскімі кратамі.

4 чэрвеня. Рабочыя масы вышлі на вуліцу праводзіць да брацкай магілы забітых таварышоў.

Не забыць гэтага жалобнага паходу. Пад насьмешлівымі ўзрокамі натоўпу буржуазіі, пад сьцяною ўзброеных японскіх і чэскіх патрулёў,— ішоў цесна замкнутаю масаю рабочы. Мерна разносіліся ў паветры словы песьні: „Вы палі ахвярай ў барацьбе ракавой". У песьні не адчувалася надломленасьці. Бадзёра гучэў прызыў: „За вамі ідзе сьвежых ратнікаў строй, на бой-барацьбу ўжо гатовы..."

На гэты выпадак выпусьцілі з турмы старшыню Савету, Косьцю Суханава. Вось ён высока на трыбуне зычным голасам пасылае праклящьці палачом...

З мітынгу Косьця пайшоў назад у турму—пусьцілі яго на слова гонару. А праз два тыдні прыкончылі куляю ў лоб, абвясьціўшы забітым „за спробу ўцячы".

Рэакцыя павялічваецца. Эсэраўскі ўрад зьмяняецца Валагодзкім, пазьней Калчаком. Пачынаецца белы тэрор, карныя атрады.

III

Гадоў 30—40 таму назад сялянскія сем'і з бедных палеткаў Беларусі і ад цясноты Украіны пацягнуліся ў невядомы Усурыйскі край. Жыхар раўніны перакінуўся ў горную мясцовасьць з другім кліматам, з інакшаю глебаю. На новай зямлі прышлося змагацца і з кліматам—маласьнежная зіма з вялікімі марозамі, морскія туманы ўлетку, а больш за ўсё з тайгою: частым госьцем навасёла быў мядзьведзь, руйнаваў жывёлу усурыйскі тыгра, а горш за ўсё дапякала таежная машкара. Немалую шкоду прыносілі і нараўлівыя горныя ручаі і рэчкі.

На тайгу навасёл глядзеў, як на горшага ворага, і паліў яе нязьмерна.

Увосені,—а восень там сухая, ясная, прыгожая,—усе склоны сопак ахоплены полымем. Уначы ўся мясцовасьць нібы спавіта чырвонаю агнёваю істужкаю.

Гарацъ лясы, гараць тысячалетнія кедры, гіне ў агні багацьце.

Але прырода помсьціцца, бо гіне тое, што трымала ў ланцугох берагоў мяцежныя хвалі горных рэчак.

А цяпер яны сьвідруюць па палёх навасёла,—там, дзе была пашня, як вокам кінуць, поўна каменьня...

А ўсё-ж, ня гледзячы на ўсе хібы, для навасёла тут было прывольнае жыцьцё.

Зямлі спачатку давалі шмат, да ста дзесяцін, а фактычна кожны браў столькі, колькі здолеў захапіць. Падаткаў першыя гады ня бралі, ды яшчэ й дапамогу давалі.

Пашы для скаціны кругом колькі хочаш. У тайзе поўна зьвярыны і птаства для паляваньня. Тут і ласі, і ізюбры, і алені, і дзікія козы. А ўвосень ад фазанаў на прыгуменьні, як ад тых курэй, не адгонішся.

Тыповая далёкаўсходняя вёска ідзе ў адну вуліцу—часам цягнецца далінаю вярсты чатыры-пяць. У адным канцы жывуць „хахлы“, у другім—„літвіны“. Літвінамі тут завуць беларусаў. Як уяжджаеш на вёску, ужо па будоўлі распазнаеш, дзе „хахлы“ і дзе „літвіны“. Хлявы для скаціны ў беларусаў цёплыя, добра дагледжаныя, украінцы-ж закрываюць скаціну толькі ад поўначы—хлявушкі будуюць у тры сьцяны.

Жывуць абасоблена, кумуюцца і жэняцца толькі паміж сваімі. Нават моладзь вядзе зацятыя бойкі, падзяліўшыся на „хахлоў“ і „літвінаў“.

Там, дзе няма школы, добра захаваліся беларускія і украінскія звычаі і мова.

Паміж украінцаў і беларусаў параскіданы былыя катаржане і ссыльныя.

У самых глухіх кутках, у глыбі тайгі, далей ад „чортава зельля“, зашыліся пасёлкі стараевераў.

Рэволюцыю далёкаўсходняя вёска прыняла як лёзунг—не даваць рэкрутаў і не плаціць падаткаў. Найбольш популярнымі былі бальшавікі

(але не сярод багацеяў), асабліва калі пасьля дэмобілізацыі яны далі магчымасьць прынясьці на вёску бэрдану і вінтоўку.

А тут, на табе! Аб'явіўся нейкі Калчак і патрабуе здаць аружжа, больш таго, выдае прыказ аб мобілізацыі.

Хто такі Калчак, якая яго програма—селянін ня ведаў,—толькі інстынктам адчуваў у ім ворага, тым болей з прыходам да ўлады Калчака на яго палеткі, нават у тайгу, пачаў заглядваць, вымерваць, здымаць пляны касавокі сусед—макака. Не к дабру гэта.

На зборныя пункты зьявіліся толькі калекі. Аружжа пазносілі, праўда, але захавалі яго пад карчамі ў тайзе.

Паляцелі карныя атрады. Складаліся яны з афіцэраў ды наймітаў-кітайцаў. Сунуліся ў адну вёску, другую. Сустракаюць іх старцы ды жанчыны. І не яны ловяць моладзь, а яна іх сьцеражэ на таежнай сьцежцы.

І вось, каб не хаваліся і каб старцаў заміж сябе не застаўлялі на вёсцы, учыніў калчакоўскі атрад расправу.

У вёсцы Суражэўка вывелі на могілкі дзесяць старцаў і адзінаццатага маладога (юродывы і няпрытомны). Паставілі ў радок. Скамандаваў старшы „плі"—і ўпалі старцы, упалі, каб паўзьняць на бойку ўсё сялянства.

Так пачалася партызанская барацьба...

IV

Зашумела вёска. Паляцелі ад сяла да сяла ганцы з прыгаварамі. Гудом гудуць сялянскія сходы.

К змаганьню, к змаганьню!..

Падняўся і стары і малы. Ажыла тайга не зьвярыным, а чалавечым многагалосьсем.

Першыя стычкі. Няўдача. Няма організацыі, няма сродкаў барацьбы. З аднэю бярданаю проці кулямёта ня выйдзеш.

Еду ў горад. Трэба зьвязацца з рабочым, з яго кіруючым авангардам. Жыву нелегальна ў аднэй легальнай установе. Там працуюць нашы. Памяшканьне ў адным будынку з японскім штабам. Лепшага месца для консьпірацыі днём з агнём не знайсьці.

Жыву ўжо месяц. Пасябраваў з начальнікам японскага штабу—даю яму лекцыі расійскай мовы. Ён частуе мяне каньяком, віскі.

А ў каморку, вышэй паверхам, рабочыя за пазухаю прыносяць патроны, бікфордавы шнуры, дынаміт.

Нелегальныя сходы. Абгаворваем тактыку барацьбы. Галоўнае—трэба зьвярнуць увагу на разбурваньне чыгункі, мастоў...

Прыбылі ганцы з вёскі. Ёсьць раненыя, няма доктара, мала зброі.

Трэба ісьці... Туды, з рабочым уліцца ў шэрагі паўстаўшага сялянства.

Выехала з гораду нас трое. У кожнага па два мяшкі цераз плячо. У мяшкох патроны, дынаміт, скураныя лапці і іншыя прылады, патрэб-

ныя для партызан. А ў мяне яшчэ і саквояжык з лякарствам і хірургічным струмантам.

Ушыліся нейк у парожні вагон чацьвертае клясы таварна-пасажырскага поезду. Дзьве станцыі трэба праехаць чыгункаю, а далей каля сарака вёрст прыдзецца ехаць коньмі або ісьці пехатою.

Як чыгунка, так і ўвесь раён у руках японцаў і калчакоў.

Дарога небясьпечная. Многа тут праходзіла ўжо пасьля нас грузчыкаў, чыгуначнікаў, мэталістых. Ішлі па аднаму, ішлі атрадамі туды, у тайгу, у шэрагі партызан... Многія прайшлі, а многія...

І цяпер у ваччу стаяць могілкі, што каля Шкотава.

— Адкідалі каменьні з раўчука, а пад імі гара трупаў.

Трохі паводдаль поўтузіны трупаў ляжыць проста на зямлі. Гэта расстрэленыя ўзімку.

Паленаваліся калчакі капаць яму і закапалі проста ў сьнег...

А яшчэ далей з-пад зямлі тырчыць рука, нібы заве да помсты.

Відаць, жывым, недабітым закапалі ў зямлю...

Але-ж гэтыя малюнкі мы бачылі пазьней, ужо як прагналі Калчака.

А цяпер мы ўпоцемку вылезьлі на станцыі Вугальная з поезду.

Пашанцавала: наш вагон застанавіўся трохі воддаль ад станцыі.

Няпрымечаныя японцамі, мы пехатою пашыбавалі да бліжэйшай вёскі.

Вёска завецца Вуглявая, бо побач з вёскаю вугольныя капальні. А капальні працуюць пад аховаю японскага атраду.

Цёмнай ночкаю прышлі ў вёску. Сталі мы пасярод вуліцы і разважаем.

— Куды пастукацца?

— Стукнеш у другую хату—авось, кулак—зразу выдасьць...

Праходзім вуліцаю. У канцы вёскі стаіць хатка, нібы на курыных ножках. І агоньчык праз вакно сьвеціцца.

Заходжу. Гаспадар, яшчэ не стары, зьбіраецца ў лес.

— Ці не павязеш нас, дзядзька, да вёскі?

— А хто такія будзеце?

— Дык вось мы, настаўнікі, езьдзілі ў горад за пэнсыяй.

Ня ведаю, ці паверыў ён нам, але-ж згадзіўся адвезьці за дваццацьпяць рублёў.

Быў люты. Халодная, бясьсьнежная, далёкаўсходняя зіма. Зямля, як лёдам, скована. Сялянская цялежка так трасець, што, здаецца, духі з цябе вытрасе. А мае сябры, змораныя падарожжам у горад і назад у тайгу, сьпяць, як забітыя.

У вёсцы Кневічы наш фурман рашыў папасьвіць каня і заехаў да знаёмага селяніна па прозьвішчу Ткач.

Хоць толькі разьвіднела, але ўжо Ткача мы засталі за бутэлькаю самагону. Гэта быў заможны калісь селянін, але, як згубіў жонку, пачаў

нязьмерна піць. У вапошнія часы ўзяў для пацехі з суседняе вёскі гулящчую бабу.

І вось, як на грэх, надоечы баба ўцякла, ды яшчэ забрала з сабою кажух і сала.

Вось чаму праз усю ноч піў стары Ткач.

На гэтую бяду прышоў з суседняга хутару яго сын.

Паміж іншым, сын пачаў расказваць аб тым, як у вёсцы N надоечы была калчакоўская разьведка. Шукала бальшавікоў...

Мы паехалі далей. Я прапанаваў вярнуць фурмана і таежнымі сьцежкамі дайсьці да партызанскіх атрадаў. Не згадзіліся.

— Ці ліха іх панясе кожны дзень,—гаварылі хлопцы.

— Апроч таго, у нас у гэтай вёсцы ёсьць яўка—знаёмы настаўнік.

Прыехалі. Падводу з пакункамі паставілі супроць школы, каля копэратыву.

Уваходзім у школу. Знаёмага настаўніка няма—дзесь выехаў.

Сустракаюць напалоханыя настаўніцы.

— А мы думалі, што зноў калчакі! Учора тут была невялікая, чалавек у шэсьць, разьведка. Застанавілася ў суседа, старшыні сельсавету.

— Трасьлі школу. Пыталі аб бальшавіках. Абяцалі праз тыдзень зноў прыехаць.

— Дык выбачайце, даражэнькія,—засталося хвілін дзесяць закончыць лекцыі. А вы тымчасам памыйцеся з дарогі. Мы скончым лекцыі і гарбаткі пап'ём разам.

Страх ужо зышоў з іх аблічча, і яны весела пабеглі ў клясы.

Мы пайшлі на кухню і пачалі абмываць пыл.

Я выпадкова зірнуў у вакно.

— Братцы! Калчакі.

Дарогаю ад Суражаўкі ляцела чалавек сорак конных проста на школу.

Якімсь інстынктам мы знайшлі чорны выхад і выбеглі на гарод.

Ад вуліцы нас засланяў шчыльны дашчаты плот.

За гародам, паўздоўж сяла, ішоў ключ (роў), які далей зьліваўся з пакрытым кустамі ўзгор'ем і потым пераходзіў у тайгу.

Я на крокаў шэсьць адстаў ад сяброў. Пабеглі ключом. На ўзгор'і ў кустох чую ад сваіх:

— Лажыся. На вёсцы раздалося некалькі стрэлаў.

Але-ж вось ліха—пагубляліся сябры. І гукнуць нельга.

Месца небясьпечнае. Даведаюцца аб нас, зробяць аблаву.

— Трэба паўзьці ў тайгу.

Вось і тайга. Яна, родная, ня выдасьць.

Тайгою прайшоў вярстоў пяць. Бачу—палянка. Чуцён дзіцячы плач. Каля фанзы стаіць карэец і курыць люльку.

— Страшэнна хочацца піць.

Але-ж ня ўсе карэйцы прыхільныя.

Падыходжу к фанзе. Паказваю, што хачу піць.

— А, нова людзі, нова закон. Хадзі.

З ласкаваю ўсьмешкаю ён папрасіў у сярэдзіну фанзы.

V

Незалюдненыя прасторы ўзмор'я Далёкага Ўсходу вабяць да сябе карэйцаў і кітайцаў.

Побач з пасёлкамі так званых рускіх вы ўсюдых напатыкаеце пасяленьні карэйцаў.

Сеюць яны больш чумізу, садзяць тытун, сеюць патаемна опійны мак, гоняць слабенькую гарэлку з чумізы—сунёю тут завецца—і карчуюць для рускіх тайгу.

Ёсьць пасяленьні карэйцаў, жыхары якіх перахрысьціліся і прынялі расійскае падданства, але большасьць жыве абасоблена, трымаецца старой веры і прадзедаўскіх звычаяў.

Стары карэец Кім адносіўся да мяне з пашанаю. Ён сам гадоў дзесяць як уцёк ад уціску новых гаспадароў Карэі—японцаў. Ён ведае, што японцы ідуць разам з белымі. Адгэтуль яго пашаны, яго сымпатыі да „нова людзі, новы закон“.

І ў поўдзень, і ўвечары ён гасьцінна корміць мяне кашаю з чумізы і чаў-чаў [1]).

Маленькая фанза з вакенцамі, у якіх заміж шкла наклеена прасаленая папера, падзелена на дзьве палавіны.

Уваднэй палавіне кухня, якая складаецца з катла, умурованага над агнявішчам, ад якога ідуць складзеныя з каменьняў і гліны трубы пад усё памяшканьне. У гэтай-жа палавіне, адгароджанай, стаіць быдла.

Другая палова падзелена на маленькія каморкі, і ў аднэй жыве Кім са старою, другую займае сноха з мужыком, а ў трэцюю ўсялілі мяне.

Столі няма. Кан [2]) засланы цыноўкамі, бяз жаднай мэблі. У пакойчыку мужчыны ў зімнія дні плятуць цыноўкі або сядзяць гадзінамі на карачках і кураць люлькі з даўгімі цыбукамі.

Жанкі праводзяць свой час на кухні, на іх ляжыць амаль што ня ўся праца па гаспадарцы.

Жыву дзень, другі, прыглядаюся к жыцьцю гэтых касавокіх, падобных да амэрыканскіх індзейцаў, людзей.

Кім ня толькі гасьцінны гаспадар, ён стаў для мяне і разьведчыкам. Перадае, што частка калчакоўскага атраду засталася на нейкі час у вёсцы.

Начую у фанзе, а на дзень Кім раіць выходзіць у тайгу.

На прадвесьне. Паўднёвыя склоны сопак ужо скінулі коўдру сьнегу. З-пад нагрэтае, але яшчэ прамерзлае зямлі выскокваюць падсьнежнікі.

---

[1]) Квашаная капуста з чырвоным перцам.

[2]) Падлога.

Ціха зімою ў тайзе. Гэтая ціша нясе ў душу нейкі спакой і сум. Як зачарованыя, стаяць тысячалетнія кедры. Толькі хахлатыя вярхі іх, што працягнуліся да сіні неба, штось шапацяць паміж сабою. Сядзеў на пяньку. Вось прабягае бурундук [1]), заўважыў чалавека, ускочыў на сухі сук і з якімсь, нібы, зьдзіўленьнем аглядвае новага абывателя тайгі.

Сумна, але разам нейк і прыемна тут пасьля віру жыцьця ў горадзе.

У старога Кіма бяда. Захварэла на воспу любімая сірата-ўнучка. І дзень і ноч кідаеца дзіця ў гарачцы. Паклікаў Кім „дохтара". Параіў „дохтар" зарэзаць маладзенькую казу і сьвежаю скуркаю абгарнуць цела дзіцяці. Зрабіў гэтае Кім, але яшчэ горшымі зрабіліся язвы.

Ніхто не дапаможа, як шаман [2]).

Сухенькі, кароценькі, з зморшчаным, але хітрым, як у лісы, тварам, шаман ужо тры дні прыходзіць да беднага Кіма. А дарма, шаман нічога ня робіць—добры дух патрабуе ахвяры.

Пояс шамана абвешан бубенчыкамі і рознымі амулетамі. Тут ёсьць усё, чым можна адагнаць злога і прывабіць добрага духа.

Паліць шаман на гарачым вугальлі пахучыя зелкі, робіць розныя заклінаньні, дае старому Кіму пацягнуць з двух заціснутых у жменю палачак адну, а на палачцы патаемныя знакі.

Раз, другі раз цягне Кім. Чытае шаман патаемныя знакі, круціць галавою.

А дзіцяці ўсё ня лепшае.

Раз уночы разбудзілі мяне якіясь дзіўныя гукі. Гляджу праз папяровае ваконца ў другі пакой. Пасярэдзіне пакою стаіць стары Кім і штось мармыча. На дворыку, перад дзьверцамі фанзы, хтось стаіць з ліхтарыкам.

Вось Кім пачынае трасьці кулакамі і з моцнымі гукамі кідаецца да дзьвярэй.

Ліхтарык зьнікае.

Кім заспакойваецца, варочаецца на старое месца. І зноў зьяўляецца ліхтарык перад дзьвярыма. Зноў зычныя гукі Кіма. І так разоў шэсьць.

Гэта Кім адганяе злога духа, які імкнецца захапіць душу Кімавае ўнучкі.

Ёсьць у Кіма і ўнучак. Жвавы хлапчук, гадкоў каля васьмі. Кім вучыць яго карэйскай грамаце. Сядзіць маленькі Кім у куточку фанзы. У руках скрыначка падобная да шуфлядкі, у скрыначцы абіткі чумізы. Устрасяне маленькі Кім скрыначку, узраўняе абіткі і выводзіць, як на пясочку, палачкаю карэйскія гіерогліфы. Маленькі Кім, апроч гэтага, яшчэ сачыць за сьвятлом. Замест лучыны ўжываецца сьцябло бур'яну, якое аблепліваецца цестам з тых-жа абіткаў чумізы. Выходзіць нешта падобнае да сьвечкі. Дае хоць мала сьвятла, але-ж і ня дыміць.

---

[1]) Маленькі, як вяерка, зьвярок.

[2]) Калдун, кудзесьнік.

А дзяўчынцы робіцца ўсё горай. Што ранку выходзіць стары Кім на ўзгорак. Там на каменьчыках раскладае ён агонь. Разам з дымам к небу нясуцца модлы Кіма. Упарта дабіваецца ад вялікага духа міласьці Кім.

Скардзіцца Кім. Многа зьвёў ён грошай і на „доктара", і на шамана. Відаць, вялікі дух патрабуе сваю любімую ахвяру.

Засталася ў Кіма адна сьвіньня. Вось яе ахвяруе Кім вялікаму духу. Забіў Кім сьвіньню, укінуў яе цалкам у кацёл. Заўтра ён скліча ўсю радню і суседзяў. Такі ўжо звычай—сьвіньню павінны зьесьці ў адзін прысест. Зваў Кім і мяне прыняць удзел за агульным сталом.

Але калчакі выехалі, і я, падзякаваўшы Кіма за гасьціннасьць, горнаю сьцежкаю пасьпяшыў да партызанскіх атрадаў.

## Па таежных сьцежках

### VI

Глыбокая тайга. Паміж двух ручаёў, якія, злучыўшыся, гульліва бягуць далей у сярдзіта-пеністую рэчку Сучан, на выкарчаванай палянцы разьмясьціўся партызанскі таежны шпіталь.

Сьцерагуць яго калматыя елкі і таўшчэрныя шматвяковыя кедры. Пявучая гамонка між сабою блізьнютак ручаёў не дае выйсьці адгэтуль чалавечаму голасу.

На палянцы стаяць тры шалашы з яловага гальля, а паміж імі пагардліва высіцца адбітая ў бойцы ад амэрыканцаў вайсковая палатка.

У палатцы чатырнаццаць цяжка параненых партызанаў.

Ужо больш двух месяцаў мы адрэзаны ад вонкавага сьвету і людзей. Па ўсіх вёсках стаяць калчакі і японцы.

У шпітальным інтэнданцкім складзе захавалася толькі пара мяшкоў мукі ды бочка селядцоў. У сьнеданьне, як і ў абед, і раненыя і здаровыя з воўчым апэтытам ядуць традыцыйныя галушкі. Увечары п'ем чай. Ня звычайны чай, а таежны. Мераеш яго локцямі—гэта расьліна, якая, падобна ліяні, уецца навакол магутных кедраў і мае смак цытрыны.

Здараюцца ў нас і сьвяточныя дні. Часам удаецца налавіць залацістае форэлі ў горных ручаёх або забіць кабаргу *). Тады мы спраўляем цэлы баль.

Сумна ў тайзе. Махнатыя вяршыны елак і кедраў ня пушчаюць на зямлю косак сонца. Расьліна, якая выб'ецца з-пад зямлі, гібее бяз сонца. Толькі папараць раскідалася сваімі парасонамі, а паміж ёю выторкваецца цыбаты хвошч.

І ўдзень і ўночы на палянцы палаюць кастры. Інакш ад таежнай машкары не абараніцца. Выйдзеш у тайгу. Спачатку, здаецца, нічога няма. Але вось яна пачынае падымацца з імху. Хутка навакол цябе ўецца цэлая хмара, лезе ў вочы, нос, у вушы.

*) З пароды коз.

Ціха ў тайзе, асабліва ў летнія ночы. Часам к табору прыблізіцца дзікі казёл. Яго празрысты казьліны роў якімсь непатрэбным рэхам адбіваецца ў гэтай цішы.

Здараюцца дні, калі даносіцца водгульле гарматных стрэлаў.

Сэрца ўва ўсіх хутчэй б'ецца.

— А мо' Чырвоная армія падышла і гоніць у мора белых і іх дапаможнікаў.

Але заціхаюць стрэлы. Зноў апаноўвае таежная ціша. Цягуча ідзе час. Гібець тут у тайзе пасьля бурлівага, поўнага здарэньняў партызанскага жыцьця ня вельмі прыемна.

Раненыя, ня гледзячы на посную ежу, хутка папраўляюцца. Толькі Міхась Лыскоў, што пад Томскам заставіў старых бацькоў і маладую жонку, стогне і ўдзень і ўночы.

Дзьве раны ў назе вышэй калена, перабіта жыла. Толькі ампутацыя нагі магла-б захаваць яму жыцьцё, але ў таежным шпіталі няма належных струмантаў. Пачынаецца гангрэна...

У перамежку са стогнамі расказвае Міхась пра бойку з японцамі.

— Атрад японцаў, чалавек у сто, вартаваў бровар, што стаіць вёрст з дваццаць ад Нікольску. Зараз-жа за броварам пачынаецца тайга. А гэта дазволіла нам блізка падыйсьці к бровару.

У нашым атрадзе чалавек з дзьвесьці, узброены больш бярданамі і бомбамі. Прыблізіліся мы да бровару напярэдадні. Узыходзіла сонца. Была ціхая раніца. Японцы жылі ў двухпавярховай каменіцы-казарме. Частка іх ужо была на двары і ўмывалася.

Мы з двух бакоў адкрылі агонь. Японцы адстрэльваліся праз вокны камяніцы.

Я з адным таварышом падбег да самай сьцяны. Таварыш напагатове трымаў накірованую ўверх вінтоўку, а я пачаў шпурляць у вокны бомбы. Першая бомба не разарвалася і японец кінуў яе назад, але дзьве папалі якраз у тахту, бо з камяніцы панясьліся страшэнныя енкі.

І вось, калі я папоўз да сваіх, мяне і працялі дзьве японскія кулі.

Тут Міхась моцна застагнаў.

Таварышы адцягнулі ў лес, перавязалі раны. А бойка яшчэ цягнулася праз гадзіны дзьве.

Здавалася, што ня ўзяць нам касавокіх. Небясьпечным было і заставацца доўга—магла падыйсьці падмога з Нікольску.

Але-ж хтось з партызанаў кінуў бомбу ў вялізарны бак з сьпірытусам, што поруч стаяў з казармаю. Кінуў бомбу так, для жарту.

Раздаўся страшэнны выбух. Загарэлася тысяча вёдзер сьпірытусу. Вялізарны стоўп агню падняўся амаль не на поўвярсты ўгару і ахапіў казарму.

Аніводзін з ворагаў ня вышаў жывым.

Назад нас раненых вязьлі ў захопленых на бровары экіпажах. Без дарогі, па карчох страшэнна трасло. Цяжка было.

Ой, як цяпер мне,—з енкам скончыў Міхась сваё апавяданьне.

Штодзень яму рабілася горай. З кожнай хвілінай Міхась згараў, як сьвечка.

За гадзіну перад сьмерцю ён казаў мне.

— Ох, як хочацца жыць. Хоць-бы адзін дзянёк пажыць пры саветах.

Са словам „саветы“ на вуснах ён і сканаў.

Абапёршыся на кастылі, ішлі панура за труною яго сябры па змаганьню.

Балюча адбівалася ў сэрцы жалобная песьня.

Паміж зялёных елак выкапалі дол.

Яловая кара служыла труною барацьбіту за саветы.

* * *

Каб хоць трохі разагнаць сум аднастайнага жыцьця, бяру стрэльбу і гайсаю па тайзе. Авось напаткаеш дзікага казла або кабаргу.

Падыходжу к бурлівай горнай рэчцы Сучан. Яна вабіць хараством сваіх берагоў, гучным шумам вадаспадаў. Тут пышна расьцвіла выгнаная з цёмнай няпрыветнай тайгі расьліна. Як стадка авечак, к сонцу і к вадзе цягнуцца рознакаляровыя краскі. Дзікі вінаград шчыльна пераплёў гальлё арэшніку і вязу. З верхавін кедраў зьвісае гірляндамі кіш-мыш.

Па рэчцы нібы чыёю рукою раскіданы каменьні. Паміж імі булькае, сьвідруе чыстая, як крышталь, горная вада.

За рэчкаю, у гушчары, чуецца хруст сухога гальля. Праз гушчыню кустоў выбягае к вадапою матка—лось. За ёю, падскокваючы, імчыцца маленькі ласёнак. Вось ускочыў ён у воду, бяжыць, раскідаючы брызгі, паўздоўж рэчкі. Рука мімавольна хапаецца за стрэльбу.

Штось утрымлівае... Ня хочацца парушыць вялікай дзявочай непасрэднасьці прыроды.

Старая заўважыла чалавека. Постаць яе толькі мільгатнула і схавалася ў гушчары. Непакусьлівы ласёнак, падскокваючы, панёсься за маткаю...

На складзе застаўся толькі адзін мяшок мукі. Прышлося зьменшыць посную порцыю. Дачуліся сяляне з далёкае вёскі, што ў тайзе мы можам згінуць ад голаду, і надаслалі нам хлеба і сала.

Больш як два месяцы як ніводзін ня бачыў у вочы хлеба. Хлеб быў чорствы, але ён здаваўся, як пернік.

Непаўздалёк ад нашага табору знаходзілася смалярня. Ад яе да шпіталю ішла вузенькая, ледзьве прыметная, сьцежачка.

Вось нейк каля поўдня прыбягае з смалярні хлапчук і перадае, што да смалярні ідуць калчакі.

Многа трывожных хвілін перажыў шпіталь. Калчакі, як вядома, не шкадуюць ні хворых, ні здаровых.

Скора даведаліся, што гэта была невялікая разьведка. У глыб тайгі яныісьці пабаяліся...

Але калі нас напалохалі калчакі, дык трохі пазьней насьмяшыў мядведзь. Як відаць, яго прывабіў да нас водар ад селядцоў.

Уночы мы сядзелі навакол вогнішча ў амэрыканскай палатцы і аб чымсь гаманілі.

За палаткаю пачуўся якісь цяжкі тупат.

— Хто там ходзіць?—крыкнуў адзін з нас. Адказу няма. Тут Мішук, відаць, зачапіўся за вяроўку, якою была прывязана да стаўпоў палатка, ды так тузануў яе, што ледзь не накрыў нас палаткаю.

Мы далі пару стрэлаў у цень ночы. Мішук уцёк. Панюхаўшы раз пораху, ён ужо больш ня прыходзіў.

Маркотна сядзець праз тыдні і месяцы адрэзаным ад жывога жыцьця. Доўгія гадзіны прымушанага бязьдзельля запаўняліся расказамі аб розных здарэньнях. А расказваць было каму і было аб чым.

Вось падае сваю гісторыю малады партызан Пятро. Яшчэ чырвонагвардзейцам Пятро вёў барацьбу з чэха-славакамі. Ён падымае кашулю, і мы аглядваем дзевяць рубцоў ад зажыўшых штыковых ран. Гэта балаваліся чэхі з маладым палонным чырвонагвардзейцам і папоркалі яго штыкамі.

А цяпер Пятро тут з ранаю, якая спараліжавала яго руку. Вось аб тым, як дабыў ён гэтую рану, і расказвае Пятро.

— Наш атрад перакінуўся праз Сі-ха-та-лін і распачаў опэрацыі ў Іманскім павеце. Спачатку ўсё ішло добра. Бедныя і казацкія і сялянскія вёскі сустракалі нас, як збавіцеляў. Супроць нас вышлі заможныя станічнікі. Праз месяц ішла зацятая бойка. Атрад быў конны і ня ўступаў казаком. Мы пачалі браць вёску за вёскаю. Аб гэтым дачуўся атаман Калмыкоў і надаслаў сваім дапамогу.

І вось раз, калі я быў у разьведцы, нас агарнулі казакі з трох бакоў. Атрад здолеў адступіць, а нас, траіх разьведчыкаў, захапілі ў палон.

Казацкі суд скоры, хоць і не літасьцівы. Судзіў нас якісь казацкі эсаул. На дапросе біў нязьмерна і нагайкаю і ручкаю нагану. Сашчапіўшы зубы, мы дзіка вылі, але ніводнага слова аб нашых ён дабіцца ня мог. Прысудзіў—расстраляць.

Павялі нас траіх на могілкі за поўвярсты ад вёскі. З намі ішло пяць казакоў—два ззаду, адзін сьпераду і па аднаму з бакоў. Ісьці прыказана схіліўшы галаву і апусьціўшы рукі. Ледзь хто падымаў галаву або хацеў азірнуцца—білі прыкладам.

Стаяў ясны летні дзянёк. Ішлі спачатку паміж палёў. З поля на нас радасна глядзелі краскі. Калыхаліся, нібы аддавалі апошні ўклон, сялянскія нівы. Уверсе надрываўся песьняю жаваранак.

Няўжо-ж гэта засталося дзесяць-пятнаццаць хвілін аглядваць усё гэта.

Маладое цела рвецца конвульсыяй протэсту; сэрца тахкае, што вось, здаецца, выскачыць. Як рыскі маланкі па небу, у маім мазгу ляцяць думкі аб мінулым—прамільгнулі вобраз бацькоў, праца на заводзе, змаганьне...

І адначасова мозг сьвідруе адна думка—няхай лепш застрэляць пры ўцёку, чым стаяць, як баран, перад палачамі.

Дарога пайшла кустамі. Трохі здалёк шуміць рэчка. За рэчкаю тайга. Вабіць яна мяне, родная.

Іду ўвесь час схіліўшы ўніз галаву. Зьмерваю вачыма суседа казака.

У руках адчулася якаясь надзвычайная сіла.

Са ўсяе моцы штурхаю ў бок казака. Ён падае. Я ў кусты. Рэшта казакаў у першы момант, як відаць, атарапела. Я адбег на крокаў дваццаць. Пагналіся. Залп. Штось апаліла руку, і яна павісла, як чужая. Зараз-жа рэчка, на шчасьце, няшырокая. Кулём праз рэчку, уляпіўся за куст, вылез, усьцерабіўся на сопку. Адтуль пазіраў, як казакі, пабегаўшы між кустамі, вярнуліся да маіх сяброў. А яны праз увесь час стаялі, як астаўбянелыя.

Тут-жа, не адводзячы, іх расстралялі...

Пятро скончыў. Усе маўчалі. Ціха дагаралі вугольлі ў кастры. Змрок запоўніўся ценямі загінутых, расстрэленых, замучаных.

У сэрцы мацнела помста.

Не, роў, прарыты рэволюцыяй, занадта вялікі, каб закідаць яго нават нашымі трупамі. Такіх, як Пятро, мільёны. Сёньня з аднэю рукою, а заўтра, страціўшы і яе, ён зубамі будзе грызьціся за волю, за тое, што адваёвана крывёю. Перамога за намі.

* * *

Сёньня прышоў да нас Сяргей Лазо. З кіем у руках, з вялізарным таежным клумкам за плячыма, абарваны, у лапцях.

Што зрабілася з дарагім, слаўным Сяргеям? Яго твар, рукі, ногі распухлі. Сам ён ледзь-ледзь ідзе...

Раблю аналіз мачы. Нэфрыт *). Цэлых шэсьць тыдняў блытаў ён з атрадам па тайзе. У атрадзе былі раненыя; іх трэба было адвясьці ў бясьпечнае месца.

Сяргей лепш другіх ведае тайгу і яе звычаі. Ад яго я навучыўся, як рабіць заломы на кустох і дрэвах, каб не заблудзіцца і вярнуцца ў тое месца, адкуль вышаў. Ён навучыў нас, як абараніць сябе ўночы ад дзікае зьвярыны, асабліва тыгра. Ня досыць агню. Трэба навакол вогнішча натыкаць гальля. Тыгра прыме гэта за агарожу, будзе бегаць навокала, а ўвайсьці пабаіцца. Сяргей ведае, як выйсьці з тайгі бяз компаса, калі згубіш троп.

Вось чаму Сяргей узяў на сябе абавязак вывесьці раненых.

---

*) Хвароба нырак.

Ішлі доўга. Ня было чаго есьці; забілі каня. Усё-ж такі вывеў. А сам захварэў. Праз месяц ляжаў на хутары ў якогась старавера. А як крыху пачуўся лепей, пацягнуўся ў шпіталь.

Лячу Сяргея. Бадай, дыэта добрая, не скаромная. Стаў на ногі Сяргей. Узварушыў партызан, што залеглі па зімоўях.

Пачаліся наскокі на калчакоўскія гарнізоны, што стаялі па вёсках. Не вайна, а ліха для рэгулярнай арміі біцца з партызанамі. Там варту здымуць, а там, глядзіш, разьведка сама дала цягу ў тайгу. І лаві вецер... У тайзе, дзе кожны куст—крэпасьць для партызана.

Адышлі калчакі ад прытаежных вёсак. Вышлі і мы з тайгі. Пачаліся зносіны з калчакоўскімі салдатамі. Быў сярод нас стары, гадоў пад шэсьцьдзесят партызан Папуша. Выслалі яго з Беларусі, дзесь з-пад Суражу яшчэ ў 1907 годзе за сялянскія беспарадкі. Сівы, але моцны. І яшчэ мацнейшая была ў ім нянавісьць да белай косьці. У той час, як партызаны былі загнаны ў тайгу, Папуша зьяўляўся найлепшай сувязьзю паміж атрадамі, якія былі раскіданы на сотні вёрст адзін ад другога. Ён колькі раз пераходзіў хрыбет Сі-ха-та-лін з вельмі важнымі даручэньнямі. Стары Папуша быў прыкладам для маладых у жвавасьці і ў моцы духу. А для разьведкі Папуша быў незамянімы. Возьме вобруць і шукае каня, ходзячы з вёскі ў вёску. Праз яго наладзілі сувязь мы з кулямётнаю калчакоўскаю ротаю. Усё было падрыхтавана к пераходу роты на наш бок. Але хтось выдаў. Толькі адзін з таварышоў здолеў уцячы, а пяцярых з главароў пусьцілі калчакі пад кулямётную ленту.

А трохі пазьней кулямётная рота перабіла белых афіцэраў і прыцягнула да нас шэсьць кулямётаў.

І наогул уздрыганулася калчакоўская, прымусам мобілізаваная, раць. Белая армія робіцца ружовай, ружовы колер зьмяняецца на чырвань. Так роўна, як і ўлада,—калчакоў зьмяняе земства, за земствам паўстаюць саветы. Белыя даюць лататы за граніцу.

Танкі, гарматы, што вязьлі праз акіяны на згубу бальшавікоў, папалі ў рукі чырвоных.

Утрымаць белую армію ў паслушэнстве не змаглі ні амэрыканскія консэрвы, ні пропаведзі эвангелістых з лягеру саюзу хрысьціянскай моладзі.

Наглая зьмена. Учора тут гаспадарыў чужынец. Сёньня гаспадар зямлі, рабочы і селянін, зноў вышаў на вуліцу. Заірдзелі на плошчах, па будынках яго чырвоныя сьцягі.

Уваходзіць маршам на вуліцы Уладзівастоку лапцюжная партызанская армія. Саромліва староняцца яе гладкія янкі, цыбатыя англікі, касавокія японцы.

Дружна з грудзей нясецца ўвысь пролетарская песьня.

Але яшчэ рана сьвяткаваць перамогу. Яшчэ тысячы міль падзяляе гэты куток ад Чырвонай арміі. Па гарадох расьсялілася, як у сябе дома, армія чужынцаў.

Добра ведае ўсё гэта Сяргей. Як старшыня рэўваенсавету, ён без адпачынку працуе над замацаваньнем рэволюцыйных позыцый. Амуніцыю, зброю трэба так захаваць, каб яна не дасталася назад белым.

Але чагосьці надта ласкавымі сталі гэтыя Нікашуры ды Ямагаты. Недарма іх твар косіць пры спатканьні з вамі няшчырая ўсьмешка.

У ноч на 4-ае сакавіка падняліся стаўпы дыму над гарадамі Далёкага Ўсходу. Многа загінула партызан і проста жыхароў ад нечаканага нападу японцаў. Зноў мы ў руках цывілізаваных разбойнікаў.

Лазо і яго сябры па рэўваенсавету—Луцкі і Сібірцаў у палоне. Тыдзень-другі няма аб іх чутак... Адна за другою дапытваюцца дэлегацыі рабочых аб лёсе сваіх правадыроў.

У вадказ японская газэтка падае, што „Лазо любіў прыроду. Пасьля цяжкае працы ён пайшоў на адпачынак у зялёныя сопкі“.

Іншае апавяданьне пачулі мы ад рабочага чыгункі.

Японцы перадалі Сяргея і яго сяброў у рукі калчакоўскіх палачоў. Іх прывязьлі на станцыю N. Падвялі да паравознае топкі. Лазо быў моцны. З усяе моцы ён адбіваўся. Аглушылі калом па галаве. Разам з ім укінулі жывымі ў топку паравоза Луцкага і Сібірцава...

# З РАБІНДРАНАТА ТАГОРА

**Пераклад Якуба Коласа**

* * *

Скажы-ж мне, мой любы, ці праўда ёсьць гэта:
Калі мае вочы—узьлёты зарніц,
Тады твае сэрца—адсьвет бліскавіц,
Душа-ж у грымотныя хмары адзета?
Ці праўда, што соладкі вусны мае,
Як лісьцік разгорнуты краскі тае?
Што чарамі вёсен цьвіце маё цела,
Што песьняй, як арфа, зазвоніць зямля,
Як толькі нага па ёй ступіць мая?
Дык то не мана, што і ночка нясьмела
Мне ў радасьці плача бліскучай расой,
Што я аздабляю і золак сабой?
Ці праўда, што толькі адну мяне ў сьвеце
Шукала каханьне тваё, дарагі,
Блукаючы доўга па сьвеце тугі,
Каб сэрца сугучнасьць знайсьці—запрымеціць?
Калі-ж тваё сэрца мяне напаткала,
То радасьць, бязьмернае шчасьце пазнала?
І слодыч пачуў ты у словах маіх,
У гутарках ціхіх, вачох маіх чорных,
У кудрах дзявочых маіх непакорных,
І ў мне адбіваецца кожны твой міг,
І вечнаю тайнасьцю я ўся адзета.
Скажы-ж мне, мой любы, ці праўда ўсё гэта?

## НА КАЎКАЗЕ

**Якуб Колас**

У залатой калясцы сонца
Вандруе зноў у сьвет дзянёк.
Нязьмеран шлях яго бясконцы,
Завіты ў сонечны вянок.

Замерлі горы ў тонкай сіні,
Глядзіць, як бог зямлі, Эльбрус,
І патыхае сном пустыні
Яго засьнежаны абрус.

Маўклівы горы, дзіка-немы,
Ня жывяць мысьлі іх чала,
І вісьне мут адвечнай дрэмы,
Як сум хаўтурнага стала.

14-IX 1926 г.
Эсэнтукі.

## БРОДЗІЦЬ ВЕЦЕР...

**З. Ясакар**

Бродзіць вецер шумлівы, станогі,
Белых зайцаў па моры пасе,
Заблудзіўся—шукае дарогу
У хвалістым, зыбучым аўсе.
Паказалася плямка здалёку—
Карабель адзінокі паўзе.
Ен крапінкай здаецца на вока,
Ён загубіцца ў кволай сьлязе.
Нібы дзіва, расьце, вырастае
Сівым воблакам лёгкі дымок.
Шле у горы сваё прывітаньне
Гутарлівы, вясёлы гудок.
То плыве сюды „Ленін“ з „Расіі“—
У цяплыні паўднёвай Апсны *).
Над ім кружацца чайкі і сеяць
Сьнежнакрылыя ціхія сны.
Усьміхнецца на хвілю краіна
Ў белым вэлюме родных сьнягоў.
„Ленін“ якар сталёвы тут кінуў
Ля абхаскіх глухіх берагоў.

*) Апсна—Абхазія.

# ПАЙДУ...

### З. Ясакар

Пайду ў самоць пад хрып, пад хруст прыбрэжжа;
Як пілігрым, сабе бамбук там зрэжу.
У вагняхмельнай радаснай бядзе
Мой смутак морскай чайкай прападзе.

Пайду ў задум пад шэпт-маленьне пальмаў,
Дзе сьпеў дзявочы вабны, як русальны,
Дзе кіпарысы сталі ў стройны рад,
Дзе пеніць-хмеліць горды вадаспад.

Ён малаткамі бразгае ў граніты,
Ён дразьніць горы стукам стокапытным,
Ён на абвал плюе разьбітым шклом,
Ён чыніць бесчын—срыбраны садом.

Я рыну ў ноч, у таямніцы рыну,
Дзе кукурузы вузкія тканіны,
Дзе постаць мілай к дубу прырасла—
Ёй лёгкі вэлюм—сіняя імгла.

Яна прышла насустрач маім ласкам,
Яна прышла, як здань з дзіцячай казкі.
Мы сьвет забудзем з ёю да зары,
Як матылёк, ў агні яна згарыць.

Пацягне з гор мядова-роснай стомай.
Яна мне кіне ў грудзі соладзь стогнаў,
Засьлепіць белай музыкай зубоў
І скажа свой жаночы забабон:

„Ой, маладзік крывавіць просінь мора.
Шакал заплакаў—к нам крадзецца гора.
Як няпрытульны дрэвы ў гэты час.
Цалуй мацней, цалуй апошні раз"...

Задзівіць поўнач вечна-шлюбным дзівам,
І неба спусьціць шоўкі-пералівы,
Зайграюць зоркі залатым аўсом,
Спадуць на чорны сполах валасоў.

„З табой, з табой паеду ў Беларусь я!“
І я ў вачох бяздоньністых таплюся,
А броўкі коляць цёмнай вастрынёй.
Яна дрыжыць галінкай маладой...

Пячэ шчакою, нібы жар-вугольлем.
Мо‘ гэта мне куецца зноў нядоля?
Мо‘ для мяне цяпер між дзікіх скал
Грузінкі муж нагойстрыў свой кінжал?

Гагры. 15-III-1926 г.

# ВОСЕНЬ

А. Гурло

Восень—радасьць мая і мой смутак.
Яна вяне і разам цьвіце.
Калі лета давала пах руты,
Восень—золата бляск на лісьце.

Лета вабіла ласкаю цёплай,
Сьпевам птушак ды шэптам лясоў,—
Восень лье дажджавыя кроплі,
Вецер дзьме на мільлён галасоў.

Летам песьцілі вока і краскі,
І трава, і збажыны абшар,
А увосень імглiста і гразка.
Але ў грудзях мацней гарыць жар

Усё аб новым і новым раздольлі.
У сэрцы месьціцца многа надзей
Усё аб тым, калі ўзруніцца поле,
Калі радасьць свой рэй павядзе.

І чамусьці пры роспачнай тхлані
Неяк ўсё мне здаецца другім:
І трывогі былога каханьня,
Нават прыкрыя сьлёзы тугі.

Я люблю зеляняваcьці колер,
Я люблю і лістотную медзь.
І гэтым так сэрца мне коле
Усё, што можа расьці і шумець.

1926 г.

* * *

**А. Гурло**

Абнімаецца вецер з бярозай,
Абнімаецца, быццам каханак,
І ўціраé з вачэй яе сьлёзы,
Яны капаюць срэбрам на ганак.

Залацiста-ружовыя косы
Апусьціла бяроза да долу.
Многа думак навеяла восень—
І вясёлых і невясёлых.

Яна рада, што ў новым убраньні
І што вецер больш неяк прыхільны,
А ня рада, што золата ў твані
Рассыпаецца, мокне і стыне.

Ах, бяроза, бяроза—красуня!
Ня сумуй па сваёй лістоце,
Бо твой сум адаб'ецца на струнах
І застыне ў маёй істоце.

1926 г.

# МІЖ ЖЫТА НА МЯЖЫ

**М. Грамыка**

Між жыта на мяжы,—учора, толькі ўчора!
Хто жыта тое зжаў, хто узараў мяжу?
Падсыпаў хто туды званцу і гірсы-гора?
Прымусіў хто мяне падліць сьлязін дажджу?

А ўчора: колькі слоў і сьмеху бяз прычыны
Ад вуснаў ў вусны йшло, нібы вясновы сок,
І колькі я разоў глядзеўся ў азярыны,
Як пацалунак бег, як хваляваўся зрок!

Пэрсыдзкім дываном здавалася нам неба,
А пацалунак бег, за ім сьпяшаўся я.
Па жыце хвалі йшлі, было у хмарках неба,
Але спрыяла нам таксама, як зямля...

І даравала ты... І першы пацалунак
Пасьля нямых пагроз, як птушка, ціха сеў.
Дзявоцкіх пільных дум ён быў, як паратунак,
Як-бы прасіць мяне аб нечым ён хацеў...

Ляжала кніжка тут, нявольніца спатканьня,—
Так ухвалілі мы, калі у жыта йшлі.
Але цікаўны том раскрыла нам каханьне,
І колькі ў ім поэм пякнейшых мы знайшлі!

Ці-ж выгін вуснаў тых ня лепшыя два вершы,
З чырвонай літары пачатак вечных слоў,
Сачыстых рытмаў гук: ты першы, мілы, першы,
Што косы у вянок так няпрыметна сплёў!

А вочы ясныя, найлепшыя поэмы
З усіх, што праз папер правёў машынны друк.
А пасмачкі яе, няпісаныя тэмы.
А жарт, ў два акты жарт каханых сонцам рук!

А сёньня я адзін. І могілкамі сталі
І хмаркі ў вышыні, і людзі, і сады...
Дзе „ўчора“ нашае, дзе вусны, што шапталі?
Ізноў замест „мы“, асобна—„я“ і „ты“!

# ВАРТАЎНІК

**Андрэй Александровіч**

1

Ночанька цёмная голаву зьвесіла,—
сумны, ты дружа?.. Знаю, нявесела!

2

Шолах пачуецца, постаць находзе,
думка адна—бязумоўна, злодзей.
Хто-ж яго ведае, хто-ж разгадае?
Кажуць, што ночанька гора стварае.
Крамы жалезныя, сэрца слабое;
страх неразлучны з начной цемнатою.

3

Часта ўначы валацугі праходзяць,—
ведаеш, дружа, ня кожны з іх злодзей.
Часам, бывае, падыйдзе каторы,
дасьць закурыць, ад душы пагаворыць,
сядзе ля крамы, такі ўжо ў іх звычай,—
бойся, ды толькі ня іх, вартаўнічы.

4

Глуха на вуліцы. Скованы камень...
Зьзяе ліхтар, нібы зорка ў тумане.
Гутарку з стрэхамі, страшна парою,
цемень заводзіць сыпучай імглою.
Холадна. Жудасна. Ногі слабеюць.
Сэрца ў трывозе начной ледзянее.

5

Вецер па бруку ляціць, лемантуе;
моўчкі стаіш ты, вітрыны вартуеш.
Знаю, нявесела! Ночка цягучая,
цемрай імглістаю так надакучыла!
Толькі як дворнік старэнькі устане,
думкі ўзаўюцца—радасьць сьвітаньня!

# ЗВОННА-ІМПЭТНЫЯ ХВАЛІ

**Язэп Пушча**

Звонна-імпэтныя хвалі
сонца вясны улюлялі.

Ў іхнім адценьні лілёвым
сокі асокі зялёнай.

Часта зара паласкала
косы свае ў іх са скалаў.

Часта русалка ўмывала
стан свой ласкава-бялявы.

Сінь іх—вясновыя ночы,
сьмех разьлівае дзявочы.

Хмеле-імпэтныя хвалі
ў далі крышталі ўлюлялі.



**Язэп Пушча**

Маёй песьні ніхто не ачэрніць
і ня выцьвітуць строфы ад рос.
Пазрываў у дзяцінстве я церні,
з жоўтацьвеценя смутак атрос.

Я сёньня аддамся пачуцьцям,
што прынёс ад маўклівых нізін.
Мая песьня ў палёх заначуе—
там такая зялёная сінь.

З ёю разам і я на узьмежку,—
слухаць буду дарог перазвон.
Абніму там зарніцаў усьмешку,
абніму і схілюся на дол.

Маёй песьні ніхто не ачэрніць
і ня выцьвітуць строфы ад рос.
Пазрываў у дзяцінстве я церні,
з жоўтацьвеценя смутак атрос.

## КОЦІЦЦА... КОЦІЦЦА...

**Паўлюк Трус**

Коціцца... Коціцца...
туман па гары,
ой, ды ў полі коціцца
туман па даліне...
І шуміць над соснамі
ў зяленым бары,
зялёнага дубу,—
дубу верхавіньне!..

Крыюцца... Крыюцца...
цьвеценьню палі;
над вадою хіляцца
ў золаце рабіны...
І лятуць над возерам
ў вырай жураўлі,
ды лятуць над Нёманам
ўпрочкі на чужыну.

Журацца... Журацца...
ў занізі сады...
Завіліся ў радасьці
моладасьці сьлёзы.
І ня моўкнуць струны
ў сэрцы маладым,
і зьбіраюць думы
залатую россып!..

Сыплюцца... Сыплюцца...
пацеркі вады,
патанулі ў шэрані
шоўкавыя руні.
А лісты пажоўклыя
спавілі сьляды,—
каб зьвінелі голасна
майго сэрца струны!..

Коцiцца... Коцiцца...
туман па гары,
ды з-пад яру коцiцца
туман на вазёры.
Я прышоў да сонца
кветкі падарыць
Беларусі любай
ў сьветла-сініх зорах!..

## З ЦЫКЛЮ „ГУДКІ“

**Валеры Маракоў**

I

Хрыпла гудок прагучэў,
Сэрца скранулася, стала.
Ў цемры асеньніх начэй
Сьпяць златазвонныя далі.

Месяц упаў на блакіт,
Далі агнём атруціў.
Хораша быць ля ракі,
Хораша пець у жыцьці.

Хораша ўспомніць праз сон
Тайную цень тапалёў.
Чорнай дзявочай касой.

Хрыпла гудок прагучэў,
Мірна забыліся нівы.
Ў цемры асеньніх начэй
Жыць маладым і шчасьлівым!..

II

Срэбны месяц у вокны сьмяецца,
Я стаю і дзіўлюся у сінь.
Маладая струна не парвецца,
Мне вясны залатой не прасіць.

Недзе там, на шырокай дарозе,
Дзе бярозы цалуюць блакіт,
Хтось крычыць аб крывавай пагрозе,
Што прыносяць для сьвета гудкі.

Ах, гудкі, хто за вамі ня сочыць,
Я душой палюбіў ваш размах.
Вельмі многа ў мінулыя ночы,
Тут п‘яніў мае грудзі туман.

Ды я помню, ў абдымках прыроды
Марыў тайна аб новай красе;
Каб ісьці, каб квітнець непагодай,
Каб з гудкамі згараць пакрысе!..

* * *

**О. Олесь**

Ой, мая галубка, раньняю вясною
Што-ж ты не варкочаш пад маёй страхою
Ой, мая Русалка, з русаю касою,
Што-ж ты не сьпяваеш птушкаю лясною?
І жыцьцё-калыску не калышаш ціха,
Каб навек заціхла маё гора-ліха?

Ўспамінаю ночы у густой алешні,
Салаўіны посьвіст на старой чарэшні,
І садок зялёны, і жыта шаўковы,
І музыку нашай залатое мовы!
А цябе як ўспомню—мілую дзяўчыну,—
Ў думках-завірушках, як у лесе гіну...

Ой, мая Русалка, з кроўю ледзяною!
Ой, мая квяцінка, з чыстаю душою!
Ўсё вазьмі, што маю... Ўсё, што сэрца хоча...
Вараці назад мне месячныя ночы,
Сядзь ізноў ў садочку ластаўкай са мною,
Любая Русалка, з русаю касою!

Стануць пахам веяць росныя даліны...
Зноў пальлецца ў душу посьвіст салаўіны...
Ты пачнешь сьпяваці—на струнах іграці,
Сэрца мае будзе млеці-заміраці,
І калі пяшчоты здолець ня стрывае—
Сьмерць сваю, як казку, сьмехам прывітае!

З украінскае

**А. Зіміонка.**

* * *

**Кляшторны**

Па-за вакном крышталяцца зарніцы,
За пералесіцы губляюць серабро;
На вёсцы цішыня —
Аднэй табе ня сьпіцца,
Ў тваіх руках шуміць верацяно.

Шуміць-зьвініць,
А думкі валацугі
Лятуць-снуюць...
Хто можа іх спыніць?
Ты цягнеш валакно,
І завіваеш ў кужаль
Праменьні тонкія сярэбраных зарніц.

Зьнікаюць дні,
Часы, як хвалі, валяць,
Яшчэ учора любыя бары
У косы росныя
Зарніцы запляталі,
Сягоньня сум прынесьлі журавы.

На канапляньніку,
Дзе змрокі куламесяць
Губляе неба тысячы цьвятоў,
І акалеў
За брамай сіні месяц
Ў халоднай шэрані васеньніх тумаоў...

Па-за вакном крышталяцца зарніцы,
За пералесіцы губляюць серабро,
На вёсцы цішыня—
Аднэй табе ня сьпіцца,
Ў тваіх руках шуміць верацяно.

Два дні назад
Была у сельсавеце...

. . . . . . . . . . . . . .

Як ўсё мяняецца—
І жыцьце і закон...
І думкі-дым
Плывуць к празрыстай мэце,
Дзе жыцьця зоры сьвецяць,
Дзе ў кожным сэрцы б'ецца комсамол.

Зімой увечары,
На печы пры лучыне,
Калі за брамаю,
Як тысячы ваўкоў,
Мяцелі нудныя
Так вылі й галасілі
І пасыпалі бельлю за вакном,

Старая маці казку гаварыла.
Трашчэў лучнік,
Мурлыкаў дзесьці кот,
А ў шэрых вуліцах
Сабакі ў рог трубілі
І, быццам ведзьмы, вылі ля варот,

Снавалі дні
Так ціха і павабна;
Эх, колькі сноў навеялі бары!
Сягоньня ўсё патонула у багну,
Сягоньня сум прынесьлі журавы.

Сягоньня крута парашыла маці
Прысватаць Янку рыжага табе;
У Янкі болей скарбу ў хаце,
Чым у панурай рыжай галаве...

І стыне сэрца,
Як зара за хмарай,
Слатой за прасьніцай праносяцца гады.
І, быццам дым,
Кудысьці гінуць мары
Пра любы сьвет,
Прастор і гарады.

На канапляніку,
Дзе змрокі куламесяць,
Губляе неба тысячы цьвятоў,
І акалеў
За брамай сіні месяц
У халоднай шэрані кудлатых тумаsucceededоў.

# Я ДЛЯ ВЁСКІ...

**С. Ярмак**

Вёска мяне ўзгадавала
Вёска наўчыла і пець,
З раньніх гадоў давала
Радасьць поўнасьцю піць.
Выпіў я шмат у маленстве
Поўнае чараў красы!..
А шчасьце маланкаю блісьне,
Як сонца у кроплях расы.
Жыцьця асалоды пахмельнай
Хвіліны бягуць і бягуць.
Гляджу і гляджу я умільна
У жыцьцёва палаючу гуць.
Ўсяго паражыў я нямала—
І гора, і кпінаў, і сьлёз,
Затое ніяк не маліўся,
Каб долю шчасьлівіў мне лёс.
Я сам гартаваўся ў нядолі,
Сум сваёй песьняй расплёскаў.
І знаю, ніхто ўжо ня здолее—
Ня спыніць мой песельны лёскат,
Сьпяваю для роднай што вёскі!

в. Каменка.

# УВОДЗІНЫ Ў ФІЛЁЗОФІЮ ДЫЯЛЕКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛІЗМУ *)

Б. Быхоўскі

## III. Прынцып узаемасувязі

Кто хочет что-нибудь живое изучить.
Сперва его всегда он убивает,
Потом на части разнимает,
Хоть связи жизненной, увы,
Там не открыть...

*Гётэ.*

Сусьвет ёсьць сумеснасьць розных рэчаў. Зьніштожце ўсе паасобныя рэчы: моры, горы, расьліны, плянэты і г. д.—зьнішчыцца і сусьвет. І, наадварот: зьнішчыць сьвет, значыць нішто іншае, як зьнішчыць усю сумеснасьць рэчаў. Але сусьвет ня проста *сума* рэчаў, а нешта большае. Сьвет—*сыстэма* рэчаў. З адрозьненьнем гэтых паняцьцяў мы ўжо знаёмы. Калі-б рэчы існавалі разам, адначасна, але незалежна адна ад аднэй, кожная сваім асобным, ня зьвязаным з рэштай, жыцьцём, калі-б для кожнай рэчы было ўсё роўна, існуе ці ня існуе рэшта—мы мелі-б мэханічную суму рэчаў. Рэчы існавалі-б у сусьвеце, як шахматныя фігуркі ў скрынцы, або бульбіны ў мяшку. Але ў сапраўднасьці справа стаіць зусім ня так. Кожная рэч існуе ня толькі побач, сумесна з другімі, але і дзякуючы другім, у залежнасьці ад іх, у сувязі з імі. Зьніштожце адну рэч—загінуць другія, зьявяцца трэція. Зьмянеце любую рэч—зьменіцца рэшта. Калі мы зьнішчым адну з шахматных фігур, рэшта 31 ад гэтага зусім ня зьнішчацца і ня зьменяцца. Але зьніштожце мазгі, сэрца ці лёгкія жывёлы—што зробіцца з рэштаю яго органаў? Аднімеце адзін з элемэнтаў складанага хэмічнага цела, што зробіцца з рэштай? Зьніштожце сонца, што зробіцца з рэштай плянэт? У гэтых прыкладах мы маем ня простую суму органаў, хэмічных элемэнтаў ці плянэт, а іх сыстэму, у якой існаваньне кожнай асобнай часткі знаходзіцца ў цеснай залежнасьці ад існаваньня цэлага, ня толькі ад наяўнасьці рэшты частак, але і ад іх стану, ад іх парадку. У сьвеце няма самастойных, незалежных, ня зьвязаных тысячамі сувязяй з рэштай, рэчаў. Усё зьвязана з усім. Нішто ня можа існаваць без усяго. Паспрабуйце ўявіць адну якую-небудзь рэч ці групу іх, адарваўшы з сумеснасьці, па-за сусьветам у цэлым—яе існаваньне немагчыма. Вырвіце чалавека з яго соцыяльнага асяродзьдзя, з геаграфічнага абкружэньня, з фізыка-хэмічных умоў існаваньня—яго быцьцё нямысьліма,

*) Гл. „Полымя" № 7 за 1926 г.

недарэчна. Або, уявіце зямлю ізолявана ад іншых плянэт, ад прыцяжэньня да сонца—ці застанецца што-небудзь ад уласьцівай ёй цяпер формы орбітнага руху, ад формы яе існаваньня? Ніводная рэч ня існуе ізолявана ад рэшты, самастойна, незалежна. Усё існуе ў самай цеснай і самай шматбаковай узаемасувязі і ўзаемазалежнасьці, як частка цэлага, як зьвяно якога-небудзь з ланцужкоў сусьветнай сеткі. Вось чаму ніводная рэч ня можа разумецца сама па сабе, толькі з самой сябе, а канечна ў сувязі з рэштай, праз разуменьне цэлага, часткай якога яна зьяўляецца.

У сваім росьце навука раздрабнілася, дыфэрэнцыравалася на мноства паасобных галін, што вывучаюць розныя часткі сьвету. Але сьвет—адзінства, адзінае цэлае. Ён не паддаецца разгароджваньню на ізоляваныя адна ад аднэй часткі. Прырода не ўкладаецца ў пушачкі і вітрыны, яна сьмяецца над тымі вучонымі, якія думаюць яе падзяліць, як імпэрыялістыя дзеляць паміж сабою колёніі. У сваім адзінстве і шматстайнасьці сувязяй прырода праломвае бар'еры, што аддзяляюць асобныя галіны навукі. Чалавецкая псыхіка ня хоча ўкладацца ў Пракрустова ложка біолёгічных дысцыплін, яна наможліва вымагае месца і ў соцыяльных навуках. Здаўна быўшыя прадметам біолёгічнай патолёгіі—хваробы—прымушаюць дасьледцаў пераступіць граніцы біолёгіі і ўстанавіць паняцьце соцыяльных хвароб—мост паміж патолёгіяй і соцыолёгіяй. З прогрэсам ведаў дыфэрэнцыяцыя навук выяўляе сваю ўмоўнасьць, сваё падможнае, тэхнічнае значэньне, яна капітулюе перад адзінствам і непадзельнасьцю сьвету. Кожная група зьявішч ёсьць частка цэлага і па-за гэтым цэлым ня можа быць зразумелай.

Кожная навука ўстанаўляе законы зьявішч, што ёю вывучаюцца, кожны з якіх выражае некаторыя ўласьцівасьці зьявішча, якое вывучаецца. Але гэтыя законы, як-бы яны правільныя ня былі, ніколі не сустракаюцца ў прыродзе ў тым відзе, у якім яны падаюцца ў кнігах, у „чыстым відзе". Наўпрэкі некаторым законам мэханікі, целы рознай масы і аб'ёму *ніколі* ня падаюць на зямлю з аднолькавай хуткасьцю, а просталінейны і роўнамерны рух ніколі не працягваецца да бесканцовасьці. І зусім не таму, што пададзеныя законы мэханікі няправільныя або недакладныя, а таму, што кожны закон формулюе толькі адну з сувязяй і залежнасьцяй рэчы з абставінамі, часткі з цэлым, у той час як гэта залежнасьць у сапраўднасьці бесканцова шматстайная і складаная і ня можа быць вычарпана адным законам. Ніколі „законы" прыроды не сустракаюцца ізолявана, у чыстым відзе, а заўсёды абмяжоўваюцца другімі законамі, іншымі ўзаемасувязямі рэчаў з цэлым. У пададзеных прыкладах патрэбна ўлічыць супраціўленьне абставін, трэньне. У біолёгіі законы насьледзтвеннасьці крыжуюць з законамі эволюцыі і г. д. Кожная рэч існуе ў складаным пераплёце з рэштай, і для таго, каб у дасканаласьці зразумець яе жыцьцё, патрэбна ўсьвядоміць усе шматлікія і часта супярэчныя яе сувязі з цэлым, зразумець яе, як зьвяно сусьветнага адзінства.

Падамо некалькі прыкладаў з розных галін ведаў, каб давесьці тое, што для пазнаньня рэчы трэба пазнаць яе, як элемэнт складанага цела ва ўсёй рознастайнасьці сувязяй, што сувязі гэтыя бесканцова складаныя і унівэрсальныя, што незаметныя і аддаленыя залежнасьці выклікаюць важнейшыя рэзультаты.

Вось, напрыклад, ілюстрацыі з біолёгіі, запазычаныя ў Ч. Дарвіна, якія я падаю са слоў К. А. Тімірязева:

Для запладненьня канюшыны патрэбен удзел шэршняў. Стракатыя і рознастайныя ўбёры кветак—ёсьць нішто іншае, як дастасаваньне для прыцягненьня казюлек, згодна іх „густу". А калі запладненьне канюшыны залежыць ад шэршняў, то лік шэршняў залежыць ад мышэй палёвак, іх заядлых ворагаў, якія нялітасна іх зьнішчаюць. Але ўсякаму вядома, што лёс мышэй залежыць ад ліку катоў. Значыцца, лік катоў у данай мясцовасьці здолен абумоўліваць ураджай канюшыны. Як бачыце, ураджай зьяўляецца зьвяном ня толькі ў ланцугу глебавых і кліматычных умоў, але і ва ўмовах фауны, і пры тым цераз шэраг пасярэдных зьвеньняў.

Другі аналёгічны прыклад: „У вадным месцы ў Страфордшыры Дарвіну ўдалося добра дасьледаваць зьмены, выкліканыя ў няплоднай верасковай нізіне, якой не дакраналася рука чалавека, пасадкай у ёй хваёвага лесу. Пасьля засеву прайшло ўсяго 25 год, і, аднак, параўноўваючы расьліннасьць нізіны з расьліннасьцю засаджаных вучасткаў, ён знайшоў, што ня толькі адносны лік расьлін верасковай нізіны зусім зьмяніўся, але нават зьявілася дваццаць новых відаў, ня лічачы траваў і сітнікавых. Уплыў гэтае зьмены на казюлек павінен быў быць яшчэ большы, бо ў дуброве завялося шмат птушак, якіх ня было ў гэтай нізіне. Значыцца, мы бачым, якія важныя зьмены зрабіла адна пасадка хвоі. Але ў другім месцы (у Сурэі) Дарвін меў выпадак заўважыць, ад якой нязначнай акалічнасьці можа залежаць зьяўленьне лесу. У гэтай мясцовасьці, на такой самай верасковай нізіне, як толькі што апісаная, вялікія пляцы былі за апошнія дзесяць год абгароджаны плотам, і аднэй гэтай акалічнасьці было даволі, каб абгароджаныя месцы пакрыліся мноствам самасейных хвоек і пры тым так густа, што ня ўсе маглі выжыць. Пераканаўшыся ў тым, што гэтыя маладыя дрэвы ня былі ні пасаджаны, ні пасеяны,—кажа Дарвін,—я вельмі зьдзівіўся іх колькасьці і хадзіў на некалькі ўзвышшаў, з якіх мог бачыць соткі акраў неабгароджанай нізіны, і літаральна ня мог угледзець на ёй ніводнае хвойкі, апрача старых груп на горках. Але, заглядваючы ўважна паміж сьцяблоў вераску, я ўгледзеў мноства сеянак і дробных хвоек, якія заўсёды абгрызала жывёла. На квадратовым ярдзе, на адлегласьці сотні ярдаў ад аднэй з старых груп, я налічыў 32 дрэўцы і адно з іх з 26 гадовымі пластамі многа год сілілася ўзьняць сваю верхавіну над вераскам і не пасьпела ў гэтым. Ня дзіва, што гэтая глеба, як толькі яе абгарадзілі, уся ўбралася дужымі маладымі хвойкамі. Але нізіна была такая абшырная і няплодная, што ніхто і не падумаў,

што яна так пільна абгрызена жывёлай. З гэтых прыкладаў мы бачым, што нязначная ўмова, як гарожа, каб не травіла жывёла, можа выклікаць зьяўленьне лесу ў бязьлеснай нізіне, якая ў сваю чаргу выкліча вялікую зьмену ў флёры і фауне краіны". Можна было-б да гэтых вывадаў біолёгіі дадаць, што апошняе ў сваю чаргу, у некаторым стопні, ня можа не адбіцца і на гаспадарцы данага раёну.

Калі мы ад біолёгіі ды зьвернемся да даных псыхолёгіі, то таксама ня цяжка будзе, на шэрагу яе дасягненьняў, пераканацца ў тым, што пазнаньне тых ці іншых псыхічных зьявішч, ёсьць, галоўным чынам, пазнаньне іх залежнасьцяй ад цэлага, ад усёй сумеснасьці асяродзьдзя.

Чытачу напэўна вядома, што сучасная псыхолёгія лічыць самымі простымі элемэнтамі, з якіх складаецца павядзеньне індывідыума—рэакцыі—адказныя дзеяньні організму на ўспрынятае раздразьненьне. Але ці даволі ведаць раздразьненьне, каб прадбачыць адказную рэакцыю організму? Не, такіх ізоляваных раздразьненьняў ніколі ня бывае. Організм заўсёды ўспрымае мноства раздразьненьняў, якія штырхаюць да неаднолькавых рэакцый. Гэтыя раздразьненьні крыжуюцца: некаторыя з іх узмацняюць адно аднаго, іншыя—супроцьдзейнічаюць адно аднаму. Адны штырхаюць нас сагнуць руку, другія—разагнуць яе. Вынік будзе залежаць ад рэзультатаў конкурэнцыі раздражальнікаў, ад таго, якая пануючая крыніца ўзбуджэньня. Пануючае ўзбуджэньне ня толькі затрымае дзеяньне рэшты раздражальнікаў, але і падпарадкуе іх сабе. „Прынцып агульнага поля" і „прынцып домінанты"—гэтыя выдатныя палажэньні ў сучаснай псыхолёгіі навучаюць, што няма асобных ізоляваных адна ад аднэй рэакцый, а ёсьць адзіная складаная псыхіка, у якой кожная рэакцыя рэалізуецца ў залежнасьці ад становішча псыхічнага цэлага і ад яе ўзаемасувязі з рэштай рэакцый.

Або, прыпомнім, як растлумачвае сучасная псыхолёгія зьмест сноў. Яны—нішто іншае, як складаны продукт розных залежнасьцяй, знадворных і ўнутраных: унутрыорганічныя процэсы, знадворныя раздражненьні таго, хто сьпіць, рэшткі дзённых думак, схаваныя пацягі, пануючыя ў псыхіцы індывіда,—усё гэта ў сумеснасьці зьяўляецца ключом да раскрыцьця рацыянальнага сэнсу бяссэнсных, на першы погляд, зьместаў сноў. Адарвеце таго, хто сьпіць, ад яго прошлага жыцьця, папярэдняга дня, умоў спаньня і ўнутрыорганічных сувязяй,—вы нічога ў яго сьне—продукце псыхічнай дзейнасьці—зразумець ня здолееце.

Вось як характарызуе прынцыпы мэтодыкі псыхолёгічнага нагляданьня К. Кофка, прадстаўнік найноўшага кірунку ў нямецкай псыхолёгіі, структурнай псыхолёгіі (Gestaltpsychologie).

„Заместа апісаньня данага цэлага пры дапамозе пералічэньня элемэнтаў, на якія яно можа быць падзелена аналізам, мы прытрымліваемся погляду, што цэлае павінна разглядацца іменна як цэлае, у яго спэцыфічным характары, і што яго часткі—бо цэлае бадай заўсёды зьмяшчае

часткі—не зьяўляюцца асобнымі часткамі конглёмэрату, а сапраўднымі органічнымі членамі, гэта знача, што шэраг уласьцівасьцяй гэтых частак належыць ім толькі пастолькі, паколькі яны зьяўляюцца часткамі данага цэлага. Гэткія якасьці могуць быць страчаны або заменены другімі якасьцямі, калі самі часткі зробяцца ізоляванымі і цэлымі адзінкамі, або часткамі іншых цэлых. Значыцца, цэлае, замест таго, каб складацца з частак, у сапраўднасьці абумоўлівае, чым гэтыя часткі павінны быць".

Гэтыя прыклады, запазычаныя з розных навук, якіх можна лёгка прывесьці вельмі шмат, паказваюць, што прынцып, які тлумачыцца,—ня выдумка філёзофаў, а жывы мэтод усякага навуковага пазнаньня, які прэтэндуе на сапраўднасьць, мэтод, які кажа: вывучаць рэчы трэба не ізолюючы іх, а ва ўсіх іх рэальных складаных сувязях і абасяродджаньнях, як элемэнты сусьветнага цэлага, неадрыўныя ад яго і нямысьлімыя па-за ім. Няма часткі бяз цэлага. Усякае зьявішча—частка другога, а ўсякую частку можна зразумець толькі цераз цэлае, у сувязі з цэлым. Сьвет не пабудован з рэчаў, як будынак з цэглы, а, наадварот, кожная паасобная рэч—продукт і зьвяно існаваньня сьвету ў цэлым. *Цэлае раней за сваю частку* папярэднічае ёй, абумоўлівае яе. Пры гэтым ня трэба запамінаць, што паняцьце частка і цэлае—заўсёды ўмоўныя і адносныя. Асобны організм—цэлае па адносінах да сваіх органаў, але частка па адносінах да ўсяго віду або роду: зямля—цэлае па адносінах да паасобных геолёгічных пластоў, але частка па адносінах да сонечнай сыстэмы.

Мы прывыклі казаць, што організм складаецца з каморак. Але што тут першараднае і што другараднае? Ці не як часьці цэлага організму захоўваюцца і харчуюцца каморкі, ці не організм нараджае новыя клеткі замест аджыўшых. Зразумела, без функцыянаваньня ўсяго організму ня можа быць зразумела жыцьцё кожнай асобнай каморкі; калецтва організму адбіваецца на харчаваньні, аднаўленьні і росьце каморак. На гэта могуць сказаць, што вышэйшыя шматкаморкавыя організмы ёсьць складаныя продукты шматвяковай эволюцыі прасьцейшых аднакаморкавых. Але супярэчнасьць тут толькі бачная. І ў тыя старыя часы, калі, згодна нашых дапушчэньняў, існавалі толькі элемэнтарныя формы жыцьця, прасьцейшыя камячкі протоплязмы, іх узьнікненьне, афармленьне і далейшае разьвіцьцё могуць быць зразумелыя толькі ў тым выпадку, калі мы будзем іх разглядаць у залежнасьці ад вакольнага асяродзьдзя: тэмпэратурных умоў, неорганічных хэмічных элемэнтаў, сынтэзам якіх яны зьяўляліся. Больш таго, тады іх сувязь з вакольнай прыродай была яшчэ больш выразнай, бо яна ня была абасяроджана організмам, як асаблівым станоўкім адзінствам. Узьнікшы і разьвіваючыся, як частка сусьветнага цэлага, каморка робіцца адыходным пунктам узьнікненьня новых сумеснасьцяй, якія абумоўліваюць яе далейшае існаваньне.

Розныя навукі ўсё больш прасякаюцца сьвядомасьцю пяршэнства цэлага па адносінах да яго частак. Час, калі навукі разглядаюць скла-

даныя сумеснасьці, як простую суму прасьцейшых элемэнтаў, характэрны для раньняга, нясьпелага становішча навукі. Так, мэдыцына ўсё галасьней абвяшчае, што лячыць трэба ня той ці іншы орган, а цэлага чалавека; псыхолёгія даўно вышла з таго становішча, калі ўся псыхіка разглядалася, як сума розных простых псыхічных здольнасьцяй; соцыолёгія назаўсёды расправілася з тэорыямі, паводле якіх грамадзтва—толькі сума паасобных людзей „Робінзонаў", якія аб'ядналіся, умовіліся аб сумесным жыцьці. Да правільнага разуменьня асобных псыхічных актаў мы прыдзем толькі тады, калі будзем іх разглядаць, як праяўленьні цэльнага чалавека ва ўсёй яго складанасьці. Да правільнага разуменьня чалавецкай моралі, рэлігіі і г. д. мы прыдзем толькі ў тым выпадку, калі замест „Робінзонаў" возьмем за адыходны пункт дасьледзіны грамадзтва ва ўсёй яго складанасьці, нараджэньнем, продуктам якога зьяўляецца кожны асобны чалавек. Цераз організм да каморкі, цераз цэльнага чалавека да паасобных псыхічных актаў, цераз грамадзтва да паасобнага чалавека,—такі правільны і плённы мэтодолёгічны шлях.

Цэлае раней часткі: організм раней кожнай асобнай сваёй каморкі, грамадзтва—кожнага паасобнага свайго члена, а прырода раней грамадзтва, якое зьяўляецца часткаю прыроды і ўзьнікае толькі на значным роўні разьвіцьця прыроды. Усё зьяўляецца часткаю па адносінах да сусьвету, і ўсё, урэшце ўсяго, можа быць зразумелым толькі цераз пазнаньне прыроды ў цэлым.

Але ці не прывяло нас гэтае абмеркаваньне да недарэчнасьці? Бач, калі асобныя рэчы можна зразумець толькі цераз пазнаньне сусьвету, то як-жа магчыма пазнаць сусьвет, калі не цераз пазнаньне яго асобных частак, розных рэчаў, што складаюць яго?

Для зразуменьня гэтага пытаньня трэба выразна зразумець шляхі пазнаньня.

Возьмем для простасьці прыклад гадзіньніка і паглядзім, які шлях вывучэньня мэханізму гадзіньніка. Зразумела, для гэтай мэты мала ведаў яго асобных шрубак, калёскаў ды інш., што складаюць яго; наадварот, разуменьне асобных частак мэханізму вымагае выразнага ўяўленьня мэханізму ў цэлым, яго прызначэньні і функцыях, аб месцы і значэньні кожнае шрубкі ўва ўсёй сыстэме. Тым ня менш, для вывучэньня мэханізму гадзіньніка патрэбна папярэдне разабраць яго на складаныя часткі, раскідаць гадзіньнік, як цэльны мэханізм, і вывучыць кожную частку асобна. Ці вычэрпваецца гэтым задача? Не, разборка гадзіньніка была толькі этапам вывучэньня, папярэднім сродкам для разуменьня яго мэханізму. Наступны этап—аднаўленьне, рэконструкцыя гадзіньніка, уясьненьне парадку і сувязі частак, іх разуменьне, як элемэнтаў цэлага. Правільным, адпавядальным сапраўднасьці зьяўляецца толькі вывучэньне шляхам другога спосабу, але гэта нічуць не выключае і не зьмяншае значэньня першага спосабу, як папярэдняга тэх-

нічнага сродку па шляху да правільнага пазнаньня частак цераз цэлае. Так, каб пераскочыць цераз плот, мы адбягаем для разьбегу ў супроцьлеглы бок.

Мэтод, які адпавядае разборцы гадзіньніка, называецца аналітычным, зборцы—сынтэтычным. З усяго сказанага ясна, што правільнаму пазнаньню прыроды адпавядае яе сынтэтычнае пазнаньне, як адзінства. Аналіз ёсьць заўсёды некаторае скажэньне прыроды, парушэньне яе (мысьленнае), расклад на прасьцейшыя складаныя часткі, якія асобна ад другіх зусім не існуюць. У гэтым спрошчаньні сапраўднасьці, у адцягненьні ад складанасьці рэальнага сьвету і знаходзіцца значэньне, каштоўнасьць аналітычнага мэтоду, але, адначасна, і яго слабасьць, невыстарчальнасьць. Ізолюючы зьявішчы, спрашчаючы іх, вывучаючы ў чыстым відзе, шляхам экспэрымэнту, ці абстракцыі, мы палягчаем вывучэньне іх, робім іх больш даступнымі дакладнаму пазнаньню і контролю. Але ў гэтым і найвялікшая слабасьць і недасканаласьць аналізу—рэчы вывучаюцца не такімі, якія яны ў сапраўднасьці, па-за іх сувязі, спрошчана, аднабакова. Калі складанасьць і ўзаемадзеяньне зьявішч штырхаюць нас ужываць аналіз, то аналізу ў сваю чаргу патрэбна сынтэтычнае паўненьне і праверка.

Цераз аналіз да сынтэзу. Мы ўмоўна спрашчаем, каб прыйсьці да разуменьня складанага. Аналітычнае разуменьне—абмежаванае, няпоўнае, а сынтэтычнае—без яго недасяжнае. Абодва мэтоды аднолькава патрэбныя, кожны на сваім месцы. Важна толькі ня губляць пэрспэктывы, не падмяняць складанага адзінства прыроды ўмоўнымі мэтодолёгічнымі, абстрактна-аналітычнымі поглядамі. Памятаючы, што частка пазнавальна цераз цэлае, фізыолёг, аднак, вывучае ізоляванае сэрца, але толькі для таго, каб выразьней зразумець дзейнасьць сэрца, як органу цэлага організму ва ўсёй яе складанасьці.

Яскравым прыкладам аналізу можа служыць „Капітал“ Маркса. У сваёй працы Маркс абстрагуецца ад бесканцовай складанасьці экономікі сучаснага грамадзтва, зварачаючы ўвагу на дасьледзіны „чыстага“ капіталізму, каштоўнасьці, якая абстрактна разумеецца, абстрактнай працы і г. д. Але гэтая геніяльная абстракцыя толькі мэтодолёгічны спосаб для пранікненьня ў схаваныя таямніцы рэальнага грамадзтва, *шлях* да магчымасьці разуменьня ва ўсёй іх складанасьці *конкрэтных* экономічных процэсаў. Карацей: аналіз—трамплін да сыстэматычнага пазнаньня. Аналітычнае мысьленьне—шлях да дасканалага сынтэзу, гэта знача да пазнаньня рэчаў такімі, якімі яны ёсьць у сапраўднасьці, у іх адносінах да цэлага, іх сувязях і ўзаемазалежнасьцях.

Абмежвацца ізоляваным пазнаньнем вырваных з рэальнага адзінства рэчаў, прымаць аналіз за канцовы рэзультат дасьледзін, а не за этап яго. Падмяняць рэальны сусьвет сьветам адарваных адна ад аднэй рэчаў і паняцьцяў,—значыць мысьліць няправільна, аднабакова,

падмяняць пазнаньне жывой сапраўднасьці пазнаньнем яе абломкаў і асколкаў, вывучаць

Сердце девушки, вываренное в иоде,
Окаменелый обломок позапрошлого лета,
И еще на булавке что-то в роде
Засушенного хвоста небольшой кометы.
(Маяковский).

Філёзофія імкнецца дапамагаць асіленьню такога пазнаньня, якое называецца мэтафізычным, змагаецца з ім.

Ня трэба зьдзіўляцца тым, што для *правільнага* разуменьня сапраўднасьці патрэбна ўжыць яго *скажанае* вучэньне. Бач, і фотограф бяз скажанага адбітку на негатыве ня можа стварыць правільнага адбітку на позытыве.

Азнаёмімся з тым, якія галоўныя формы сувязі рэчаў паміж сабою. Гэтыя сувязі вельмі шматлікія і рознастайныя. Мы ўжо бачылі на прыкладах, запазычаных у Дарвіна, што сувязі не абмяжоўваюцца простымі непасрэднымі, а бываюць ускоснымі абасяроджанымі цераз шэраг прамежных зьвенаў так, што рэзультат адлучан ад прычын цэлым ланцужком пасярэдных сувязяй. Ня цяжка заўважыць, што залежнасьці *ніколі* не вычарпаюцца двума толькі суседнімі зьвенамі. Калі зьмяняецца рэч А, гэта цягне за сабою зьмену зьвязанай з ёю рэчы Б, але апошняя зьвязана з В, В з Г і г. д., якія ў сваю чаргу зьменяцца. Але, узятая за адыходную рэч А зьмянілася таму, што зьмянілася некая рэч Х, ад якой яна залежала, а зьмена Х, карэніцца ў зьмене У і г. д. Але ўсе рэчы шматстароньнія (прыпамятаем шклянку, аб якой гаварыў У. І. Ленін), знаходзіцца ў *непасрэднай* сувязі не з аднэй, а з шмат якімі рознастайнымі рэчамі, з прычыны чаго зьмена адаб'еццa не ў вадным ланцугу, а пойдзе ў розных кірунках па розных ланцужных сувязях, як колы па вадзе. Цяжка, бадай, немагчыма, улічыць увесь комплекс сувязяй і залежнасьцяй, якія закранаюцца кожнай асобнай зьменай кожнай асобнай рэчы.

Все вещи бессмертной силой,
Вдали, вблизи,
Скрыто,
Связаны друг с другом,
Так, что задев цветок,
Ты тем самым туманиш звезду.
(Томпсон)

Мы ведаем, што для разуменьня чалавецкай псыхікі, трэба разглядаць чалавека ў яго залежнасьці ад усяго грамадзкага асяродзьдзя, у якім ён жыве, выхоўваецца, нараджаецца. Без разуменьня гэтых непасрэдных залежнасьцяй, мы ў псыхіцы чалавека нічога не зразумеем. Аднак і гэтага мала. Калі мы захочам зразумець, напрыклад, афэктыўныя праяўленьні чалавека, формы, у якіх ён выражае гнеў, радасьць, сполах,— нам прыдзецца зьвярнуцца да вельмі аддаленых, даўно мінулых залежнасьцяй. Ні сучаснае грамадзкае асяродзьдзе, ні фізыолёгія тут не памо-

гуць. Трэба зьвярнуцца да першабытных, дагістарычных часоў зоолёгічнага існаваньня нашых продкаў, і толькі яны (часы) нам вытлумачаць узьнікненьне і сэнс афэктыўных выражэньняў, як карысных біолёгічных дастасаваньняў, якія захаваліся шляхам насьледзтвеннасьці і передачы на працягу шэрагу вякоў, якія страцілі сваё мінулае значэньне. Нашае павядзеньне можна параўнаць з акумулятарам, які захоўвае рэшткі ўзьдзеяньняў папярэдніх пакаленьняў і вякоў. Гэта—залежнасьці гістарычныя. Бяз іх нельга зразумець ні псыхолёгіі або звычаяў розных нацыянальнасьцяй, ні сучаснага гаспадарчага ладу і г. д. Напомнім вядомыя словы У. І. Леніна аб тым, што сучасная руская народная гаспадарка прадстаўляе напластаваньне пяці розных экономічных пластоў, пачынаючы з формаў, характэрных для радавога быту, і канчаючы соцыялістычнымі. Рэшткі мінулых экономічных структур захоўваюцца, уплываюць на далейшае жыцьцё гаспадаркі, але могуць быць зразумелы толькі як продукт вельмі аддаленага мінулага.

Задача, такім чынам, зноў складаецца. Зразумець рэчы можна вывучыўшы ня толькі *сучасныя* сувязі, суіснуючыя ўзаемадзеяньні, але і *гістарычныя* залежнасьці, акумуляцыі мінулага. Вывучаць трэба ня толькі ўзаемасувязі цяперашняга, але і цяперашняе ў зьвязку з мінулым.

Часамі сувязі падзяляюць на знадворныя і ўнутраныя. Так залежнасьць зьместу сноў ад процэсаў звароту крыві ці страўленьня ежы—унутраная, ад шуму ў пакоі ці зморшчаў на посьцілцы—знадворная; залежнасьць відавой эволюцыі ад зьмен географічнага асяродзьдзя—знадворная, ад процэсаў у зародкавай плязьме—унутраная; гэты падзел, аднак, ня мае сур'ёзнага значэньня, бо падзел на знадворнае і ўнутранае вельмі ўмоўны. Унутраныя процэсы выражаюць знадворныя ўплывы, знадворныя ўплывы ўзьдзейнічаюць, ажыцьцяўляючыся цераз унутраныя процэсы.

Надмернае захапленьне мэндэлізмам у наш час, калі гэтае захапленьне даходзіць да крайнасьцяй, да адмаўленьня ўсёй рэшты фактараў біолёгічнай эволюцыі, апрача насьледзтвенна-генэтычных, можа служыць добрым прыкладам поглядаў, якія ня ўлічаюць гэтай сувязі знадворнага з унутраным, і, дзякуючы гэтаму, ізолююць асобнае зьявішча ад сумеснасьці прыроды. Мэндэлістыя, распрацоўваючы важны і плённы разьдзел біолёгіі, навуку аб мэханізьме насьледзтвеннасьці, аб насіцелях назьледзтвеннасьці ў ядры зародкавай плязмы, часта бачаць у генах адзіную і канцовую прычыну зьменнасьці відаў. Для іх эволюцыя органічнага сьвету абмяжоўваецца выключна ўнутраным процэсам у зародкавай плязьме, ізаляванай ад узьдзеяньняў знадворнага па адносінах да яе асяродзьдзя, незалежнай ад апошняга. Тут ня месца падаваць тыя супярэчнасьці, якія цягне за сабою такая мэтафізычная пастаноўка пытаньня і тыя невырашальныя труднасьці, да якіх яна прыводзіць, таксама, як і падаваць довады на карысьць супроцьлеглых поглядаў. Мы прыпыніліся на гэтым, каб прыцягнуць увагу чытача да данай проблемы, каб паказаць, што мэтафізычныя погляды, якія не сумя-

шчальны з сучаснай навуковай мэтодолёгіяй, яшчэ ў навуцы жывучыя. Гэтыя погляды прыводзяць у тупік, да адказу ад разуменьня ўзьнікненьня відаў і іх паасобных уласьцівасьцяй (бо насьледзтвеннасьць можа стварадь комбінацыі старога, але не нарадзіць новае), да погляду на організмы, як на частку прыроды, падпарадкаваную яе ўплывам, як на дзяржаву ў дзяржаве, як на рэчы, хоць і існуючыя ў прыродзе, але якія жывуць сваім незалежным, унутраным жыцьцём.

Прыпамятаем з першага разьдзелу, што рэчы часта ўяўляюцца нам не такімі, якія яны ў сапраўднасьці. Гэта тычыцца і да адносінаў паміж рэчамі, да іх узаемасувязяй. Побач з яўнымі, відочнымі залежнасьцямі мы можам наглядаць і ўяўныя, здавальныя і, схаваныя ад простага вока, замаскаваныя сувязі. Адзначаныя ўжо зьявішчы фэтышызму якраз і зьяўляюцца выпадкам, калі, замест сапраўдных сувязяй, схаваных ад наглядальніка, яму прадстаўляюцца манлівыя, уяўныя сувязі: замест сувязяй людзей у грамадзтве,—сувязь тавараў паміж сабою. Маркс геніяльна выкрыў суровую залежнасьць асобных таваравытворцаў ад капіталістычнай грамадзкай гаспадаркі ў цэлым, сувязь, замаскаваную ілюзіяй экономічнага індывідуалізму, экономічнай свабоды асобных індывідаў, што гаспадараць. Капіталістаму толькі жорсткія крызысы перавытворчасьці выяўляюць гэту залежнасьць, звычайна схаваную ад яго вачэй.

Вельмі навочным прыкладам схаванай сувязі, з яе нязьменным падарожнікам—уяўнай сувязьзю, можа служыць постгіпнотычнае наданьне. Суб'екту, якога гіпнотызуюць, надаецца, каб ён зрабіў што-небудзь пасьля пэўнага часу, пасьля абуджэньня ад гіпнозу. Ачнуўшыся, суб'ект нічога ня ведае аб зробленым яму наданьні, і калі ў вызначаны тэрмін ён зробіць наданы ўчынак, сувязь яго дзеяньня з іх сапраўдным стымулем яму невядома, схавана ад яго. Калі яго запытаць, што штырхнула яго на дзеяньне, то звычайна ён дасьць якое-небудзь тлумачэньне, мотыў, якое, зразумела, будзе ўяўным. Як часта мы бяз усякага гіпнозу ня ведаем сапраўдных рухачоў сваіх учынкаў, як часта тлумачым іх уяўнымі, нерэальнымі прычынамі. Задача навукі ня толькі констатаваць сувязі, што наглядаюцца, але і правяраць іх, крытыкаваць іх рэальнасьць і адшукваць новыя, незаметныя, схаваныя і, тым ня менш, дзейсныя. З кожным крокам, як бачыць чытач, задача дасьлядоўцы ўскладняецца. Куды „зручней“ задаволіцца лёгка даступнай маною, чым з большым трудом пасувацца да ісьціны. Яшчэ Сьпіноза заўважыў, што прыгожае таксама труднае, як і рэдкае. Хоць і трудная і рэдкая ісьціна, але затое яна ісьціна.

Мы ведаем, што кожная рэч шматстайна зьвязана з другімі. Калі бліжэй прыгледзецца да таго, *як* рэчы зьвязаны паміж сабою, якава *форма* іх сувязі, то мы ўгледзім, што галоўным, асноўным, усеагульным тыпам сувязі зьяўляецца сувязь прычынная. Азнаямленьнем з ёю мы і зоймемся.

Нам вядома ўжо, што ніводнае здарэньне, ніводнае дзеяньне ня можа здарыцца без таго, каб не адбіцца на многіх другіх рэчах, каб ня

выклікаць шэрагу другіх дзеяньняў. Для таго, што няма ізоляваных рэчаў, то няма і ізоляваных дзеяньняў. Рэч ня можа ня ўзьнікнуць, не зьмяніцца, ня зьнішчыцца без таго, каб гэта не адбілася на зьвязаных з ёю рэчах, каб у іх што-небудзь, дзякуючы гэтаму, ня зьмянілася, ня ўзьнікла або ня зьнішчылася. Зьявіліся каты—зьменшыўся лік мышэй, зьменшыўся лік мышэй—ня можа не павялічыцца лік шэршняў і г. д. Зьяўленьне аднэй рэчы або зьявішча ня можа ня выклікаць зьяўленьня зьмен у другіх. Няма ніводнае рэчы, якая-б складала выключэньне з гэтага правіла. Бо, каб такая рэч магла-б быць, яе патрэбна ўявіць па-за якіх-бы то ні было сувязяй з сьветам, што недарэчна. Калі што-небудзь адбываецца, то адбываецца і яшчэ што-небудзь. Умовімся называць рэзультаты, выкліканыя зьменай рэчы, яе *дзеяньнямі*. Расшырэньне цел—дзеяньне павышэньня іх тэмпэратуры, занядужаньне організму—дзеяньне пранікшых у яго мікробаў, узьнікненьне сну, дзеяньне таго ці іншага раздражненьня. Але калі кожнае зьявішча *выклікае дзеяньні* (розныя зьявішчы выклікаюць розныя дзеяньні), то і, наадварот, ніводнае здарэньне ня можа здарыцца, калі яно не *зьяўляецца дзеяньнем* якой-небудзь рэчы. Тыя вынікі, якія выклікаюцца дзякуючы данай рэчы, мы называем яе дзеяньнем; самую рэч, па адносінах да дзеяньня, якія яна абумоўлівае, будзем называць іх *прычынай*.

Калі мы вышэй гаварылі аб тым, што ніводная рэч ня можа мець месца, каб не зрабіцца прычынай тых ці іншых дзеяньняў, то ня менш правільна і тое, што ніводнае дзеяньне ня можа мець месца, калі яно ня мае адпаведнай прычыны, што ўсё ў сьвеце прычынна абумоўлена, што ўсё, што адбываецца—адбываецца ў сілу пэўных прычын. Увесь вопыт чалавецтва, уся навука і практыка пераконваюць нас у тым, што нішто ў прыродзе не адбываецца само па сабе, а заўсёды ў сілу чаго-небудзь: адна рэч нараджае другую, адзін стан рэчы абумоўлівае іншы. Уявім якую-небудзь рэч, напрыклад, камень, на які нішто ня ўзьдзейнічае, які не зьяўляецца дзеяньнем па адносінах да якой-небудзь прычыны. Ці будзе з каменем што-небудзь адбывацца? Ён не абточыцца—калі вада ня будзе прычынай гэтаму, ня выветрыцца—бяз ветру, не пакоціцца—бяз штыршка. Для таго, каб што-небудзь з ім адбылося, патрэбна прычына, дзеяньнем якой і будзе гэта здарэньне. Усё, што адбываецца, адбываецца заўсёды ў сілу якіх-небудзь прычын. Прычыннай сувязьзю мы называем такую, якою характарызуецца ўзьнікненьне новых рэчаў або новых станаў. Калі мы кажам, што даная рэч X знаходзіцца ад рэчы У у прычыннай залежнасьці, г. зн., што X існуе дзякуючы таму, што існуе У, што, каб ня было X, ня было-б і У. Каб ня было імпэрыялізму, ня было-б і сусьветнай вайны 1914 г. Каб ня было награваньня вады, ня было-б і яе зьмены ў газаваты стан. Прычынна абумоўленай можа быць, зразумела, ня толькі рэч у цэлым, але і асобныя яе якасьці ці станы. Так, камень існаваў-бы і бяз штышрка, але рухаецца ён з прычыны

штыршка. Такім чынам, прычынная залежнасьць ёсьць такая залежнасьць якая азначае рэч або яе стан да існаваньня. Адгэтуль зразумела выключная важнасьць вывучэньня гэтай формы сувязі. Пазнаць прычыну рэчы— значыць пазнаць, што стварае рэч, што яе зьмяняе, што яе зьнішчае. Калі мы хочам, каб што-небудзь адбылося, што для гэтага трэба зрабіць? Трэба прычынна абумовіць гэтае здарэньне, пусьціць у ход тыя прычыны, дзеяньнем якіх зьяўляецца жаданае здарэньне. Напрыклад, я апальваю пакой, спальваючы дровы, бо процэс згараньня—прычына, дзеяньне якой—цяплыня. Калі ня будзе ніякіх прычын цяплыні, ня будзе і цяплыні. Але калі дзеяньне—нараджэньне прычыны, то зьнішчэньне дзеяньня—зьнішчэньне прычыны.

Няма патрэбы даводзіць, што кожная рэч зьяўляецца прычынай мноства дзеяньняў. Заўважым толькі, што калі розныя рэчы выклікаюць і розныя дзеяньні, то рэчы, якія ўзьнікаюць у моц аднолькавых прычын і ўсе дзеяньні якіх аднолькавыя, нічым адны ад другіх не адрозьніваюцца,— ёсьць аднолькавыя рэчы. Сапраўды, мы адрозьніваем рэчы па тым, што яны дзейнічаюць на нашы органы адчуваньняў розна: адна рэч—прычына адчуваньня чырвонага колеру, другая—зялёнага. Калі ўсе дзеяньні, што выклікаюцца дзьвюма рэчамі, тожсамыя (і іх дзеяньне на нас, і дзеяньне на рэшту рэчаў),—то і рэчы мы называем аднолькавымі. Іншае пытаньне, ці ёсьць такія рэчы. Аб гэтым мы пагаворым у наступным разьдзеле.

Але раз „з нічога нічога не адбываецца“, калі „няма дыму без агня“, то і ўсякая прычына таксама павінна мець сваю прычыну, а тая ў сваю чаргу—трэцюю. Зразумела, гэта так. Рух, даны мною кнізе—прычына руху паветра, але рух кнігі сам выклікан прычынай—рухам маёй рукі, а гэтая прычына наступнай—інэрвацыяй пэўных мускулаў, і г. д. Ніводная прычына не зьяўляецца апошняй, канцовай, бяспрычыннай, бо бяспрычынным можа быць толькі *нішто, а што-небудзь,* усё, што *ёсьць*— прычынна абумоўлена. Уяўленьне аб канцовай прычыне недарэчна, бо супярэчыць агульнаму прынцыпу супярэчнасьці. Бач, сотая прычына тлумачыцца сто першай, тысячная—тысяча першай, і шукаць першапрычыну таксама неразумна, як і шукаць самы большы лік, бо якім-бы вялікім мы яго не ўявілі-б, заўсёды даволі дадаць адзінку, каб ён перастаў быць самым вялікім. Прычынны ланцуг—бесканцовы. Чым болей зьвенаў гэтага ланцугу мы ведаем, тым глыбей пранікаем у пазнаньне дзеяньня. Пры тым, бесканцовыя ня толькі прычыны, але і дзеяньні, бо кожнае дзеяньне выклікае другое, а гэтае, у сваю чаргу,—трэцяе і г. д. Нельга ўявіць ня толькі самага вялікага, але самага малога ліку. Нельга ўявіць ні першапрычыны ні апошняга дзеяньня.

Няма нічога недарэчней уяўленьня нібыта ў сьвеце ёсьць, з аднаго боку, якіясьці прычыны, з другога—дзеяньні; прычыны нараджаюць дзеяньні. Прычына і дзеяньне—ня рэчы, а адносіны паміж рэчамі; адносіны могуць быць аднолькавымі паміж рознымі рэчамі, адносіны паміж аднымі

і тымі самымі рэчамі могуць зьмяняцца. Недарэчна пытацца: рух рукі прычына ці дзеяньне. Ён і тое і другое, у залежнасьці па адносінах да чаго. Па адносінах да руху кнігі—ён прычына, да інэрвацыі—дзеяньне. Усе рэчы заўсёды адначасна і прычыны, і дзеяньні. Будучы *дзеяньнямі* пэўных прычын, яны, у сваю чаргу, зьяўляюцца *прычынамі* некаторых дзеяньняў. Кожная рэч—зьвяно бесканцовага ланцуга, і таму яна заўсёды—дзеяньне па адносінах да папярэдняга зьвяна, і прычына—па адносінах да наступнага. Ніводная рэч ня ёсьць *толькі* прычына або *толькі* дзеяньне. Бо калі яна—ня дзеяньне, то яна бяспрычынная, а калі яна ня прычына, то яна бязьдзеяльна, што, як мы бачылі, недарэчна.

Адносіны рэчаў бесканцова складаныя. Рэч можа быць ня толькі дзеяньнем аднэй рэчы і прычынай другой, але і прычынай і дзеяньнем па адносінах да аднэй і тэй самай рэчы. Так, грамадзкая пабудова зьяўляецца прычынай па адносінах да ўчынкаў, імкненьняў, павядзеньня асобных людзей. Але прычына, абумоўленая грамадзкай структурай павядзеньня людзей, у сваю чаргу, робіцца прычынай далейшай зьмены грамадзкай пабудовы, абумоўлівае яе. Чалавек—продукт грамадзтва і, у сваю чаргу,—грамадзтва ствараецца людзьмі. Для вульгарнага, мэтафізычнага мысьленьня гэтыя сьцвярджэньні несумяшчальныя. Але, у сапраўднасьці, абодва правільныя. Людзі твораць грамадзтва так ці інакш, у залежнасьці ад таго, якімі іх стварыла грамадзтва. Раз узьнікшы, дзеяньне робіцца прычынай сваёй уласнай прычыны. Паданы прыклад характарызуе тып сувязі больш складаны, чым простае ўзаемадзеяньне. Прыкладам простага ўзаемадзеяньня можа служыць, напрыклад, нэрвовая сыстэма і зварот крыві: адно ўплывае на другое—нэрвы імпульсуюць зварот крыві, кроў харчуе нэрвовую сыстэму. Або другі прыклад: рэлігія і мастацтва. Рэлігія можа дапамагаць або супроцьдзейнічаць прогрэсу ці заняпаду мастацтваў, тых ці іншых яго відаў, вызначаць яго сюжэты, настроі, а мастацтва, у сваю чаргу, прасякае рэлігійны культ, афарбоўвае міты, пропагандуе рэлігію, ці змагаецца з ёю, служыць рэлігіі сродкам псыхолёгічнага ўзьдзеяньня і г. д. У пададзеным-жа вышэй прыкладзе адносін грамадзтва і індывідумаў, адносіны не вычарпаюцца простым узаемадзеяньнем,—яны больш складаныя. Нельга сказаць, што грамадзтва ўзьдзейнічае на індывіда, *таксама*, як індывід на грамадзтва. Не, грамадзтва сваім узьдзеяньнем абумоўлівае і самы характар узваротнага ўзьдзеяньня на яго. Чалавек дзейнічае на грамадзтва так, як яго азначыла к узьдеяньню грамадзтва, і ў тэй меры, у якой дапушчае грамадзтва. Другім прыкладам такой складанай залежнасьці можа служыць залежнасьць паміж разьвіцьцём навукі і тэхнікі. Прогрэс навукі абумоўлівае і прогрэс вытворчасьці, а сам вызначаецца станам вытворчасьці, але ці роўнапраўныя члены залежнасьці? Не, стан вытворчасьці, яе вымаганьні, яе магчымасьці абумоўліваюць ня толькі разьвіцьцё навукі, але і характар, кірунак і межы ўзваротнага ўзьдзеяньня навукі на прогрэс

вытворчасьці. Мануфактура абумоўлівае вынайдзеньне навукай машыновай вытворчасьці, а не чаго-небудзь іншага. Вытворчасьць азначае сваё ўласнае жыцьцё цераз *дапамогу* навукі. Хоць мы і маем тут справу з узваротным уплывам дзеяньня на прычыну, але гэты ўплыў ня тожсамы з першай залежнасьцю дзеяньня ад сваёй прычыны. Да гэтых прыкладаў мы, аднак, яшчэ вернемся ў іншай сувязі. Тут-жа нам трэба ўсвоіць як складаныя і шматстайныя формы прычынных сувязяй,—гэтай канвы складанасьці і шматстайнасьці сьвету.

Абагульняючы ўсё пададзенае, мы ўстановім, да чаго павінна імкнуцца ўсякае пазнаньне, якое прэтэндуе на ісьціннасьць. Заўсёды памятаць аб складаным адзінстве прыроды, аб бесканцовай усеагульнай сувязі рэчаў, аб тым, што няма рэчаў ізоляваных, самастойных. Памятаць, што для пазнаньня рэчаў патрэбна вывучаць іх, як часткі цэлага, ва ўсёй іх залежнасьці ад яго, ва ўсёй шматграннасьці гэтых сувязяй і абасяроджваньні ва ўсёй іх конкрэтнасьці. Памятаць, што аналіз, абстракцыя, экспэрымэнт—надзейныя, але вакольныя шляхі да сапраўднага пазнаньня, і не заблудзіцца на крыжавінах, ня губляць мэты гэтага шляху. Для разуменьня рэчаў выкрываць іх прычынныя залежнасьці, як асноўную і вырашальную форму сувязі. Парушаць ілюзорныя сувязі, выкрываць схаваныя. Прывыкнуць да разуменьня бесканцовасьці прычыннай сувязі і адвыкнуць ад выяўленьня прычыны і дзеяньняў, як акасьцянелых, застыглых катэгорый. Няма прычыны, якая ня была-б дзеяньнем, няма дзеяньняў, якія-б ня былі прычынай. Ня лічыць пазнаньня дасканалым і поўным, пакуль рэч не пазнана ва ўсіх яе сувязях і залежнасьцях, як частка прыроды.

Да гэтага патрэбна дабавіць яшчэ адно мэтодолёгічнае правіла, трэба ўважна адрозьніваць *рэальныя* сувязі рэчаў ад *лёгічных* сувязяй, якія ўстанаўляюцца нашым мысьленьнем. Сувязь органаў у організьме ёсьць, неабходна існуе, незалежна ад таго, думаем мы аб ёй ці не; гэтая сувязь—не продукт нашага мысьленьня, а незалежная ад яго *рэальная* сувязь, якую мысьленьне толькі знаходзіць, выкрывае, але ні чуць не ўтварае. А вось выразны прыклад другога роду сувязі: сумеснасьць рэчаў, назвы якіх пачынаюцца з буквы Р. Паміж гэтымі рэчамі можа ня быць ніякай рэальнай сувязі, і не яна тут маецца на ўвазе; сувязь тут штучная, адвольная, яна толькі знадворная мысьліцельная конструкцыя. Рэчы, зьвязаныя рэальнымі сувязямі, утвараюць рэальнае адзінства, або рэальныя сумеснасьці. Грамадзтва — сумеснасьць рэальная, молекула—рэальнае адзінства. Прыкладамі-ж лёгічных сумеснасьцяй, што ўтвараюцца мысьленьнем, могуць быць: імяназоўнае, рэч (папера—рэч, пяро—рэч) сувязь (прычыннасьць—сувязь, суіснаваньне—сувязь) і рэшта адцягненых паняцьцяў, або катэгорый. Задача навукі, відочна, не ўстанаўленьне лёгічных сувязяй (гэта—тэхнічны спосаб мысьленьня), а выяўленьне і вывучэньне рэальных сувязяй. *Не выдумляць сувязі, а вынаходзіць іх у самай сапраўднасьці*—гэткая задача навукі.

## IV. Законамернасьць

Прырода бесканцова шматгранна. Яна, як мы бачылі, прадстаўляе адзінства, адзінае цэлае, але зусім ня тожсамасьць. Часткі гэтага адзінства нятожсамыя, неаднолькавыя, няроўныя адна аднэй. У адзінстве сьвету непарыўна ўзаемазьвязаны не аднастайныя, а бесканцова рознастайныя, рознародныя рэчы. Прырода—адзінства рознага, шматстайнае цэлае. У ёй няма двух зусім тожсамых частак, двух цалком аднолькавых рэчаў. Няма зусім аднолькавых людзей; пачуцьцё, што другі раз перажываецца,—ужо ня першае пачуцьцё; Кастрычнікавая рэволюцыя—адзіна і непаўтаральна; рэволюцыі былі і будуць, але двох такіх самых рэволюцый ня было і ня будзе; пры ўважным разглядзе мы выявім розьніцу ў двух кветках аднэй назвы і ў двух кроплях вады. Калі-б (наўпрэкі вопыту) выабразілі дзьве тожсамыя рэчы, нам усё такі прышлося-б дапусьціць іх рознае становішча ў прасторы (бо рэчы не прасякальныя), а значыцца—розьніцу ў адносінах абкружаючых рэчаў. Тое, што адрозьнівае паміж сабою дзьве ці некалькі рэчаў, тыя рысы, тыя бакі, якія абумоўліваюць іх рознастайнасьць, надаюць ім індывідуальны характар, спэцыфічнасьць,—будзем называць іх асаблівасьцямі, *асаблівым* у тэй ці іншай рэчы.

Але няма і двох абсолютна розных зьявішч прыроды. Уласьцівасьці якіх-хаця двух рэчаў не вычарпаюцца іх асаблівымі ўласьцівасьцямі, а заўсёды зьмяшчаюць і ўласьцівасьці супадальныя. У бесканцовай шматстайнасьці прыроды хаваецца і аднастайнасьць. Хоць і няма двух тожсамых хрызантэм, але ў двух розных хрызантэмах заўсёды ёсьць агульныя рысы, дзякуючы ім мы і тую і другую называем хрызантэмамі і адрозьніваем ад ляўкояў. Як-бы ні адрозьніваліся некалькі людзей паміж сабою, аднак і іх розьніца не абсолютная, у іх ёсьць і агульныя ўласьцівасьці, на аснове якіх мы адрозьніваем гэтых розных людзей ад птушак, напрыклад. Гэта самае мае адносіны і да якога-хаця зьявішча, Кастрычнікавая рэволюцыя ня роўная Парыскай комуне, але паміж імі шмат *агульнага*, што дае нам падставу прывесьці іх да аднаго паказьніка: дыктатура пролетарыяту. І калі правільна, што няма дзьвюх рэчаў, якія не адрозьніваюцца асаблівасьцямі, то няма і дзьвюх рэчаў, якія не супадаюць агульнасьцю. Хрызантэмы ня толькі адразьняльны ад ляўкояў, але і маюць з імі агульнае, што характарызуе іх, як кветкі. Людзям з птушкамі надае агульнасьць тое, што адрозьнівае іх ад расьлін, а з расьлінамі ў іх агульнапрыналежнасьць да органічных зьявішч і г. д. Аднастайнасьць таксама не абсолютная, як і шматстайнасьць. У якой-хаця рэчы ёсьць тое, што адрозьнівае яе ад усёй рэшты рэчаў, як і тое, што агульна ў яе з імі. Няма ў прыродзе нічога, што складаецца выключна з асаблівасьцяй, як і нічога, што зусім ня мае асаблівасьцяй. Кожная рэальная рэч, кожнае *адзінкавае* зьявішча ёсьць сынтэз агульнага і асаблівага. Каб зразумець рэальную рэч ва ўсёй яе конкрэтнасьці, патрэбна зразумець і тое, што агульнае ў яе з другім шэрагам рэчаў, і тое, што ў яе асаблівага,

Бяз гэтага пазнаньне будзе недасканалым, аднабаковым, поўпазнаньнем. Для пазнаньня кожнай адзінкавай рэчы належыць пазнаць яе ў адзінстве яе асаблівых і агульных уласьцівасьцяй.

Мы прывыклі думаць, што навука мае мэтаю выяўленьне законаў прыроды. Усе намаганьні вучонага накіраваны на пазнаньне таго ці іншага закону ў галіне прыроды, якую ён вывучае. Законы, бы вугла-вое каменьне, на якіх трымаецца навука. Адбярэце ад фізыкі ўсе яе законы, што ад яе застанецца? Крушня фактаў, а не навука. Чым вышэйшай ступені дасканаласьці дасягае навука, тым большую колькасьць законаў устанаўляе яна, тым больш дакладныя і шырокія гэтыя законы.

Але што такое закон? І ці сапраўды задача вучонага вычарпаецца пазнаньнем законаў прыроды?

Каб пазнаць тую ці іншую групу зьвішч, трэба да яе ўважна прыгледзецца, сабраць магчыма больш поўную колькасьць фактаў данага роду, прывесьці іх у зручную для агляду сыстэму, упарадкаваць. З гэтага праца пачынаецца. Гэта—апісальная стадыя навукі. Без таго, каб з найвялікшай стараннасьцю разгледзець і апісаць пабудову організму нельга распачаць вывучэньне законаў яго дзейнасьці. Бяз поўнага і дакладнага падліку фактаў, без апісаньня і сыстэматызацыі даных аб разьвіцьці імпэрыялізму, спроба выкрыць законы імпэрыялістычнага разьвіцьця грамадзтва ня можа быць удачнай. Апісальныя навукі—неабходная, але толькі першая ступень усякага навуковага пазнаньня, яна не сама мэта, а толькі сродак да мэты гэтых дасьледзін, умова іх, але не рэзультат, не завяршэньне. На гэтай аснове навука ўстанаўляе законы, выкрывае іх у групе фактычных даных, якія ёю дасьлядуюцца. Гэта—другі этап. Так, напрыклад, старанна азнаёміўшыся з адпаведнымі фактамі, мы можам выкрыць, што рост праступкаў супроць уласнасьці павялічваецца роўналежна росту цэн на прадметы шырокага спажываньня. Або з нагляданьня плянэт,—што плянэты апісваюць вядомыя орбіты навокал сонца. Тут мы падымаемся над першапачатковым апісаньнем, тут мы выкрываем у гурбе фактаў пэўны парадак, робім абагульненьні. „Цэнім не асобныя факты і вопыты, што наглядаюцца самі па сабе,—піша адзін з самых выдатных стварыцеляў навукі—Гельмгольц,—як-бы ні быў незьмяральна вялікі іх лік; як практычную, так і тэорытычную каштоўнасьць яны набываюць толькі дзякуючы таму, што даюць магчымасьць даведацца аб законе цэлага шэрагу аднастайных зьявішч, якія паўтараюцца або, магчыма, толькі адмоўна паказваюць, што веды такога закону, які лічыўся да гэтага моманту поўным, былі ў сапраўднасьці няпоўныя. Пры строгай і скрозь пашыранай законамернасьці ў зьявішчах прыроды, зразумела, пры вядомых умовах, даволі бывае ўжо аднаго нагляданьня якіх-небудзь суадносін, якія прымаюцца намі за строга законамерныя, каб на аснове іх з вышэйшым стопнем пэўнасьці ўстанавіць некаторае агульнае правіла; так, напрыклад, знайшоўшы поўны шкілет

аднаго асобнага першабытнага індывіда, мы лічым поўным і нашае паняцьце аб шкілеце ўсяго данага віду жывёл. Але і ў даным выпадку мы павінны мець на ўвазе, што і тут асобнае нагляданьне мае цану не само па сабе, але толькі таму, што яно дае нам веды законамернай правільнасьці ў пабудове цела цэлага віду організмаў. Такім самым чынам важны веды ўдзельнай цяплыні аднаго толькі маленькага кавалачка новага мэталю, бо нам ня прыходзіцца выказваць непаразуменьня, што ніякі другі кусок таго мэталю, будучы дасьледжан падобным-жа чынам, выявіць такія самыя ўласьцівасьці. Знайсьці закон зьявішч, значыць іх зразумець. І сапраўды, закон ёсьць усеагульнае паняцьце, пад якое можна падвесьці шэраг зьявішч прыроды, якія адбываюцца аднастайна. Як у паняцьці аб сысунох мы аб'яднаем усё тое, што агульна чалавеку, малпе, сабацы, леву, зайцу, каню, кату і г. д., так і ў законе праламленьня мы аб'яднаем усё тое, што знаходзім правільна паўтаральным кожны раз, калі якая-небудзь каса сьвету якога-небудзь колеру пранікае ў якім-небудзь кірунку цераз паграні́чную паверхню якіх-небудзь двух празрыстых асяродзьдзяў".

Але і гэтым задача не вычарпаецца. Папершае, таму, што такія эмпірычныя і статыстычныя законы толькі *констатуюць*, выкрываюць пэўны парадак, але ня *тлумачаць* яго. Сапраўды, устанавіць, што рост цаны і рост крадзежу спадарожнічаюць адно аднаму—недахватна. Патрэбна вытлумачыць, *чаму* яны спадарожнічаюць адно аднаму, *якім чынам* рост цаны выклікае рост крадзяжоў: ці абумоўлен рост крадзяжоў ростам цаны, ці той і другі зьяўляюцца дзеяньнямі трэцяй прычыны і г. д. Бяз гэтага веды няпоўныя, закон недасканалы. Устанавіць процантныя суадносіны нованароджаных таго і другога полу, яшчэ ня значыць зразумець тыя генэтычныя прычыны, якія абумоўліваюць у вадным выпадку нараджэньне дзіцяці мужчынскага полу, у другім выпадку—жаночага.

Цераз констатаваньне закону трэба ісьці да растлумачэньня яго, да пазнаньня прычын, якія абумоўліваюць выяўленую неабходную сувязь. Гэта папершае. А падругое, пададзеныя прыклады прадстаўляюць сабою нішто іншае, як вынайдзеньне *агульнага* ў адзінкавых рэчах, выяўленьне некаторай агульнай рысы, што пранікае шэраг рознастайных адзінкавых зьявішч. Разрозьненыя праступкі, ня гледзячы на бесканцовую сваю асаблівасьць кожнага з іх, ня гледзячы на індывідуальныя адмены мотываў, што іх рухаюць, выяўляе ў гэтым законе нешта агульнае—сваю залежнасьць (ці сувязь) з пагоршаньнем матэрыяльных умоў існаваньня. У розных рухах асобных плянэт аказваецца агульнае. Закон ёсьць, такім чынам, пазнаньне агульнага ў рэчах, у групах рэчаў. Гэта вельмі многа, але гэта яшчэ ня ўсё. Бач, для дасканалага пазнаньня рэчаў патрэбна зразумець і растлумачыць таксама і іх індывідуальныя асаблівасьці. Цераз апісаньне да абагуленьняў, ад абагуленьня да

вытлумачэньня, ад пазнаньня агульнага да пазнаньня адзінкавага. Пазнаць рэч у яе адзінкавасьці, зразумець і вытлумачыць неабходнасьць усіх яе конкрэтных праяўленьняў—гэткая задача. А гэта ёсьць пазнаньне законамернасьці. Пазнаньне законамернасьцяй—задача кожнай навукі. Яна азначае пазнаньне парадку зьявішч, прычыннай неабходнасьці асобных рэчаў. Каб пазнаць чалавека, належыць ня толькі канстатаваць, але і прычынна вытлумачыць усе яго функцыі і ўласьцівасьці як агульныя ўсім іншым людзям і жывёлам, так і яго асаблівыя. Толькі дасягшы такога пазнаньня, мы можам сказаць, што пазналі данага чалавека, зьявішча, рэч. Пазнаньне тэй ці іншай групы законамернасьцяй—маяк кожнай навукі, да якога яна імкнецца то простымі, то вакольнымі шляхамі. І толькі ідэолёгі грамадзкіх кляс, варожых прогрэсу ў тэй або іншай галіне ведаў, імкнуцца сказіць навуку, збочыць яе ад яе правільнага шляху—пазнаньня законамернасьцяй.

Калі мы сьцьвярджаем, што асноўная задача навукі—пазнаньне розных законамернасьцяй, то, відочна, гэтым дапушчаецца, што ўсякае быцьцё ёсьць законамернае быцьцё. Імкнуцца да пазнаньня законамернасьцяй мае сэнс, зразумела, толькі ў тым выпадку, калі існуючае законамерна па сваёй прыродзе. Такая формулёўка задач навукі мае ў сабе пераконаньне ў тым, што ўва ўсёй прыродзе пануе неабходнасьць, парадак, прычынная абумоўленасьць, законамернасьць. І гэтую ўсеагульную законамернасьць мы імкнемся знайсьці ва ўсіх яе адзінкавых конкрэтных праяўленьнях. Нам прыдзецца прадумаць, што-ж такое законамернасьць, якая прасякае *ўсё* існуючае, і ці сапраўды *ўсе* сфэры быцьця прасякнуты ёю, і, значыцца, ці ўсе навукі павінны імкнуцца да яе пазнаньня? Аднак, перш, чым перайсьці да разгляду гэтых пытаньняў, застановімся на другім баку проблемы.

Мы казалі, што пунктам імкненьняў навуковага пазнаньня зьяўляецца пазнаньне законамернасьцяй прыроды. Усе мэтоды навук—шлях да яго. Аднак, і пазнаньне само па сабе, нават самае дасканалае, не зьяўляецца самамэтаю. Нам неўласьціва пазнаньне дзеля пазнаньня навука дзеля навукі. Навука не багавіца, жрацамі якой зьяўляюцца вучоныя; мы не пакланяемся навуцы і ня прыносім ахвяр на яе аўтар. Ня людзі—служкі навукі, а навука—служка людзей, прылада ў руках грамадзтва. Навука, навуковае пазнаньне—сродак, які дапамагае найлепшаму дастасаваньню грамадзтва, прыроды і грамадзкай пабудовы да інтарэсаў людзей. Навука ня толькі продукт соцыяльнай практыкі, але і інструмант нашай практыкі. У залежнасьці ад перавагі ў даную эпоху запытаньняў грамадзтва, ад яго практычных патрэб і магчымасьцяй азначаецца кірунак, ухіл навукі. Нават найбольш абстрактныя, аддаленыя ад сувязі з практыкай галіны ведаў служаць гэтай практыцы і азначаюцца ёю проста або наўкосна. Абстрактныя матэматычныя аналізы не абы-якія для тэхнолёгіі, а ўзвышаныя філёзофічныя пабудовы, якія служаць

рэальным соцыяльным задачам. Там, дзе канчаецца *стварэньне* інструманту там пачынаецца яго *ўжываньне*. І толькі ва ўжываньні сваім прылада ажыцьцяўляе сваё прызначэньне і правярае сваю прыгоднасьць. Там, дзе дасягае дасканаласьці пазнаньне, вырастае дастасаваньне пазнаньня да практыкі, у якой навуковыя дасягненьні атрымліваюць вырашальную праверку і ацэнку.

Мы высьветлілі, што шлях навукі—шлях пазнаньня законамернасьці. І толькі ў пазнаньні законамернасьці навукі робяцца падпарадкаванай прыладай практычнай дзейнасьці. Сапраўды, да нашай практыкі найвялікшае значэньне мае магчымасьць прадбачаньня здарэньняў. Прадбачачы здарэньні, мы можам да іх падрыхтавацца, дастасавацца, папярэдзіць іх. Так, напрыклад, калі мы ведаем, што спажываньне ў ежу тэй ці іншай рэчы можа прынесьці хваробу, мы можам ухіліць яе. Папярэджаньне хваробаў—профілактыка,—якая займае ўсё больш выдатнае месца ў шэрагу мэдычных ведаў, прадстаўляе сабою прыклад значэньня прадбачаньня—роднае дзіця пазнаньня законамернасьці. Адкрыцьцё законамернасьці—неабходная падстава ўсякага прадбачаньня. Трэба пазнаць хваробу ў яе законамернасьці, каб прадбачыць яе надыход на аснове больш або менш аддальных прычын. Наш вялікі вучоны Мэндэлееў мог адгадаць існаваньне пазьней знойдзеных хэмічных элемэнтаў (напр., галія Лекоком дэ-Буабодран, скандзія—Нільсонам) дзякуючы пазнаньню законамернасьці шэрагу хэмічных элемэнтаў. Месца, дзе знаходзіцца вынайдзеная ў 1846 г. плянэта Нэптун, было прадбачана адначасна Левер'е і Адамсам на падставе вылічэньняў, заснаваных на законе Ньютона. Імпэрыялістычная вайна 1914 году была прадказана за многа год марксыстымі на грунце пазнаньня законаў капіталістычнага разьвіцьця. Навуковае прадбачаньне немагчыма, нямысьліма без пазнаньня законамернасьці. Прадбачаньне, якое ня грунтуецца на гэтай глебе, ёсьць гаданьне. Забабоннае, недарэчнае гаданьне адыходзіць не ад аналізу прычыннай неабходнасьці зьявішча, якое разглядаецца, з пусьцякоў, якія ня маюць нічога агульнага з зьявішчам. Імкненьне прадбачыць паяўленьне зацьменьня зьяўляецца навуковым, бо адыходзіць з уясьненьня прычын, якія рэальна абумоўліваюць наступленьне зацьменьня; гаданьне на воску аб тым, ці будзе вайна,—недарэчна, бо воск не абумоўлівае ўзьнікненьня тых ці іншых соцыяльных конфліктаў.

Тое самае тычыцца і другіх формаў практычнага прыстасаваньня ведаў. Пазнаем мы прыроду не для здавальненьня сваёй цікавасьці, а для аўладаньня ёю. А аўладаньне ёсьць здольнасьць карыстаньня намі тымі ці іншымі законамернасьцямі. Тэхнолёгія трымаецца на законах фізыкі і мэханікі, мэдыцына—фізыолёгіі і патолёгіі, палітыка—соцыолёгіі. Каб навучыцца па сваёй волі нараджаць хлопчыкаў ці дзяўчынак, нам трэба пазнаць прычыны, якія абумоўліваюць адрозьненьне поўзародкаў, і толькі тады мы можам узьдзеяньнем на гэтыя прычыны выклікаць жаданыя

дзеяньні. І чым паўней і дакладней зразумець законамернасьць, тым больш дасканала яе практычнае ўжываньне для прадбачаньня і аўладаньня зьявішчамі прыроды і грамадзкім жыцьцём.

Зьвернемся да разгляду паняцьця законамернасьці. Сцьвярджэньне, што ўсё законамерна,—нічога іншага не азначае, апрача таго, што ўсе рэчы, якія яны ёсьць, іх уласьцівасьці і праяўленьні,—усё, што ў іх ёсьць як агульнага, так і асаблівага,—зьяўляюцца гэткімі неабходна, што ўсё, што існуе,—існуе ў моц пэўных прычын. Сцьвярджаць, што ўсё законамерна, значыць прызнаваць, што ўсё прычынна абумоўлена, што нішто ня можа адбыцца, калі няма прычын, якія неабходна выклікаюць данае здарэньне, і, наадварот, калі дана прычына, ня можа ня быць абумоўлена ёю дзеяньне. З гэтага пункту погляду немагчыма ніводная асаблівасьць, ніводная рыса, ніякая зьмена, ніякі капырс у якім-небудзь зьявішчы, калі для гэтага няма выстарчаючых прычын і, наадварот, мы адтварылі-б зьявішча, калі-б мы маглі ўтварыць, вызначыць яго прычыны. Напрыклад, пазнаць чалавецкую тэхніку, як законамерны процэс, азначае, што мы можам паказаць усе прычыны, якія абумоўліваюць кожнае псыхічнае праяўленьне, што які-хаця-б псыхічны акт неабходны пры наяўнасьці прычын, якія яго абумоўліваюць.

Само па сабе зразумела, законамернасьць ня ведае выключэньняў. Неабходныя прычынныя залежнасьці няўмольныя і ніколі ня могуць быць парушаны. Калі-б адна і тая самая прычына магла то выклікаць тое ці іншае дзеяньне, то не выклікаць яго,—гэта значыла-б толькі, што мы няправільна, памылкова ўстанавілі прычынную абумоўленасьць, што прычына зусім ня там, дзе здаецца нам. Гэтаму супярэчыць жыцьцёвая мудрасьць: няма правіла без выключэньня. Але гэта даводзіць толькі, што мы звычайна недакладна, недасканала формулюем „правілы“ прыроды. Выключэньні даводзяць звычайна, што „законы“ трэба пераглядзець, абмежаваць, удакладніць. Падругое, кожны закон выражае заўсёды толькі адзін бок процэсу, у сапраўднасьці-ж усе процэсы шматгранныя, „законы“ не зьяўляюцца ў чыстым, ізоляваным ад другіх законаў, відзе, а заўсёды рэальныя процэсы прадстаўляюць шматстайны і складаны пераплёт узаемапрасякальных „законаў“. Вось чаму ў сапраўднасьці мы можам ніколі ня выявіць тых зьявішчаў, якія формулююцца „законам“ (напр., закон цяжэньня па-за залежнасьцю ад масы і вагі), і ўсё-ткі „закон“ можа быць правільны: ён у рэальнасьці дапаўняецца праяўленьнем другога „закону“ (супроцьдзеяньне асяродзьдзя). У гэтай сувязі мы яшчэ раз спатыкаемся з розьніцай паміж пазнаньнем законаў, як абстрактных аднабаковых абагуленьняў, і пазнаньнем законамернасьцяй конкрэтных адзінкавых рэальнасьцяй на аснове гэтых законаў.

На чым грунтуецца наша пераконанасьць ва ўсеагульнай законамернасьці? Яшчэ да таго, як мы пачынаем разважаць, мы ўжо ў сваёй штодзеннай практыцы зьяўляемся пераконанымі прыхільнікамі законa-

мернасьці (дэтэрміністымі). Падобна таму, як гэрой аднэй з комэдый Мольера ня ведаў аб тым, што ён гаворыць прозаю, хоць усё жыцьцё толькі ёю гаварыў, якраз таксама ўсе людзі, да і незалежна ад якой-небудзь філёзофіі, нават і людзі зусім няпісьменныя, заўсёды кіруюцца ў сваёй дзейнасьці гэтым прынцыпам. Селянін ня сеяў-бы збожжа, каб ня быў пераконаны ў законамернай зьмене часоў году, каваль ня дзьмухаў-бы мяшком, каб быў ня пэвен, што адны і тыя-ж прычыны выклікаюць тыя самыя дзеяньні (зразумела, калі ўсе ўмовы роўныя), мы ня мелі-б падставы апальваць печы, ня будучы несьвядомымі прыхільнікамі некаторых законаўператварэньня энэргіі і г. д. З першага дня нараджэньня чалавек на вопыце, на практыцы, пазнае ўласьцівасьці рэчаў у іх законамернасьці. Вопыт, ня толькі асобнага чалавека, але і ўсяго чалавецтва, даводзіць усеагульнасьць закономернасьці. І гэта ня толькі някрытычны забабон. Наадварот, прогрэс навукі—ёсьць прогрэс пазнаньня законамернасьці, шырэньне і ўдакладненьне дэтэрмінізму, пашырэньне яго на ўсё новыя і новыя раней невядомыя зьявішчы.

Паняцьце, супроцьлеглае законамернасьці, ёсьць выпадковасьць, неабумоўленасьць, бяспрычыннасьць. Быць дэтэрміністым, значыць адмаўляць наяўнасьць у прыродзе выпадковасьці. Аднак, звычайнае, някультурнае мысьленьне, наўпрэкі сваёй звычайнай практычнай дзейнасьці, знаходзіць месца і для выпадковасьцяй. Для звычайнага разуменьня, побач з законамерным, у сьвеце ёсьць і нямала выпадковасьцяй. Разгледзім, што прадстаўляюць сабою так званыя выпадковыя зьявішчы, і ці сапраўды законамернасьць не ўсеагульны прынцып усякага быцьця.

Якія нам выпадуць карты—справа выпадку; выпадкова мы спатыкаем знаёмага, выпадкова выйграем у лётарэі ці ў „арлянцы“, выпадкова душаць людзей трамваі і г. д. Так звычайна мы кажам. Але што значаць гэтыя выразы? Ці сапраўды даныя здарэньні незаконамерныя, вольныя ад прычыннай неабходнасьці? Хіба ня срога законамерна і не па ўсіх правілах мэханікі адбываецца вярчэньне монэты, хіба не яе формаю, вагою, адходным становішчам, сілай і кірункам наданага ёй руху абумоўліваецца рэзультат яе падзеньня на той ці той бок? Зразумела, тут усё дакладна, прычынна абумоўлена, і, калі-б мы маглі аднавіць з абсолютнай дакладнасьцю ўсе гэтыя фактары, монэта няўхільна пала-б зноў на той самы бок. Аднак, гэтыя фактары для гульцоў няўлоўныя, не паддаюцца дакладнаму падліку, і з гэтай прычыны мы ня можам прадбачыць рэзультат вярчэньня. Выпадковым мы называем тут не свабоднае ад неабходнасьці зьявішча, а тое, якое мы практычна ня ўмеем прадбачыць. Выпадковым робяць зьявішча нашыя невыстарчальныя веды, няведаньне. Тое самае і ва ўсіх іншых выпадках. Срога дэтэрмінаваны былі ўсе мае ўчынкі, калі я апынуўся на плошчы. Не выпадкова я там апынуўся і таксама не выпадкова апынуўся там і трамвай. Было-б цудам, каб, апынуўшыся ў адзін і той самы момант, як і трамвай, на рэйках, я ня

быў пакалечаны трамваем. Выпадковасьць тут зводзіцца к таму, што я ня ведаў, не прадбачыў (інакш-бы ня йшоў) руху трамвая, а павадыр вагону не прадбачыў мае прысутнасьці. Выпадковасьць і тут ёсьць толькі адзначэньне неўсьвядомленай прычыннай сувязі. Тое, што шмат якіх зьявішч мы не прадбачым загадзя або ня можам прадбачыць, ляжыць у аснове таго, што мы іх называем выпадковымі, але выпадковыя яны толькі для нас, а не ў рэчаіснасьці, саме па сабе; няведаньне неабходнасьці ня ёсьць, зразумела, адсутнасьць неабходнасьці. Калі мы выпадкова забіваем каго-небудзь, то гэта зусім ня значыць, што ён забіты бяспрычынна і што ён *пры тых самых прычынах* мог і ня быць забітым, а толькі тое, што мы не жадалі яго забіць, не прадбачылі гэтае магчымасьці, гэта значыць, што *ня нашая воля* была прычынай яго сьмерці. Тут мы маем справу ня з зьявішчамі, якія адвяргаюць законамернасьць, а з суб'ектыўнымі суджэньнямі, якія выражаюць, што законамернасьць, якая мела месца, ня была пазнана сьвядома. Чым больш мы дальнабачныя, чым больш мы ўважлівыя, чым лепей мы ведаем законы прыроды, тым меней выпадковасьцяй мы выкрываем. Прогрэс навукі расчыняе ў сабе тое, што здавалася выпадковым. Дзе пачынаецца панства выпадковасьці, там пачынаецца панства няведаньня, невуцтва. Выпадковасьць—граніца нашай азнаёмленасьці.

Паняцьце выпадковасьці, аднак, ужываецца ў навуцы яшчэ і ў крыху іншым сэнсе. Гістарычнай выпадковасьцю зьяўляецца тое, што пачынальнік марксызму нарадзіўся ў Трыры, а ня ў іншым горадзе, або што ён меў пышныя валасы. Няма неабходнасьці ў тым, каб якое-небудзь грушавае дрэва скрывілася, а скрыўляецца яно з-за выпадковага суседзтва з плотам. Тут паняцьце выпадковасьці таксама ўжываецца ня ў сэнсе адмаўленьня законамернасьці, прычыннай абумоўленасьці. Мы можам вельмі добра ведаць прычыны, з якіх К. Маркс нарадзіўся ў Трыры, ад гэтага гэтае здарэньне ня зробіцца гістарычнай неабходнасьцю. Пры такім разуменьні тэрмінаў адрозьніваюцца прычыны дваякага роду: неабходныя і выпадковыя. Неабходнымі называюцца прычыны, якія карэняцца ў прыродзе самога зьявішча, якое зьмяняецца, а выпадковымі—пабочныя, знадворныя, другога роду. Тое, што да К. Маркса ня быў афармлен зграбны і дасканалы пролетарскі сьветагляд, не зьяўляецца гістарычнай выпадковасьцю, бо тлумачыцца ўнутрыгістарычнымі прычынамі, бо прычынай гэтага зьяўляюцца здарэньні гістарычнага-ж парадку. Нараджэньне-ж або валасы—здарэньні пабочныя па адносінах да *соцыяльнай* законамернасьці, яны—зьвены ў ланцугу іншай, *біолёгічнай* законамернасьці. Тое самае і ў прыкладзе з грушаю. Тое, што на ёй растуць пэўныя лісты і плады, абумоўліваецца *ўнутраною* неабходнасьцю, карэніцца ў прыродзе расьліны, а скрыўленьне—прычына, абумоўленая фактарам знадворным па адносінах да яе, крыжаваньнем з здарэньнямі іншага роду. Выпадковым тут, такім чынам, называецца *знадворна-*

неабходнае. Плот, што пахіліўся ад грушы, падупадае ўзьдзеяньню „выпадковых“ прычын. Уся справа тут у пункце погляду. З біолёгічнага пункту погляду „выпадковым“ зьяўляецца тое, што Маркс стварыў альгебру пролетарскай рэволюцыі, а не аполёгію прускай монархіі.

У сучасных прыродазнаўчых навуках няма месца адмаўленьню законамернасьці, няма месца выпадковасьці, але гэтага нельга сказаць пра ўсе галіны ведаў. Яшчэ шмат якія вучоныя адмаўляюцца пашыраць гэты прынцып на *усе* навукі. Найбольш голасна гучаць галасы супроць дэтэрмінізму ва ўжываньні да праяўленьняў чалавецкай волі, да волевых актаў і да сфэры грамадзкага жыцьця. У далейшым нам давядзецца разабрацца ў гэтай аргумантацыі і вырашыць, ці сапраўды названым зьявішчам не ўласьціва законамернасьць.

# СЯЛЯНСКАЯ ГАСПАДАРКА І ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ КРАІНЫ*)

**М. Карклін**

## I

Галоўнай нашай задачай у сучасны момант зьяўляецца правільнае разуменьне нашай пролетарскай рэволюцыі—рэволюцыі соцыялістычнай і ролі ў ёй сялянства БССР і сялянства ўсяго Саюзу ў цэлым.

Гэтая задача, якая сёньня стаіць перад намі, патрабуе агульнае ўвагі. Ад правільнага аналізу, правільнага вызначэньня залежыць і правільнае вырашэньне як з політычнага, так і з экономічнага пункту погляду нашых экономічных і гаспадарчых пытаньняў, зьвязаных з ростам народнай гаспадаркі ў цэлым.

Ленін, па пытаньні аб ролі сялянства, а разам з гэтым і ролі сялянскіх гаспадарак, як гаспадарчага фактару, пісаў наступнае:

> „Зьяднацца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць ісьці ўперад нязьмерна, бясконца спаважней, чымся мы спадзяваліся, але затое так, што сапраўды будзе ісьці з намі ўся маса. Тады паскарэньне гэтага руху ў свой час будзе такое, аб якім мы цяпер і марыць ня можам. Гэта, памойму, першая асноўная політычная навука новай экономічнай політыкі“.
>
> (Ленін. Том XVIII, стар. 29-30—1922 г.).

Так Ленін вучыў нас політыцы ў час пераходу да новай экономічнай політыкі. Тут даецца дасканала яснае вызначэньне ролі сялянства. І, ня гледзячы на тое, што рабочая кляса адна магла-б ісьці па шляху да соцыялізму хутчэй, яна не павінна адрывацца ад сялянства; політыка рабочае клясы павінна быць цесна ўвязана з інтарэсамі, жыцьцём і бытам шматмільённага сялянства. Спачатку гэтая задача будзе цяжкая, для некаторых нават утамляльная, але пасьля таго, як рух атрымае пэўны соцыялістычны кірунак, ён дасьць тыя нечаканыя вынікі, аб якіх цяпер трудна гаварыць. З адзначанай вышэй цытаты Леніна, якая была сказана ў 1922 годзе пры правядзеньні НЭП'у, мы ўпэўнена можам сказаць, што сялянства не зьяўляецца асобнай, адарванай адзінкай, не зьяўляецца нейкай групай, з якою ня трэба лічыцца, якую пролетарская рэволюцыя выкарыстоўвае „пастолькі—пакольку“. Не. Сялянства зьяўляецца аднэй з асноўных частак нашай экономікі—нашай народнай гаспадаркі.

---

*) Кароткі зьмест лекцыі, прачытанай у клюбе Асьветы 18/XI—26 г. членам саюзу Асьветы.

Але мы ведаем, што па гэтаму пытаньню—па пытаньню аб ролі сялянства ў нашай пролетарскай рэволюцыі—існуе і іншая ацэнка (троцкізм), якую можна характарызаваць, як выцякаючую з пераацэнкі рэакцыйнасьці сялянства, з пераацэнкі ступені дарэволюцыйнага капіталістычнага разьвіцьця ў вёсцы, што ў сваю чаргу грунтуецца на недаацэнцы бьўшага прыгону ў вёсцы, які выклікаў рэволюцыянізаваньне сялянства,—вядомыя нам супроцьпамешчыцкія бунты, паўстаньні, падпалы, даходзячы да супроцьурадовых выступленьняў (як у нас на Беларусі паўстаньні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага і інш.).

Як мы бачым, гэтая недаацэнка грунтуецца на гістарычнай падставе і няправільным аналізе. Ня гледзячы на тое, што троцкізм па гэтых пытаньнях ужо ня раз быў разьбіты Леніным, ён усё-ж і цяпер меў свой адбітак у тэй групе опозыцыянэраў унутры комуністычнай партыі, якая нядаўна з трыбуны XV партконфэрэнцыі ЎсеКП(б) дэкляравала памылковасьць сваіх выступленьняў. Вось як пісаў Ленін у 1915 г. аб памылках Троцкага:

„Гэтую задачу няправільна вырашае ў „Нашем Слове“ Троцкі, паўтараючы сваю „арыгінальную“ тэорыю 1905 г. і не жадаючы падумаць аб тым, у сілу якіх прычын жыцьцё ішло цэлых дзесяць год міма гэтай прыгожай тэорыі. Арыгінальная тэорыя Троцкага бярэ ў бальшавікоў заклік да рашучай рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту і да заваяваньня ім палітычнай улады, а ў меншавікоў—„няпрызнаньне“ ролі сялянства. Сялянства, моў, распластавалася, дыфэрэнцавалася; яго магчымая рэволюцыйная роля ўсё памяншалася, у Расіі немагчыма „нацыянальная“ рэволюцыя: „Мы жывем у эпоху імпэрыялізму, а імпэрыялізм ставіць наўпроці не буржуазную нацыю старому рэжыму, а пролетарыят буржуазнай нацыі“.

Вось пацешны прыклад „гульні словам: імпэрыялізм“.

(Ленін, т. XIII, стар. 213—1925 г.).

Мы бачым, што ў троцкізьме, у гэтым галоўнейшым пытаньні, ёсьць вызначаныя хісткасьці і адмоўі. Гэтая тэорыя даводзіць, што рэволюцыйныя магчымасьці сялянства быццам зьніклі ўжо ў 1905 г., што іх забівае рост сельскага капіталізму—рост новай буржуазіі ў асобе селяніна-кулака.

Гэтая рэволюцыйная недаацэнка сялянства, пераацэнка рэакцыйнасьці, натуральна, і цяпер павінна была адбівацца ў іх (опозыцыі) практычнай экономічнай рабоце.

Троцкізм, хаваючыся за словам „імпэрыялізм“, даводзіў, што паміж пролетарыятам і сялянствам уклініўся „імпэрыялізм“, які сялянству не дае і ня дасьць магчымасьці выпаўніць тую ролю, якую надаваў яму Ленін. Троцкізм забываў, што сялянства, стагнаўшае пад ярмом дробнай гаспадаркі ва ўмовах панскага і капіталістычнага ўціску, рэволюцыяніза-

валася. Мы бачылі, што, дзякуючы гэтай недаацэнцы, опозыцыя сваім выступленьнем на практыцы выявіла *недаацэнку* ролі соцыялістычных элемэнтаў вёскі; *пераацэнку* ролі капіталістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы; *пераацэнку* ролі кулакоў і поўкулакоў у вёсцы; *пераацэнку* разьмераў дыспропорцыі паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай на карысьць апошняй. Адсюль зьяўляецца страх перад вясковай капіталістычнай стыхіяй; адсюль і тэорыя перараджэньня дзяржаўнага ладу, г. зн. савецкай улады; адсюль і магчымае перараджэньне комуністычнай партыі ва ўмовах затрыманьня сусьветнай рэволюцыі; адсюль і жудаснае патрабаваньне правядзеньня, як адзінага выхаду з палажэньня, зьверх-індустрыялізацыі краіны.

Вось чаму, як мы бачылі, вышла так, што некаторыя лічылі яшчэ ў 1924 і 1925 г., а мо' і цяпер, што НЭП—гэта адступленьне, а не наступленьне пролетарыяту. У 1922 г. Ленін пісаў, што „мы зараз адыходзім назад, але мы гэта робім для таго, каб спачатку адыходзіць, потым разагнацца і мацней скочыць уперад“ (Ленін).

Тав. Зіновьев у часе дыскусіі з троцкізмам адказваў на пытаньні—чаму адступаем—так: „Мы адказваем: таму, што прамысловая база ў краіне невыстарчальна моцная,—таму, што аграмадная большасьць насельніцтва нашай краіны складаецца з сялянства“ (Зіновьев).

Кожны памятае, што якраз у гэты час уся савецкая грамадзкасьць констатавала, што мы маем бурны рост нашай прамысловасьці, і што гэты рост абумоўліваецца ростам соцыялістычнае базы і гэта зьяўляецца ўжо не адступленьнем пролетарыяту, а наступленьнем пролетарскай рэволюцыі і разьвіцьцём соцыялістычнай рэволюцыі.

У той-жа час партыяй быў кінуты лёзунг: „тварам да вёскі“. Нам прадказвалі, асабліва замежная буржуазная прэса, што, моў, бальшавікі, ажыцьцяўляючы гэты лёзунг, забудуць прамысловасьць, г. зн. пролетарыят.

Партыя не забыла аб пролетарыяце, не закінула прамысловасьць, а якраз наадварот,—шляхам уздыму сельскай гаспадаркі пашырыла прамысловасьць на аснове разьвіцьця і ўздыму сельскае гаспадаркі. Партыя ўлічвала ўвесь тэмп бурнага росту нашай прамысловасьці, якая ішла па шляху разьвіцьця дзяржаўных прадпрыемстваў, прадпрыемстваў паступова-соцыялістычнага тыпу. Конкрэтна, ішло замацаваньне нашых прамысловых кіраўнічых вышынь, што давала магчымасьць выраблять, галоўным чынам, прылады вытворчасьці.

Але былі выпадкі, якія бачылі і мы, што тыя таварышы, якія калісьці правільна казалі, што нашы разьвіваючыяся прадпрыемствы зьяўляюцца прадпрыемствамі поступова-соцыялістычнага тыпу, цяпер, апынуўшыся ў шэрагах опозыцыі, павярнуцца-то павярнуліся „тварам да вёскі“, але забылі прамысловае разьвіцьцё, бачачы толькі рост капіталістычных элемэнтаў у вёсцы,—вось адсюль і пашлі размовы: „аб

кулацкай небясьпецы, аб росьце дыспропорцыі на карысьць кулака, аб тэмпе росту кулацкай верхавінкі вёскі і г. д.". Яны ня здолелі правільна ацаніць соцыялістычнага характару нашай прамысловасьці, яны ўбачылі толькі рост кулацтва, забыўшы, што ў працягу аднаго году процэс консолідацыі пролетарыяту даў прамысловасьці, што разьвіваецца, больш 450 тысяч рабочых. Яны ня ўбачылі разьвіваючыхся процэсаў і ў самай вёсцы, як коопэраваньне сялянства і г. д. Яны не ацанілі, што з ростам пролетарыяту расла і мацнела комуністычная партыя. Адсюль і паўстала пытаньне сумненьня „аб пабудове соцыялізму ў аднэй краіне", адсюль словы: „будаваць-то будуем соцыялізм, але ці сапраўды пабудуем бяз сусьветнай рэволюцыі ці хоць, у крайнім выпадку, рэволюцыі ў некалькіх перадавых прамысловых краінах?". Адсюль, зразумела, і шкадлівы смутак і адсутнасьць пэрспэктыў ва ўсім.

Партыя на гэтыя пытаньні, у асобе XV партконфэрэнцыі, дала наступнае абагульненьне, зробленае тав. Сталіным: „Партыя выходзіла заўсёды з таго, што перамога соцыялізму ў аднэй краіне стварае магчымасьць пабудовы соцыялізму ў гэтай краіне. Прычым гэтая задача—можа быць вырашана сіламі аднэй краіны, поўная перамога ёсьць гарантыя ад інтэрвэнцыі і рэстаўрацыі, прычым гэтая задача можа быць вырашана толькі пры ўмове перамогі рэволюцыі ў некалькіх краінах. (Тав. Сталін, стэнограф. справаздача XV партконфэрэнцыі).

Гэтае азначэньне зьніштажае заблытанасьць у словах: „канчатковая" і „поўная",—яно гаворыць, што мы заўсёды павінны быць гатовы адбіць спробы буржуазнай інтэрвэнцыі і рэстаўрацыі, аб гэтым ніхто не павінен забывацца.

Што датычыцца таго, ці маем мы магчымасьць пабудаваць соцыялізм у нашай краіне, ці маем мы ўсё, што патрабуецца для гэтага, мы можам адказаць: маем. Аб гэтым гаварылася ўжо некалькі разоў.

Нашы прыродныя багацьці даюць нам усё, што нам патрэбна (руду, вугаль, апал, лес, мінэралы), нашы географічныя ўмовы таксама спрыяючыя (вялікая тэрыторыя, водныя шляхі). Мясцовы сырэц, як сельскагаспадарчы, так і мінэральны, маецца (жалеза, сталь, чыгун, золата, медзь, волава, скура, збожжа, фураж, бавоўна). Рабочых рук будзе даволі, бо вёскі будуць даваць у горад усё новыя і новыя рабочыя рукі. Сельская гаспадарка будзе ўсё пашырацца. Застаецца толькі адно—гэта недахват пакуль што моцнай буйнай прамысловасьці, якая разьвіваецца пры дапамозе лепшай тэхнікі. Тут мы шмат чым зьвязаны з ужо разьвітай капіталістычнай прамысловасьцю за рубяжом. Вось дзеля чаго першапачатковая будова нашай прамысловасьці павінна пайсьці па лініі разьвіцьця тых галін, якія прызначаны ня толькі для павялічэньня продуктаў спажываньня, але, галоўным чынам, і тых галін, якія павінны выпускаць для ўласнай прамысловасьці машыны (прылады вытворчасьці), і гэтым вызваліць нас ад канечнай патрэбнасьці сувязі з варожымі нам

дзяржавамі. Такім чынам, мы будзем разьвіваць прамысловасьць, павялічваючы гэтым попыт на сел.-гасп. сырэц, і, у сваю чаргу, разьвіваючы сельскую гаспадарку, павялічым попыт на прамысловыя тавары. Вось, у асноўным, у чым заключаецца задача зьдзейсьненьня індустрыялізацыі краіны і якую экономічную ролю ў ёй павінна іграць сельская гаспадарка.

## II

Цяпер паўстае пытаньне, якія мы маем прадпасылкі для ажыцьцяўленьня індустрыялізацыі краіны, г. зн., ці маюцца ў нас выстарчальныя ўмовы ў справе соцыялістычнай будовы, і наколькі мы ўцягваем у гэтую будову сельскую гаспадарку.

На гэта трэба даць адказ такі: шмат нашых прадпрыемстваў, прамысловага і сельска-гаспадарчага характару, дадуць магчымасьць адчуваць іх толькі праз шэраг гадоў. Гэта адносіцца як да організацыі тэрыторыі гаспадаркі, так і да гаспадарчага насельніцтва.

Прычым, індустрыялізацыя краіны мысьліцца як мерапрыемства, зьвязанае з народнай гаспадаркай, а таксама і з сельскай гаспадаркай. Індустрыялізацыя краіны апіраецца на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі і ў сваім разьвіцьці стварае ўмовы для накіраваньня сельскай гаспадаркі па соцыялістычнаму шляху. Мы маглі-б пасоўваць індустрыялізацыю хутчэй, але гэта падарвала-б іншыя галіны працы, ня толькі сельскай гаспадаркі, але і культурную работу, вайсковую справу і г. д. Усё гэта патрабуе правільнага падыходу да справы ў намячэньні і ажыцьцяўленьні намечаных плянаў па прамысловаму будаўніцтву. Пры гэтым трэба памятаць, што сельская гаспадарка зьяўляецца для прамысловасьці асноўнай базай сырцу і крыніцай спажыцьця для гарадзкога і індустрыяльнага насельніцтва.

Пакупная здольнасьць насельніцтва, асабліва сялянскага, стварае ўмовы для павялічэньня попыту на прамысловыя тавары і стварае гэтым магчымасьць далейшага пашырэньня прамысловасьці. Іншымі словамі, нашы пляны павінны прадбачыць, што пакупная здольнасьць сялянства будзе залежаць ад росту с.-г. вытворчасьці і, у сваю чаргу, зьявіцца ўмовай для шырокага збыту прамтавараў нашай індустрыі.

У нашых беларускіх умовах індустрыялізацыя прамысловасьці мысьліцца не як організацыя вялізарных мэталюргічных прадпрыемстваў і мартэнаўскіх печаў,—нам прыходзіцца пакуль што ставіць задачу пашырэньня, галоўным чынам, такіх галін прамысловасьці, якія прызначаны для апрацоўкі сельска-гаспадарчага і ляснога сырцу. Такім чынам, гэта створыць і попыт на с.-г. сырэц і падніме цэны на яго.

Сюды ўваходзіць і мясцовая прамысловасьць, так званая акружная і раённая, і саматужна-рамесьніцкая, якая сваім разьвіцьцём ставіць, галоўным чынам, задачу папоўніць рынак прамтаварамі, на якія мы ўжо адчуваем недахват. Яе разьвіцьцё павіннаісьці не на шкоду, а на ка-

рысьць буйной цэнзавай прамысловасьці БССР. Прычым, мы ўжо бачылі, што хутка разьвіваная буйная прамысловасьць патрабуе штогод новых кадраў кваліфікаваных рабочых. Мясцовая і саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць у гэтай справе здолее дапамагчы буйной прамысловасьці. І ў будучым мы не апынімся перад тым, што мы мелі год таму назад, што прынятыя тэрміновым парадкам рабочыя ня мелі належнай кваліфікацыі і падрыхтоўкі, а гэта выклікала зьніжэньне продукцыйнасьці працы, бо некваліфікаваны рабочы ня можа даць тэй продукцыі, якая чакалася па плянах, а індустрыялізацыя краіны павінна даць якраз высокую продукцыю, добрай якасьці.

Такім чынам, мы можам формуляваць пытаньне так: пры разьвіцьці нашай прамысловасьці—яна павінна адпавядаць наступным умовам:

Пашыраючы прамысловасьць, трэба мець на ўвазе тое, што нам канечна патрэбна разьвіваць тыя галіны, якія здолеюць зусім задаволіць сялянства прыладамі с.-г. вытворчасьці і прадметамі асабовага ўжываньня ўсяго насельніцтва, пры адначасным зьніжэньні цэн на прамтавары, павышаючы іх якасьць з такім меркаваньнем, каб гэтым прывесьці нашы с.-г. прамысловыя індэксы цэн да нормальнага стану. Пытаньне цэн і рэгуляваньне індэксаў аканчальна ня можа быць ажыцьцёўлена толькі БССР: вырашэньне яго ў шмат якіх выпадках залежыць ад саюзных рэсурсаў. Але, як-бы там ні было, мы можам прывесьці наступны малюнак.

Цэны па БССР (прамысл. індэкс—коопэратыўны):

Калі на 1 кастрычніка 1924 г. ён быў 2,172, дык на 1 кастрычніка 1925 г. зьнізіўся да 2,010, а на 1 кастрычніка 1926 г. мы маем 2,064, г. зн. некаторы рост, але ён не дасягае 1 кастрычніка 1924 г.

Сельска-гаспадарчы індэкс за гэты час меў наступны рост з такім паляпшэньнем тэмпу:

На 19 кастрычніка 1924 г.—1,485, на 1 кастрычніка 1925 г.—1,655, на 1 кастрычніка 1926 ч.—1,807.

Рыначныя індэксы даюць такую дынаміку: па прамысловасьці 1 кастрычніка 1924 г.—2,405, на 1 кастр. 1925 г.—2,157, на 1 кастр. 1926 г.—2,380. Па сельскай гаспадарцы на 1 кастр. 1924 г.—1,492, на 1 кастр. 1925 г.—1,666 і на 1 кастр. 1926 г.—1,496. Гэта паказвае, што палітыка цэн дала магчымасьць падняць цэны на продукты сельскай гаспадаркі і зблізіць „ножніцы“ цэн на прамтавары і с.-г. продукты.

Нашы прамысловыя дасягненьні па Беларусі можна характарызаваць у наступных лічбах:

Рост валавое продукцыі прамысловасьці ВСНГ выражаецца:

У 24-25 г. яна кашт. ў дав. р.—16 мл. 525 т. р. рост—47 проц.
„ 25-26 г. „ „ „ „ „ —23 „ 539 „ „ „ —42 „

Уся валавая продукцыя цэнзавай прамысловасьці вырасла:

У 24-25 г. на 32 проц., у 25-26 г.—на 55 проц.

Па прамысловасьці ВСНГ лік рабочых рос гэтак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1924 г. раб. | — 8.700 чал. | | |
| „ 1925 „ „ | —10.002 „ | ці на 15 проц. больш. | |
| „ 1926 „ „ | —14.449 „ | „ „ 44 „ „ | |

Выраб 1 рабочага ў дзень у залатых руб. (па ВСНГ):

| | | |
|---|---|---|
| У 1924 г. раўняўся | 4 руб. | 80 к. |
| „ 1925 „ „ | 5 „ | 85 „ |
| „ 1926 „ „ | 5 „ | 96 „ |

| | Зарплата ў дзень | У месяц (ВСНГ): |
|---|---|---|
| У 1925 г. | 1 руб. 67 к. | 43 руб. 50 к. |
| „ 1926 „ | 1 „ 99 „ | 49 „ 15 „ |

Пры агульным росьце прыбытковасьці (ВСНГ):

| | | |
|---|---|---|
| 1924 г. даў | — 34.000 | убытку |
| 1925 „ „ | „ 3.536.000 | прыбытку |
| 1926 „ „ | „ 7.356.000 | „ |

Гэта дасягнута толькі таму, што дзяржава здолела сваячасна ўкласьці патрэбныя сродкі на нормальнае будаўніцтва (ВСНГ):

| | 24-25 г. | 25-26 г. |
|---|---|---|
| На капітальны рэмонт . . . | 663 тыс. руб. | 1.370 тыс. рублёў. |
| На пашырэньне і рэконстр. . | 1.409 „ „ | 2.284 „ „ |
| Новае будаваньне . . . | — | 738 „ „ |

Па гэтых вышэй паказаных даных можна зрабіць такі вывад, што 1) прамысловасьць ВСНГ пашыраецца, пры гэтым яна кончыла свой аднавіцельны процэс і пераходзіць у пэрыод новага будаўніцтва, 2) што рост разьвіцьця прамысловасьці досыць моцны і замест дэфіцыту дае ўжо прыбытак пры адначасным павялічэньні ліку рабочых і паляпшэньні матэрыяльнага становішча поруч з падняцьцем продукцыйнасьці працы, 3) зьніжэньне цэн на прамтавары, пры большым запатрабаваньні рынку, што стварае пэрспэктывы большага таваразвароту краіны.

## III

Адна з самых важных задач цяперашняга часу—гэта правільна ацаніць ёмкасьць рынку, рэгуляваньне рыначнай стыхіі і правядзеньне політыкі цэн, ведаючы аб тым, што нам трэба павялічыць ёмкасьць рынку для збыту прамтавараў, а гэта магчыма толькі тады, калі мы павялічым ёмкасьць рынку для сельска-гаспадарчых тавараў.

Мы бачылі ў прошлым годзе (гэта адбіваецца яшчэ і цяпер), што, дзякуючы вялікаму расхаджэньню цэн на прамысловыя тавары і с.-г. продукты, селяніну прыходзілася прадаваць хлеб-сырэц ніжэй сабекошту. Гэтая зьява выклікала скарачэньне засеву сланэчніка па ўсім Саюзе на 18 проц. Рост бавоўны чакаўся на 30 проц.,—меўся ад

4-5 проц.; па тэхнічных культурах спадзяваліся мець рост засеваў на 4-5 проц., а аказалася зьніжэньне на 2-3 проц., пры агульным росьце плошчаў пшаніцы. Гэта тлумачыцца, галоўным чынам, попытам на пшаніцу.

Па БССР

| | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Рост тэхнічных культур . | 3,1 | 3,4 | 4,6 | 4,6 |
| „ пасяўных траў . . . | 2,8 | 4,1 | 5,0 | 5,4 |
| „ бульбы . . . . . | 11,4 | 10,3 | 11,3 | 11,7 |

З гэтага мы бачым, што задзержка ў росьце тэхнічных культур ёсьць і ў нас, іначай кажучы, дзякуючы ня зусім правільнай політыцы цэн, ня былі створаны ўмовы для зацікаўленьня сялянскай гаспадаркі ў пашырэньні засеву тэхнічных культур, і гэтым, зразумела, зьменшылася колькасьць сырцу. Гэтая памылка цяпер папраўляецца.

Калі спыніцца на ёмкасьці рынку, на прамтавары, дык тут мы бачым тое, што мы называлі „таварным голадам“ на прамысловыя тавары.

Ня гледзячы на тое, што па нашай рэспубліцы ўвоз тэкстылю павялічан у 1925-26 г. на 40 проц., скуры на 68 проц., а мэталю на 41,5— запаўненьне патрэб рынку ці задавальненьне насельніцтва гэтымі таварамі калышацца паміж 60-65 проц., калі ў 1924-25 г. гэтае задавальненьне раўнялася каля 70-75 проц. (па папярэдніх даных Наркамгандлю).

У гэтым годзе мы бачым у саюзным маштабе павялічэньне паступленьня збожжа (па БССР—памяншэньне, дзякуючы недароду), маюцца палепшаныя формы загатоўкі, сходныя цэны і г. д. Гэта дае права сказаць, што, падлічыўшы леташнія памылкі ў збожжазагатоўчай кампаніі, нам усё-ткі ўдалося знайсьці ў гэтай справе агульны язык і згаворнасьць з сялянскай гаспадаркай пры ўстанаўленьні цэн на с.-г. продукты і прамтавары. Праўда, гэтая стабільнасьць ёсьць ужо крок уперад, але ён яшчэ невыстарчальны.

Мы маем покуль што слабы пераход сел. гаспадаркі ад экстэнсыўных форм да інтэнсыўных. Нашая прамысловасьць ня зможа з посьпехам разьвівацца, калі сел.-гаспадарка будзе весьціся пастарому—падзедаўску, асабліва гэта датычыць нас—„заходнікаў“, дзе, дзякуючы малазямельлю, зьявілася аграрная перанаселёнасьць, а глеба неасабліва ўраджайная і г. д. Калі на ўсходзе нашага Саюзу магчыма высока падняць ураджай пакуль што нават яшчэ пры экстэнсыўных формах вядзеньня гаспадаркі, то ўсё-ж ткі мы павінны форсаваць інтэнсыўныя формы. На гэтым павінна грунтавацца і політыка цэн на с.-г. продукты і агропропаганда,— згодна запатрабаваньням нашай разьвіваючайся прамысловасьці.

Вывад з гэтай часткі такі: 1) ёмкасьць рынку для прамтавараў не зьмяншаецца, а павялічваецца, 2) памылкі—па загатоўцы збожжа і сырцу—прыняты пад увагу і мы маем ужо некаторыя посьпехі (асабліва па збожжы), 3) інтэнсыфікацыя с. гаспадаркі зьяўляецца аднэй з умоў пасьпяховага

развіцьця індустрыялізацыі краіны, 4) пытаньні рынку (цэны на прам-тавары і г. д.) патрабуюць найбольшай увагі.

IV

У сувязі з пытаньнямі прамысловага развіцьця і ёмкасьці рынку — паўстае задача правядзеньня фінансавай, крэдытнай і падатковай палітыкі ў тым кірунку, каб яна дала найбольшыя вынікі ў галіне соцыяльнай палітыкі ў вёсцы і колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Фактычнае становішча нашай сельскай гаспадаркі ў лічбах дае наступны малюнак:

Рост засеўнай плошчы:

| | |
|---|---|
| У 1916 г. | 2.211,5 тыс. дзес. |
| „ 1923 „ | 2.315,7 „ „ |
| „ 1924 „ | 2.349,8 „ „ |
| „ 1925 „ | 2.555,1 „ „ |
| „ 1926 „ | 2.653,2 „ „ |

Валавая продукцыя с.-г. ў мільён. даваен. руб.:

| | |
|---|---|
| 1924 г. | 295,1 міл. руб. |
| 1925 „ | 331,9 „ „ |
| 1926 „ | 336,2 „ „ |

Рост коняй і буйнай рагатай жывёлы ў %%:

| | | |
|---|---|---|
| 1924 г. | 102,7 % | — 106 % |
| 1925 „ | 112,9 „ | — 118,2 „ |
| 1926 „ | 102,8 „ | — 106,6 „ |

Рост таварнай часткі сельскай гаспадаркі:

| | |
|---|---|
| 1924 г. | 33,3 міл. даваен. руб. |
| 1925 „ | 42,9 „ „ „ |
| 1926 „ | 43,4 „ „ „ |

Гэты процэс росту сельскай гаспадаркі дасягнуты рознымі шляхамі: правільнай падатковай політыкай, умелай крэдытнай дапамогай і тымі ўмовамі збыту с.-г. продуктаў на рынку, аб якіх ужо гаварылася.

Цяжар падатку штогод зьмяншаецца, ня гледзячы на рост сельскай гаспадаркі. С.-г. падатак у гэтым годзе ня большы леташняга, пры гэтым ён усім сваім цяжарам кладзецца на плечы заможных груп. Бядняцкая група, да 20—25 проц. гаспадарак, у гэтым годзе звольнена ад усякіх падаткаў.

Рост звароту Сельгасбанку дасягае ў 1925-26 г. каля 130 мільёнаў р., калі ў 1924-25 г. было толькі 30 мільёнаў руб., з якіх мы бачым па лініі доўгатэрміновых і кароткатэрміновых крэдытаў:

| | Доўгатэрміновых | Кароткатэрміновых |
|---|---|---|
| У 1924-25 г. | 1.397 тыс. руб. | 5.887 тыс. руб. |
| „ 1925-26 „ | 4.691 „ „ | 5.224 „ „ |

Калі разьбіць на соц. групы, дык крэдыты разьмяркоўваліся так:

| | Па засеву 1924—25 г. | Па засеву 1925—26 г. | | Па жывёле 1924—25 г. | Па жывёле 1925—26 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Беспасеўн. . . | 4,4 | 4,3 | Бязжывёльн. | 33 | 32,4 |
| Ад 1—4 дзес. . | 42,8 | 47,8 | з 1 гал. | 52,8 | 51,9 |
| „ 4—8 „ . . | 38,3 | 38,3 | „ 2 „ | 10 | 13,1 |
| Звыш 8 дзес. . | 9,6 | 9,6 | „ 3 і больш | 2,2 | 2,6 |

З гэтага мы бачым, што правільнае правядзеньне падатковай палітыкі і палітыкі крэдытаваньня дапамагло падняцца беднаце і серадняцкім гаспадаркам.

Але як-бы ні была вялікая дапамога пры падатку і крэдыце, яна ня дасьць канчатковага вырашэньня пытаньня, асабліва так, як гэтага патрабуе задача індустрыялізацыі краіны.

Стыхія дробнага вытворцы зьяўляецца перашкодай для разьвіцьця прамысловасьці. Гэта можна зьнішчыць тады, калі коопэраваньне і колектывізацыя сельскай гаспадаркі пойдуць больш шпаркім тэмпам, а таксама шляхам увязкі сельскай гаспадаркі з агульнадзяржаўнымі гаспадарчымі плянамі.

Рост с.-г. коопэрацыі дае наступны малюнак:

| | | |
|---|---|---|
| На 1-X 1924 г. было . . . | 48.074 | членаў. |
| „ 1-X 1925 „ . . . . | 122.230 | „ |
| „ 1-X 1926 „ . . . . | 167.996 | „ |

Рост коопэраваньня, як мы бачым, вялікі, але покуль што невыстарчальны ў параўнаньні з агульнай колькасьцю звыш 660 тыс. сялянскіх двароў на тэрыторыі БССР, з колькасьцю земляробскага насельніцтва каля 3.680 тыс. чалавек, у якой сялянства займае каля 99,2 проц.

Адначасна з гэтым мы маем рост таварыстваў і колектываў, якія яднаюць каля сябе сялянскія гаспадаркі і гэтым набліжаюць іх да індустрыялізацыі. Што датычыцца саўхозаў, то яны ў апошні час маюць рост, зьяўляючыся культурным штурхачом сялянства ў бок лепшай апрацоўкі зямлі, індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі і г. д.

У заключэньне па гэтай частцы трэба сказаць, што сельская гаспадарка не зьяўляецца самастойнай, адарванай часткай у нашай экономіцы і што індустрыяльнае разьвіцьцё краіны і паасобных галін прамысловасьці, датычных да сельскай гаспадаркі, аказваюць організацыйны ўплыў на сельскую гаспадарку, накіроўваючы яе ў бок інтэнсыфікацыі.

З усяго вышэй сказанага павінны быць такія вывады: 1) правільнае правядзеньне фінансавай і падатковай палітыкі захоўвае свой уплыў на сельскую гаспадарку, штурхаючы яе ў бок паляпшэньня, 2) крэдытная політыка адбілася на ёй аздараўляючым парадкам, 3) з ростам с.-г. коопэрацыі, колектываў і г. д. ствараюцца соцыялістычныя зачаткі, якія ў сел. гаспадарцы ўсё замацоўваюцца, 4) разьвіцьцё прамысловасьці не паслабіла яе, а штырх-

нула на лепшыя формы апрацоўкі зямлі, да больш інтэнсыўных форм гаспадараньня і да перагрупоўкі культур у бок пашырэньня тэхнічных.

V

У асноўным, ажыцьцявіць задачу індустрыялізацыі краіны—гэта значыць павялічыць ролю прамысловасьці ў народнай гаспадарцы і гэтым замацаваць пашырэньне ў ёй соцыялістычных элемэнтаў. У асаблівасьці пры вырашэньні задачы па пашырэньню нашай прамысловасьці ў БССР прыходзіцца цесна ўвязваць сваю працу з усім Саюзам. Мы ня можам будаваць пляны толькі на нашы мясцовыя фінансы—іх не хапае. Мы ня можам будаваць вялікія прамысловыя комбінаты, разьлічваючы толькі на мясцовы сырэц,—нам пры гэтым трэба лічыцца з усёй проблемай сырцу ў Саюзе. Мы таксама павінны падлічваць ня толькі беларускі рынак збыту, але павінны падлічваць і рынак збыту РСФСР, УССР і інш. саюзных рэспублік. Адным словам, калі ў саюзным маштабе мы ставім задачу будаваць соцыялізм у ваднэй краіне, дык гэтага нельга прыстасоўваць толькі для БССР. Мы разумеем нашу рэспубліку не як адарваную ад усяго Саюзу частку. Мы, у соцыялістычным будаўніцтве, у разьвіцьці і ажыцьцяўленьні індустрыяльных задач, займаем пэўную частку работы, цесна зьвязаную з работай усяго Саюзу, прымаючы ўдзел ў ажыцьцяўленьні цэлага і вялікага гаспадарчага пляну. Рэзолюцыя XV конфэрэнцыі кажа: „Пастаўленая перад дыктатурай пролетарыяту вялізарнейшая задача—будаваньня соцыялістычнае грамады, якое патрабуе згрупаваньня ўсіх сіл партыі, дзяржавы і рабочае клясы па пытаньнях гаспадарчай політыкі“ (з уступу рэзолюцыі па гаспад. становішчу XV конф.),—гэтыя словы, сказаныя і прынятыя на XV конфэрэнцыі па дакладу тав. Рыкава, *патрабуюць* ад нас згрупаваньня ўсіх сіл для ажыцьцяўленьня задач соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтай рэзолюцыі гаворыцца, што „асноўнай прадпасылкай посьпеху соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца ўмацаваньне гаспадарчай гегемоніі буйнай соцыялістычнай прамысловасьці над усёй экономікай краіны і ў першую чаргу яе кіруючая і соцыялістычна-ператвараючая роля ў адносінах да сялянскай гаспадаркі, рост ліку і актыўнасьці пролетарыяту і ўмацаваньне саюзу рабочае клясы з асноўнай масай сялянства“ (з уступу рэзолюцыі па гаспадарчаму будаўніцтву XV парт. конфэрэнцыі).

Такім чынам, мы тут зноў бачым паўтарэньне і пацьвярджэньне праведзенага яшчэ ў пачатку палажэньня аб ролі і значэньні сялянскай гаспадаркі ў ажыцьцяўленьні задачы соцыялістычнага будаўніцтва. Уся работа павінна праводзіцца так, каб і рост колькасьці і актыўнасьці пролетарыяту „ішоў з адначасным умацаваньнем саюзу рабочае клясы з асноўнай масай сялянства“.

Як-жа цяпер прыстасоўваюцца гэтыя асноўныя дырэктывы да нашых беларускіх умоў і якія пэрспэктывы маюцца ў далейшым?

Паказальнікам росту соцыялістычных элемэнтаў у нашай народнай гаспадарцы зьяўляецца павялічэньне долі абвобчасьцьвленай часткі нашай буйнай (цэнзавай) [1]) прамысловасьці.

Калі прасачыць дынаміку росту, дык убачым наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| У 1923-24 г. | абвобчасьцьвленая частка складала | 92 % [2]) |
| „ 1924-25 „ | „ „ „ | 94 „ |
| „ 1925-26 „ | „ „ „ | 93,8 „ |
| „ 1926-27 „ | „ „ „ больш | 94 „ (па проекту) |

Ня гледзячы на тое, што агульны стан сельскай гаспадаркі не пагоршыўся, а, наадварот, палепшыўся, доля яго ў балянсе народнае гаспадаркі зьменшылася, дзякуючы больш моцнаму росту іншых галін.

Аб зьмене долі сельскай гаспадаркі ў народным балянсе гавораць наступныя даныя:

| | | |
|---|---|---|
| У 1924 г. | сельская гаспадарка складала | 82,5 % |
| „ 1925 „ | „ „ „ | 84,7 „ |
| „ 1926 „ | „ „ „ | 77,7 „ |
| „ 1927 „ | „ „ павін. скл. каля | 76,4 „ |

Доля прамысловасьці ў народна-гаспадарчым балянсе павялічылася такім чынам:

| | |
|---|---|
| У 1924 г. . . . . | 17,5 % |
| „ 1925 „ . . . . | 18,3 „ |
| „ 1926 „ . . . . | 22,3 „ |
| „ 1927 „ (па проекту) . . | 23,6 „ |

Пасярэдніцкую ролю—роль мосту—для абмену прамтавараў на сел.-гасп. продукты і сыравіну займае дзяржаўны, коопэратыўны і прыватны гандаль. Гэты фронт, асабліва пры таварным голадзе, больш усяго можа падлягаць нападу прыватна-капіталістычных элемэнтаў.

Але мы бачым, што, дзякуючы правільнай політыцы, якая заключаецца ў сваячасовым узмацненьні дзяржаўнага і коопэратыўнага гандлю, падтрыманьні іх неабходнымі зваротнымі і асноўнымі сродкамі,—мы можам констатаваць, што ў гандлёвай справе, соцыялістычны сэктар (дзяржаўны і коопэратыўны гандаль) не паменшыўся, не аслаб, а ўзмоцніўся.

| | | |
|---|---|---|
| У 1924 г. | дзярж. і коопэр. гандаль займаў | 46,2 % |
| „ 1925 „ | „ „ „ „ | 61,8 „ |
| „ 1926 „ | „ „ „ „ | 68,6 „ |
| „ 1927 „ | „ „ „ зойме | 68,6 „ |

[1]) Цэнзавай прамысловасьцю лічацца ўсе прамысл. прадпрыемствы з лікам рабочых: а) ня менш 16 чал. з рухавіком і б) ня менш 30 чал. без рухавіка.

[2]) Даныя ўзяты з контрольных цыфраў Дзяржпляну БССР.

Прыватны сэктар, як мы бачым, слабее, аб чым сьведчаць наступныя процантныя даныя:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У 1924 г. | прыватны | гандаль | займаў | 53,8 % |
| „ 1925 „ | „ | „ | „ | 38,2 „ |
| „ 1926 „ | „ | „ | „ | 31,4 „ |
| „ 1927 „ | „ | „ | зойме | 31,4 „ |

Посьпех ёсьць, але гэта не павінна нас супакойваць. Ня трэба забываць, што, ня гледзячы на долевае зьніжэньне прыватніка ў гандлі, ён усё-ткі ў абсолютных лічбах мае рост.

Усё гэта патрабуе ад нас увагі ў далейшым, тым больш, што прыватны капітал мае здольнасьць абарачацца хутчэй і атрымоўваць у процантах больш барышу.

Рост агульнай таварнай масы за апошнія тры гады досыць значны, выражаецца ён у паступным выглядзе (вылічэньне ў дав. рублёх):

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1923-24 г. | складала | 67,7 | млн. руб. |
| „ 1924-25 „ | „ | 91,2 | „ „ |
| „ 1925-26 „ | „ | 125,4 | „ „ |

Рост прамысловых тавараў у гэтай таварнай масе быў наступны:

| | | |
|---|---|---|
| У 1923-24 г. | . . . . | 38,4 млн. руб. |
| „ 1925-26 „ | . . . . | 49,5 „ „ |

Гэтыя асноўныя цыфры дазваляюць нам меркаваць, наколькі пасьпяхова ажыцьцяўляюцца намечаныя па індустрыялізацыі задачы, а гэтым і замацаваньне саюзу рабочых і сялян.

Трэба памятаць, што пашырэньне дзяржаўнай прамысловасьці павінна зьявіцца стымулам ня толькі да разьвіцьця сельскай гаспадаркі, але і палепшаньня быту рабочых і сялян, шляхам палепшаньня тэхнікі вытворчасьці, якая ў сваю чаргу павінна даць танную продукцыю, а таксама палегчыць працу рабочага і даць магчымасьць выкінуць на рынак неабходныя прамысловыя тавары ў патрэбнай колькасьці. Продукты сельскай гаспадаркі ў сваю чаргу можна будзе зрабіць больш таннымі пры адначасовай інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі. Усё гэта ня толькі зьнізіць цэны на сыравіну, неабходную ў прамысловасьці, але і на продукты спажыцьця; далей пойдзе рост удзельнае вагі нашага чырвонца, рост рэальнай зарплаты рабочага, а таксама павялічыцца кватэрнае будаўніцтва, а разам з усім гэтым павялічыцца і культурная праца, як у горадзе, так і ў вёсцы. Хоць яшчэ і не ў здавальняючай меры, але ўсё-ж ткі мы маем ужо дасягненьні ў паляпшэньні быту рабочых і сялян, аб чым гавораць некаторыя паказьнікі. Напрыклад, разьмеркаваньне прамысловых

рабочых па разьмерах зарплаты ў сакавіку 1925 г. і ў сакавіку 1926 г. па Саюзе (па папярэдн. падліках Цэнтр. Бюро Стат.. Працы):

| Групы | 1925 г. | 1926 г. | |
|---|---|---|---|
| Усяго рабочых, якія ўвайшлі ў падлік (у тыс.) | 573,3 | 551,1 | |
| Сярэдні месячны заробак у чыр. руб. | 44,45 | 55,71 | |
| У тым ліку паступілі ў % да ітогу: | | | |
| Да 20 р. | 11,6 | 4,8 | |
| 20— 30 „ | 18,5 | 10,9 | |
| 30— 40 „ | 22,2 | 15,8 | |
| 40— 50 „ | 17,0 | 17,3 | |
| 50— 60 „ | 11,1 | 14,2 | |
| 60— 70 „ | 7,3 | 10,2 | |
| 70— 80 „ | 4,5 | 7,7 | |
| 80— 90 „ | 2,7 | 5,7 | |
| 90—100 „ | 1,8 | 4,0 | |
| 100—110 | | 2,9 | |
| 110—120 | | 2,0 | |
| 120—130 | 2,9 | 1,4 | 8,0 |
| 130—140 | | 1,0 | |
| 140—150 | | 0,7 | |
| 150—200 | | 1,2 | |
| 200—250 | | 0,2 | |
| 250—300 | 0,4 | 0,0 | 1,4 |
| Звыш 300 | | 0,0 | |

З гэтай табліцы мы бачым, што 1926 г. проціў 1925 г. дае значнае палепшаньне ў сэнсе зьмяншэньня контынгенту рабочых, атрымліваючых найбольш нізкую зарплату. Так, колькасьць рабочых, атрымліваючых менш 20 руб., зьменшылася амаль у тры разы. Значна зьменшылася і колькасьць рабочых, атрымліваючых ад 20 да 30 руб. і ад 30 да 40 руб. Значна ўзрасьлі тыя групы, якія атрымліваюць звыш 50 руб. У 1925 г. колькасьць рабочых, атрымліваючых звыш 50 руб., складала 30 проц. а ў 1926 г.—звыш 50 проц. Вырасла і група атрымліваючых ад 100 да 150 руб. (2,9 проц. у 1925 г. і 8 проц. у 1926 г.) Але, ня гледзячы на гэта, мы ня можам абмінуць той факт, што пры сярэдняй зарплаце ў сакавіку 1926 г. ў 55 руб. 71 кап., ніжэй гэтай сярэдняй зарплаты атрымлівалі звыш 50 проц., г. зн. звыш паловы ўсіх рабочых. Мы ня можам абмінуць той факт, што звыш 30 проц. усіх рабочых атрымліваюць зарплату ніжэй 40 руб., а 15 проц. рабочых ніжэй 30 руб. Уся наша ўвага павінна быць зьвернута на павышэньне зарплаты іменна для тых катэгорый рабочых, якія атрымліваюць ніжэйшую зарплату.

Што датычыць кваліфікаваных катэгорый рабочых, то мы ў цяперашні час маем такі ўзровень зарплаты, які забясьпечвае інтарэсы

прадпрыемства (захаваньне і прыцягненьне кваліфікаванай рабочай сілы) і разам з тым забясьпечвае гэтым катэгорыям рабочых досыць высокі ўзровень жыцьця. Адносна-ж некваліфікаваных рабочых мы гэтага сказаць ня можам.

Зьмены норм спажыцьця сялянствам збожжа і мяса, узятыя пры вылічэньні мяса-збожжавага балянсу па БССР, даюць наступную карціну росту:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У 1924 г. . . . . . . | 12,96 | пудоў | зярна | на | душу. |
| „ 1925 г. . . . . . . | 13,16 | „ | „ | „ | „ |
| „ 1926 г. . . . . . . | 13,79 | „ | „ | „ | „ |
| „ 1924 г. . . . . . . | 1,35 | „ | мяса | „ | „ |
| „ 1925 г. . . . . . . | 1,65 | „ | „ | „ | „ |
| „ 1926 г. . . . . . . | 1,76 | „ | „ | „ | „ |

Можна прывесьці яшчэ адзін паказальнік—гэта прырост насельніцтва. Па нормальных разьліках, чакаемы нормальны штогодні прырост павінен быць каля 2 проц., але па маючыхся ўжо падліках (па Саюзе) прырост аказаўся ў 1925 г. ў 2,4 проц., у 1926 г.—2,3 проц., і ў 1927 г. чакаецца прырост у 2,3 проц. Прычым, гэта залежыць ня толькі ад павялічэньня раджаемасьці, але і ад таго, што значна скарацілася сьмяротнасьць, асабліва дзяцей. Такія-ж прыклады можна было-б прывесьці і ў справе палепшаньня працы, кватэрнай справы, культурнай работы і г. д. Але, праўда: усе яны яшчэ далёка не задавальняючыя.

Такім чынам, мы можам прыйсьці ў цэлым да такога заключэньня, 1) што рост долі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы ёсьць і ён ідзе ня ў шкоду сельскай гаспадарцы, а, наадварот, стварае стымулы да яго разьвіцьця, 2) соцыялістычныя элемэнты ў нашай народнай гаспадарцы павялічваюцца і 3) з працэсам разьвіцьця прамысловасьці сельскай гаспадаркі ідзе і паляпшэньне быту рабочых і сялян.

## VI

Якімі сродкамі забясьпечваецца разгорненьне работы па індустрыялізацыі краіны і правядзеньне мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы? Пытаньне гэта самае актуальнае. Прычым, сродкі, якія адпускаюцца на разьвіцьцё буйнай прамысловасьці, павінны адпускацца так: „Каб у адносна мінімальны гістарычны тэрмін дагнаць, а потым і перагнаць узровень індустрыяльнага разьвіцьця перадавых капіталістычных краін. Пасьпяховасьць ажыцьцяўленьня гэтага залежыць ад тэмпу накапленьня ў народнай гаспадарцы і ад тых сродкаў, якія яна можа выдзеліць на пашырэньне задач індустрыялізацыі“ (з рэзолюцыі XV партконфэрэнцыі). Крыніцы накапленьня і тэмп разьвіцьця асноўнага капіталу будуць залежаць: а) ад разьмераў накапленьня абвобчасьцьвлённай прамысловасьці; б) скарыстаньня праз дзяржаўны бюджэт прыбыткаў іншых галін народнае гаспадаркі; в) скарыстаньня зьберажэньня насельніцтва шляхам

уцягненьня іх у коопэрацыю, зьберагальныя касы, унутраныя дзяржаўныя пазыкі, крэдытную сыстэму і г. д. (з рэзолюцыі XV партконфэрэнцыі). Вось асноўныя крыніцы накапленьня. Але, калі мы падыходзім да разгляду гэтых асноўных припаноў, дык мы бачым, што асабліва разьдзел „в" праводзіцца ў жыцьцё, покуль што, слаба. Возьмем нашу касу зьбераганьняў. Наколькі шырока яна прыцягвае ўклады насельніцтва:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1-VI —1925 г. | было ўсяго ўкладаў каля | 130 | тыс. руб. |
| „ 1-X —1925 г. | „ „ „ „ | 250 | „ „ |
| „ 1-I —1926 г. | „ „ „ „ | 336 | „ „ |
| „ 1-IV —1926 г. | „ „ „ „ | 378 | „ „ |
| „ 1-IX —1926 г. | гэтая лічба дасягала „ | 1.000 | „ „ |

Праўда, мы можам констатаваць рост, але ён усё нязначны для такой вялікай экономічнай адзінкі, як БССР. Тое самае можна сказаць і аб дзяржаўных пазычках і аб коопэрацыйных паявых узносах.

Прыходзіцца згадзіцца з горкай праўдай і пастановай конфэрэнцыі ЎсеКП(б), „што да гэтых часоў ня было прыкладзена колькі-небудзь сур'ёзных высілак да згрупаваньня сродкаў, якія маюцца ў насельніцтва, у коопэрацыю, касы ашчаднасьці, у пазыкі і г. д. Па меры росту агульнага дабрабыту насельнасьці—гэта выкарыстаньне, праз коопэрацыйныя і крэдытныя ўстановы, дробных ашчад насельніцтва павінна набываць усё большае і большае значэньне, як адна з крыніц сродкаў для разьвіцьця гаспадаркі" (з рэзолюцыі XV партконфэрэнцыі).

Што датычыцца каштарысных рэсурсаў, дык тут мы маем рост асыгнаваньняў такі (па Саюзу):

| | | |
|---|---|---|
| На 1924-25 г. асыгнаваньняў па прамысловасьці было на | 243 | млн. руб. |
| „ 1925-26 г. „ „ „ „ „ | 850 | „ „ |
| а на 1926-27 г. мяркуецца (плюс электрыфік.) давесьці гэтую цыфру да | 1.050 | млн. руб. |

Прычым мы бачым, што гэта не памяншае асыгнаваньняў на сельскую гаспадарку, а, наадварот:

| | | |
|---|---|---|
| У 1924-25 г. на сельскую гаспадарку было асыгнавана | 340 | млн. руб. |
| „ 1925-26 г. „ „ „ „ | 780 | „ „ |

Што датычыцца 1926-27 году—асыгнаваньне ня толькі не зьмяншаецца, а расьце.

Мы цяпер стаім перад задачай, як мага правільней і экономней скарыстоўваць усе гэтыя сродкі. Цяпер ня можа быць прыняты ні адзін з гаспадарчых плянаў, які не адпавядаў-бы агульным мэтам.

Рашуча павінны ажыцьцяўляцца работы па зьніжэньні лішніх адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, памятаючы, што цяпер кожная зьберажоная савецкая капейка зьберажэ соцыялістычны рубель.

І калі мы цяпер ва ўсю шырыню ставім пытаньне аб правядзеньні рэжыму экономіі і палепшаньні кіраўніцтва народнай гаспадаркай, асаб-

ліва прамысловасьцю, дык гэта для таго, каб больш сродкаў пусьціць на соцыялістычнае накапленьне.

Далей, нашыя сродкі, пушчаныя на разьвіцьцё прамысловасьці, павінны адпаведным чынам адбіцца на рацыяналізацыі прамысловасьці, ведаючы, што іначай мы ня здолеем падняць прыбытку нашай прамысловасьці, якая стаіць на нізкім тэхнічным узроўні. Продукцыйнасьць працы не павінна зьмяншацца. Усялякія бюрократычныя прыёмы, якія затрымліваюць паляпшэньне работы нашых прадпрыемстваў і заводаў, з чыйго-б боку яны ні былі заўважаны, павінны быць у корані зьнішчаны.

Як адна з крыніц прыбыткаў для нашае народнае гаспадаркі зьяўляецца экспорт, г. зн. вываз, галоўным чынам, продуктаў сельскае гаспадаркі.

Мы ўжо добра ведаем, што спадзявацца савецкай уладзе на атрыманьне значных крэдытаў ад замежных капіталістых покуль што ня прыходзіцца.

Нам трэба будаваць свае пляны выключна на нашы ўласныя сродкі, на ўласныя сілы.

Але скарыстаць замежныя капіталы вельмі пажадана, хоць-бы з мэтаю прывозу для нас неабходных машын і абсталяваньня. Вось чаму, калі мы гаворым аб экспорце і імпорце (увоз), гэтыя пытаньні прыходзіцца ўвязваць адно з другім.

Па папярэдніх саюзных даных балянсы экспорту і імпорту растуць так: экспорт з 550 млн. руб. у леташнім годзе ўзрос да 663 млн. руб. гэтага году.

Імпорт з 720 млн. руб. у прошлым узрос да 759 мільёнаў руб. у гэтым годзе.

Гэта гаворыць за тое, што нашы эспортны і імпортны балянсы зьяўляюцца пакуль што пасыўнымі, г. зн., што мы вывозім менш, чымся ўвозім. Нам трэба дабіцца таго, каб памяншаўся прывоз такіх тавараў, без якіх мы пакуль што можам абыйсьціся, і павялічыць увоз прамысловых тавараў, асабліва машын і сродкаў абсталяваньня (пакуль што з 60 проц. давездена да 80 проц. з усяго пляну).

Гэта адна задача, а другая—як толькі мага павялічыць контынгент, г. зн. пералік, тавараў для вывазу. Для гэтага вельмі важна ўзмацненьне інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, каб схадней прадаваць свае тавары як для дзяржавы, так і для сельскай гаспадаркі і, такім чынам, выручыць больш сродкаў.

Яшчэ адзін асноўны момант, які можа даць дадатковыя сродкі,— гэта „ўстанаўленьне дакладнага контролю за дзеяльнасьцю прыватнага капіталу, зьвязанага з саматужнай прамысловасьцю, у мэтах барацьбы з эксплёатацыяй ім саматужнікаў і рамесьнікаў“ (з пастановы XV партконфэрэнцыі).

Па асобных групах прыватнага капіталу мы павінны ўзмоцніць падатковыя абкладаньні, асабліва па групах, маючых сувязь у сваёй працы з рынкам і г. д., з тым разьлікам, каб паралізаваць іх шкоднасьць і паменшыць тэмп накапленьня прыватнага капіталу.

З усяго вышэйсказанага адносна сродкаў можна зрабіць такое заключэньне: 1) што дзяржаўныя сродкі, якія адпускаюцца на разьвіцьцё прамысловасьці, не зьмяншаюцца, а павялічваюцца, прычым гэта павялічэньне трэба ўвязваць з асыгнаваньнямі на сельска-гаспадарчую і культурную работу; 2) слаба покуль што прыцягнуты і выкарыстаны сродкі самога насельніцтва; 3) узмацніць работу па ажыцьцяўленьні рэжыму экономіі ва ўсіх галінах і ўсю экономію скарыстаць на індустрыялізацыю краіны; 4) адхіліць умешваньне прыватнага капіталу ў пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва; 5) павялічыць работу па экспорту і 6) для ўзмацненьня плянавай работы неабходна ўцягнуць у яе шырокія масы рабочых і сялян праз партыю, савецкія апараты і профсаюзы.

---

Вывады.

З усяго сказанага выцякае наступнае заключэньне, што індустрыялізацыяй нашай краіны мы анічуць не аслабім сялянскай гаспадаркі.

Наадварот, індустрыялізацыя краіны стварае ўмовы для пераходу сялянскіх гаспадарак на лепшыя формы вядзеньня свае гаспадаркі. З пашырэньнем буйнай індустрыі і, наогул, прамысловасьці ня толькі будзе зьнішчаны таварны голад, але таксама зьнізяцца цэны на прамысловыя тавары, посул іх на рынку павялічыцца, а самі тавары будуць лепшай якасьці. Усё гэта створыць магчымасьць з большым посьпехам весьці барацьбу з капіталістычным ростам у вёсцы і горадзе.

Індустрыялізацыя павялічвае ўдзельную вагу прамысловасьці ў народнай гаспадарцы. Разьвіцьцё-ж прамысловасьці стварае ня толькі ўмовы для разьвіцьця і падняцьця прыбытковасьці сельскай гаспадаркі, але зьяўляецца і стымулам колектывізацыі мільёнаў сялянскіх гаспадарак.

Індустрыялізацыяй краіны мацнее рабочая кляса, а гэтым яшчэ больш узмацняецца саюз рабочых і сялян.

З поваду гэтага, партыя яшчэ раз у асобе апошняй XV партконфэрэнцыі прыняла наступнае:

„Партыя грунтуецца на тым, што вышэйшы прынцып дыктатуры— гэта захаваньне саюзу пролетарыяту з сялянствам, каб пролетарыят мог утрымаць кіраўнічую ролю і дзяржаўную ўладу (Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 331), што пролетарыят можа і павінен быць гегемонам у адносінах да асноўнай масы сялянства ў галіне экономічнай, у галіне будаўніцтва соцыялізму, таксама, як ён быў у кастрычніку 1917 г. гегемонам сялянства ў галіне палітычнай, у справе зьвяржэньня ўлады буржуазіі і ўстанаўленьня дыктатуры пролета-

рыяту, што індустрыялізацыя краіны можа быць праведзена толькі ў тым выпадку, калі яна будзе апірацца на паступовае палепшаньне матэрыяльнага становішча большасьці сялянства (бедната, серадлякі), якое прадстаўляе асноўны рынак для нашай індустрыялізацыі, што дзеля гэтага павінна праводзіцца такая экономічная політыка (політыка цэн, падатковая політыка і г. д.), якая ўзмацняе *сувязь індустрыі з сялянскай гаспадаркай* (падкрэсьлена мною. М. К.) і захоўвае саюз рабочае клясы і асноўнай масы сялянсва" (з рэзолюцыі па дакладу тав. Сталіна на XV партконфэрэнцыі).

Вось такая лінія партыі, яна была такой і раней, ёсьць і цяпер, а таксама яшчэ раз пацьвярджаецца пастановай XV партконфэрэнцыі, і, як мы бачым, яна ўпоўне адпавядае інтарэсам рабочых і большасьці сялянства.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА, ЯК СОЦЫЯЛЬНА-КЛЯСАВЫ РАЗДРАЖАЛЬНІК

**А. Харэвіч**

I

Наш час—эпоха вялізнай перабудоўкі ў галіне соцыолёгічных навук. Гэтая перабудоўка падобна да тае, якую перажывала прыродазнаўства 300 год таму назад у эпоху вялікіх вынаходак Копэрніка, Галілея, Кёплера, Ньютона.

Прынамсі, у стасунку да мовазнаўства і асабліва да таго становішча, у якім апынуліся цяпер нацыянальныя мовы, зьмены настолькі значныя, што далі повад проф. Пічэце назваць наш час—эпохай „примечательных катастроф“[1]).

Аднак, калі магчыма гэтым тэрмінам назваць той факт, што мовы нацыянальна-дужыя, як напрыклад, француская, якая ня так даўно прэтэндавала на сусьветнае значэньне, цяпер прымушана зачыніцца ў межы сваёй нацыі, дык назваць гэтым тэрмінам факт адраджэньня моў нацменшасьцяй будзе, мне здаецца, ня зусім трапным.

Бяспрэчна сярэдняе: мовы, як нацыянальна-дужыя, так і заняпалыя, апынуліся на шляху да соцыяльнае праўды: усе яны аднакова становяцца об'ектам навуковага дасьледваньня і шырокай зацікаўленасьці з боку грамадзтва.

Так яно і павінна быць.

У сучасны пэрыод спакойнага будаўніцтва, калі рэволюцыйны пролетарыят у хаўрусе з сялянствам кладзе грунт новага жыцьця, падрыхтоўвае „скачок з царства неабходнасьці ў царства свабоды“, калі ўжо прыступлена да вялізнае задачы па перабудоўцы жыцьця на навуковых падставах (электрыфікацыя, індустрыялізацыя, рацыяналізацыя жыцьця, навуковая організацыя працы); калі, наогул, ідзе значны ўздым адраджаючыхся нацыянальных культур па ўсяму Саюзу ССР,—у гэты час, бяспрэчна, ня могуць ня выклікаць навукова-грамадзкую цікавасьць і мовы нацменшасьцяй, як фактары гэтых культур.

На жаль, у справе моўнай сьвядомасьці ня ўсё яшчэ добра. Заместа творчай працы над разьвіцьцём і вывучэньнем тэй ці іншай нацыянальнай мовы, часамі паўстаюць спрэчкі аб вартасьцях і заганах, і часта ня маючыя пад сабой ніякага грунту.

---

1) В. И. Пичета. Белорусский язык, как фактор национально-культурный.

Замест навуковага, об'ектыўнага пункту гледжаньня на іх, пераважае нарматыўны мяшчанска-інтэлігенцкі погляд [1]).

Прывяду некаторыя больш тыповыя з іх.

„Расійская мова",—кажа адзін мне знаёмы настаўнік N,—„хаця і лічыцца мовай разьвітай, багатай, але нічога самабытнага ў ёй няма. Нішто іншае, як „попури" розных чужаземных слоў. Вось, напрыклад: *митинг, пиджак, кепи*—словы ангельскія; *брюки, ситец*—галяндзкія; *афиша, бриллиант, шарманка*—французскія; *мышь, семя, лектор*—лацінскія; *гармошка, география, гимназия*—грэцкія; *слесар, стамеска, офицер*—нямецкія; *балахон, парча*—пэрсыдзкія; *башлык, колпак, кабак, нагайка*—татарскія; *шаль, шаровары, башлык*—турэцкія; *лошадь, собака,*—цюркскія; *кумач*—арабскае. Гэтая мода на чужаземныя словы заходзіць так далёка, што іх запазычаюць і тады, калі магчыма абыйсьціся сваім уласным слоўнікам. Навошта, напрыклад, ужываць: індустрыя, імпульс, кульмінацыя, метаморфоза і г. д., калі ёсьць адназначныя словы: промышленность, толчок, вершина, превращение і г. д. Ці ня ёсьць гэта псаваньне мовы? Ці мо' гэта робіцца толькі дзеля таго, каб быць больш незразумелым для рабочых і сялян? Ужо беларуская мова ў гэтым сэнсе больш самабытна".

Падобныя погляды магчыма сустрэць адносна украінскае, польскае і іншых моў. У якасьці заганы польскай больш за ўсё зьвяртаюць увагу на значную колькасьць у ёй шыпячых гукаў. Як характэрны прыклад, звычайна, прыводзіцца выраз: Nie pieprz, Pietrze, pieprzem wieprza, bo możesz przepieprzyć pieprzem wieprza.

Часамі прабуюць падкрэсьліць некаторую шляхоцкасьць польскае мовы ў сэнсе шырокага ўжываньня палякамі слова „пан" і, як найбольш тыповы, прыводзяць такі выраз: „Czy pan sam sobie pan, czy pan u pana służy".

Аднак, усе памянёныя вышэй погляды маюць выпадковы характар, грунтуюцца большай часткай на непаразуменьні, на адсутнасьці об'ектыўнага крытэрыя. Больш сыстэматычны, больш нарматыўны, які мяжуецца часамі з нэрвовай дражлівасьцю, мы назіраем погляд на беларускую мову.

Аб ёй ня так даўно (16 мая 1926 г.) на старонках „Савецкай Беларусі [2]) быў зьмешчаны артыкул у досыць гняўлівым тоне аднаго „беларуса" з Полацку, які потым выклікаў значную дыскусію. Апошні адносна беларускае мовы пайшоў яшчэ далей, чымся памянёны настаўнік N адносна мовы расійскай.

Але, ня ўхіляючыся покуль што ў бок разгляду таго, наколькі правільныя выказаныя ім думкі, уявім сабе хоць на хвіліну, што памянёны настаўнік N і полацкі „беларус" зышліся і сталі спрачацца на адну з падобных тэм аб мове. Да чаго давядуць іх спрэчкі? У большасьці выпадкаў, яны скончацца тым, што першы назаве апошняга „русацяпам", „шо-

[1]) „Мова, як ідэал"—Полымя № 4—1925 г.

[2]) „Савецкая Беларусь" № 109 ад 16-V-26 г.

віністым", а апошні першага—„заядлым беларусам", „нацыяналістым" або таксама „шовіністым" і г. п.

Беларуская мова мае сувязь з беларусізацыяй, беларусізацыя—з нацыянальнай політыкай, адгэтуль недалёкі пераход да крытыкі політыкі савецкай улады і комуністычнай партыі наогул.

Мне самому гэтым летам здарылася падслухаць нешта падобнае ў памянёным сэнсе. Гутарка пачалася з пытаньня аб далучэньні Гомельшчыны.

Перадаю даслоўна ў фонэтычнай транскрыпцыі рэплікі аднэй досыць станавітай жыхаркі г. Гомеля: „Да это факт, што Гомельская губерния атайдёт к Беларусии. Я собственно не понимаю для чэго это всё дзелаецца. Памойму, это красивы палитически жэст са стараны савецкай власьці. Пахваліцца перад Западам: Сматрыце „дзескаць", как мы вазраждаем меншыя нацыянальнасьці. А вы этого ня дзелаеце. Для меня лично пусьць сабе будзет и Беларусия, но зачэм нужэн этат дапатопны беларуски язык—этага я никак не понимаю".

Прыведзеныя думкі зусім звычайныя—іх у сучасны момант магчыма часта пачуць. Але тут больш за ўсё цікава мова яе рэплік, якую мы пастараемся разглядзець.

Для большай яснасьці прывяду яшчэ адказ аднаго няпісьменнага селяніна гадоў 60 з м. Ушчэрп'я, Клінцоўскага павету, Гомельскай губ. на маё пытаньне аб ураджаі: „Жыта сёлета так сабе, ярына слабая; пагарэла; трэцяя нядзеля, як не даецьцека бог дажджу. Сабе хлеба мо' як-небудзь і хопе, калі таварышчы не пабяруць. Мо' чулі, які сёлета будзе налог? У нас ужо папісалі і авечак і сьвіней. У прошлым годзе цярпець яшчэ можна было".

З прыведзеных рэплік памянёных асоб няцяжка заўважыць, што факты іх мовы розьняцца толькі з боку слоўніка. У першай ён—расійскі, у апошняга—беларускі. А такія ўласьцівасьці беларускай мовы, як шырокае аканьне, цьвярдое р, ж, ч, ш, дзеканьне і цеканьне тут і там чуюцца выразна. Перад намі досыць пашыраны факт беларускага акцэнтаваньня расійскага слоўніку.

Праўда, і ў мове сялян Клінцоўскага павету, як мне прышлося заўважыць у часы летняй туды экскурсіі, сустракаюцца русыцызмы ў значнай колькасьці, але наогул слоўнік жывой народнай мовы ўсё-ж застаецца беларускім. А некаторы ўплыў расійскае мовы на беларускую тлумачыцца, галоўным чынам, фактарам суседзтва з РСФСР. Дзякуючы гэтаму фактару, у кожнай мове магчыма заўважыць процэс запазычаньня слоў з суседніх моў падобна таму, як часта запазычае сусед ад суседа форму вопраткі, звычаі, прывычкі і іншыя прадметы нематэрыяльнае культуры.

З прычыны сказанага, нельга лічыць правільным погляд памянёнага настаўніка N на расійскую мову, як на „попури" чужаземных слоў. Па-

сколькі тыя або іншыя словы ўвайшлі ў свой літаратурны, а тым болей у жывы народны слоўнік, пастолькі яны робяцца сваімі ўласнымі словамі і атрымоўваюць усе правы на жыцьцё. Казаць, напрыклад, гэта слова ўласнае—яго трэба пакінуць, а гэта слова чужое—яго трэба выкінуць,—будзе ўсё роўна, што весьці спрэчкі аб тым, каму ёсьць, а каму няма месца пад сонцам.

Іншая справа лішнія словы (блізказначнікі). Як вядома, часта запазычаецца чужаземнае слова і тады, калі ёсьць сваё адпаведнае, агульнавядомае слова з тым самым значэньнем.

Тут будзе дарэчы прывесьці па гэтым пытаньні думку У. І. Леніна [1]): „Расійскую мову мы псуем. Чужаземныя словы ўжываем без патрэбы, ужываем іх няправільна. Чаму гаварыць: дэфэкты, калі магчыма сказаць: недахопы, або недахваткі, або пробелы. Зразумела, калі чалавек, нядаўна навучыўшыся наогул чытаць і асабліва чытаць газэты, бярэцца натужна чытаць іх, ён мімаволі вывучае газэтны зварот мовы. Якраз газэтная мова ў нас пачынае псавацца. Ці не пара нам аб'явіць вайну ўжываньню чужаземных слоў без патрэбы? Прызнаюся, што калі мяне ўжываньне чужаземных слоў без патрэбы раздражняе (бо гэта перашкаджае нашаму ўплыву на масы), дык некаторыя памылкі пішучых у газэты зусім ужо могуць вывесьці з сябе“.

Адзін расійскі жартаўнік памянёны ўздагон за чужаземнымі словамі тлумачыў у свой час вельмі проста: „Богат и великолепен русский язык, да нам в силу: социальных, экономических, политических и культурных условий в Даля заглядывать некогда“ [2]).

Сказанае вышэй у поўнай меры тычыцца польскай, украінскай, беларускай і іншай мовы. Навошта, напрыклад, нам ужываць: акорд, атэісты, барбарызм, сфэра, аналёгія і г. д., калі ёсьць свае адназначныя словы: сугалосьсе, бязбожнік, чужаслоўе, абсяг, падобнасьць і г. д. У гэтым сэнсе думка памянёнага настаўніка N заслугоўвае ўвагі.

Але вернемся да разгляду мовы рэплік гомельскай жыхаркі (згодна атрыманай даведкі, апошняя зьяўляецца буйнай гандляркай). Нас тут можа зацікавіць пытаньне аб тым, што штурхае першую да ўжываньня расійскіх слоў? Ці ня лепей было-б акцэнтаваць пабеларуску беларускія-ж словы? У чым хаваецца прычына такога досыць пашыранага перахільваньня расійскага слоўніку праз прызму беларускай фонэтыкі, морфолёгіі і сынтаксу? Зразумела, што гэта нельга тлумачыць адным фактарам суседзтва з РСФСР. Прычына хаваецца глыбей. Тут мы маем справу з цэлай сыстэмай розных фактараў, на аналізе якіх мы зараз і спынімся.

[1]) В. И. Ленин. „Размышления на досуге, т.-е. при слушании речей на собраниях“.

[2]) В. Даль. Словарь живого великорусского языка.

## II

Пад тэрмінам „мова“ ў вузкім значэньні гэтага слова звычайна разумеецца мова чалавека і прытым мова слоў. Слова выпрацавалася з тых крыкаў, з якімі злучалася грамадзкая праца чалавецтва на раньніх ступенях яго разьвіцьця. Спачатку яно азначала тыя працоўныя дзеяньні, якія ўчынялі людзі ў сваёй супольнай працы, потым тыя арудзьдзі і іструманты, пры дапамозе якіх учыняліся тыя або іншыя працоўныя дзеяньні, далей тыя прадметы з абкружаючых абставін, на якія накіроўваліся працоўныя дзеяньні, далей зьявы, адбываўшыяся ў прыродзе—на зямлі, на вадзе, у вадзе, у паветры, на небе і г. д., покуль слова ня стала арудзьдзем азначэньня ўсяго, што маецца і ствараецца як у жыцьці людзей, так і ўва ўсім сьвеце. Слова, такім чынам, ёсьць гукавы сродак зносін людзей у процэсе грамадзкае і грамадзка-клясавае працы. У эпоху грамадзка-клясавае працы і слова атрымоўвае грамадзка-клясавы характар.

Але найбольш яскравай з боку сваёй клясавасьці зьяўляецца беларуская мова. У працягу шмат стагодзьдзяў яна зьяўлялася сымболем грамадзка-клясавых перажываньняў працоўнага, пераважна сялянскага, стану. З ёю сьцісла зьвязана векавечная барацьба беларускага народу за волю і лепшую долю.

Трэба згадзіцца з адным расійскім поэтам: „Рабы, рожденные рабамі, веселых песен не поют“. Не пяе іх і беларускі народ. Яго цяжкая паднявольная праца ўвесь мінулы час, зразумела, не магла штурхаць да вясёлых сьпеваў. Не магла, зразумела, выклікаць павагі з боку пануючае клясы і яго мова.

Яшчэ ня так даўно кожны, хто цікавіўся жыцьцём працоўнага селяніна, мог заўважыць, як часамі:

„Пан з падпанкамі рагоча,
Гладзіць тоўсты свой жывот *)“,

ды разам з гэтым насьмяхаецца над беларусам-мужыком і яго мужыцкай, як некаторыя кажуць, дапатопнай мовай. У сучасны момант жыцьцё значна зьмянілася. Паноў ужо няма, але падпанкі яшчэ засталіся, ёсьць яшчэ значная буржуазная групоўка, у псыхіцы якой гукі беларускае мовы асоцыятыўна прабуджаюць гукі згубленага „раю“. Лепш яе ня чуць—і яны даводзяць, што беларускае мовы няма зусім.

Так або іначай, але беларуская мова, як мова працоўнага, сярмяжнага люду, быўшая ўвесь мінулы час яскравай праявай яго настрояў і імкненьняў, яго „цягі да волі і скаргі нядолі“, сваёй чыста клясавай адзнакай выклікала і будзе выклікаць з боку буржуазнае і буржуазнанастроенае клясы рэфлексы нездавальненьня, рэфлексы гневу, ганьбы і т. п.

Звычайна, калі мне кажуць, што сам беларускі пролетары ня любіць беларускае мовы, або конкрэтна паказваюць на селяніна, які не гаворыць пабеларуску, як гэта часамі бывае на сялянскіх сходах, я заўсёды

*) М. Чарот. „Босыя на вогнішчы“.

пытаюся аб яго экономічным стане і толькі ў нязначных выпадках аказваецца прыналежнасьць да серадняцкае групы; у большасьці—гэта гандляр, кулак, нэпман.

Як справядліва даводзіць Н Крупская: „Не ўсялякі пролетары выяўляе пролетарскую ідэолёгію: ёсьць пролетарыі, цалкам прасякнутыя мяшчанскай ідэолёгіяй... Мала аднаго пролетарскага паходжаньня, патрэбна пролетару зразумець свае клясавыя задачы“.

У поўнае падобнасьці з вядомым выслоў‘ем: „Скажы мне, хто твае сябры, і я табе скажу, хто ты“, магчыма паставіць другое выслоў‘е: „Скажы мне, якой ты клясы, і я табе скажу, які ў цябе погляд на беларускую мову“.

Прыведзеныя думкі стануць для нас яшчэ больш яснымі і грунтоўнымі, калі мы падыдзем да іх з боку сучаснае рэфлексолёгіі.

III

Жыцьцё кожнага організму, абкружанага дзейным на яго асяродзьдзем, як даводзіць акад. Паўлаў, захоўваецца ў усталяваньні роўнаважнасьці з асяродзьдзем. Кожны ўплыў знадворку выклікае адказ організму ў форме якога-небудзь руху, называемага рэакцыяй організму або рэфлексам яго. Прычым рэфлексы могуць быць двух відаў: бязумоўныя і ўмоўныя. Калі сабацы даваць ежу, дык організм яго рэагуе на прыём ежы выдзяленьнем сьлюны. Гэты рэфлекс сьлюны з непасрэдным уплывам асяродзьдзя (ежы) на органы харчаваньня акад. Паўлаў называе рэфлексам бязумоўным.

Калі харчаваньне сабакі злучаць з пабочнымі раздражненьнямі, напрыклад, чухаць яе ў часы яды, паказваць які-небудзь прадмет, або аднаўляць якія-небудзь ґукі і т. п., дык гэтыя пабочныя раздражненьні пры паўтарэньні іх некалькі разоў могуць самі па сабе без харчаваньня выклікаць той самы рэфлекс аддзяленьня сьлюны. Гэты тып рэфлексу акад. Паўлаў называе ўмоўным рэфлексам, падкрэсьліваючы самой назвай, што гэты рэфлекс выклікаецца не непасрэдным уплывам на орган харчаваньня, а ўплывам на другі орган, што выклікае прадстаўленьне, асоцыятыўна зьвязанае з процэсамі харчаваньня, дзякуючы якой асоцыяцыі выяўляецца тое-ж самае ўражаньне аддзяленьня сьлюны.

Акад. Паўлаў ня ставіць пытаньня, што выклікала зьяўленьне ўмоўных рэфлексаў, але магчыма дапусьціць, што такой прычынаю зьяўляецца складанасьць узаемаадносін організму з асяродзьдзем, прымушаючая організм аналізаваць энэргію асяродзьдзя і ўстанавіць паміж рознымі яе бакамі складаную і ўдасканаленую сыстэму ня толькі непасрэдных, але і ўмоўных узаемаадносін.

Грунтуючыся на памянёных прынцыпах тэорыі акад. Паўлава, пазьнейшыя дасьледчыкі сталі даводзіць, што і мова чалавека, як вусная, так і пісоўная, ёсьць фактычна ўмоўны рэфлекс з прычыны таго, што ўсялякае слова па прыродзе сваёй зьяўляецца некаторым знакам, што

замяняе сапраўднае ўспрыманьне. Мы кажам толькі тады, калі нас штурхаюць да гэтага якія-небудзь акалічнасьці, а казаць—значыцца ствараць шэраг рухаў організму. У сваю чаргу, калі мы слухаем мову, яна выклікае ў нас шэраг рухаў і неразрыўна зьвязаных з імі прадстаўленьняў, што цягнуць да шэрагу ўчынкаў. У вайсковых камандах, напрыклад, яны ад доўгіх паўтарэньняў робяцца проста інстынктыўнымі. Падаецца каманда „ціха", і сотні жаўнераў становяцца ціха.

Аднак, калі мы параўнаем беларускую мову з іншымі мовамі, як, напрыклад, расійскай, польскай, нямецкай і т. п., якія ўвесь час аднакова ўжываліся і тэй і другой клясай у межах сваёй нацыі, мы адносна беларускае мовы, дзякуючы ўжо зазначанаму чыста клясаваму яе характару, назіралі і назіраем такую больш уласьцівую, у параўнаньні, больш сталую зьяву, як пераход яе з умоўнага рэфлексу ў энэргію асяродзьдзя; іначай кажучы, беларуская мова, зьяўляючыся сваявобразным умоўным рэфлексам для шырокіх рабоча-сялянскіх мас, адносна буржуазнае і буржуазна-інтэлігенцкае клясы пераходзіць у энэргію асяродзьдзя, дакладней, становіцца *соцыяльна-клясавым раздражальнікамі.*

Аб гэтым асабліва выразна сьведчыць наш час. Пастараемся сказанае паясьніць больш падрабязна.

Як вядома, адным з вынікаў пролетарскіх рэволюцый зьяўляецца ў эпоху дыктатуры пролетарыяту ўсталяваньне пролетарскае псыхолёгіі і ідэолёгіі на месцы псыхолёгіі і ідэолёгіі панаваўшае клясы.

Там, дзе беларуская мова была ў суладзьдзі з комплексам перажываньняў, выкліканых пасьля рэволюцыйным жыцьцём, яна стала крыніцай рэфлексаў творчай працы ў справе нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Гэта мы, прынамсі, назіраем сярод беларускай, пролетарскай інтэлігенцыі

Там, дзе гэтага суладзьдзя ня было (у бужруазным стане, а таксама сярод цэлага шэрагу супрацоўнікаў розных савецкіх і дзяржаўных установ), дзе, узяўшы ўладу, пролетарыят стаў патрабаваць ужываньня сваёй мовы, як мовы большасьці, апошняя гэтым самым стала глыбей прабірацца ў нетры буржуазнае і буржуазна-настроенае сьвядомасьці і там, як абухом, пачала лупіць сваёй пролетарска-клясавай адзнакай. Зразумела, што яна не магла ня выклікаць рэфлексаў нездавальненьня, нават тых рэфлексаў ворражнасьці і дражлівасьці, якія мы бачым і ў апошнія часы.

Ня кажучы ўжо аб артыкуле памянёнага полацкага „беларуса" і іншых падобных выпадаў на старонках друку, разьбітых дашчэнту беларуска-грамадзкай крытыкай, успомнім толькі некаторыя больш тыповыя хадзячыя выпады.

„Навошта патрэбна беларуская мова, калі сама Беларусь маленькая дзяржава і з ёю далёка не заедзеш"? кажуць адны. „Ці ня ёсьць політыка правядзеньня беларусізацыі і ў тым ліку вывучэньня беларускай мовы політыка „насільственная", паколькі самі рабочыя і сяляне гэтага ня любяць", кажуць другія. Які сэнс вывучаць гэту „тапорную", „дапатопную"

мову? Ці ня лепей трымацца аднэй расійскай мовы, якую ўсе ведаюць якая больш багата, лепш разьвіта, чымся мова беларуская?—кажуць трэція. „Колькі дзікага і някультурнага ёсьць яшчэ ў беларускай мове? Такія словы, як „сьмярдзець“, „мацаць“, „цапаць“, „твар“, „дрэнь“, „трэба“ і т. п., як гучаць яны няпрыгожа! Ужо украінская, польская мовы значна больш мілагучней“,—кажуць чацьвертыя і г. д.

Аднак, нават пры павярхоўным аналізе прыведзеных вельмі суб'ектыўных, лепш сказаць, балюча-норматыўных выпадаў, ня цяжка заўважыць іх соцыяльна-клясавую падкладку. Падзел на мову бедную і багатую, тапорную і разьвітую, прыгожую і няпрыгожую—ці ня ёсьць гэта водгук старога, чыста-клясавага падзелу людзей на „чорную“ і „белую“ косьць.

Над гэтым пытаньнем, уцякаючым ад вока з першага погляду, варта прызадумацца ўсім тым, хто яшчэ і дагэтуль бескарысна губляе час на адшуканьне іншае, апрача соцыяльна-клясавае, прычыны паходжаньня падобных выпадаў супроць беларускае мовы. Ім варта будзе напомніць, што абсолютнага ідэалу хараства ў чалавецтва покуль што няма, што ідэал гэты адносны: прыгожае для аднаго можа быць няпрыгожым для другога; што, з об'ектыўнага пункту гледжаньня, кожная мова зьяўляецца аднакова прыгожай для сваёй нацыі, раз на ёй магчыма „прыгожа“ абменьвацца думкамі і пачуцьцямі.

Зразумела, што такая грамадзкая адсталасьць у сэнсе моўнае сьвядомасьці, дакладней кажучы, поўнае нявутцтва з пункту гледжаньня сучаснага мовазнаўства ня можа ня выклікаць рэфлексаў крытыкі, хоць-бы ў такой простай яе форме, якой зьяўляецца сьмех.

Наогул, заўважым, што характэрнаю ўласьцівасьцю сучаснага жыцьця зьяўляецца яго надзвычайная зьменнасьць, што выражаецца ў творчасьці новых форм. Чалавек, які ўваходзіць у склад гэтага жыцьця, павінен уладаць надзвычайнай пластычнасьцю, уменьнем прыстасоўвацца да гэтых зьмен, карацей кажучы, павінен умець ісьці ў ногу з жыцьцём. Гэтая здольнасьць мае асаблівае значэньне ў чалавеку, як сябры грамадзкага організму. Чалавек, які ня йдзе ў ногу з рухам грамадзкага організму, робіцца шкадлівым, перашкаджае організму ў выкананьні яго заданьняў. Праўда, гэтая перашкода не заўсёды бывае ўгалоўным злачынствам, зашто магчыма пасадзіць у вастрог, але трэба як-небудзь зьнішчаць адсталасьць. Тады грамадзянства лупцуе свайго адсталага сябра, або цэлую грамадзкую клясу сьмехам, як бізуном, штурхаючы да паступовага руху. Такім чынам, сьмех ёсьць рэфлекс на ўсялікі прыпынак, на ўсялякую застыглую мэханічнасьць, якой не павінна быць месца ў жывым. Усё тое, што зьяўляецца мэханічным, застыглым, аднолькавым як у паасобным індывідзе, так і ў цэлай соцыяльнай клясе—усё гэта неміласэрна высьмейваецца.

Сьмешна, напрыклад, тая кляса, якая Вялікім Кастрычнікам адсунута на дно жыцьця і якая, кулдыхаючыся там, безнадзейна марыць аб згубленым „раі“.

Сьмешна, напрыклад, прамова кожнага падвыпіўшага аб вялікім значэньні цьвярозасьці.

Сьмешна, артыкул полацкага „беларуса“, які ня йдзе ўровень з запатрабаваньнямі сучаснасьці і які даводзіць, што для яго аўтара тэрмін „беларус“ пасуе так, як гарнітур для манекена.

Сьмешна і памянёная гамяльчанка, якая сьвядома выказвала сваё нездавальненьне *беларускай мовай* і ў той-жа час несьвядома для сябе аддавала падатак увагі *беларускай вымове*—факт, які па сваім кірунку крыху напамінае адзін выпадак з вядомым расійскім сьпявакам, паваліўшымся раз на калені перад царскай ложай і не развучыўшымся пасьля гэтага пяяць рэволюцыйную дубінушку і заліваіцца пякельным сьмехам над каралеўскай блыхой.

Сьмех, як бізун грамадзкае адсталасьці, мае, бясспрэчна, вялікае значэньне і ў справе выпрацоўкі сярод грамадзянства об'ектыўнага пункту гледжаньня на мову*).

З прычыны гэтага дыскусія, што разгарнулася на старонках „Савецкай Беларусі“, паводле памянёнага вышэй артыкулу, мае з гэтага боку сталы грунт. У вадным толькі выразе Гэйне: „Соловей, я слышу стук твоіх копыт“, зьмешчаным, як пролёг, маецца нямала гэтага. сьмеху.

Але тут могуць паўстаць пытаньні: ці заслугоўвае ўвагі стук капыт аджываючага „салаўя“? Ці варта губляць час на тое, каб лупцаваць сьмехам гэтага салаўя і без таго дабітага Кастрычнікавай рэволюцыяй? Справа вядомая, што няўхільным ходам гісторыі буржуазная кляса асуджана на выміраньне, а значыцца, рана ці позна вымруць і тыя выпады, якія ў сучасны момант робяцца адносна беларускае мовы і беларусізацыі наогул. На ўсё гэта трэба адказаць адмоўна.

Клясавы характар беларускае мовы, як бачылі вышэй, ёсьць асноўная прычына; але яна ўскладняецца некаторымі іншымі, маючымі пабочны характар, дзякуючы якім мы часамі назіраем тыя ці іншыя рэфлексы нездавальненьня і з боку некаторай часткі пролетарскай інтэлігенцыі.

Тут мы маем справу з уплывам старай політыкі русіфікацыі, адсутнасьцю навуковых ведаў аб мове сярод шырокіх станаў грамадзянства і з асаблівым складам псыхікі старага пакаленьня.

## IV

Гісторыя беларускай культуры ведае нямала яскравых прыкладаў уплыву расійскай і польскай культур на беларускую. Толькі дзякуючы гэтаму Беларусь „згубіла такіх выдатных людзей, як Глінка, Дастаеўскі, Адам Міцкевіч, Кандратовіч-Сыракомля і г. д.

У эпоху XVIII і XIX стагодзьдзяў беларуская інтэлігенцыя пачынае хутка выраджацца, пераходзячы працаваць на карысьць то расійскай, то польскай культуры.

*) „Мова, як ідэал“—„Полымя“ № 4—1926 г.

Калі пры гэтым дадаць націск на Беларусь з боку царскага ўраду, з мэтай яе хутчэйшага абрусеньня; калі пры гэтым уявіць працу старой школы, шчыра стаяўшай на варце расійскае народнасьці, самадзяржаўя і праваслаўя, стане ясным, чаму процэс гэтае русіфікацыі ня мог не адбіцца і ў справе моўнае сьвядомасьці, а ў прыватнасьці ня мог не пакласьці свайго адбітку і ў поглядзе на беларускую мову.

Разам з гэтым ня можа зьдзіўляць, што і расійская навука ў некаторай сваёй частцы была прасякнута гэтай самай русіфікатарскай політыкай і прабавала даводзіць, што няма ні Беларусі, ні беларускага народу, ні беларускай мовы (Батюшков, Кояловіч і іншыя).

Крыху толькі зьдзіўляе такая расійска-шовіністычная нацягнутасьць у сучасны пэрыод самастойнага політыка-экономічнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва Беларусі.

Напрыклад, адзін вядомы расійскі мэтодысты П. О. Афанасьеў прапануе для школ падыходзіць да пытаньня адносна мовы так: „Русский язык принадлежит к европейской семье языков, ближайшим образом связан с славянскими языками (болгарским, чешским, польским, сербским). *Сам он тоже распадается на наречия: великорусское, малорусское, белорусское;* при чем каждое из наречий распадается на отдельные говоры“*).

Прыведзеная думка звычайная і досыць яшчэ пашыраная, але яна ў сучасны момант цікава тым, што паходзіць ад працаўніка навукі. У чым прычына такога погляду? Чаму з пункту гледжаньня тых дасягненьняў сучаснае мовазнаўчае навукі, якія маюцца за апошні час у выніку шырокага і об'ектыўнага падыходу вучоных да вывучэньня славянскіх моў, беларуская, а таксама расійская і украінская мовы аднакова дыфэрэнцыяваліся з агульнага славянскага кораню, што процэс гэтае дыфэрэнцыяцыі прыпадае на XIII і XIV стагодзьдзі, што кожная з іх, пачынаючы з гэтага часу, жыла і разьвівалася, кіруючыся сваімі законамі, што кожная з іх, побач з агульнымі, мае і свае ўласьцівыя моўныя факты і г. д. і г. д.

Бясспрэчна, сказанае сьведчыць аб тым, як далёка і глыбока заходзіў процэс русіфікацыі, што ад яго яшчэ не пасьпелі пазбавіцца і ў сучасны момант нават некаторыя працаўнікі навукі.

Але што тады казаць адносна шырокіх станаў грамадзянства з яго зусім нікчэмнымі ведамі па мовазнаўстве?

Праў расійскі лінгвісты Ушакоў, калі даводзіць, што зараз магчыма сустрэць шмат адукаваных людзей з грунтоўнымі ведамі па розных навуковых галінах, з глыбокімі ведамі па аднэй якой-небудзь дысцыпліне і зусім няпісьменнымі ў галіне мовазнаўства.

Мне самому прыходзілася назіраць, калі людзі з вышэйшай асьветай, чуючы, як слова вымаўляецца, ніяк не маглі азначыць яго націск на пісьме. Я ведаю нямала прыкладаў зьдзіўленьня, калі прыходзілася зазначаць, што літары я, е, ё, ю азначаюць ня гукі, а дыфтонгі і да т. п.

*) П. О. Афанасьеў. „Родной язык в комплексной форме преподавания“.

Зразумела, што адносна гісторыі мовы, дыялектолёгіі, семасыёлёгіі, лексыколёгіі, орфоэпіі, поэтыкі і іншых ведаў па мовазнаўстве і гаварыць ня прыходзіцца. Такую мы маем спадчыну мінулага.

Старая школа, як вядома, падыходзіла да мовы, галоўным чынам, толькі з боку навыкаў: навучыць чытаць, пісаць і гаварыць. Прынамсі, старая школьная граматыка была ня толькі школьнай, але і не навуковай. Іначай кажучы, ніякіх ведаў аб мове яна не давала. Вядомы досыць русафільскі выраз Тургенева: „О, великий, правдивый и свободный русский язык“ падтрымоўваўся і школай.

Але адначасна праз яго прызму пераламваліся погляды на мовы іншых нацый, асабліва на мову беларускую, як мову невялікую і ў свой час несвабодную.

Калі-б старая школа, хаця-б у галіне выкладаньня роднай мовы, трымалася запатрабаваньняў об'ектыўнае навукі; калі-б аб мове яна давала хаця і элемэнтарныя, але сапраўдна навуковыя веды, бясспрэчна, што тады і погляд на беларускую мову ня меў-бы той шовіністычнай нацыягнутасьці, якую ён мае цяпер сярод значнай часткі старога пакаленьня.

Русіфікатарская палітыка царскага ўраду, праца ў гэтым напрамку навукі, школы, цэрквы—усё гэта, разам узятае, у значай меры накладала свой адбітак у справе моўнае сьвядомасьці грамадзянства і наогул значна разьвівала прывычкі да русафільства.

Заўважым, што прывычкі маюць вялікую соцыяльную і культурную важнасьць. Усё чалавецкае абыходжаньне, пры кожнай комбінацыі акалічнасьцяй, у шырокіх межах залежаць ад прывычак. Гэта правільна ня толькі адносна звычайных спосабаў дзеяньня, але таксама і адносна звычайных прыёмаў думкі і пунктаў гледжаньня. Дзеяньні, ідэі і ўстановы кожнага грамадзянства зьўяляюцца выражэньнем асаблівых прывычак дзеяньня і прывычак думкі, намаўляемых асяродзьдзем. Тут мы маем толькі выяўленьне прынцыпа экономічнага дэтэрмінізму ў тэрмінах псыхолегіі.

„Прывычка,—як даводзіць Вільям Джэмс,—вялізны махавік грамадзянства, яго найбольш каштоўны консэрватыўны агент. Толькі яна трымае нас у межах падуладнасьці і ратуе дзяцей шчасьця ад зайздросных паўстаньняў беднаты. Толькі яна папераджае, каб найбольш цяжкія і агідныя профэсіі жыцьця ня былі пакінуты тымі, хто вырас і выхаваны дзеля іх выкананьня“.

Сіла прывычкі робіць безнадзейным усялякую натугу атрымаць у старыкоў—гэтых, па выразу другога псыхолёга Л. Джэмсона: „хадзячых пучкоў прывычак“—сымпатыі да ідэі аб новым складзе рэчаў. У пэрыод хуткіх рэволюцыйных зьмен *імсина ў моладзі,* а не ў старыкоў, мы павінны шукаць тую прыстасаванасьць да новых формаў жыцьця, якая ў такіх разох бывае патрэбна.

Тая апяшаласьць і нярухавасьць, якая пераважае сярод старыкоў у сучаснасьці, ёсьць буйная адзнака іх псыхікі і, у сваю чаргу, зьяўляецца непасрэдным вынікам прывычкі да культуры прошласьці.

Аб гэтым таксама выразна сьведчыць і практыка розных курсаў па вывучэньні беларускае мовы для супрацоўнікаў савецкіх устаноў. Мне ня раз зазначалі загадчыкі гэтых курсаў: „Запісалася на курсы шмат, але ходзіць вельмі мала—ня хочуць хадзіць і годзе“.

Адгэтуль зусім зразумелай зьяўляецца паступовая, але няўхільная політыка савецкае ўлады па правядзеньні беларусізацыі і ў прыватнасьці па вывучэньні беларускае мовы.

Толькі шляхам няўхільнага і прымусовага ўкараненьня псыхолёгіі і ідэолёгіі пролетарыяту на месцы псыхолёгіі і ідэолёгіі буржуазнае клясы магчыма дасягаць мэты.

Маючыяся ўжо вынікі ў гэтай справе падмацоўваюць памянёную думку.

Але, бясспрэчна, асяродак увагі пераносіцца і павінен пераносіцца на маладое пакаленьне, як пакаленьне больш-менш здаровае ў сэнсе русафільства, пазбаўленае ад атавізмаў прошласьці.

Толькі яно здолее закончыць справу, пачатую лепшымі старыкамі, і адбудуе культуру пролетарскую па зьместу і нацыянальную па форме.

Толькі яно шляхам працы і барацьбы здолее закончыць ажыцьцяўленьне зайздросных ідэалаў соцыялізму.

Дзеля гэтага неабходна даваць падрастаючаму пакаленьню здаровае выхаваньне, выхаваньне, пазбаўленае ад усялякай шовіністычнай нацягнутасьці. У прыватнасьці, дзеля разьвіцьця об'ектыўнага пункту гледжаньня на мовы іншых нацый неабходна падводзіць яго бліжэй і глыбей да об'ектыўнае, моваэнаўчае навукі.

Няхай яны атрымаюць і элемэнтарныя веды, але гэтыя веды павінны быць сапраўдна навуковыя.

Толькі такім шляхам магчыма будзе іх навучыць паважаць сваю мову і не зьневажаць у той-жа час мовы чужыя.

Старая школа, як бачылі, так не рабіла, але так рабіць вымагае сучаснае жыцьцё.

## V

З рэволюцыяй, з савецкім жыцьцём узгадавалася надзвычайная патрэба ў кульце мовы.

Грамадзкая праца стала ў нас абавязковым грамадзкім патрабаваньнем.

Паўсюды сходы, розныя выступленьні, часопісі, вусныя і насьценныя газэты; паўсюды жывая творчая праца па будаўніцтве культуры і ажыцьцяўленьні лёзунгу комуністычнае партыі: „Тварам да вёскі“.

У сувязі з гэтым, як ні глядзець на пытаньне аб беларускай мове, але яе вывучэньне і ўжываньне—неадкладная задача.

Неабходна толькі памятаваць тое, што ня памяталі раней. Мы яшчэ дагэтуль прывыклі зьневажаць слоўную вокладку, адносіцца да яе, як да прыгожага, але бескарыснага дадатку; для нас думка ёсьць нейкая субстанцыя, што вітае дзесьці пад вадой; аб тым, што думка ажыцьцяўляецца ў слове, мы ня думалі.

Зразумела, прычына падобных поглядаў хаваецца ў прынцыпах старога „традыцыйнага" і „тэндэнцыйнага" мовазнаўства.

Гэтыя прынцыпы выасабнялі мову ад сьвядомасьці, прымушалі разглядаць літаратурную мову, як парніковую расьліну, як нейкае адхіленьне, што мае самастойную каштоўнасьць.

У выніку такіх поглядаў, мы, напрыклад, з боку расійскай літаратурнай мовы перш за ўсё назіраем значную адарванасьць яе ад жывой народнай мовы.

Нездарма адзін партыйны дзеяч [1]) даводзіць: „Начинающие пролетарскіе поэты должны держаться рабочего языка, не соблазняться кажущимся богатством оттенков так называемого литературного языка. В этом последнем чересчур много „богатства"—изысканности, манерности и лжи".

Другі дзеяч [2]) амаль тое самае гаворыць адносна вёскі: „Дайте нам язык, на котором-бы мы могли говорить с деревней. Мы ей непонятны. Язык научной мысли ей чужд, газета доступна только развитым. Создайте простую, деловую речь".

Зразумела, стварыць такую літаратурную мову, якая-б цалкам саўпадала з жывой народнай мовай, проста немагчыма з прычыны таго, што першая мае пэўныя нормы агульна-абавязковыя для ўсёй нацыі, а мова жывая, народная іх ня мае, надзвычайна цякуча ў сэнсе зьменнасьці сваіх фактаў. Дзякуючы гэтаму, у кожнай мясцовасьці магчыма вынайсьці шмат такіх фактаў, якія ў літаратурнай мове не сустракаюцца з прычыны іх малой пашыранасьці.

Але магчымае набліжэньне апошняй да жывой народнай мовы ёсьць асноўная мэта яе культуры.

Адгэтуль зусім зразумелай зьяўляецца неабходнасьць дапамогі з боку ўсяго грамадзянства ў той працы, якая ў сучасны момант праводзіцца Інстытутам Беларускае Культуры па дасьледваньні жывой народнай мовы і ўкладаньні яе слоўніка, як першакрыніцы для норм мовы літаратурнай.

Праўда, апошняя ўжо мае пад сабой сталы грунт у сэнсе сваёй народнасьці.

Ня так даўно беларускае грамадзянства сьвяткавала дваццацігодзьдзе беларускага пэрыодычнага друку.

---

[1]) В. Дубровской. „О пролетарской литературе".

[2]) А. М. Смирнов-Кутачевский. „Современные задачи родного языка в школе".

Першая беларуская газэта „Наша Доля“ пісала аб нашай няволі і была зразумелай для рабочых і сялян.

Сучасная газэта „Савецкая Беларусь“ мае лепшы лёс, яна піша аб нашай волі, піша пераважна аб тым, за што была зачынена „Наша Доля“.

Ад першай да апошняй адлегласьць невялікая, але праца ў сэнсе разьвіцьця літаратурнай мовы, яе народнасьці, ня гледзячы на розныя перашкоды, зроблена за гэты час досыць значная.

Зразумела, было-б ляпей, каб гэтых перашкод зусім ня было.

Каштоўны камень ня згубіць сваёй вартасьці нават і ў кучы сьмецьця, але ён каштоўней, калі блішчыць і мігаціцца, як брыльлянт.

Тыя спрэчкі з-за беларускай мовы, якія яшчэ маюць месца і ў сучасны момант, зразумела, ні ў якім разе ня могуць спыніць яе далейшага жыцьця і разьвіцьця. Аднак, было-б ляпей, каб, замест іх, ішла шырокая, ажыўленая праца над разьвіцьцём і вывучэньнем беларускай мовы, як арудзьдзем творчай думкі і людзкіх зносін, як сродкам падходу да рабоча-сялянскіх мас.

На такім шляху стаіць лепшая частка беларускай працоўнай інтэлігенцыі, але гэта ёсьць абавязак кожнага беларускага грамадзяніна.

# НЕКАТОРЫЯ ПЫТАНЬНІ АЖЫЎЛЕНЬНЯ САВЕТАЎ

**М. Кэнаплін**

„... Савецкая ўлада дазваляе працоўным клясам, г. зн. пераважнай большасьці насельніцтва, зьдзяйсьняць карыстаньне дэмакратычнымі правамі і свабодамі, якое магчымасьці яшчэ ніколі ня было, хоць-бы ў прыблізнай ступені, у лепшых дэмакратычных буржуазных рэспубліках"...

(*Ленін. Збор твораў, т. XVI, стар. 43-44*)

## Сэнс палітыкі ажыўленьня саветаў

I

Пытаньні ажыўленьня саветаў, іх перавыбары, пытаньні ўзмацненьня актыўнасьці і самадзейнасьці працоўных мас і ўцягваньня іх у будаўніцтва савецкае дзяржавы ў апошні час займаюць асабліва важнае месца ў палітыцы партыі і савецкай улады. Савецкая грамадзкасьць вельмі ўважна сочыць за пашырэньнем гэтых вельмі складаных пытаньняў і вельмі чула рэагуе на ўсякую шурпатасьць ці самую малую недакладнасьць, дапушчаную савецкаю дзяржаваю ў процэсе ажыцьцяўленьня задач, што стаяць перад ёю.

Дзе-ж прычына такое вялікае зацікаўленасьці і ўважлівасьці да названых пытаньняў? Чаму яны чырвонаю ніткаю пранізваюць увесь організм нашае пролетарскае дзяржавы?

Яшчэ ў маі месяцы 1925 г. III Зьезд Саветаў Саюзу ССР у пастанове сваёй па пытаньнях савецкага будаўніцтва падкрэсьліў значны гаспадарчы ўздым апошніх гадоў, зацьвярджэньне рэволюцыйнай законнасьці і значны палітычны ўздым у шырокіх рабочых і сялянскіх масах. Гэтыя бясспрэчныя факты нашага сур'ёзнага росту справядліва зьвярнулі на сябе ўвагу і ў першую чаргу высоўваюць патрэбнасьць узмацненьня гаспадарча-культурнай працы саветаў і патрабуюць адпаведных новым умовам мэтодаў кіраўніцтва і адміністрацыйнага кіраваньня краінаю.

*„Гэта задача*,—гаворыцца ў тэй-жа пастанове,—*зьяўляецца ў цяперашні час важнейшай, і саветы, як органы ўлады, павінны стаць сапраўды на чале гаспадарчага і культурнага будаўніцтва савецкай рэспублікі і кіраваць ім надобна таму, як у свой час, у гады інтэрвэнцыі і грамадзянскай вайны, уся ўвага саветаў групавалася на справе ваеннай абароны савецкай дзяржавы"* *).

*) Я. Яковлев. „Практические вопросы работы советов". Гиз. 1925 г., стар. 137. Курсыў мой *М. К.*

Аднак, гэту важнейшую работу саветы змогуць правесьці толькі тады, калі самі працоўныя будуць прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх пытаньнях савецкага будаўніцтва, калі працоўныя масы самі распачнуць сапраўдную барацьбу са ўсімі адмоўнымі бакамі нашага дзяржаўнага апарату, у якім да гэтага часу яшчэ ў значнай ступені захаваліся рэшткі старой дарэволюцыйнай бюрократычнай сыстэмы кіраваньня. Тут-жа трэба падкрэсьліць, што гэта шырокае разьвіцьцё самадзейнасьці працоўных, што барацьба з рознага роду бюрократычнымі скажэньнямі нашага савецкага апарату магчымы толькі тады, калі ўсё гэта будзе праводзіцца пад сапраўдным пролетарскім кіраўніцтвам. Толькіналічча апошняе ўмовы дае поўную гарантыю зьдзяйсьненьня, пашырэньня і паглыбленьня працы, гарантыю ня толькі ажыўленьня, але і захаваньня савецкай улады наогул.

Названы Зьезд Саветаў падкрэсьліў, паміж іншым, што саветы, асабліва нізавыя савецкія ячэйкі, павінны абярнуцца „ў сапраўды колектыўна працуючыя органы“. Але для гэтага патрэбна мець і адпаведную організацыю гэтых саветаў і зьмену мэтодаў іх работы, якія адпавядалі-б новым задачам, што стаяць перад саветамі.

У эпоху грамадзянскай вайны ўсё зводзілася да таго, каб пракарміць армію, зьнішчыць ворага, захаваць жыцьцё рабочае клясы, выратаваць яе ад голаду. Гэтыя задачы пролетарскае дзяржавы надалі саветам таго часу і асаблівы характар эпохі. Вось як тав. Яковлев коратка характарызуе дзейнасьць саветаў паказанага пэрыоду: „...У значнай ступені ў вёсцы ўсё зводзілася да таго, каб адшукаць схаваны кулакамі хлеб, дэзэртыра, што ўцёк з арміі, схаванага контр-рэволюцыянэра. Гарадзкія саветы абарачаліся ў органы ўсё новай мобілізацыі сіл для фронту... У вёсцы, у прыватнасьці, непасрэднае камандваньне—загад таго ці іншага комуністага, ці комсамольца, ці чырвонаармейца—іншы раз замяняла работу сельскага ці валаснога савету“ *).

Аднак, перайсьці адразу да новых мэтодаў работы было нялёгка. Засталося ў рабоце саветаў ня мала перажыткаў „вайсковага комунізму“. Камандваньне, прызначэнства, адміністрацыйны націск, абавязковыя сьпісы ў часе выбараў і г. п.—вось некаторыя характэрныя зьявы, якія сталі перашкодай на шляху ажыўленьня саветаў і ажыцьцяўленьня сапраўды шырокай савецкай дэмократыі. Зьезд рашуча падкрэсьліў недахопы працы саветаў і вызначыў шляхі палепшаньня іх працы.

У чым-жа, аднак, месьціцца сапраўдны сэнс політыкі ажыўленьня саветаў?

Перш-на-перш у тым, каб „выпрацаваць такія формы саюзу з сялянствам, якія адпавядалі-б новай, зараз дасягнутай намі ступені гаспадарчага і політычнага ўздыму. Гэтыя формы павінны... забясьпечыць усё большае ўцягваньне сялянскай масы ў наша савецкае і гаспадарчае будаў-

*) Я. Яковлев. Цыт. твор., стар. 28.

ніцтва і... скарыстаць актыўнасьць і самадзейнасьць мільёнаў, каб рушыць нашу краіну да соцыялізму“ [1]).

Няма ніякага сумненьня ў тым, што гэта значыць, наперад за ўсё, *сталае заваяваньне на старану пролетарыяту асноўнай масы сялянства, у тым ліку і серадняка*. Папярэднія мэтоды кіраўніцтва прывялі да таго, што ў цэлым радзе раёнаў нашага Саюзу серадняк адарваўся ад савецкай улады, падпаў пад уплыў кулакоў і стаў адкрыта на старану апошніх супроць бедняка, г. ё. супроць нашае апоры ў вёсцы. Гэта-ж значыць і паступовае адмаўленьне ад прызнаньня кіраўніцтва з боку рабочае клясы.

Такая пагроза „вышэйшаму прынцыпу дыктатуры пролетарыяту — саюзу рабочых і сялян“ (Ленін) не магла ня выклікаць адпаведнага перагляду мэтодаў кіраўніцтва сялянствам. Гэты перагляд самым грунтоўным чынам страсянуў старыя прыёмы працы і прымусіў адмовіцца ад старое практыкі ажыцьцяўленьня кіраўніцтва, якую тав. Сталін назваў „шкоднай і навылет прагніўшай практыкай“. Старыя мэтоды работы ў вёсцы ў новых умовах разьвіцьця савецкае дзяржавы былі прызнаны зьявою, „якая тармозіць справу змычкі і перашкаджае працы партыі, каб аб'яднаць сялянства наўкола пролетарыяту“ [2]).

Тав. Ленін не адзін раз паказваў на тое, што рабочая дзяржава, дзе пераважнае сялянства, можа існаваць і замацоўвацца толькі ў тым выпадку, калі яна, захоўваючы кіраўніцтва пролетарыяту, будзе знаходзіцца ў самым цесным саюзе з сялянствам. Моцны рабоча-сялянскі блёк, пры абавязковым захаваньні кіраваньня за рабочаю клясаю, зьяўляецца самаю вернаю гарантыяй зьдзяйсьненьня савецкай улады і магчымасьці соцыялістычнага будаўніцтва.

Буржуазія гэта надта добра ўлічае і стараецца скарыстаць той ці іншы недахоп савецкай палітыкі, накіроўваючы ўсе свае стрэлы проці зьдзяйсьненьня пролетарыятам гэтага клясавага саюзу. Яна таксама разумее, што „...толькі згода з сялянствам можа выратаваць соцыялістычную рэволюцыю Расіі, пакуль не надышла рэволюцыя ў другіх краінах“ [3]).

Нашыя ворагі таксама разумеюць, што непасрэдны ўдзел шырокіх працоўных мас, у тым ліку і асноўнай масы сялянства, у савецкім будаўніцтве, значыць умацаваньне саюзу рабочых і сялян, уход з-пад ўсякага буржуазнага ўплыву, умацаваньне дыктатуры пролетарыяту. Вось чаму яны стараюцца скарыстаць і гаспадарчую, і палітычную актыўнасьць вёскі, якая ўсё больш і больш пераходзіць на новы шлях разьвіцьця сялянскае гаспадаркі.

Але гэты пераход можа спраўдзіцца толькі тады, калі — пры „ўзрастаючым экономічным кіраўніцтве з боку соцыялістычнай дзярж-

[1]) „Большевик“ № 13-14, 1925 г., стар. 3.

[2]) Сталін. Основы Ленінізма. 1925 г., стар. 301.

[3]) Ленін. Збор твораў. т. XVIII, ч. 1, стар. 127.

прамысловасьці, дзяржаўных пазычковых установ і другіх камандуючых вышынь, якія маюцца ў руках пролетарыяту,—уцягнуць у коопэрацыйную організацыю асноўную масу сялянства і забясьпечыць гэтай організацыі соцыялістычнае разьвіцьцё, скарыстоўваючы, перамагаючы і выціскаючы капіталістычныя яе элемэнты"[1]).

Гэта значыць, што савецкая дзяржава зацікаўлена ня толькі ў палепшаньні сельскае гаспадаркі, але таксама і ў тым, каб гэта пастаяннае палепшаньне ішло ў жаданым напрамку, які набліжае нас да соцыялізму. Гэта значыць таксама, што з боку рабочае клясы патрэбна цьвёрдае і правільнае кіраўніцтва, каб палітычная актыўнасьць бядняцка-серадняцкай масы сялянства „вылілася ў форму савецкую, каб яна ішла цераз саветы, а ня міма саветаў..., каб гэтая (гаспадарчая. М. К.) актыўнасьць выlівалася ў форму коопэрацыі, каб яна ішла цераз коопэрацыю, а ня міма коопэрацыі"[2]). Гэта адна з важнейшых задач політыкі ажыўленьня саветаў.

Толькі пры ўмове захаваньня ў асноўным кіраўніцтва за сабою, рабочая кляса, у краіне з пераважнасьцю сялянскага насяленьня, можа замацаваць, пашырыць і паглыбіць саюз з сялянствам, можа пашырыць свой уплыў, умела прыцягваючы асноўныя масы сялянства ў справу будаўніцтва соцыялізму. У праціўным выпадку палітычная актыўнасьць нашага саюзьніка, якая расьце з агульным уздымам нашае гаспадаркі наогул, пайшла-б па рэчышчы супроць савецкім, па рэчышчы, якое вядзе да контр-рэволюцыі. Што гэта сапраўды так, што варожыя нам сілы зорка сочаць за ўсім, што адбываецца, што яны ня толькі стаяць на варце, але і актыўна дзейнічаюць, паказалі папярэднія выбары саветаў 1926 г.

## II

У рэзолюцыі XIV зьезду ЎКП(б) па справаздачы ЦК дана адпаведная характарыстыка сучаснае клясавае барацьбы ў Савецкім Саюзе. Вось што там гаворыцца адносна гэтага: „Аднэй з асноўных форм клясавай барацьбы ў сучасную пору зьяўляецца барацьба паміж капіталістычнымі і соцыялістычнымі элемэнтамі гаспадаркі, барацьба паміж буржуазіяй і пролетарыятам за аўладаньне асноўнай масай сялянства. Гэта барацьба політычна выяўляецца, галоўным чынам, у спробах кулацкіх элемэнтаў вёскі аўладаць серадняцкімі коламі і падпарадкаваць, такім чынам, саветы свайму ўплыву"[3]).

Стала быць, барацьба за ўплыў у саветах, барацьба за серадняка, а таксама і бедняка—бліжэйшая політычная задача буржуазіі, якую яна (буржуазія) намагаецца зьдзейсьніць у вёсцы. Асабліва гэтыя імкненьні выказаліся ў часе перавыбараў саветаў 1926 годзе. Буржуазія разумее

[1]) Рэзолюцыі і пастановы XIV Зьезду ЎКП(б). Гиз., 1926 г., стар. 20.
[2]) Сталін. Вопросы ленинизма, стар. 238.
[3]) Рэзолюцыі і пастановы XIV зьезду ЎКП(б) Гиз., 1926 г., стар. 18-19.

значэньне саветаў. Яна бачыць, як саветы выхоўваюць масы,—выхоўваюць-жа яны масы таму, што цераз іх шматмільённая армія працоўных вучыцца кіраваць дзяржаваю. А набыўшы ў саветах вопыт практычнага савецкага будаўніцтва, научыўшыся скарыстоўваць гэты вопыт для будаўніцтва соцыялізму, працоўныя масы сваёй актыўнасьцю імкнуцца яшчэ больш ажывіць свае саветы, прыцягваючы ў іх усё большы і большы лік удзельнікаў, разьвіваючы ўсё большую самадзейнасьць.

Ленін няўтомна падкрэсьліваў ролю і значэньне ўцягненьня працоўных у саветы і да кіраваньня краінаю. На Ўсерасійскім зьезьдзе прадстаўнікоў вайсковага флёту ў 1917 г. Ільліч, кажучы аб удзеле мас, адзначае, што, дзякуючы саветам, у Расіі ўдалося народу высунуць і даць апору сапраўднаму народнаму будаўніцтву. Прыгнечаныя масы павінны былі ўпяршыню ажыцьцявіць вельмі трудную задачу—самым будаваць дзяржаву. Але баяцца гэтага ня трэба, трэба толькі верыць у свае ўласныя сілы, „трэба, каб усё, што прачнулася ў народзе і здольна да творчасьці, улівалася ў організацыі, якія маюцца і будуць будавацца ў далейшым працоўнымі масамі... Масы паверылі ў свае сілы і, не сароменючыся цкаваньня з боку буржуазіі, пачалі прыступаць да самастойнай працы па кіраўніцтву дзяржавай“... [1]).

У 1919 годзе, у прамове на пасяджэньні ЎВЦК, Маскоўскага савету і заводзкіх камітэтаў з прычыны 2-леццяя Кастрычнікавай рэволюцыі, адзначаючы дасягненьні савецкай улады, Ільліч спыніўся, паміж іншым, на 2-ух уроках Кастрычніка:

Першы з іх „...гэта—той урок, што толькі ўдзел рабочых у агульным кіраваньне краінай даў магчымасьць устаяць у такіх непамерных цяжкасьцях, і, толькі па гэтым шляху ідучы, мы даб'емся перамогі.

Другі ўрок—правільныя адносіны да вялізарнай масы шматмільённага сялянства,—толькі яны дазволілі нам з посьпехам пры ўсіх цяжкасьцях жыць і толькі яны паказваюць шлях, ідучы па якім мы пераходзім ад посьпеха к посьпеху“ [2]).

У дакладзе аб гадавіне пролетарскай рэволюцыі на VI Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў Ленін тлумачыць сьвядомасьць працоўных мас ня тым, што яны прачыталі кніжку ці брошуру, а тым, што яны ўласнымі сваімі рукамі твораць аснову соцыялізму.

Разьвіцьцё соцыялістычнай рэволюцыі паказала, што саветы ўяўляюць з сябе ня толькі „новы, непамерна больш высокі, непараўнана больш дэмократычны тып дзяржаўнага апарату“ (Ленін) а,ле і тое, што гэтыя саветы сконцэнтравалі ў сабе ўсю анэргію і волю да перамогі ва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця.

Сказанага зусім досыць для таго, каб зразумець, як павінны глядзець на гэта значэньне саветаў нашы клясавыя ворагі. Кожную самую

[1]) Ленін. Збор твораў, т. XV, стар. 38.

[2]) Там-жа.

малую магчымасьць яны скарыстоўваюць для таго, каб тым ці іншым спосабам увагнаць клін у нашы саветы і тым самым унесьці хоць часовае замяшаньне ў шэрагі працоўных, разладзіць саюз рабочых і сялян.

Як паказалі перавыбары саветаў 1926 г., падобнага роду спробы выявіліся, у асабалівасьці, у вёсцы.

Усякая кампанія перавыбараў саветаў зьяўляецца кампаніяй першараднай політычнай важнасьці. Штогод працоўныя масы ў часе гэтага адказьнейшага акту нашай савецкай дзяржаўнасьці выяўляюць свае адносіны і настрой да савецкай улады, да кіруючай політычнай партыі.

Гэта сур'ёзьнейшая праверка ўсёй савецкай сыстэмы, гэта—вярнейшы баромэтр дыктатуры пролетарыяту. Нашы выбары адчыняюць шырокую магчымасьць да непасрэднага ўдзелу працоўных мас у кіраваньні краінаю, даюць магчымасьць гэтым масам непасрэдна ажыцьцяўляць свой клясавы інтарэс, будаваць сваю дзяржаву. У нас прымаць удзел у выбарах, значыць ня проста права абраць або быць абраным, але гэта права абарачаецца ў асноўную соцыяльную функцыю кожнага працоўнага. З кожным годам гэты ўдзел павялічваецца, выяўляецца ўсё большая актыўнасьць, набывае ўсё больш актуальнае значэньне.

Кампанія перавыбараў 1926 г. паказала, што да яе рыхтаваліся ня толькі бядняцка-серадняцкія сялянскія масы, але і кулак і їх спадручнікі. Гэта кампанія можа быць без перабольшаньня ахарактарызавана, як заядлая барацьба за цэнтральную фігуру нашага земляробства—серадняка. За кошт актыўнасьці, галоўным чынам, серадняка трэба аднесьці павялічэньне ліку абіральнікаў, якія зьявіліся на выбарчыя сходы, дзелавое абмеркаваньне працы саветаў і выканкомаў, дзелавыя наказы новым саветам і г. д.

Гэта сьцьвярджае і рэзолюцыя па справаздачы тав. Молотова „Аб выніках перавыбараў саветаў“, ухваленая 20 ліпня 1926 г. на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УКП(б).

„У вёсцы,—гаворыцца ў рэзолюцыі,—на аснове ўздыму актыўнасьці асноўнай масы сялянства, асабліва сераднякоў, і ўмацаваньня давер'я да партыі, складаюцца больш спрыяючыя ўмовы для стварэньня бядняцка-серадняцкага блёку проці кулацтва, і якія ў сувязі з гэтым маюць посьпехі ў справе ўтварэньня беспартыйнага сялянскага актыву навакол партыі і саветаў“...

Якім-жа чынам вяло сябе кулацтва? Як адзначана на тым-жа пленуме, яно выступала часта вельмі актыўна, але, дзякуючы таму, што серадняцкая частка ў ходзе перавыбараў далучылася ў значнай ступені да беднаты, „кулацтва вымушана было ў большасьці выпадкаў адмовіцца ад адкрытай абароны сваіх клясавых інтарэсаў і супроць савецкай політыкі і карысталася фальшывай заслонай кулацкіх жаданьняў, бароначы

быццам „інтарэсы беднаты“, „рэволюцыйную законнасьць“ і г. д. [1]). Аднак, як бядняцкая, так і, галоўным чынам, батрацкая частка вёскі выяўляла ўсё яшчэ невыстарчаючую актыўнасьць. Праўда, у асобных выпадках, беднякі выявілі вельмі вялікую актыўнасьць і організаваныя выступленьні.

Якія асаблівасьці гэтае кампаніі маюць месца і як характарызуецца клясавая барацьба ў часе перавыбараў 1926 г. ў беларускай вёсцы?

Перш-на-перш трэба спыніцца на актыўнасьці насельніцтва. Паводле даных, якія прыводзіў т. Чарвякоў у сваёй справаздачы на паседжаньні прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР 4-га чэрвеня 1926 г., наглядаецца значная актыўнасьць насельніцтва ў перавыбарах, якая выказалася ў 48 проц. Па асобных акругах гэты процант павялічваўся. Так, напр., у Мазырскай акрузе ўдзел абіральнікаў дасягаў—54 проц., Барысаўскай—52 проц., Калінінскай—55 проц., Полацкай—55 проц. Па асобных выбарных вучастках на сходы зьяўляліся да 80 проц.

Далей, на што прыходзіцца зьвярнуць увагу, гэта тое, што бядняк і серадняк у пераважнай большасьці выпадкаў выступалі супольна супроць заможных і кулакоў, упарта і актыўна баронячы сваіх кандыдатаў у савет. Зрэдку наглядаліся моманты, калі серадняк часткова йшоў за кулаком, як, напрыклад (у вадным выбарчым пункце Сураскага раёну, Віцебскай акругі), адзін серадняк выступаў супроць беднякоў, кажучы, што беднякоў ня трэба абіраць у саветы, і што савецкая ўлада трымаецца толькі на серадняках і кулаках. У другім выбарчым пункце Гайнаўскага сельсавету (Новая-Гайна), Лагойскага раёну, Менскай акругі серадняні організаваліся з багатымі хутаранамі і праваліді кандыдатуры беднякоў у сельсавет [2]).

У чым-жа выявілася групавая барацьба розных соцыяльных пластоў сялянства ў сэнсе заваяваньня саветаў?

Як адзначаецца далей у дакладзе тав. Чарвякова, асабліва ярка гэта барацьба выказалася, перад усім, пры ацэнцы дзейнасьці органаў, што рабілі справаздачы на сходах. Сваю актыўнасьць тут кулакі выявілі тым, што па справаздачы ўносілі прапановы, якія ганьбілі дзейнасьць сельсавету альбо райвыканкому, супроць чаго звычайна выступалі беднята і серадняні, выказваючы ў рэзолюцыях задаваленьне. Потым актыўнасьць кулакоў выявілася яшчэ і пры абраньні прэзыдыуму і пры абраньні асоб, якія падлічвалі галасы, а таксама калі другі раз падлічваліся галасы. Мелі месца, паміж іншым, і выпадкі, калі асобныя групы пакідалі сход, ня маючы сілы правесьці свайго прадстаўніка.

Ня менш актыўнымі былі і служкі рэлігійных культаў. Прычым, гэта група часта займалася організацыяй кулацтва, якое, потым, на сходах падтрымлівала кандыдатуры прадстаўнікоў рэлігійнага культу. Але ў выніку, за выключэньнем нялічных выпадкаў, гэтыя спробы, пры нема-

[1]) В. М. Молотов. Итоги перевыборов Советов 1925-1926 г., стар. 50-51.

[2]) „Полымя“ № 5 1926 г., стар. 52-53.

лой актыўнасьці кулакоў, ніякага посьпеху ня мелі. Само сялянства зразумела, куды гне кулак, і дружна дало яму адпор у яго спробе заваяваць уплыў і ўнесьці расклад у працу саветаў.

У выніку гэтай барацьбы бядняцка-серадняцкія сялянскія масы яшчэ больш згуртаваліся, і надалей трэба гэтую акалічнасьць улічыць, зьвярнуўшы належную ўвагу на практычную працу нанова абраных саветаў. Патрэбна дамагчыся таго, каб у саветах шырака адбівалася актыўнасьць працоўных мас вёскі, каб гэтыя саветы „на базе моцнага раённага бюджэту і на аснове разьвіцьця ў іх самадзейнасьці бядняцка-серадняцкіх мас“*), пастаянна ўзмацняліся-б і падымалі-б свой аўторытэт. У гэтым таксама месьціцца адна з важнейшых задач ажыўленьня саветаў.

III

„Ня гледзячы на некаторыя дасягненьні ў справе організацыі дзяржапарату, усё яшчэ ня зжытым злом яго зьяўляецца бюрократызм, бяздушныя адносіны да справы, валакіта і г. д.“ Так заяўляе XIV Зьезд УКП(б) аб буйнейшай і самай горшай скуле нашага дзяржапарату. Партыя паставіла пытаньне аб барацьбе з бюрократызмам, аб палепшаньні працы нашага дзяржапарату, аб набліжэньні яго да працоўных мас, аб падняцьці яго на належную вышыню. Зусім ясна, што адарванасьць дзяржапарату ад мас і іншыя „бюрократычныя скажэньні“ яго зьяўляюцца вынікам нашага экономічнага і культурнага заняпаду, але, з другога боку, як адзначае тав. Молотов у сваім дакладзе на ліпеньскім пленуме, усе гэтыя скажэньні зьяўляюцца таксама вынікам невыстарчаючага ўдзелу рабочых у дзяржапараце і невыстарчаючага ўплыву на яго партыі. Стала быць, прыцягваючы да дзяржаўнай працы сапраўдныя працоўныя масы і паглыбляючы актыўнасьць і організаванасьць больш заняпалых слаёў рабочае клясы і сялянскай беднаты, можна будзе дасягнуць рэальных вынікаў па барацьбе з бюрократызмам, можна будзе зрабіць дзяржаўны апарат сапраўднаю сілаю, якая дапамагае ў справе разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва.

І тут, як і раней, патрэбна падкрэсьліць, што адзінай і нязьменнай асновай нашага савецкага дзяржаўнага апарату павінны заставацца пролетары і бяднейшыя сяляне-поўпролетары. Гэта павінна быць ясна ўсьвядомлена ўсімі, гэта зьяўляецца асноўным патрабаваньнем захаваньня і ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту. Але гэта адсюль ня значыць, што да працы саветаў, да працы па іх ажыўленьню, не павінны быць прыцягнуты шырокія беспартыйныя сялянскія, у тым ліку і серадняцкія, масы. Гэта акалічнасьць таксама павінна быць улічана і грунтоўна ўсьвядомлена.

Ленін не адзін раз навучаў нас, як дабіцца палепшаньня савецкага апарату, і заўсёды прапанаваў шукаць ратунку ад бюрократызму раней

*) Рэзолюцыі і пастановы XIV Зьезду Саветаў. Гиз, стар. 39.

за ўсё ў ініцыятыве, самадзейнасьці і творчасьці саміх працоўных мас: „Ажыўляць саветы, прыцягваць беспартыйных, правяраць беспартыйнымі працу партыйных—вось абсолютна верна, вось дзе працы процьма, *непачаты вугал працы*“[1]).

„Ня бойцеся ініцыятывы і самадзейнасьці мас, даверцеся рэволюцыйным організацыям мас—і вы ўбачыце ва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця такую-ж сілу, веліч, непераможнасьць рабочых і сялян, якую выявілі яны ў сваім аб'яднаньні і парыве супроць карнілаўшчыны. Нявера ў масы, боязнь іх пачыну, боязнь іх самадзейнасьці, палахлівасьць перад іх рэволюцыйнай энэргіяй, замест усебакова адданага падтрыманьня яе,—вось чым грашылі больш усяго эсэраўскія і меншавіцкія правадыры“[2]).

Якая вера і сіла пераконанасьці ў значэньні пачыну і ініцыятывы працоўных мас!

Яшчэ ў верасьні 1917 г. ў брошуры „Удержат-ли большевики государственную власть“ Ленін кажа аб „цудоўным сродку“, які дае магчымасьць адным ударам у дзесяць раз павялічыць сілу савецкага дзяржаўнага апарату. І гэты сродак—прыцягненьне працоўных да штодзённай працы для кіраваньня дзяржаваю. Гэтае-ж прыцягненьне дае магчымасьць пацісьнуць бюрократыю. І ня толькі пацісьнуць.

У сваёй прамове на Маскоўскай губпарткомфэрэнцыі ў 1921 г. Ленін бачыць ва ўцягненьні рабочых і сялян у дзяржаўнае будаўніцтва адзіны спосаб зьнішчэньня бюрократызму. І партыя гэты завет вялікага правадыра і настаўніка выканала і ні на йоту не адступала ад дадзеных ім наказаў. Цяпер партыя зноў ва ўсёй шырыні ставіць гэтыя пытаньні і зноў зварачаецца да пачыну, да рэволюцыйнай энэргіі працоўных мас, у імя пашырэньня і замацаваньня базы пролетарскай дыктатуры. Апошнія перавыбары паказалі, што лінія, узятая партыяй і савецкаю ўладаю, правільная, і што цераз політыку ажыўленьня саветаў працоўныя масы маюць сапраўдную магчымасьць ажыцьцяўляць барацьбу з бюрократызмам, прымаючы ўсё больш актыўны ўдзел у непасрэдным кіраваньні дзяржаваю.

Такім чынам, адным з грунтоўных вынікаў політыкі ажыўленьня саветаў павінна зьявіцца выкараненьне недахватаў нашага савецкага дзяржаўнага апарату, шляхам уцягненьня ў кіраваньне дзяржаваю шырокіх колаў рабочых і сялян. Каб дасягнуць гэтае мэты, яшчэ з часоў III Зьезду Саветаў Саюзу ССР прыняты шэраг конкрэтных мерапрыемстваў.

Вось больш важныя з іх: 1) перагляд і ўдасканаленьне компэтэнцыі мясцовых саветаў з мэтаю зьнішчэньня валакіты, якая выплывае з неправамоцнасьці мясцовых органаў улады вырашаць пытаньні мясцовага значэньня; 2) прыняцьце шэрагу мерапрыемстваў для замацаваньня

[1]) Ленін. Збор твор. т. XVIII, ч. I, стар. 341.

[2]) Ленін. Збор твор. т. XVIII, ч. II, стар. 106.

гаспадарча-фінансавай асновы мясцовых саветаў шляхам больш дакладнага разьмежаваньня маемасных і грашовых праў паміж мясцамі і цэнтрам у бок пашырэньня і наданьня мясцовым саветам больш шырокіх праў па гэтых пытаньнях; 3) увядзеньне ў норму рэгулярных справаздач з боку членаў саветаў перад абіральнікамі з шырокім абгаворваньнем гэтых справаздач апошнімі, прычым кожны член саветаў павінен лічыць рэгулярную справаздачнасьць сваім важнейшым абавязкам перад сваімі абіральнікамі і павінен мець такую цесную сувязь, якая забясьпечвала-б поўнае азнаямленьне рабоча-сялянскіх мас як са ўсёй работай саветаў, так і са спосабамі ўдзелу іх у справе выпраўленьня тых ці іншых недахватаў у працы саветаў; 4) шырокае ажыцьцяўленьне права крытыкі працы саветаў і працы любога органу савецкай улады; 5) шырока разгарнуць працу камісій і сэкцый саветаў для папярэдняй прапрацоўкі тых ці іншых пытаньняў; 6) устанаўленьне больш жывое сувязі саветаў з організацыямі савецкай грамадзкасьці; 7) прызнаць канечна патрэбным стварэньне больш спрыяючых умоў у працы выбарных сялянак, узмацнійшы кіраўніцтва іх працай і падрыхтоўку з іх актыўных працаўнікоў саветаў; 8) уважлівае задаваленьне запытаў і патрэбнасьцяй рабочага і селяніна, работніцы і сялянкі, выкараненьне зьняважлівых адносін служачых урадовых асоб да прасіцеля, барацьба з імкненьнем адпісацца ад запытаў і патрабаваньняў, замест сапраўднага разбору справы па існасьці; 9) выкараненьне маруднай і тэхнічна нерацыянальнай пастаноўкі працы савецкіх установ, у тым ліку і нізавых, якая стварае валакіту, раздражняе насельніцтва і г. д.

Але ці можа партыя і савецкая ўлада, без падтрыманьня з боку шырокіх працоўных мас, ажыцьцявіць пастаўленыя задачы? Зразумела, не. Тут авангард рабочае клясы павінен утварыць, разам з усімі працоўнымі, моцны кулак і разгорнутым фронтам рушыцца ў паход супроць усяго, што перашкаджае ўстанаўленьню самага цеснага саюзу рабочых і сялян. А бюрократызм зьяўляецца адным з самых небясьпечных ворагаў у справе ўстанаўленьня гэтага саюзу.

## Новы закон аб выбарах у саветы

### I

Кажучы аб ажыўленьні саветаў, нельга ня спыніцца на новым законе аб перавыбарах у саветы. Новая інструкцыя ЦВК БССР ад 13-IX—1926 г. аб выбарах значна ўдасканальвае, дэталізуе асобныя палажэньні, уносіць яснасьць у практыку савецкіх выбараў. Новая інструкцыя выключыла ўсе моманты з гэтае практыкі, якія могуць выклікаць тое ці іншае сумненьне, недагаворанасьць. Перш за ўсё трэба спыніцца на організацыі самых выбараў. Для нагляду за законным і своечасовым правядзеньнем выбараў, каб даваць належныя інструкцыі і для організацыі выбараў, і для разгляду ўсякага роду скаргаў і г. д.,—організуюцца адпаведныя выбарчыя

камісіі на чале з Цэнтральнай камісіяй, якая ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва выбарамі па рэспубліцы. У гэтым годзе склад гэтых камісій значна зьмяніўся. Так, напрыклад, Цэнтральная камісія складаецца з 17 чалавек, куды ўваходзяць, апрача прадстаўнікоў ЦВК, прадстаўнікі ад профэсыянальных і партыйных організацый, ад Чырвонай арміі, ад грамадзкіх нацменшасьцяй і па два прадстаўнікі ад рабочых і сялян, якія непасрэдна датычацца прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі. Паводле такога-ж, прыблізна, прынцыпу складаецца і рэшта камісій: акруговая—з 11 чалавек, раённая—з 9 чалавек; таксама і гарадзкая, местачковая і сельская камісіі складаюцца з 7 чалавек. Такое пашырэньне прадстаўніцтва ў камісіях дае поўную гарантыю таго, што інтарэсы працоўных будуць максымальна забясьпечаны. Потым унесена яснасьць ва ўзаемаадносіны з ніжэйстаячымі камісіямі і адпаведнымі выканкомамі. Гэта дае магчымасьць у канечна патрэбных выпадках усякае пытаньне вырашаць хутка і рашуча. Значна ўдасканалена пытаньне аб падліку абіральнікаў, шляхам складаньня адпаведных сьпісаў. Гэты сьпісавы падлік асабліва важны ў тым сэнсе, што ў сьпісы згодна 36 п. інструкцыі ЦВК БССР заносяцца ўсе грамадзяне, якія ня толькі жывуць пастаянна ў данай мясцовасьці, але і якія часова жывуць на тэрыторыі данай абіраючай адзінкі і карыстаюцца выбарчымі правамі згодна констытуцыі БССР. У мінулым грамадзяне апошняй катэгорыі іншы раз не пападалі ў кола абіральнікаў толькі таму, што яны, дзякуючы цэламу шэрагу прычын, ня ведалі, да якое абіраючае адзінкі сябе залічаць. Такімі прычынамі маглі, напрыклад, служыць: адход на сэзонную працу, часовы выезд з пастаяннага месца пражываньня, камандыроўка і г. д. Новая інструкцыя сваім 37 п. па гэтых пытаньнях уносіць поўную дакладнасьць і яснасьць. Зараз усе абіральнікі, якія часова адсутнічаюць і ў момант выбараў знаходзяцца на сэзонных працах, ці яшчэ дзе-небудзь, заносяцца ў сьпісы па месцы свайго пастаяннага пражываньня, каб яны, на выпадак свайго звароту к часу перавыбараў, маглі выканаць сваю соцыяльную функцыю. Складаньне гэтых сьпісаў значна палягчае скліканьне выбарчых сходаў, бо згодна п. 54 інструкцыі абіральнікі паведамляюцца аб дні і месцы выбараў асобнымі выбарчымі позвамі. Падобная практыка ў асобных выпадках можа зрабіць уплыў на памяншэньне проц. абсэнтызму, асабліва ў вёсцы.

Апрача сьпісавага падліку абіральнікаў, істотнае значэньне мае таксама складаньне сьпісаў пазбаўленых абіральнага права. Падлік грамадзян гэтай катэгорыі вядзецца самімі сельскімі, местачковымі і гарадзкімі саветамі. Названыя сьпісы пазбаўленых выбарчага права абвяшчаюцца да ведама ўсіх за 20 дзён да выбараў, шляхам вывешваньня гэтых сьпісаў на відным месцы. Апрача вывешваньня, гэтыя сьпісы могуць быць прачытаны ў часе сходу. Такая практыка заўчаснага падліку пазбаўленых абіральнага права грамадзян дае магчымасьць лепей падрыхтаваць выбары, ухіляе ўсякія выпадковасьці, недакладнасьць і г. д.

Мінімальнаю нормаю ўдзельнікаў у выбарах у сельскіх мясцовасьцях мястэчках абіральная камісія лічыць 35 проц. абіральнікаў, а ў гарадзкіх—ня менш 50 проц.

Пераходзячы да азначэньня выбарчай адзінкі, інструкцыя становіцца іна пункт погляду прызнаньня больш дробнай выбарчай адзінкі, бо практыка мінулага паказала, што стварэньне буйнай выбарчай адзінкі шкодна адбіваецца на актыўнасьці абіральнікаў. Тэрыторыяльна-вытворчы прынцып савецкага выбарчага права патрабуе набліжэньня выбараў непасрэдна да абіральніка. Дзеля гэтага ў гарадох і фабрычна-гарадзкіх пасяленьнях выбарчыя сходы праводзяцца па вытворчых ці профэсыянальных адзінках. У вёсках выбары праводзяцца па асобных пасяленьнях пры наліччы ня менш 200 жыхароў. Яднаюцца ў адным сходзе для выбараў у савет аднаго дэпутата толькі дробныя пасяленьні, дзе не налічваецца выстарчаючай колькасьці насельніцтва.

Абіральнікі-хутаранцы і абрубнікі далучаюцца да бліжэйшай вёскі, якая ўваходзіць у раён абіраемага савету. Падобная практыка асабліва спрыяюча адаб'ецца на павышэньні актыўнасьці батрацтва і вясковай беднаты, бо гэтым групам абіральнікаў усякая трохі-трохі тэхнічная нязручнасьць вельмі перашкаджае прыняць удзел у выбарах.

## II

Да наступнай групы пытаньняў новага закону аб выбарах належыць пытаньне ўстанаўленьня корпуса альбо кола абіральнікаў.

Новая інструкцыя і ў гэтай галіне ўносіць яснасьць і конкрэтнасьць. Іменна ў гэтай галіне ў мінулым было дапушчана найболей недакладнасьцяй, больш за ўсё адыходжаньняў, якія маглі выклікаць няверу і прывесьці да нежаданых вынікаў.

Новая інструкцыя падрабязна разглядае кожную соцыяльную групу, кожную катэгорыю, на якую нельга палажыцца, разьвіваючы з дакладнай шырынёю цьвёрды клясавы прынцып, каб зьдзейсьніць савецкае права пры выбарах.

Адным з істотных палажэньняў інструкцыі зьяўляецца ўдасканаленьне пытаньня аб сялянах, якія карыстаюцца ў сваіх гаспадарках наёмнаю сілаю. Так, напрыклад, па падставе п. „а“ арт. 32 інструкцыі *земляробы-сяляне, як я карыстаюцца наёмнаю працаю сэзонна ці пастаянна* і пры тым з такім разьлікам, каб гэта праца пашырала іх гаспадаркі за межы працоўных, пазбаўляюцца выбарчага права. Да гэтай-жа катэгорыі пазбаўленых праў далучаюцца таксама сяляне, якія, пры наліччы сельскае гаспадаркі, маюць прамысловыя вытворчыя прадпрыемствы (млын, крупарушка, маслабойка і г. д.), для якіх, патрэбны сэзонныя ці пастаянныя рабочыя. Пазбаўляюцца таксама выбарчага права тыя грамадзяне, якія закабальваюць вакольнае насельніцтва шляхам сыстэматычнага аддаваньня ў карыстаньне машын, якія маюцца ў іх, рабочае жывёлы і інш., ці па-

стаянна даюць насельніцтву крэдыт на кабальных умовах (п. „б“ арт. 32). Тым, што ў інструкцыю ўнесена апошняе паказаньне, зьнішчаюцца ўсякія крыватолкі, і асноўная маса сялянства, без асаблівых труднасьцяй зможа разабрацца, з кім яму ў паказаных выпадках прыходзіцца мець справу. Аднак, новы выбарчы закон, у некаторых выпадках, робіць адпаведныя выключэньні для гаспадарак, якія карыстаюцца наёмнаю працаю. Якія-ж гэта выпадкі?

*Паперщае:* калі ў паказанай сялянскай гаспадарцы ўсе працаздольныя члены яго прымаюць удзел у штодзеннай працы па гаспадарцы і наёмная праца ў ёй толькі падсобная. Пры наліччы гэтых двух умоў, такая гаспадарка ня траціць трудавога характару. *Падругое:* калі сялянезямляробы з-за асаблівых прычын (хвароба, мобілізацыя, абраньне на грамадзкую пасаду), што адрываюць іх ад гаспадаркі на ўвесь час дагага становішча гаспадаркі, ня могуць самі працаваць на гаспадарцы і, дзякуючы гэтаму, наймаюць *аднаго* наёмнага рабочага. *Патрэцяе:* калі зямляробы карыстаюцца наёмнаю працаю часова, на кароткі тэрмін, улетку ў часе гарачае пары, каб прыбраць з поля хлеб і сена.

Для таго, аднак, каб у гэткіх выпадках гаспадарка ня траціла трудавога характару, можна наймаць, у якасьці рабочае сілы, ня больш 2-х чалавек.

Што-ж датычыцца *рамесьнікаў і саматужнікаў*, то з іх карыстаюцца выбарчым правам толькі тыя, хто не карыстаецца наёмнаю працаю, або калі і карыстаецца ёю, з прычыны ўмоў вытворчасьці, то ня больш аднаго дарослага рабочага ці двух вучняў (арт. 34 п. „в“).

*Пазбаўляюцца выбарчых праў, бяз усякага выключэньня,* прыватныя гандляры незалежна ад таго, займаліся яны раней гандлем ці займаюцца ім зараз. Да ліку пазбаўленых праў адносяцца таксама *дробныя гандляры-латочнікі, якія бяруць патэнт 1-га разраду.* У той самы час, згодна з артыкулам 34 п. „е“, выбарчых праў не пазбаўляюцца грамадзяне, якія, *з прычыны асаблівых прычын займаюцца дробным гандлем,* як-то: інваліды працы і вайны, якія гандлююць па бясплатных патэнтах, Наркамсабесу, беспрацоўныя рабочыя і служачыя, што бяруць патэнт 1-га разраду, пры ўмове, што гэтыя заняткі зьяўляюцца для іх часовымі.

У належнай меры ўдасканалена пытаньне аб катэгорыі *асоб вольных профэсій.* Гэта група асоб не пазбаўляецца выбарчага права толькі ў тых выпадках, калі яна займаецца грамадзка-карыснаю працаю і адначасова не пазбаўлена гэтага права па другіх пунктах констытуцыі ня толькі БССР, але і другіх саюзных рэспублік (п. „3“ арт. 34).

Ясна акрэсьлена пытаньне і ў адносінах сям'і грамадзян, якія пазбаўлены выбарчага права. У тых выпадках, калі члены сям'і не залежаць матэрыяльна ад першых і крыніцаю іх існаваньня зьяўляецца грамадзка-карысная праца, то такія члены сям'і не пазбаўляюцца выбарчага права.

Такім чынам, новая інструкцыя, кажучы аб коле абіральнікаў, азначыла строга акрэсьлены савецкі *трудавы цэнз.*

*Толькі сапраўды працоўныя, якія сапраўды займаюцца вытворчаю і грамадзка-карыснаю працаю, могуць бесьперашкодна зьдзяйсьняць у савецкай дзяржаве свае клясавыя інтарэсы.*

III

Пераходзячы да характарыстыкі другога савецкага цэнзу—*цэнзу палітычнага,* трэба паказаць на больш падрабязную клясыфікацыю паводле інструкцыі катэгорыі асоб, пазбаўленых праў, на падставе вышэй паказанага цэнзу. Ня спыняючыся падрабязна на кожнай катэгорыі грамадзян, прыходзіцца раней за ўсё адзначыць значную групу асоб, належачых да катэгорыі *бўйшых служачых паліцыі, вышэйшага і буйнога чыноўніцтва царскага і белых урадаў,* а таксама *ўсіх служачых астрожнага ведамства.* Да гэтай-жа групы трэба аднесьці *бўйшых афіцэраў і чыноўнікаў белых армій,* а таксама *кіраўнікоў контр-рэволюцыйных банд,* паколькі ў адносінах да іх ня маецца спэцыяльнага акту ўраду СССР, БССР ці другіх саюзных рэспублік (п. п. „в“, „г“ арт. 32 і ўвага да арт. 34). Усе-ж мобілізаваныя ў свой час у шэрагі белых армій рабочыя, працоўныя сяляне, казакі, саматужнікі і рамесьнікі выбарчых праў не пазбаўляюцца, бо гэта катэгорыя асоб адносіцца да звычайных удзельнікаў белых армій, куды яны пападалі не па сваёй волі.

Наступная група, на якой трэба спыніцца, гэта—*служкі рэлігійных культаў.* Як было паказана вышэй, гэта група ў мінулых выбарах выявіла сябе досыць актыўна. Гэта часткаю тлумачыцца тым, што ў інструкцыі 1925 году ня было выстарчаючай выразнасьці па пытаньні аб пазбаўленьні выбарчых праў асоб паказанай групы. Нормы, якія існавалі, ня ставілі непраходных рагатак на шляху служак рэлігійных культаў, і апошнія хітра, рознымі спосабамі, дзейнічалі і прабіраліся ў саветы. У гэтым годзе пазбаўлены выбарчага права ўсе, як даўнейшыя, так і цяперашнія служкі рэлігійнага культу. Увесь-жа *дробна-наёмны,* а таксама *выбарны пэрсонал рэлігійных вобшчын,* які займаецца адміністратыўна-гаспадарчым абслугаваньнем будынкаў рэлігійных забабон (вартаўнікі, падмятальнікі, званары, пеўчыя і г. п., а таксама члены парафіяльных саветаў) карыстаецца выбарчым правам, калі толькі названыя асобы не пазбаўлены гэтага права па другіх прычынах (арт. 32 п. „д“ і арт. 34 п. „ж“).

У дадатак да інструкцыі ад 13 лістапада 1926 г. ЦВК БССР пастановаю сваёю ад 27 сьнежня 1926 г. разьвіў п. п. „г“ і „д“ арт. 32 названай інструкцыі, паказаўшы на пазбаўленьне выбарчых праў асоб, якія зьяўляюцца *духоўнымі разьнікамі* ў яўрэйскіх рэлігійных вобшчынах, а таксама і тых асоб, якія выконваюць абавязкі намесьнікаў служак рэлігійных культаў (пастараў) *„перміндеров“* у сэктах лютаран, баптыстых, адвэнтыстых і г. д. Названыя „перміндеры“ у сельскіх мясцовасьцях фак-

тычна зьяўляюцца служкамі культу і атрымліваюць за гэта адпаведную плату, а, таму, натуральна, павінны быць залічаны да катэгорыі асоб, пазбаўленых выбарчых праў.

Нельга ня спыніцца яшчэ на аднэй групе пазбаўленых, якія ў мінулых інструкцыях не знаходзілі зусім ніякага выражэньня, ці аб іх успаміналася толькі павярхоўна. Гутарка ідзе аб *асобах, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўленьня свабоды,* прычым пазбаўляюцца выбарчага права ня толькі засуджаныя на гэта, але, наогул, усе, што знаходзяцца пад вартаю ў месцах зьняволеньня, нават калі-б яны былі толькі пад сьледзтвам. Гэта-ж правіла адносіцца і да асоб адміністрацыйна сасланых, а таксама да тых, над якімі адбыліся судовыя прыгаворы, якія пазбаўляюць іх, за сувязь са злачынным асяродзьдзем, права пражываць на месцы свайго ранейшага пражываньня. Гэта цалкам адпавядае прынцыпу нашага савецкага выбарчага права, якое прадугледжвае не праяўленьне нейкай „агульнай волі“ ці сувэрэнітэту „народу“, а патрабуе ад тых, хто карыстаецца і ажыцьцяўляе выбарчае права, актыўнай абароны клясавага інтарэсу. Пастаўленыя ва ўмовы ізоляцыі ад грамадзкага жыцьця, пазбаўленыя магчымасьці праяўляць свае соцыяльныя функцыі, страціўшы часова давер'е савецкай грамадзкасьці, тыя, што пазбаўлены свабоды, натуральна, карыстацца сваім правам ня могуць. Калі раней гэтае пытаньне, дзякуючы яго няяснасьці, магло выклікаць і сям-там нават і выклікала некаторае неразуменьне і нават няправільнае тлумачэньне, то зараз, пасьля дэтальнага ўдасканаленьня гэтага пытаньня, ніякіх непаразуменьняў быць ня можа.

У канцы трэба яшчэ адзначыць *парадак аднаўленьня ў выбарчым праве.* Пазбаўленыя выбарчага права ставяцца ў даволі абмежаваныя рамкі, з якіх яны, гледзячы па тым, да якой катэгорыі асоб яны адносяцца, могуць выйсьці толькі пасьля грунтоўнага адмаўленьня ад папярэдніх умоў жыцьця, і калі будзе даведзена іх лёяльнасьць у адносінах да савецкай улады. Артыкулы 44 і 45 інструкцыі даюць дакладную формулёўку гэтых пытаньняў, якая не дапушчае ніякага пераверненага ці пашыральнага тлумачэньня.

Прыведзеная вышэй дадатковая пастанова ЦВК ад 27-XII-26 году ўносіць вельмі істотную дэталізацыю арт. 45 інструкцыі ў адносінах асоб, якія раней займаліся гандлем. Згодна з арт. 45 інструкцыі, такія грамадзяне могуць быць дапушчаны да выбараў толькі ў тым выпадку, калі яны на працягу *ня менш пяці год* займаюцца вытворчаю і грамадзкакарыснаю працаю. Пастанова дае права акруговым выканкомам, у наступных трох выпадках, надаваць выбарчыя правы і *тым грамадзянам, якія менш, як пяць год таму назад, займаліся гандлем.*

*Папершае,*—калі яны зараз зьяўляюцца членамі профсаюзаў, пры абавязковай умове непасрэднай іх працы ў вытворчасьці і занятку фізычнаю працаю. Апрача таго, у адносінах да гэтых асоб павінна быць хадай-

ніцтва фабзаўмясцкомаў аб наданьні ім выбарчых праў, а таксама аб іх лёяльных адносінах да савецкай улады павінны быць прадстаўлены аргуманты.

*Падругое*, — калі грамадзяне вышэйпаказанай катэгорыі надзелены зямлёю ў колектыўных ці асобных гаспадарках. І ў гэтых выпадках аднаўленьне выбарчых праў можа мець месца толькі ў адносінах асоб, якія канчаткова парвалі з даўнейшым нетрудавым спосабам жыцьця і, будучы надзелены зямлёю, аселі на гэту зямлю ў 1925 г. і раней, і калі, пры гэтым, яны не карыстаюцца наёмнаю працаю з мэтаю атрыманьня прыбытку, а непасрэдна самі працуюць у сельскай гаспадарцы. Апрача таго, гэтыя асобы, пры ўсіх названых умовах, могуць быць адноўлены ў выбарчых правох толькі тады, калі сельсаветы ўзьнімуць аналёгічнае першаму выпадку хадайніцтва.

І *патрэцяе*,—калі асобы названай катэгорыі зараз знаходзяцца ў страявых часьцях Чырвонай арміі, то яны карыстаюцца выбарчымі правамі бязумоўна.

Вышэйпаказаныя дадатковыя пункты маюць, паміж іншым, вялікае значэньне для працоўных яўрэяў, якія заняліся земляробствам. Шматвяковы нацыянальны ўціск, цкаваньне іх і рознага роду абмежаваньні загарадзілі, у свой час, працоўным яўрэйскім масам шляхі да шэрагу галін вытворчай працы. Славутая „черта оседлости“ ня толькі выціснула іх з галін буйнай вытворчасьці, але і не дазваляла ім сяліцца ў сельскіх мясцовасьцях і займацца земляробствам. На долю працоўнага яўрэя заставалася або рамесьніцтва, або дробны гандаль.

Кастрычнікавая рэволюцыя палажыла канец усякаму нацыянальнаму бяспраўю і пацьвярдзіла роўнапраўе ўсіх нацыянальнасьцяй СССР. У выніку гэтага працоўныя яўрэі, нароўні з усімі працоўнымі, атрымалі права працаваць і на фабрыцы, і на зямлі. Дзеля гэтага, як ні абмежаваны свабодны зямельны фонд Беларусі, на яго, аднак, поруч з мясцовым земляробскім насельніцтвам, маюць права і тыя, каму абмежавальныя законы царскага ўраду загарадзілі дарогу да зямлі і хто зараз, калі зьнішчана нявольніцтва і бяспраўе, імкнецца перайсьці да земляробскай працы.

Так ЦВК БССР пастановаю сваёю ад 25 ліпня 1924 г. вырашыў гэта важнае палітычнае пытаньне*).

Пасьля азнаямленьня з асноўнымі палажэньнямі новай выбарчай інструкцыі БССР, можна з упэўненасьцю сказаць, што яна, увабраўшы ў сябе ўсю практыку мінулага, ня можа даць повада да скажэньня лініі

*) Збор. закон. і загад. раб.-сял. ўраду БССР ад 24-XII 1924 г. № 20.

На аналёгічны-ж шлях стаў і УЦВК, прызнаўшы магчымым наданьне выбарчых праў перасяленцам-яўрэям, якія аселі на землях перасяленцкага фонду, хоць-бы гэтыя перасяленцы, пакуль ня сталі займацца земляробствам, належалі да нетрудавых катэгорый насельніцтва. У сувязі з гэтым пытаньнем прэзыдыум УЦВК зьвярнуўся ў Саюзны ЦВК з хадайніцтвам выдаць адпаведнае тлумачэньне. (Гл. „Известия ЦИК СССР і ВЦИК“ ад 12-I 1927 г. № 9, стар. 2).

партыі па пытаньнях пролетарскага кіраўніцтва і барацьбы з усякага роду эксплёататарскімі і супроцьсавецкімі элемэнтамі. Новая інструкцыя аб перавыбарах стварае прадпасылку для правядзеньня політыкі ажыўленьня саветаў такім чынам, каб яна, гэта політыка, як адзначаецца ў рэзолюцыі Ліпеньскага пленуму 1926 г. па дакладу тав. Молатава, магла „канчаткова падарваць рэшткі політычнага ўплыву буржуазных элемэнтаў на працоўныя масы“. Новы выбарчы закон стварае грунт для організацыі адпору з боку саміх працоўных усякім спробам парваць рабоча-сялянскі саюз, разрэдзіць саветы непролетарскімі элемэнтамі, адцягнуць ад кіраўніцтва дзяржаваю шырокія рабочыя масы, адхіліць працоўных ад удзелу ў будаўніцтве соцыялізму.

Сьнежань 1926 г.

# КАЗАЦТВА НА БЕЛАРУСІ

*(Гістарычна-юрыдычны нарыс)*

**Л. Акіншэвіч**

Старая гістарычная навука, што панавала ў старой школе, вельмі шкодна адбілася на ведах пра нацыянальную гісторыю Беларусі і Украіны. Захопленая ідэяю пра монізм гісторыі ўсіх усходня-славянскіх нацыянальнасьцяй, яна фактычна вучыла і выкладала, амаль ня выключна, гісторыю расійскае нацыі. Гэткім спосабам забывалася пра вельмі важныя і цікавыя моманты з гісторыі іншых усходня-славянскіх народаў—яны ня былі цікавыя для расійскай гісторыі. Але цяпер ясна, што гэта была памылка, гэтаму монізму цяпер, відавочна, не павінна быць месца. Нам трэба ствараць асобную гісторыю гэтых іншых народаў (у тым ліку і беларускую), трэба ажывіць у памяці патомкаў гістарычны шлях, які прайшла іхняя айчына, і яго найважнейшыя і найцікавейшыя этапы, пэрыоды, моманты. У гэтым артыкуле я і хачу апавясьціць пра адзін з такіх цікавых момантаў у гісторыі Беларусі *), пра падзеі 1654—1659 г. г., пра казацтва на Беларусі. Але перад гэтым некалькі ўступных уваг.

Вядома, што Люблінская вунія 1569 г. адабрала ад вялікага княства Літоўскага яго украінскія землі, каторыя адышлі да Польшчы. На гэтых украінскіх землях мы бачым цікавы процэс нараджэньня новай клясы, каторай давялося потым іграць важную ролю,—клясы казацтва. Ня буду тут характарызаваць гэтую клясу, пра якую ў большасьці грамадзян—ня гісторыкаў—ёсьць думка, вынесеная з Гогалеўскага „Тараса Бульбы“ з яго романтызмам і ідэалізацыяю барацьбы за веру, якую нібы вяла Запароская Сеч. Адзначу толькі тое, што спаміж новых гісторыкаў, гісторыкаў-марксыстых, пануе погляд, што змаганьне украінскіх казакоў з Польшчай было перад усім змаганьнем клясавым. Люблінская вунія была канцом фэўдалізму ў вялікім княстве Літоўскім (або, калі ён часткова і захаваўся, як, напр., думае проф. Рожков, дык гэта была яго „ўпадачная“ форма). Галоўны ўплыў стала мець сярэдняе зямляўладаньне. Ня так было на Украіне. Тут гэтага сярэдняга зямляўладаньня было надта мала. Большасьць зямлі была ў руках магнатаў, якія захавалі тут

*) У навуцы пра яго амаль што нічога няма, бо, напр., у кнізе проф. У. Ігнатоўскага „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“ (выд. 4-ае с. с. 124-139) гаворыцца пра іншыя здарэньні.

пераважны ўплыў і значэньне. Побач з імі мы маем клясу вольных дробных зямляўласьнікаў-казакоў. Яны стаялі ніжэй, чымся шляхта, але трохі былі падобнымі да яе. „Пад імем казакоў вы ўсюды сустракаеце,—піша проф. М. Пакроўскі,—дробных зямляўласьнікаў, якія вельмі напамінаюць тагочаснага украіннага памешчыка і цэлымі радамі непаметных пераходаў зьвязаныя з зямляўласьніцкаю клясаю наогул"[1]). Экономічныя ўмовы, пачатак пераходу да таварнай і грашовай гаспадаркі дапамагалі змаганьню клясаў магнатаў і казакоў. Пры гэтых экономічных варунках улада канечна мае перайсьці да кляс—організатараў гандлёвага капіталізму—шляхты і буйнае гандлёвае буржуазіі. На Украіне гэтую ролю замест шляхты, узяло на сябе казацтва, катораму дапамагалі мяшчане украінскіх мест.

Я ня буду тут падрабязна спыняцца на гэтым змаганьні, якое, прыкрываючыся барацьбою за веру, набывала раз-по-разу вялікі і крывавы характар. Але трэба сказаць, што да сярэдзіны XVII веку ўсе паўстаньні—Налівайкі і Лабады, Паўлюка і Тараса Трясіла, Остряніна і Гуні і г. д.—канчаліся для казакоў няўдала: іх урэшце разьбівала рэгулярнае польскае войска. Ня так было з паўстаньнем 1648 году, якое хутка набыло характар сапраўднае рэволюцыі. Шэрагам перамог правадыр паўстаньня гэтман Багдан Хмяльніцкі дабіўся спачатку незалежнага становішча Украіны ад Польшчы, г. зн., з звычайнае польскае провінцыі яна стала дзяржаваю. Да казакоў далучаліся амаль ня ўсе клясы украінскага жыхарства, але галоўны посьпех рэволюцыі быў ад прылучэньня да яе сялянства, што крывава распраўлялася з сваімі панамі. У 1654 г. Укріана злучылася з Маскоўскаю дзяржаваю. Большасьць вучоных думае, што ад гэтага яна не загубіла свайго дзяржаўнага характару—магчыма, стала ў васальную залежнасьць ад Масквы. Галоўная прычына гэтага злучэньня—гэта спад рэволюцыйнага ўздыму сялянскіх украінскіх мас, якія к 1654 г. пачалі расчароўвацца ў асьцярожнай політыцы Б. Хмяльніцкага і казацкага старшыні, што самі блізка стаялі да шляхты і не хацелі вялікіх соцыяльных перамен (а такою пераменаю было вызваленьне сялянства, хоць-бы і няпоўнае, бо, напрыклад, манастыры захавалі сваіх падданых). Пазьней з клясы казацкае старшыні на Украіне ўтварылася новая шляхта, што закрапасьціла сялянства, якое вызвалілася ў 1648 г. ад польскіх паноў. Але гэта было пазьней, дзеля гэтага зьвяртаемся да часоў Багдана Хмяльніцкага.

Цалком ясна, што на Беларусі, і перад усім, беларускае сялянства вельмі спачувала украінскай рэволюцыі. На Беларусі гаварылі: „Калі ў палякаў з чэркасамі (украінцамі. Л. А.) будуць бойкі і стануць палякі чэркасаў перамагаць, дык мы, усякіх чыноў людзі, падымемся на палякаў і зробім у сябе такіх Хмяльніцкіх дзесяць чал., а войска 100.000. І будзем супроць Польшчы і Літвы ваяваць дзеля таго: калі палякі чэркасаў перамогуць,

[1]) Русская история, т. II. изд. 4-ое, с. 145.

дык і нас усіх, праваслаўных хрысьціян, загубяць, і нам трэба супроць палякаў стаяць і біцца, пакуль наша моц будзе“ [1]). У сьнежні 1653 г. Генэральны Пісар Украіны Іван Выгоўскі гаварыў царскаму пасланцу, што пісалі да яго з Беларусі „свои и друзья“, якія жадаюць быць пад царом. Ён мае напісаць туды, штоб яны „его Ивановы свои и друзья въ Бѣлой Руси всѣхъ Бѣлорусовъ наговаривали, чтобъ и они учинились подъ государевою высокою рукою“...[2]) Беларусі давялося ўзяць удзел і зрабіцца найгалоўнейшай арэнай барацьбы, што пачалася паміж Польшчаю, Масквою і Украінаю. У 1654 г. Масква абвясьціла Польшчы вайну, Маскоўскі цар выступіў на Смаленск, а ў чэрвені гэтага году начальнік паўночнае часткі украінскіх войск, „наказны (часовы, пад час паходу) гэтман“ Іван Залатарэнка выступіў на Беларусь [3]). Цяпер на Беларусі мелі выступіць нахільныя да маскоўска-украінскага саюзу асобы. На Украіне яшчэ раней называлі дзе каго з іх. Так 10 студзеня 1654 г. баярыну Бутурліну ў Пераяслаўлі гаварыў генэральны пісар Іван Выгоўскі, што „есть де... въ Могилевѣ повинной благочестивые вѣры шляхтичъ *Поклонской*, и онъ де станетъ и къ нему о томъ (каб „служыў“ цару) писать нарочно“ [4]). А далей ужо маскоўскія акты гавораць, што „въ нынѣшнем въ 162 (1654. Л. А.) году, іюля въ 22 день, выѣхал на государево... имя изъ Литвы, изъ Могилевского повѣту, шляхтичъ Костянтинъ Юрьевичъ Поклонской; а съ нимъ людей его шляхты 3 человѣка, да малый пахолокъ, шляхтичъ же; рядовыхъ слугъ 8 человѣкъ, мѣщанъ могилевскихъ 4 человѣка, да пахолокъ мѣщанской сынъ, да у мѣщанъ же по челяднику у дву человѣкъ“ [5]). Тут няверная дата, затым што яшчэ 21 чэрвеня 1654 г. мы ведаем „отписку“ Т. Спасітелева, што 5 чэрвеня „переѣхалъ“ да Залатарэнка „изъ города Могилева, шляхтичъ Костянтинъ Поклонской, а съ нимъ четырнатцать человѣкъ. И говорилъ я, холопъ твой (царскі Л. А.), полковнику Ивану Золотаренку, что бы того шляхтича послать къ тебѣ государю; и полковникъ мнѣ, холопу твоему, сказалъ: какъ де мы пойдемъ къ твоему царскому величеству, и Божиею де милостію и твоимъ государевым счастіемъ, будут такія шляхтичи и иныя; а теперь де я того шляхтича посылаю наскоро къ гетману къ Богдану Хмельницкому“... [6]) 22 чэрвеня Багдан Хмяльніцкі ўжо паведамляе Маскву, што „пришолъ къ намъ въ войско шляхтичъ Констянтинъ Юрьевичъ Поклонскій изъ Литвы, изъ повѣту Могилевского“. Ён гаварыў, што Беларусь хоча паддацца цару; гэтман адпусьціў яго

---

[1]) Соловьев. История России, т. X. с. 293.

[2]) Акты Южн. і Западн. Расіі, т. X с. 132. Дакуманты, з каторых многія пісаліся пабеларуску і паукраінску, у актах даюцца ў перакладзе на расійскую мову. Я іх так прыводжу, ня робячы перакладу.

[3]) Там-жа, т. XIV. с. 127.

[4]) Там-жа, т. X. с. 245.

[5]) Там-жа, т. XIV. с. 185.

[6]) Там-жа, т. X. с. 681.

Маскву [1]). У жніўні 1654 г. мы бачым ужо Паклонскага палкоўнікам. Ён меў задачай дапамагчы пераходу на бок Масквы Магілева. У „отписке“ М. Ваейкава гаворыцца, што ён у пачатку жніўня паехаў з Паклонскім да Магілева нахіляць магілеўцаў да царскага падданства [2]). Паклонскі набіраў у свой полк казакоў з мясцовых беларускіх жыхароў. У лісьце ад 5 жніўня 1654 г. да баярына В. Бутурліна Паклонскі піша, што „все дѣло Могилевъ: когда тотъ у насъ будетъ, много козаковъ буду имѣти“... І далей: „городы близко Могилева, *изъ которыхъ имѣлъ бы есмь козаков*, желнеры окружили, не могутъ смѣти, что я далеко кинулся. Сего ради однолично надобно много козаковъ имѣти, а наипаче въ сей сторонѣ, гдѣ украинскіе люди ничего не сдѣлаютъ, не знаючи тутошнихъ лѣсовъ и шляховъ“ [3]). 12 жніўня ў саюзнага войска быў бой з магілеўскаю залочаю. У ім бралі ўдзел маскоўскія „служилые люди“ (іх было з Ваейкавым вельмі мала), полк Паклонскага і украінскі аддзел наказнага палкоўніка Вас. Залатарэнка, які прышоў з-пад Гомеля [4]) [Гомель паддаўся Ів. Залатарэнку 13 жніўня і адгэтуль ён перайшоў пад Стары Быхаў, што доўга не паддаваўся украінскаму войску [5]); 24 жніўня паддаўся Магілеў [6])].

У яго ўвайшлі стральцы Ваейкава і Паклонскі з сваімі беларускімі казакамі. Але апошніх маскоўская ўлада спачатку ня думала пакідаць тут, бо ў грамаце 28 жніўня 1654 г. Паклонскаму гаворыцца, што „гдѣ тебѣ быти на нашей службѣ, и о том къ тебѣ... указъ будетъ впредь“. А ў грамаце ад 29 жніўня—што „самъ бы еси, до нашего указу, покамѣсть, мы, великій государь, въ Могилевъ пришлем нашего... воеводу, побылъ въ Могилевѣ“ [7]). Аднак, Паклонскі з сваім казацтвам застаўся ў Магілеве, прынамсі, тут была яго рэзыдэнцыя, бо казакі былі і ў іншых мясцох. 27 жніўня спатыкаем зьвестку пра тое, што беларускія казакі несьлі варту вакол Магілева „по Головчинской дорогѣ“ [8]). Паклонскі, каторы ўжо называе сябе палкоўнікам беларускім (здаецца, у першы раз у пісьме да цара ад 7 верасьня [9]), пасылае ад сябе сотнікаў у розныя месцы Магілеўскае акругі. Яны меліся там зьбіраць казацтва і організоўваць уладу. Так, 26 лістапада ён паслаў сотнікаў Дзяміда Рагазу і Фед. Андрэевіча ў Кадзін і Раманаў „людей на услугу его царского величества... призывати“. Ён загадвае, каб ім „подданные тамошніе во всемъ послушны были“ [10]). 6 лістапада 1654 г. ён меўся ісьці з сваім аддзелам не перапус-

[1]) Акты Южн. и Запад. России. Дадатак да т. VIII. с.с. 383—385.
[2]) Там-жа, т. XIV с. с. 195—197.
[3]) Там-жа, т. XIV с. 199.
[4]) Там-жа, с.с. 213—214.
[5]) Там-жа, с.с. 143—147.
[6]) Там-жа, с.с. 233—234.
[7]) Там-жа, с.с. 236, 240
[8]) Там-жа, с.с. 308-309.
[9]) Там-жа, с. 258.
[10]) Там-жа, с. 481.

кацъ палякаў (што пачалі наступацъ) цераз Бярэзіну [1]). У сьнежні 1654 г. у яго аддзеле было каля 4.000 казакаў [2]).

Вось такі матэрыял сустракаем у апублікаваных пакуль што дакумантах пра супрацоўніцтва Паклонскага з Маскоўскаю дзяржаваю. Працягвалася яно параўнаўча кароткі час, бо ўжо „февраля противъ пятого числа (1655 г.), за два часа до свѣта, полковник Поклонской государю... измѣнилъ съ могилевскою и иныхъ городовъ шляхтою и съ казаки, которые у него въ полку были, и гетмановъ Радивила и Госевского съ полским войскомъ въ большой земляной вал водстил" [3]).

Такім чынам, маем пераход Паклонскага з часткаю казацтва на польска-літоўскі бок. Але другая частка засталася на старане Масквы. Яе Паклонскі прабаваў таксама ўгаварыць перайсьці да польска-літоўскага войска. Так, у пісьме бяз даты ён піша: „Пане Павле, и всѣ казаки полку моево... Наказываю вамъ... чтобъ есте осмотрились ко мнѣ всѣ изнову пристанте." І далей: „Съ Москвою намъ не на вѣки жить. Вѣдаете убо, какіе мерзости выстрояла; насилу годны чтобъ намъ служили, а неже мы имъ подданство отдавалі" [4]). Улада вял. княства Літоўскага хацела даць Паклонскаму штось на ўзор таго палажэньня, якое ён меў ад цара. 10 мая 1655 г. чытаем у універсале вялікага гэтмана літоўскага Яна Радзівіла, што „властію моею гетманскою далъ есмь *полковничество неравное надъ всьми краями белорускими* урожоному пану Костянтину Поклонскому..." [5]), 13 чэрвеня 1655 г. Паклонскага разьбіў маскоўскі стольнік кн. Барацінскі пад Барысавам і ён „ушолъ съ того бою съ малыми людми въ Полшу" [6]). 11 ліпня яго разьбіла ўжо украінскае войска пад камандаю наказнага палкоўніка Ф. Фёдарава. Было гэта пад Вільняю. У Паклонскага тут быў ужо ня полк, а толькі „рота" [7]).

На гэтым канчаем з Паклонскім. Але, як мы бачылі, частка яго казакоў засталася ў окупаванай Масквою частцы Беларусі. Яны мелі сваю організацыю. Так, у маі 1656 г. ўспамінаецца пра беларускіх сотнікаў Д. Рагазу і Івана Міткова [8]). Але быў пасьля Паклонскага і палкоўнік. Пра гэта пазнаем з пісьма (бяз даты) да сотніка Ів. Міткова ад яго цесьця пана Белянецкага, дзе сказана: „...и панъ *Павелъ, полковникъ* вашъ нынѣшній, поклонитеся хочетъ (полякам. Л. А.) и тутъ до насъ, черезъ хлопца своего, о волѣ своей вѣдомо чинитъ..." [9]). У магілеўскіх мяшчан пачаліся з казакамі, што засталіся пасьля пераходу Паклонскага, непа-

1) Акты Южн. иЗап. России т. XIV, с.с. 415—417.
2) Там-жа, с. 469.
3) Там-жа, с.с. 568-569. Таксама с.с. 575, 587-588.
4) Там-жа, с.с 542-543.
5) Там-жа, с.с. 621-622.
6) Там-жа, с. 706.
7) Там-жа, с.с. 751-753.
8) Там-жа, с.с. 591-592.
9) Там-жа, с.с. 615-616.

разуменьні. У чолабітнай 19 мая яны скардзяцца цару „на Ивана Миткова и Демида Рагозу и иныхъ, которые, во время покою учинився казаками, *намъ послушнымі быти не хотѣли*, неправды всякіе починили и чинити не престанутъ, а то въ продажѣ напитковъ помѣшку, въ пошлинахъ продажныхъ чинить заплаты никакіе въ ратушу (не жадаюць)". Царскі вырак у гэтай справе вырашыў лёс беларускага казацтва, як самастойнае організацыі. У ім сказана: „Допросить войта Миколая о тѣхъ казакахъ и *велѣть имъ ѣхать на службу къ Золотаренку*" [1]). Цяпер пачынаецца організацыя іх у шэрагах украінскага войска.

Украінская ўлада з самага пачатку паходу на Беларусь прызнавала за сабою ўсе правы на яе; у ёй, як відаць, яна мелася, злучыўшы яе з Украінаю, уладзіць казацкі лад. Ужо 17 мая 1654 г. Багдан Хмяльніцкі выяўляе намер стаць абаронцам Беларусі ад драпежніцтва маскоўскіх войск. Ён піша да цара: „усердно твоего царского величества молимъ: аще Богъ Всемогущій, за счастливымъ твоего царского величества государствованиемъ, поволитъ литовскіе городы под крѣпкую твоего царского величества руку отбирати, дабы ратные твоего царского величества люди никакіе імъ не чинили обиды..." [2]). Ясна выяўляюцца жаданьні украінскае ўлады ў пісьме вядомага тагочаснага украінскага дзеяча—нежынскага протапопа Максіма Філімонавіча (пазьней эпіскопа Аршанскага Мефодзія), каторы піша ў лісьце (2 верасьня 1654 г.) магілеўцам (зварочваючыся, відавочна, да Паклонскага): „Совѣтую тебѣ, чтобъ ваша милость у пана *гетмана поискали жалованья,* также и *до войска запорожского приклонялися* и *случатися подъ обороною гетмановъ запорожскихъ и всего войска запорожского,* будучи, какъ мѣщане, такъ и казаки ваши вездѣ, чтобъ, сохрани Боже, Москва не хотѣла по своемъ нравѣ и право поставити совершенно въ вашемъ городѣ, но чтобъ такожъ тѣми статьями и правами радовалися, какіе его царское величество изволилъ и далъ Украйнѣ нашей съ паномъ гетманомъ. Тогда и вторицею вашимъ милостямъ совѣтую, чтобъ есте объ томъ промышляли и разсуждали, и совѣта у его милости, пана гетмана, просили, и во всѣмъ, яко отцу, о жалованье били челомъ..." [3]). Тут ясная тэндэнцыя далучыць Беларусь да Украіны, або хутчэй паставіць яе пад протэктарат—„оборону". Супроць гэтага паўставаў перш-на-перш Паклонскі, які хацеў, як відаць, організаваць з Беларусі асобны дзяржаўны організм. Ён протэставаў супроць пісьма Філімоновіча і надаслаў яго маскоўскаму „думнаму дьяку" Ларіону Іванаву „для прочитанья, съ какою жосточью мѣщаномъ могилевскимъ (піша. Л. О.), а не безъ вѣдомости самого гетмана". Наракаў ён на Залатарэнка, які апанаваў частку магілеўскага павету. „А есть ли будетъ далѣе такъ,—не для чего намъ здѣ въ Могилевѣ быть; всякъ да своего труда вкуситъ, а то наши труды;

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. X, с.с. 626, 628.

[2]) Там-жа, с. 167.

[3]) Там-жа, с. 152.

а сверхъ того жестоко приказалъ всему уѣзду Могилевскому, чтобъ насъ не слушали. Якоже и все, ублюдяся, отринулися отъ насъ и не слушаютъ“ [1]). Залатарэнка ў свой чарод набіраў у свае палкі казакаў з беларусінаў і пісаў цару (верасень 1654 г.): „которые ни есть назвалися казаками войска его царского величества запорожскими въ Бѣлорусіи, в Могилевѣ и въ волости Могилевской,—тѣмъ всѣмъ, которые до войска (запароскага, украінскага, Л. О.) его царского величества клонятца,—чтобъ то имъ волно было, по указу его царского величества пребывать. И о томъ бьемъ челомъ его царскому величеству: Поклонскій, яко не заслужоный въ войску запорожскомъ его царского величества, чтобъ до нихъ никакова дѣла не имѣлъ,—понеже они съ нами вкупѣ съ войскомъ его царского величества запорожскимъ за доброе здоровье и за достоинство его царского величества... умирати хотятъ, будучи вѣрными слугами; а которые съ нимъ казаками быть хотятъ,—дабы то на воли ихъ было; и пусть прежде выслуживаетца для милости его царского величества; а заслужонымъ до доступленія милости его царского величества своими бездѣлными шпынскими дѣлами не мѣшалъ“. Цар даў на гэта компромісны адказ, заставіўшы пры Паклонскім толькі Магілеўскі павет [2]).

Пасьля пераходу Паклонскага на бок польска-літоўскіх войск украінскія казакі засталіся гаспадарамі становішча на Беларусі. Пачынаецца арганізацыя беларускага казацтва ўжо як складанага элемэнту казацтва украінскага. Так, у ліпні 1655 г. бачым у „мѣстечкѣ Чеусахъ наказной полковникъ Матфѣй Старинской отъ наказного гетмана Ивана Золотаренка [3]). Пра яго тады-ж пісаў Магілеўскі ваявода В.Ункоўскі, што ён (Унхоўскі) пасылаў у Чаусы „отписать“ на цара вёскі ды маёнткі. „И наказной, государь, полковникъ Матфѣй Старинской Чеусъ отписать не далъ, а сказалъ безъ гетманского де я ведома Ивана Золотаренка, отписывать того мѣста Чеусъ и селъ и деревень и всякихъ угодей дать не смѣю..., а въ мѣстѣ, государь, Череповѣ свой полковникъ Григорей Даниловъ, и тотъ тѣмъ мѣстомъ владѣть не дастъ же“ [4]). У „просительныхъ статьяхъ“ гэтмана Івана Залатарэнка ад 11 чэрвеня 1655 г. ёсьць просьба: „И о томъ просить его царского величества, пана нашего милостивого, жебы товариству нашему волно изъ всѣхъ городовъ бѣлорускихъ, такъ Могилева, яко и иншихъ (набіраць казакоў, Л. О.), а войти бъ (войты) не збороняли до боку нашего заедно и зъ нами купитися на вороговъ и недруговъ его царского величества“ [5]). Царскі ўрад дазволіў нават набіраць казакаў і з усякіх „служилых людей“ м. Магілева [6]). У Магілеве зьяўляецца казацкі

---

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. X, с. с. 153-154.

[2]) Там-жа, с. 170.

[3]) Там-жа, с. с. 761-762.

[4]) Там-жа, с. с. 801-802.

[5]) Там-жа, с. 696.

[6]) Там-жа, с. с. 705-708.

атаман Бушак, пра вывад каторага за горад прасілі ў жніўні 1655 г. магілеўскія мяшчане [1]). Украінскія і беларускія казакі (у складзе вайсковых сіл Залатарэнка) утварылі ў 1655 г. шмат перамог над польскім войскам. Напр. (пры ўдзеле невялікага маскоўскага атраду кн. Чэркаскага), узялі Вільню [2]).

М. Чаусы становіцца цэнтрам беларускага казацтва. Гэта прыкметна менавіта з таго часу, калі палкоўнікам там робіцца Ів. Нечай, што трымае сябе вельмі незалежна і называе сябе палкоўнікам беларускім. У яго бяссумненна былі тэндэнцыі да аўтономнае організацыі казацкае Беларусі. На гэтым грунце ён раз-по-разу сустракаўся і ўваходзіў у конфлікты з маскоўскаю окупацыйнаю ўладаю. У маі 1656 г. гэтыя непаразуменьні выклікалі расьследваньне, каторае рабіў кіеўскі палкоўнік Антось Ждановіч, які запісваў: „Мая 12 дня спрашивалъ я, Антонъ Ждановичъ, полковника Ивана Нечая противъ той статьи: велѣлъ ли его милость панъ гетманъ (Б. Хмяльніцкі) надъ Бѣлою Росіею панавать и устраивать, къ полковникамъ писаться Бѣлорускимъ, Могилевскимъ, Гомельскимъ?.. И. Нечай сказалъ: такъ писался, какъ въ универсалѣ и въ листахъ своихъ его милость панъ *гетманъ* ко мнѣ, слугі своего, пишучи, *имянуетъ полковникомъ Бѣлорускимъ* и пишетъ. И тѣ листы показывалъ“ [3]). Значыцца, гэта рабілася са згодаю гэтмана Б. Хмяльніцкага. На жаль, вельмі мала вядома матэрыялаў пра здарэньні пры палкоўніцтве на Беларусі Нечая. Вядома, што пад час „зрады“—пераходу на польскую старану гэтмана Выгоўскага—Нечай і беларускія казакі былі на яго старане і біліся з маскоўскімі вайскамі [4]). У таемным „наказе“ кн. Трубецкаму, каторы меў быць на Украіне пры выбарах новага (пасьля Выгоўскага) гэтмана, калі украінскае казацтва зноў прыстала да Масквы, у студзені 1659 г., ёсьць паказаньне, што ў Ст. Быхаве жыве „измѣнникъ и душегубецъ Ивашко Нечай“... Яго і яго прыхільніка трэба адтуль „вывесть и за ихъ злые дѣла велѣть по войсковому праву казнить“, а „въ Быховѣ быть царского величества воеводѣ“ [5]). Беларускаму казацтву было прысьвечана два артыкулы украінска-маскоўскае ўмовы, каторую зрабілі на радзе 1659 г. ў Пераяслаўлі. Артыкул 6 гаварыў, што „В городѣхъ и въ местѣхъ и мѣстечкахъ на Бѣлой Росіи нынѣ и впредь залогамъ Черкаскимъ (украінскімъ не быть, чтобъ ссоры тѣм между ратныхъ людей какъ Великоросійскихъ и Бѣлорускихъ не чинилось. И гетманъ и все войско Запорожское и чернь на радѣ приговорили: въ Бѣлой Росіи залогамъ Черкаскимъ отнюдь не быть, полковникомъ и сотникомъ и козакомъ въ Бѣлой Росіи—Запорожским козакомъ не отзыватца, покамѣста належить къ полкам къ Нѣ-

---

[1]) Цар прыказаў: „Атаману въ городѣ не быть и отослать его в полк“. Там-жа, с. 807.
[2]) Там-жа, с.с. 770—772.
[3]) Там-жа, т. III, с. 522.
[4]) Соловьев. История России, т. XI, с.с. 40—42. Выд. „Общество Польза“.
[5]) Акты Южн. і Западн. России, т. XV, с. 326.

жинскому, къ Черниговскому и къ Кіевскому. А Бѣлорускимъ и Старобыховскимъ и Чеужскимъ хто будетъ называтца Войскомъ Запорожскимъ, и тѣхъ выслать въ Государевы Черкаскіе городы съ ихъ пожитки; а которые не похотятъ итти въ Черкаскіе городы, и тѣмъ жить въ тѣхъ мѣстѣхъ, а козаками запорожскими не отзыватца. А естьли которые учнутъ отзыватца Запорожскими козаки и пойдуть къ Польскому королю, и тѣхъ имать и карать горломъ“ [1]). У артыкуле 15-ым сказана: „Гетману же велѣть городъ Старой Быховъ очистить великому государю и велѣть черкасъ и иныхъ чиновъ служилыхъ людей изъ таго города вывести, потому что тотъ городъ издавна Полского короля, а не Черкаской, и въ нынѣшнія мимошедшие времена отъ измѣнниковъ отъ Самошки Выговского и отъ Ивашки Нечая и отъ ихъ советниковъ, великого государя ратнымъ людемъ были всякіе злые умыслы и бунты и кровопролитіи великіе, и многихъ за вѣрою же взявъ и тайно до смерти побивали. А впредь будетъ тѣмъ измѣнникомъ быть въ Быховѣ началными людьми, и отъ нихъ быть такому же дурну. А въ Быховѣ кромѣ государевыхъ людей Московского народу быть никому не пристойно, для того что всякая ссора будетъ, потому что ляхи живутъ блиско, беспрестани ссаривали, и нынѣ и впредь учнутъ ссаривать; а пристойно быть тѣмъ людемъ въ Нѣжинскомъ полку и въ Черниговскомъ, иль гдѣ кто похочетъ. И гетманъ, и полковники, и вся старшина, и чернь на радѣ, выслушавъ великого государя указъ, сказали что они пошлютъ въ Быховъ къ Ивашку Нечаю листъ, чтобъ онъ городъ Быховъ великому государю... очистилъ и козаковъ, которые назывались запорожскими козаки, выслалъ въ Нѣжинской и въ Черниговской полки; а чтобъ де царское величество пожаловалъ ево, велѣлъ вины ево отдать (прабачыць) для их прошенія. А естьли де не учинитъ противъ (паводле) их письма,—и они де по указу царского величества пойдутъ на него войною“ [2]). На гэтым скончылася існаваньне казацтва на Беларусі.

Вось гэткая гістарычная канва, каторую я ў агульных рысах прывёў дзеля таго, каб нарысаваць фактычны бок гістарычных здарэньняў. Цяпер дазволяю сабе перайсьці да разгляду цікавых пытаньняў пра праўнае становішча організацыі казацтва на Беларусі, яго ўладу і яго склад.

Перад усім—пра адносіны Паклонскага і беларускае казацкае організацыі да Маскоўскае дзяржавы. На гэта некаторы адказ знаходзім у наказе стольніку М. Дмітроеву, які ў верасьні 1654 г. быў пасланы пад ст. Быхаў да наказнага гэтмана Залатарэнка. У ім сказана, што „Костентинъ Поклонскій за выѣздъ, что онъ выѣхалъ на его государево имя на вѣчную службу, по государской милости пожалованъ его государевымъ жалованьемъ—полковничествомъ, и посланъ въ Могилевъ для збору ратныхъ людей, чтобъ ему прибрати къ себѣ въ полкъ волныхъ охочихъ

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. IV, с. 266.
[2]) Там-жа, с. с. 267-268.

людей“.. І далей—„полковникъ *служитъ также* царскому величеству вѣрою и правдою, *какъ и иные его царского величества полковники*“ [1]). Значыцца, Масква хацела разглядаць казацкую арганізацыю Паклонскага, як складовую частку маскоўскага войска (значыць, і тэрыторыю, на якой яна перабывала—як звычайную маскоўскую тэрыторыю). Відавочна ня так на гэта глядзеў Паклонскі; прынамсі ў пісьме магілеўскага ваяводы М. Ваейкава да цара ад 13 верасьня 1654 г. сказана, што ён даў Паклонскаму ўзор пісем (г. зн., зваротку і формы подпісу). „А нынѣче, государь, дадаець ваявода, онъ полковникъ мнѣ... сказалъ: я де буду писать къ его царскому величеству *подданнымъ* его (подданым называў сябе і гэтман украінскі, які стаяў на чале хоць і залежнае ад Масквы, але ўсё-ж такі дзяржаўнае арганізацыі), а холопамъ (а так падпісваліся беспасрэдныя слугі цара маскоўскія „служилые люди“) де писатца не буду“ [2]).

Як відаць з прыведзеных раней фактаў, да украінскага падданства (хоць украінская ўлада, як мы бачылі, спачатку вельмі гэтага хацела) Паклонскі не хацеў належаць. Ён супярэчыць (верасень 1654 г.) супроць таго, што Залатарэнка гаспадаруе ў Магілеўскім павеце [3]). 5 верасьня 1654 г. Паклонскі піша ліст да цара з нараканьнямі на Залатарэнка. Ён хоча, каб гэты „до меня дѣла не имѣлъ и моихъ бы козаковъ къ себѣ не принималъ и не вступался в урядъ Могилевскій и въ Чаускій, уже бо то не украинскіе, но вашей царской милости подданные, до Нѣжина (Залатарэнка—нежінскі палкоўнік) не належатъ, и его не должны слушать, толко меня“ [4]).

Паклонскі хацеў мець уладу над тэрыторыяй, у каторай было яго казацтва. У чалабітных 13 сьнежня 1654 г. ён просіць цара, каб у паветах Галаўчынскім, Бялыніцкім і Цяцерынскім *ён* мог раздаваць казакам „житія“ і каб ваявода тут „никакие власти не имѣлъ“ [5]). Што да гарадоў, то найскладанейшыя адносіны былі ў яго з Магілевам, які быццам-бы меў быць яго рэзыдэнцыяй. З аднаго боку, маем паказаньні, што магілеўцы вызнавалі ўладу Паклонскага. Прыкладам, у пісьме ад 8 кастрычніка 1654 г. з Магілева да Паклонскага сказана, што мяшчане спадзяваюцца на яго абарону ад палякаў, бо яны паддаліся „подъ оборонь и заступленіе вашей милости“ [6]). У чалабітных да цара 13 сьнежня 1654 г. Паклонскі просіць дазволіць яму раздаваць казакам „домы жидовские в Могилевѣ“, дазволіць, каб казакі маглі вольна трымаць і ўсякія трункі „безъ плотежу“, „опричь горѣлки, что про себя чтобъ волно

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. XIV, с. 161.

[2]) Там-жа, с. 330.

[3]) Там-жа, т. IX, с.с. 153-154.

[4]) Там-жа, т. XIV, с. 294.

[5]) Там-жа, с. с. 448-449.

[6]) Там-жа, с. с. 123-424.

держать и дѣлать, а не на продажу". Царская адповедзь: „у которыхъ козаковъ дворовъ нѣт,—велѣть во дворѣхъ жидовскихъ, которые отведены ратнымъ людемъ, ставітца, и питье казакамъ про себя держать, а не продавать" [1]). Ён распараджаецца гэтымі пустымі (яўрэі вышлі з польска-літоўскім войскам) яўрэйскімі дамамі. Так у пісьме цара да яго (9 верасьня 1654 г.) гаворыцца пра тое, што поп Іван з Воршы прасіў дазволіць яму жыць у Магілеве ў пустым яўрэйскім доме. Цар просіць, каб Паклонскі „велэлъ ему дать дворъ порозжей изъ жидовских порозжихъ дворовъ" [2]). Гэта ўжо пэўныя правы, што да распараджэньня ў горадзе. Але, з другога боку, у артыкулах пра правы Магілеўскіх мяшчан, якія зацьвердзіла маскоўская баярская дума („бояре приговорили"), ёсьць, што „козакомъ, окромѣ службы, не жить въ городѣ" [3]). Гэта зноў пацьвердзіў (ужо пасьля зрады Паклонскага) цар, загадаўшы 7 верасьня 1655 г. „казакомъ дворами въ городѣ (Магілеве) не жить" [4]).

Што да шляхты, то мясцовыя корпарацыі яе даставалі ад цара жалаваныя граматы, артыкулы, якія забясьпечвалі ёй усе правы, якімі карысталася яна ў Вял. Кн. Літоўскім. Напрыклад, маем артыкулы Віцебскай шляхце [5]), грамата магілеўскай шляхце [6]), асобныя зацьверджаньні маёнткаў шляхце [7]). Пра залежнасьць яе ад ураду Паклонскага нічога не ўспамінаецца. Мала падлягаць і слухаць Паклонскага, як Крычаўская шляхта; гэта абумаўляе жалаваная грамата ёй ад 9 кастрычніка 1654 г. [8]). Але de-facto ў тыя неспакойныя часы прыходзілася, відавочна, і ўсёй шляхце лічыцца з ваеннай сілай, каторую меў і Паклонскі.

Вось, што можна сказаць пра праўную ацэнку ўлады Паклонскага? На маю думку, яна была толькі ў стадыі афармленьня і пэўных, акрэсьленых азнак яшчэ не пасьпела здабыць. Можна гаварыць толькі пра тэндэнцыі яе. Я пэрсанальна думаю, што такімі былі адасабленьні занятых маскоўскім і украінскім войскамі (і запэўна і беларускім казацтвам) зямель у асобную (хай і залежную ад Масквы) дзяржаўную адзінку. Некаторыя факты, што доказваюць існаваньне такое тэндэнцыі, я ўжо вышэй прыводзіў. Але ля Магілева і паветаў, занятых беларускім казацтвам, бачым шматлікавыя маскоўскія і украінскія войскі, а рэальныя сілы Паклонскага былі надта малыя, іх не хапіла дзеля гэтае мэты.

Цяпер зварочваемся да проблемы пра організацыю беларускага казацтва. Перш-на-перш трэба сказаць, што яна надзвычайна напамінае

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. XIV, с. 449.
[2]) Там-жа, с.с. 317—318. Далей там-жа яшчэ колькі такіх выпадкаў.
[3]) Там-жа, с. 265.
[4]) Там-жа, с. 806.
[5]) Там-жа, с.с. 285—294.
[6]) Там-жа, с.с. 363—366.
[7]) Там-жа, напр., с.с. 203—208, 225-226, 265-266 і г. д.
[8]) Там-жа. с.с. 417—418.

лад украінскага „Войска Запорожского“. Магчыма, іншыя дасьледцы, якія будуць базавацца на большым матэрыяле, адкінуць маю думку, але мне здаецца, што можна гаварыць пра поўнае коп'яваньне ладу Украіны. Які-ж быў лад на Украіне? На чале Украіны стаяў гэтман, што разьвязваў справы бягучага кіраўніцтва з сваімі найбліжэйшымі раднікамі і выканаўцамі яго даручэньняў—„Генэральнаю Старшынаю“. Болей важныя справы разглядала рада казацкае старшыны, якая ў пэўныя тэрміны зьяжджалася да гэтмана. Найважнейшыя палітычныя справы, што ўплывалі і зьмянялі жыцьцё Украіны, разьвязваліся на „Генэральнай Радзе“—дэмократычным інстытуце, у каторым бралі ўдзел шырокія масы казацтва (а часамі і сялянства). Але ня з гэтых цэнтральных устаноў гэтманскае Украіны коп'явала свой лад беларускае казацтва. Паклонскі насіў тытул палкоўніка, казацтва было арганізована ў полк, значыцца, і лад яго коп'яваў палковую (мясцовую) арганізацыю казацкае Украіны. На Украіне, што падзялялася на колькі палкоў, кожны полк быў ня толькі ваеннай адзінкай, але і тэрыторыяльна-адміністрацыйнай і судовай. На чале яго стаяў палкоўнік—начальнік палкавога казацтва, адміністратар і судзьдзя. Ён кіраваў пры ўдзеле палкавое старшыны. Да яе належалі: палкавы абозны (кіраваў палкавой артылерыяй), судзьдзя, пісар, 2 эсаулы (род ад'ютантаў альбо афіцэраў для асобных даручэньняў), 2 харунжых (заведвалі палкавымі харугвамі). Incorpore палкавая старшына складала раду палкоўніка. Але была яшчэ палкавая рада—сход казацтва палка, які разьвязваў найважнейшыя справы і часта абіраў і палкоўніка. Полк падзяляўся на меншыя адзінкі ваенна-адміністрацыйна-судовага характару—сотні. У кожным палку іх было некалькі. На чале сотні стаяў сотнік з соценнай старшынай.

Зварочваемся да арганізацыі палка беларускага. На чале яго стаяў палкоўнік, катораму падлягалі ва ўсіх галузях яго казакі і ад каторага залежала, як мы бачылі, і іншае жыхарства палка. Што да казакаў, то гэта выяўлена ў царскай грамаце Паклонскаму 28 сьнежня 1654 г.: „мы, великій государь, воеводѣ нашему твоего полку казакоў вѣдать ни въ чемъ не велѣли, а велѣли козаковъ, которые объявятца въ какихъ винахъ, отсылать къ тебѣ“ [1]). Полк падзяляўся на сотні, на чале каторых стаялі сотнікі. У пісьме Магілеўскага ваяводы Міх. Ваейкава цару ад 13 верасьня 1654 г. ёсьць зьвестка пра сотнікаў Чакакоўскай і Прапойскай соцень, што мелі бой з палякамі [2]). 14 кастрычніка 1654 г. ёсьць зьвестка пра сотніка Бушака з палка Паклонскага. Яго казакаў пад Бялынічамі разьбілі палякі [3]). У кастрычніку-ж 1654 г. ўспамінаецца пра Аксена Змалевіча, сотніка Мозырскага [4]). Таксама ў кастрычніку 1654 г. ўспа-

[1]) Акты Южн. і Западн. Россіи, т. XIV. с. 464.

[2]) Там-жа, с. 330.

[3]) Там-жа, с. с. 433-434.

[4]) Там-жа, с. с. 424-425, але гэта магчыма быў сотнік, падлеглы Залатарэнку.

мінаецца сотнік П. Акуркавіч[1]), а перад гэтым ёсьць зьвестка пра сотніка і казацтва з Благовіч[2]). Такім чынам, было некалькі тэрыторыяльна ваенных адзінак—соцень (дакладна лік іх немагчыма ўстанавіць за недахватам матэрыялу). Відавочна да названых соцень можна далучыць яшчэ Крычэўскую сотню. Пра яе ўспамінаецца, праўда, у чэрвені 1655 г., але, як відаць, гэта былі рэшткі казацтва Паклонскага[3]). Палкавую старшыну, побач з сотнікамі, у сьнежні 1654 г. знаходзім у просьбе Паклонскага пра маёнткі для сваіх супрацоўнікаў. Гэта былі „Павелъ Окурковичь, судья полковый (раней ён, як мы бачылі, быў сотнікам), Александръ Кучинскій, ясаулъ полковницкій, Тихонъ Кондратовъ, знаменщикъ полковницкій“, 4 сотніка і „священникъ полковый Василей Залоскій“[4]). „Знаменщикъ“ гэта тое самае, што украінскі харунжы, ён так і называецца ў іншым дакуманце—„Тихонъ-хоружей“[5]). У студзені 1655 г. ўспамінаецца атаман Мінута Сямёнаў[6]); на Украіне атаман—член сотеннае старшыны; як відаць, так было і на Беларусі.

Пад час палкоўніцтва Нечая беларускі Чаусаўскі полк быў падзелены на 19 соцень. Пра гэта мы пазнаем з чалабітнай „сотниковъ Войска Запорожского полку Бѣлорускаго“ цару. Яе падпісалі сотнікі соцень: Чаусаўскай, 3-х Магілеўскіх, Горскай, Забалоцкай, Бярдыніцкай, Акулінскай, Горадзенскай, Сьвятазёрскай, Уланаўскай, Рагазінскай, Белявецкай, Чэрахоўскай (яна-ж Вярбейская і Прапойская), Чачэрскай, Мяжэнскай (яна-ж Смалянская) і 3 сотнікі без азначэньня соцень—Жукоўскі, Сьліскі, Зубоў[7]). Пад час Нечая маем зьвестку пра сход казацкі ў Чаусах—палкавую раду. Гэта было пры расьсьледваньні Кіеўскім палкоўнікам Ждановічам дзейнасьці Нечая. Тады, піша Ждановіч, „мѣсяца того жъ (мая) 20 дня, я, Онтонъ Ждановичъ, велѣлъ на *совѣтъ* собрать *козаковъ всѣхъ полкъ* Нечаева“. Пры гэтым „велѣл есмь всѣмъ козакомъ Украиннымъ и залогамъ изъ Могилева и изъ Могилевского повѣту, также и съ иныхъ повѣтовъ и съ Чаусъ Золотаренкова полку и Черниговского выйти тамъ, гдѣ кто передъ тѣмъ жилъ (г. зн. на Украіну), только тѣмъ, которые домами своими предъ тѣмъ жили (значыцца, беларусінам) и нынѣ чтобъ жили по приказу его милости пана гетмана. И тѣхъ козаковъ, которые *собрались на совѣтъ,* спрашивалъ есмя противъ тое статьи: котолицкой ли вѣры или хрестіянской полковникъ Иванъ Нечай? О чемъ всѣ козаки сказали одинако, что онъ православной вѣры христіянскай“[8]). Стралецкі сотнік М. Сільцов, які езьдзіў з Ждановічам, у сваім стацейным

---

[1]) Акты Южн. і Западн. Россіи, т. XIV, с. 409.
[2]) Там-жа, с. 212.
[3]) Там-жа, с.с. 707-708.
[4]) Там-жа, с.с. 449-452.
[5]) Там-жа, с. 409.
[6]) Там-жа, с. 495.
[7]) Там-жа, т. III. сс. 540-541.
[8]) Там-жа, с. 524.

сьпісе амаль не дaслоўна паўтарае Ждановіча, але датуе „раду“ (ён так яе і называе 21 мая[1]). Вось такі быў лад-організацыя казацтва на Беларусі. Паўтараю, што нішто не паказвае на яго розьніцу ад палкавой організацыі „Войска Запорожского“—Украіны, прынамсі, пакуль што адзнак адмеціць немагчыма.

Узьнікае пытаньне важнае і цікавае пра тое, з каго, з якіх станаў і кляс складалася беларускае казацтва. Няма сумненьня, што спачатку паміж казацтвам было найболей сялянства, якое ахвотна ішло да Паклонскага, спадзяваючыся, відавочна, на соцыяльныя здабыткі. Так, у „отписке“ М. Ваейкава ад 16 жніўня 1654 г. сказана: „я холопъ твой (царскі) и полковникъ Костянтинъ сабрали пѣшихъ могилевцовъ и чаусовцовъ и радомцовъ *крестьянъ* съ тысячю человѣкъ съ бердыши и съ рогатины и съ пищалми, да конныхъ крестьянъ со сто человек“ [2]). 11 жніўня той самы Ваейков паведамляе пра тое, што м. Чаусы дабравольна паддалося Паклонскаму. „И полковникъ Костянтинъ Поклонскій тѣхъ Чаусовцовъ и *сельскихъ крестьянъ* переписалъ и собралъ войска пешихъ 800 человѣка“ [3]). Аднак, Паклонскі не разьлічваў на сталую нахільнасьць сялянства. Ён (кастрычнік 1654 г.) піша, што „естли *охотниковъ* буду звати— зѣло мало будетъ; а естли *всѣмъ* изъ волокъ *велѣть итти*, тогда будетъ тысячь съ пятнатцать и больши“. Ён просіць цара пасланць граматы да Магілеўскага павету, каб усе па вымозе палкоўніка ішлі ў паход[4]). Так далей рабіў ён і на справе. 20 сьнежня 1654 г. „отписка“ Смаленскага ваяводы Гр. Пушкіна пра тое, што Паклонскі ў Смаленскім, Шклоўскім, Горскім і Мсьціслаўскім паветах „козаковъ и крестьянъ (с) Жеребьевъ велитъ имать и ставитца въ казаки, покиня свои жеребьи“[5]).

Былі ў войску Паклонскага і мяшчане. Пра гэта пазнаем і з чалабітнай (ужо пасьля пераходу Паклонскага да палякаў) магілеўскага мѣшчаніна І. Штаноўніка, дзе ён гаворыць, што „пріѣзжаютъ къ намъ въ Могилевъ изъ полковъ козаки, сотники, ясаулы и полковники и меня сироту и многихъ *мѣщанъ* въ *козаки* сильно (гвалтам) емлютъ и клеплютъ напрасно, будто мы сироты *многіе въ козакахъ были при Поклонскомъ*“[6]). Гэта значыць, што казакі Залатарэнка мобілізавалі быўшых казакаў Паклонскага з мяшчан. Але гэтыя ўжо не хацелі ісьці.

Што да шляхты, то спачатку, як відаць, яе адносіны да беларускага казацтва былі вельмі ненахільныя. Справа ў тым, што беларускія сяляне, каторыя цяпер сталі казакамі, звычайна хацелі зьмен соцыяльнага ладу, помсты над сваімі панамі. Сустракаем, напр., чалабітную шляхцічаў

1) Акты Южн. і Западн. России, т. III, с. 531.
2) Там-жа, т. XIV. с. с. 215-217.
3) Там-жа, с. с. 211-212.
4) Там-жа, с. 408.
5) Там-жа, с. с. 453-454.
6) Там-жа, с.с. 821-822.

Мянчынскіх, у каторай яны гавораць, што іх парабавалі казакі Паклонскага [1]). У чалабітнай магілеўскае шляхты (бяз даты, але адносіцца да жніўня-верасьня 1654 г.) ёсьць просьба, каб „мучителей, которые нестерпимое мучительство, топлѣнье шляхты и шляхтянокъ учинили, чтобъ казнены были...“ [2]). Але на чале беларускага казацтва стаяў *шляхціч* Паклонскі, якому ня былі чужыя інтарэсы сваёй клясы. І вось шляхцічам Менчынскім, катораму на яго-ж казацтва скардзіліся, Паклонскі дае пісьма з просьбай пажалаваць іх платаю [3]). Калі ў лістападзе 1654 г. маскоўскі „окольничій“ Ѣ Алферьеў запрапанаваў яму браць провіянт з *шляхецкіх маёнткаў* і перш-на-перш з маёнткаў кн. Галаўчынскага (3.000 валок), каб ня браць з сялянства, Паклонскі адмовіўся [4]). Дваранская Масква, што з вялікаю неахвотаю пагаджалася з (тады яшчэ) дэмократычным рухам украінскага казацтва, таксама не хацела бачыць на Беларусі зьмены сацыяльнага ладу. Так „полковнику Костянтину указалъ государь *прибирати къ себѣ въ полкъ шляхту* и всякихъ служилыхъ людей“ [5]). Шляхціч А. Якавінскі ў жніўні 1654 г. просіць цара, каб гэты „велѣлъ... мнѣ въ полку Костентина Поклонского быть въ сотникахъ“. Цар „пажаловалъ“ [6]). Праўда, ня ўся шляхта пайшла за Паклонскага, ад казакаў якога яна спачатку пацярпела. Адзін з яе Міх. Салтан просіць цара, каб „земянскую повѣтовую хоруговь (г. зн. так, як была пры палякахлітоўцах, калі шляхта йшла пад павятовай харугвай) свою дати изволилъ, чтобъ есми подъ его милостью паномъ воеводою, назначеннымъ отъ вашего царского величества, и подъ его толко строеньемъ мы шляхта пребывали... а *до строенія* (кіраўніцтва) *пана полковника не належали и онъ до насъ*“.

Тут-жа колектыўная чалабітная магілеўскае шляхты; яна глуха гаворыць, каб цар „правителя и старѣйшаго человѣка придати изволилъ...“ (не прызнаючы гэткім спосабам за такога Паклонскаго) [7]). Аднак, чым далей шмат шляхты ішло да Паклонскага, займала там кіраўнічыя пасады (напр., харунджы Кандратьев—шляхціч) [8]). Вось, напр., у пісьме да В. Бутурліна 6 студзеня 1655 г. К. Паклонскі скардзіцца, што замест „жалованья“ Пасольскім Прыказам „чести шляхецкіе унято“ (Манькоўскага і Гэлду назвалі мяшчанамі). Аднак, другі „вѣрно... служылъ со мною и нынѣ служитъ: до моего полку тритцать человѣкъ тотчас выслал на войну“ (сваіх падданых? Значыцца, былі казакамі і людзі, залежныя ад паноў). 19 студзеня 1655 г. Бутурлін адпавядае, што ён заступіўся за шляхту і рэко-

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. XIV, с. с. 348—350.
[2]) Там-жа, с. 252.
[3]) Там-жа, с. 348—350.
[4]) Там-жа, с. с. 439—442.
[5]) Там-жа, с. с. 192—194.
[6]) Там-жа, с. с. 241-242.
[7]) Там-жа, с. с. 247—251.
[8]) Там-жа, с. с. 733—734.

мэндуе казаць „шляхтѣ своего полку“, каб яна верна служыла цару [1]). Гэтай шляхце цар раздаваў маёнткі. Першы іх дастаў сам начальнік казацтва—Паклонскі. Так, 15 верасьня 1654 г. маем жалованую грамату К. Паклонскаму на двор у м. Магілеве і на м. Чаусы з вёскамі Бардзінічы, Забалацьце, Ялавое, Старасельле „со всякими угодьи и строеніи и со крестьяны...“ [2]). Але гэтага яму было мала. 13 сьнежня 1654 г. ён просіць дадаць яму яшчэ 6 вёсак, а таксама мядовую дзесяціну ў Магілеўскім павеце і ўсе зборы з млыноў у ім-жа. Цар рашыў, відавочна, што гэтага надта многа і даў толькі 3 вёскі [3]). Просіць пра маёнткі і іншая шляхта—казакі Паклонскага. Так, Ст. Круглік-Залясоўскі просіць „дати въ помѣстье въ Кричевскомъ уѣздѣ селцо Юшковичи съ мелницею, да селцо Сорочень“ [4]). 18 студзеня 1655 г. маем грамату шляхцічу Вас. Зухару з палка Паклонскага на вёску Беразоўку і „дворишко послѣ Жидовина Шавило“ [5]) і г. д. Пасьля здрады Паклонскага цар (6 ліпня 1655 г.) пастанавіў конфіскаваць усе маёнткі, якія былі даны Паклонскаму і яго казакам—шляхте, каторыя здрадзілі [6]).

Такім спосабам шляхціч Паклонскі ня змог, як гэта зрабіў, урэшце, блізкі да шляхты Багдан Хмяльніцкі на Украіне, скарыстаць шырокія масы „черни“ і „скасаваць казацкаю шабляю“ ўвесь папярэдні лад. Паклонскі ня мог стаць вышэй інтарэсаў сваёй клясы. Адсюль і яго здрада Маскве. У яго пісьмах пасьля пераходу да палякаў відны вузкашляхецкія погляды і думкі. Ён піша да нейкага маскоўскага саноўніка (люты-сакавік 1655 г.): „Богъ дай, *шляхтичь* полской *съ шляхтичемъ* московскимъ жилъ въ покоѣ, какъ было и почалося, нежели честнымъ боярамъ съ тѣми холопы“ (г. зн. з мяшчанамі і сялянамі) [7]). У пісьме 24 сакавіка 1655 г. да наказнога гэтмана Залатарэнка Паклонскі гаворыць, што „разумѣлъ если, что та война имѣла быти на освобожденіе утисненной Руси, или воспріять потѣху, яко отъ государя христіянского; ажно вмѣсто полученья такое лупленіе домовъ Божіихъ, что и отъ татаръ бывало... и въ лутчей волности прежде за ляхами пребывали есмы...“ [8]). 24-ж сакавіка ў пісьме да нежынскага пратапопа ён так, між іншым, тлумачыць свой пераход да Радзівіла: „золотые слова на листахъ шляхтѣ и мѣстомъ подавано, но ихъ въ вопасенье потомъ обращено, а самой шляхтѣ и мѣщаномъ желѣзные волности на ногахъ надавали“... [9]). Яшчэ ясьней выглядае справа ў лісьце да Магілева быўшага казака Паклонскага шляхціча Салтана:

[1]) Акты Южн. і Западн. России, т. XIV, с. с. 491—495.
[2]) Там-жа, с. с. 361—364.
[3]) Там-жа, с. с. 447-448, 500-501.
[4]) 18-I-1655 г. дано. Там-жа, с. с. 504—506.
[5]) Там-жа, с. с. 505-506.
[6]) Там-жа, с. с. 738—740.
[7]) Там-жа, с. 514.
[8]) Там-жа, с. 542.
[9]) Там-жа, с. с. 549-550.

„меня,—піша ён,—измѣнникомъ не зовите, что если до своего перваго и прямого пана (польск. караля—в. князя Літоўскага) возвратился, *какъ есть шляхтичь и любитель вольностей* [1]) (запэўна, для сваёй клясы, шляхецкіх „вольностей"). Вось у чым была справа. Абсолютычная, хоць і дваранская (канчаткова яна стала дваранскаю пры Пётры I), Масква не давала столькі для шляхецтва, як магнацка-шляхецкая Польшча-Літва. Адсюль ясна і прычына пераходу шляхты—„любителей вольностей", начальнікаў беларускага казацтва да Польшчы.

Дэмократычныя-ж (гаворым галоўным чынам пра сялянства) пласты беларускіх казакаў пайшлі да украінскага казацтва, што было роднае ім па соцыяльнаму складу, бо пераважна складалася таксама з сялян. Праўда, часам і ў войску Залатарэнка сустракаем шляхту. Так, пры канцы 1655 г. маем тут магілеўскіх шляхцічаў—Б. Іваноўскага (на пасадзе сотніка) і О. Якавінскага [2]). Ад 4 верасьня 1655 г. маем цікавую чалабітную цару ад Ф. Марцюшкевіча—сына казацкага сотніка-шляхціча. Просіць ён зацьвердзіць за ім і за братам бацькавыя маёнткі. Пры гэтым ён піша: „а съ того помѣстья *служатъ отъ насъ* въ полку наказного гетмана Ивана Микифоровича Золотаренка десять человѣкъ, да под Быховымъ, въ полкѣхъ стоятъ семь человѣкъ, платимъ мы гроши, а служатъ на нашихъ коняхъ, и платье и оружье наше". У Залатарэнка служыць і яго брат Грыгор [3]). Гэта вельмі цікавы парадак, што абсолютна падобны з фэўдальна-шляхецкай організацыяй войска, якая тады была ў Польшчы-Літве, Маскве і ў іншых дзяржавах. Сапраўды, у казаках, як бачым, служаць шляхецкія падданыя, якія і цяпер ня вызваліліся ад залежнасьці ад пана (як мы бачылі вышэй, гэткія выпадкі бывалі і пры Паклонскім). Такіх парадкаў на Украіне ня было.

Але гэта, відавочна, былі нешматлікавыя факты дзеля таго, што раз-по-раз знаходзім зьвесткі пра варожыя адносіны паміж казацтвам (менавіта пры палкоўніцтве Нечая) і шляхтай. Так, у лісьце да цара ад 2 студзеня 1656 г. Нечай піша, што казакі яго нікога не рабуюць „только розная *шляхта*... именуясь быть казаками полку моего, одинъ на другово наѣзжаютъ и животы грабятъ, о чемъ я не вѣдаю и *до полку Чаусовского не принимаю*. И не отъ Черкасъ, но от шляхты всякое розоренье бывает, а казаковъ безъ вины оглашаютъ" [4]). У маі 1656 г. палкоўнік Ждановіч разьбіраў, дзеля чаго чаусаўскія казакі „христіянъ шляхту", а таксама і царскіх пасланцоў „на смерть побиваютъ и шарпаютъ и обдираютъ" [5]). Шляхецкіх падданых Нечай прыймаў бяз згоды шляхты ў казакі. Так, напр. (красавік 1657 г.), у Мсьціслаўскім павеце „шляхту...

---

[1]) Акты Южн. і Западн. Россіи. т. XIV, с. 546.

[2]) Там-жа, с. с. 847—850, 855-856.

[3]) Там-жа, с. с. 817-818.

[4]) Там-жа, т. III., с. 590.

[5]) Там-жа, с. 523.

изъ *маетностей вынала* и пашенныхъ *крестьян въ казаки пописали* насилствомъ" [1]). Дваранскі маскоўскі ўрад з абурэньнем адносіўся да гэтага— уціскалі родную яму клясу беларускае шляхты. І калі была яго моц, ён мсьціў казацтву, дапамагаючы шляхце.

Так, у жніўні 1657 г. знаходзім „отписку" магілеўскага ваяводы стольніка С. Змеева пра тое, што многа сялян Магілеўскага павету запісаліся ў казацтва. Было ўладжана дазнаньне пры ўдзеле Нечаевага наказнога палкоўніка Карнея Дрань: „и новыхъ казаковъ, государь, и съ сосѣдьми и съ захребетниками, съ двѣстѣ человекъ выписали изъ козаковъ и били вместо кнута батога нещадно, и велѣли имъ жить по прежнему на своихъ жеребьяхъ въ пашенных людѣхъ, а старыхъ козаковъ и сотниковъ и есауловъ, и атамановъ и рядовыхъ били ослопьемъ, что они вновь казаковъ писали и уѣздомъ владѣли без указу, и выслали вонъ (тых), у которыхъ дворовъ нѣтъ". Заставілі тых, што мелі тут двары з тым, каб яны ня бралі „пашни" і пустых валок; „а которые казаки возмутъ пустые валоки и ими станутъ владѣть, и тѣмъ быть по прежнему въ пашенныхъ людехъ и тягло всякое тянуть къ городу" [2]), 12 жніўня 1657 г. маем скаргу Нечая на расійскіх ваявод у Беларусі: ад казакоў яны вымагаюць падаткаў, „какъ отъ крестьянъ" (г. зн. маскоўская ўлада не прызнавала іх за казакаў), „хохлы рѣжутъ (беларускія козакі запазычылі і гэту запароскую азнаку) и кнутами бьютъ" [3]). 27 жніўня 1657 г. Нечай зноў скардзіцца цару на ваявод, што ўціскаюць яго казакаў, напр., „подданыя изъ ихъ, якъ з мужиковъ, требують, до того чюприны рѣжуть, кнутами бьютъ, грабятъ"... Палкоўнік думае, што „тое подобно стаетця за повѣдомъ (вижу есть за подученьемъ) пановъ шляхты [4]).

Напрашваецца пытаньне пра нацыянальны характар беларускага казацтва, ці адчувала яно сваю асобнасьць? Здаецца, на гэта пытаньне магчыма адказаць сьцьвярджальна. Інакш, тым-жа мажліва тлумачыць імкненьне яго начальнікаў да асобнага становішча? Яны ўвесь час моцна пачуваюцца і ня толькі ў беларуса Паклонскага. І украінец Нечай, відавочна, адчуваў нацыянальную асобнасьць організацыі, на чале каторай ён стаяў, таму і называўся ён ня іначай як палкоўнікам „беларускім" (хоць ня можна адкідаць, што паміж яго казакаў было нямала украінцаў, каторыя з ім і з Залатарэнкам прышлі на Беларусь). Але гэта быў час, калі нацыянальная ідэя яшчэ не ўсьведамлялася ясна. Нават пераможная украінская рэволюцыя болей гаварыла пра рэлігійнае пытаньне, чым пра нацыянальнае. Уласна кажучы, першае прыкравала раз-па-разу другое. Так, як відаць, было і на Беларусі.

---

1) Акты Южн. і Западн. России, т. III, с. с. 581-582.

2) Там-жа, т. IV, с. с. 15-16.

3) Там-жа.—Дадатак да т. VII, с. 179-180.

4) Там-жа, т. IV, с. с. 16-17.

Вось што мажліва сказаць пра пэрыод беларускага казацтва,—цікавы вынік уплыву украінскае рэволюцыі Б. Хмяльніцкага. Застаецца адказаць на пытаньне, чаму ня мела посьпеху яго організацыя, чаму на Беларусі ня было соцыяльных зьмен. Думаю, што перш-на-перш справа ёсьць у іншых соцыяльна-экономічных варунках Украіны (дзе перамагла казацкая рэволюцыя) і Беларусі. На Украіне да 1648 г. маем перавагу магнатаў. Барацьбу з імі пры варунках гандлёвага капіталізму, што ўжо пачынаўся, вяла моцная кляса дробных зямляўласьнікаў-казакаў. На Украіне Люблінская вунія ня прынесла панаваньня шляхецтва,—шляхецкую рэволюцыю павінна было дарабіць казацтва. Ня так было на Беларусі. Тут (прынамсі ў тэй яе частцы, у якой адбыліся здарэньні 1654—1659 г.г.) амаль ня было буйных зямляўласьнікаў. Шляхецкую рэволюцыю ўжо ня трэба было рабіць—гаспадаром становішча была шляхта. На чале руху стаяла шляхта-ж, сам Паклонскі быў шляхціч. Дваранская Масква не захацела абаперціся на процішляхецкі рух сялян. Яна, зацьвярджаючы правы шляхты, рабіла ўсё, каб прыдушыць сялянства, яна не хацела і хацець не магла соцыяльнае рэволюцыі. Спроба утварыць новы дзяржаўны беларускі організм спаткалася з вялікімі труднасьцямі. Галоўная была тая, што да прыходу маскоўскіх войск на Беларусі ня было самастойнае дзяржаўнае організацыі (як гэта было на Украіне), далучаліся асобныя паветы і горады па адзінцы. Гэткім чынам спроба беларускае казацкае дзяржавы пацярпела няўдачу. А просты народ верыў у мажлівасьць звальненьня цераз казацтва. Нядарам яшчэ і цяпер пра казака сьпявае беларуская песьня, ён улюбёны гэрой яе.

На гэтым закончу сваю заметку пра беларускае казацтва. Павінен сказаць, што я ня ставіў мэтаю ў варунках журнальнага артыкулу разьвязаць да канца проблему. Я добра разумею, што той невялікі матэрыял, які я скарыстаў, абсолютна не дае мне на гэта права. Мой артыкул—гэта толькі пастаноўка пытаньня. Спадзяюся, што іншыя дасьледнікі падрабязна і глыбака дасьледуюць гэтую эпоху, беларускае казацтва і яго організацыю, і такім чынам праверацы і дапоўняць мае вынікі і думкі.

---

Яшчэ болей як два з паловай сталецьці былі і Украіна (дзе казацкая старшына ў сярэдзіне XVIII ст. стварыла з сябе новае шляхецтва) і Беларусь, дзе засталося старое шляхецтва, у панскай няволі. Казацкае паўстаньне ня вызваліла працоўныя масы. Трэба было яшчэ доўгіх гадоў цярпеньня і барацьбы, каб новая, на гэты раз ужо сапраўдная, соцыяльна-вызваленчая рэволюцыя вызваліла іх. І толькі яна прынесла, разам з соцыяльным вызваленьнем, вызваленьне нацыянальнае. Няясныя імкненьні працоўных мас у пэрыод казацтва цяпер зьдзяйсьніліся.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАДЗЕІ ў 1926 г.

**З. Жылуновіч**

Беларускае літаратурнае жыцьцё ў 1926 г. адзначаецца асаблівым рухам, багатаю дынамічнасьцю. На ім дужа выразна можна бачыць той агульны рост творчасьці ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры, які што далей, тым болей глыбей і пашыраецца. Беларускія працоўныя гушчы вытрымліваюць экзамен на сталых гаспадароў краю і на яго кіраўнікоў. Яны ўвачавідкі разгартаюць перад сьветам свае творчыя сілы і арганізацыйныя мажлівасьці. Доля нявольнікаў, якія ня здатны да разумовага будаўніцтва, а прысуджаны жыцьцём да бытаваньня ў ролі чорнае сілы, далёка прагнана хоць-бы тымі дасягненьнямі, якія набыты за кароткі тэрмін самастойнага, вольнага жыцьця краіны. Мінулае шпарка тлее на вогнішчы кіпучае працы адраджэньня. Упарта і настойна растаюць апошнія цені старых зданьняў. Музэйнымі фігурамі адзначаюцца рэдкія віды ўздыхацеляў аб „даўнейшым“. Усё болей і мацней цэмэнтуецца агульная воля колектыву, так нядаўна ня меўшага свайго выгляду і ня знаўшага свайго імя.

І так ахвотліва налягае думка на патрэбу старанных падлікаў набытых за мінулы год дастаткаў! І гэтак міла адмячаць тыя посьпехі, тыя заваёвы, што здабыла думка і сіла беларускага працаўніка!

Гэтыя здабыткі ўсебаковы і рознастайны; яны вялікія і значныя ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця. І бязумоўна, што, дзякуючы агульнаму росквіту апошняга, мы маем гэткія плёны і на ніве літаратурнай.

Пакуль мы знаходзімся яшчэ ў тэй ступні разьвіцьця і набытку людзкіх рэсурсаў, калі літаратура займае адну з найважнейшых заданьняў. Застаючыся часткаю надстроечнага над экономічным базысам матэрыялу, беларуская літаратура разам з тым яшчэ не адыграла ў беларускіх умовах ролі рухавіка ў агромнай машыне агульна-дзяржаўнага і агульна-культурнага будаўніцтва і яго аформленьня. Гэроічнасьць адраджэнскага адблеску,ператворанага кастрычнікаўскаю рэволюцыйнасьцю, вітае над абшарамі вольнае, захопленае адбудоўкаю краіны. Пакуль, таксама, беларуская літаратура зьяўляецца першым хадаком да комуністычнае мэты.

Зразумела, што каля яе росту, вокал яе разьвіцьця з найбольшаю ўвагаю павінна лунаць наша думка. Мы неадступна мусім сачыць за малейшымі разгаліненьнямі на яе ўзмоцненым комлі, каб у кожным

трапятаньні новае галінкі, сьвежага пупішка выглядаць і зьмяраць нясупынныя вібрацыі грамадзкіх настрояў, жыцьцёвага руху.

У чым-жа выказваюцца тыя дасягненьні на беларускай літаратурнай ніве ў працягу 1926 г., аб якіх мы кажам? Чым яны акрасьляюцца? Якавою формаю ды якасьцю прадстаюць яны перад намі? Якія асабістасьці ў іх характарыстыцы? Што прогназуюць гэтыя дасягненьні новаму 1927 году?

Літаратурныя падзеі толькі што праведзенага году, папершае, падзяляюцца на дзьве асабістасьці. Адна з іх зьмяшчае ў сваім разуменьні факты творчага значэньня ў сэнсе нараджэньня новых здабыткаў літарацкае працы. Другая—зьбірае вакол сябе падзеі організацыйна-ідэолёгічнага характару. Абедзьве гэтыя катэгорыі зьяў, зразумела, цесна між сабою пераплецены і таксама неадлучны ад чыннасьці ўсіх фактараў беларускага жыцьця.

Калі мы падыдзем да агляду літаратурных здабыткаў 1926 г., то зразу ўсьцешымся ад іх вялікасьці, значнасьці і багацьця. Наперадзе ідзе выдатная колькасьць выпушчанай Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам, ЦБ аб'яднаньня „Маладняк" і іншымі організацыямі і ўстановамі літаратурнай вытворчасьці. Лічба друкаваных аркушоў дасягае двухсот, з якіх на Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва падае 120 [1]), на „Маладняк" з філіямі да 60 [2]). Апроч гэтага, шмат бэлетрыстычных і вершаваных твораў зьмяшчалася ў часопісах „Полымя", „Маладняк" і інш. Агульны тыраж выданьняў налічвае 100.000 экзэмпляраў і абымае сабою амаль ня сорак чалавек старэйшых і маладзейшых пісьменьнікаў. З апошніх асталося зусім нямнога такіх, чые-б творы ня ўгледзелі сьвет. Зразумела, што побач з выдатнейшымі рэчамі, якія перадсталі чытачу, было шмат і слабых, першых спробаў пяра. Тым ня меней у агульным значэньні росту літаратурнай чыннасьці адно другое папаўняе, сьведчачы аб выяўленьні новых маладых літаратурных сіл. Ад таго, што ім была дадзена мажлівасьць выступіць на суд чытача, залежыць многае ў іх разьвіцьці і ў акрэсьленьні стоўпня гэтага разьвіцьця. Па тых адзнаках, якія характарызуюць адносіны грамадзкасьці да маладых пісьменьнікаў і песьняроў-пачынальнікаў, гэта, разыход іх твораў і ўвага да іх крытыкі, гаворыць аб дадатных момантах. Помеж з творамі старых пісьменьнікаў, ідзе попыт і на творы маладых. Гэткім чынам, усталеньне новых здольнасьцяй вочавідка.

Ня меней вочавідка і паглыбленьне творчых думак у старэйшых пісьменьнікаў. Шэраг выданых зборнікаў і паасобных твораў найяскравей сьведчаць аб гэтым. Найболей цікавымі прыкладамі служаць для Я. Коласа—

[1]) Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам у 1926 г. выдадзена мастацкай літаратуры 63.000 экз., 18 назваў, 11 аўтараў.

[2]) Цэнтральным Бюро „Маладняк", апроч філій, выдана 16 назваў, 20 аўтараў, 30.500 экз.

яго „На прасторах жыцьця“, для К. Чорнага — „Хвоі гавораць“, для Ц. Гартнага — „На перагібе“ (другая частка „Сокаў Цаліны“), для М. Зарэцкага—„Голы зьвер“ і г. д. Адначасна памянёныя рэчы гавораць аб паступовым удасканаленьні творчага разьвіцьця ў адмечаных пісьменьнікаў, іх плённасьці і шырыны ахопу. Для Я. Коласа яго апошні зборнік („На прасторах жыцьця“) кажа аб адметным павароце пісьменьніка ў ідэолёгічным сэнсе. Я. Колас значна падблізіўся да ідэй сучаснасьці і ў прыгожым сваім апавяданьні „На прасторах жыцьця“ стаў перад намі яе пяўцом. Гэта эволюцыя нашага пісьменьніка асабліва цікава і сымптоматычна; яна акрасьляе сабою тое дадатнае зьявішча ў разьвіцьці беларускае літаратуры, якое гаворыць за яе заўсёдашняе спадарожжа жывым сілам і кіпучай творчасьці беларускіх працоўных гушчаў. Часовае ўхіленьне некаторых пісьменьнікаў ад хвалюючых думак бягучага часу, нячуласьць да яго творчых рухаў, што было ўдзячна і Я. Коласу, мінулася, і беларускія пісьменьнікі сьцісьлымі шэрагамі становяцца на службу рэволюцыі. Характар і сама істота беларускае рэчаіснасьці рашуча ня годзіцца з іншымі, апроч як з рэалістычна-романтычнымі напрамкамі ў беларускай літаратуры. Мінуўшы год канчаткова рашыў з рэшткамі імажынісцкіх павеваў у маладнякоўскай творчасьці. Тыя з маладнякоўцаў, якія раней ахвяравалі і зьмест і тэхніку балючай вобразнасьці (А. Александровіч, А. Дудар, часта і П. Трус), зараз закінулі гэту асабістасьць і перайшлі да рэальных тонаў і мотываў. У шмат большай долі засталося гэтага налёту ў творчасьці Я. Пушчы, але ў 1926 г. ён мала што даў і праз гэта зьяўляецца выключэньнем...

Аднак, у 1926 г. ў бадзёрасьць беларускае літаратуры пачалі ўкрадацца і сумныя ноткі напеваў. Якраз выпала так, што іх завялі некаторыя маладзейшыя пісьменьнікі, як Кузьма Чорны, П. Трус і інш. Ад старэйшых астаўся пры мотывах „жуды і суму“ адзін М. Гарэцкі. Выданыя ім зборнікі: „Ціхія песьні“, „У чым яго крыўда“ і інш. амаль ня цалкам прысьвечаны адбітку гэтага настрою. Але настроі „жуды і суму“ і мацаньне, пакуль асьцярожлівае, сьцежак „чыстага мастацтва“ ў беларускай літаратуры—зьявішча выпадковае; будзем спадзявацца, што яно ня знойдзе сабе адпаведнае глебы ў умовах беларускага жыцьця.

Імпэтны ўздым будаўнічае працы, накапленьне матэрыяльных сродкаў рэспублікі, гэроічныя заваёвы подступаў да комунізму будуць надаваць беларускай літаратуры і яе тварцом бадзёрых напеваў, мотываў радасьці і натхненьня. За гэта сьведчыць болей усяго пашырэньне соцыяльнае базы, на якой уздымаюцца сьцены літаратурнага будынку. Мы бачым, што шэрагі маладых беларускіх пісьменьнікаў зьяўляюцца цалкам выхадцамі з сялян і рабочых. Афармленьне іх думак і сьветапагляду йдзе пад націскам пануючых ідэй пролетарскага змаганьня. Жадных уплываў старога ладу яны не адчуваюць на сабе, супроціў яго спакусаў утрымаюцца загартованасьцю кастрычнікаўскага шліфаваньня.

Выразна паказальным на гэта быў 1926 г. і з боку выданай вытворчасьці і, тым болей, з боку ідэолёгічных перакартаваньняў сярод пісьменьнікаў. М. Чарот (поэмы „Карчма“, „Ленін“), М. Зарэцкі („42 дакуманты“, „Пад сонцам“), А. Дудар („І залацісьцей і сталёвей“), Цішка Гартны, З. Бядуля, Якуб Колас і Янка Купала—зьліліся ў пяяньні хорам бягучаму моманту. І гэта зусім незалежна ад тых падзелаў на гуртаваньні, на аб'яднаньні вакола асобных часопісяй і незалежна ад тых гутарак, якія часта накіроўваюцца з боку маласьвядомых у беларускай літаратуры людзей.

Пераважнасьць бадзёрых тонаў у творчасьці мінулага году раўняе амаль ня ўсіх беларускіх пісьменьнікаў. У адносінах поўнага прызнаньня сваім натхніцелем ідэй савецкага будаўніцтва, беларускія пісьменьнікі, ад старэйшых да маладзейшых, зышліся разам. І ў наступным ужо можа йсьці гутарка аб поступе далейшага іх рэволюцыянізаваньня і ідэолёгічнай дыфэрэнцыяцыі ў кожнага паасобку. Як і што будзе ў наступным нахіляцца думка данага пісьменьніка водлуг нясупыннага разьмежаваньня клясавае плыні?—Вёска і горад. Дробна-буржуазнасьць і пролетарскасьць.

## II

Фактычна пад знакам гэтых павеваў адбываліся ў 1926 г. літаратурныя падзеі другое катэгорыі, бач, організацыйна-дыфэрэнцыяльныя. Як-ні-як, а ў сьветапоглядзе беларускіх пісьменьнікаў не пануе аднастайных пунктаў гледжаньня, як ня існуе ў грамадзтве БССР аднаклясавасьці (яно-ж бясклясавасьць), а праз тое і ідэёвай суцэльнасьці. Водлуг паглыбленьня і ўсё вастрэйшага выпукленьня клясавых супярэчак, ідзе і ідэёвае разьмежаваньне. Тэрмін „працоўнасьць“ ня можа аб'яднаць усіх тых, хто яго ўжывае. Адны бачаць яго нахіл у бок молату, іншыя азіраюцца на саху. Гэтаму зусім не перашкодзіць тое, што ў савецкіх ідэях скрыжаваны дзьве прылады рознастайнай працы—серп і молат. Эмблема Саветаў можа сьмела ўвянчаць усе томікі ўсіх аўтараў, што выдалі іх у 1926 г. А далей—каму серп, каму молат.

Гэта дылема ўзварушыла вясною мінуўшага году, здавалася, з паверху суцэльным, аб'яднаньне пісьменьнікаў „Маладняк“. Ці можна далей ісьці адным шляхам? Было ясна і зразумела, што не маглі стаць поруч М. Чарот з К. Чорным, А. Александровіч з Я. Пушчаю, М. Зарэцкі з У. Дубоўкаю. Сьветапогляд кожнае двойкі, хоць і нямнога, але розьніўся, вяжучы шчыльней М. Чарота з М. Зарэцкім і А. Александровічам, а Ў. Дубоўку з К. Чорным ды Я. Пушчаю. Фактычна, нясуцэльнасьць ідэёвага настрою ў думках і творчасьці маладнякоўцаў адмячалася з самага пачатку існаваньня „Маладняк“. Каб то выключна гэта ляжала ў аснове організацыі, то, зразумела, што апошняя не дацягнула-б у цэласьці да вясны 1926 г. Але паміма аформленьня ідэёвых напрамкаў

перад „Маладняком“ стаялі заданьні выяўленьня маладых сіл у беларускай літаратуры, пераацэнка яе спадчыны і пашырэньне арэны яе чыннасьці. Гэта абараніла яго ранейшы раскол. У пагоні за аднаўленьнем ідэолёгіі „Маладняк“ нейкі час рабіў ухілы ў нездаровы бок запазычаньня і пераймaньня ў беларускую літаратуру імажынісцкіх плыняў, сухога фармалізму і анормальнай вобразнасьці. Гэта прычына шмат пашкодзіла ўдасканаленьню маладнякоўскай творчасьці на падставах соцыяльна-палітычнага разьвіцьця. Адначасна адмечаная фаза ў яго разьвіцьці папспасобіла маладнякоўцам хутчэй разуверыцца ў няжыцьцёвасьці ў умовах Беларусі рэштакам дробна-буржуазных, пароджаных іншымі абставінамі, настрояў і ідэй. Тады „Маладняк“ аглянуўся на сябе, праверыў зробленае, абмеркаваў пэрспэктывы далейшае працы і... напаткнуўся на featured-рознабой у сваіх радох... Агульнае зьявішча, якое тым-жа часам захапіла і украінскую і расійскую літаратуры, разбурыўшы масавыя організацыйныя формы яе пабудаваньня, ня мінула і „Маладняка“. Вясною 1926 г. частка яго сяброў вышла з аб'яднаньня, залажыўшы новую організацыю „Узвышша“.

Раскол зрабіў адпаведнае ўражаньне ня толькі ў колах беларускіх пісьменьнікаў, а і ў гушчы беларускае савецкае грамадзкасьці. Тымчасам гэта ня было неспадзяваным і ня было ў той-жа час ненатуральным. Само жыцьцё патрабавала яснасьці і поўнага выпукленьня тых зьяў, якія хаваліся ў featured-рознастайнасьці ідэёвых плыняў у „Маладняку“. Гэта рознастайнасьць зараз-жа пасьля расколу вышла на поверх праз вусны прадстаўнікоў нядаўна ядынае грамадкі. У сваім звароце да чытача, зьмешчаным у № 9 за 1926 г. (лістапад) часопісі „Маладняк“ пад загалаўем „Ад усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“, тыя маладнякоўцы, што асталіся ў аб'яднаньні, пісалі: „Выхад з „Маладняка“ часткі пісьменьнікаў азначаў сабою суб'ектыўна — капітуляцыю перад труднасьцямі перагрупаваньня організацыйных і творчых сіл, перад труднасьцямі пераходу на новыя, больш цяжкія, хоць мо' і больш спакойныя, позыцыі; об'ектыўна — *адыход ад правільнае лініі ў справе будаваньня беларускае пролетарскае літаратуры*“ (курсыў наш. З. Ж.). І далей маладнякоўцы вось як характарызуюць ідэолёгічнае credo узвышаўцаў — сваіх ранейшых сяброў і супрацоўнікаў: „Выстаўленьне (узвышаўцамі), як асноўнай задачы сучаснае літаратуры, „выхаваньне новага чалавека-грамадзяніна, чалавека соцыялістычнае грамады“, што абазначае падмену ясных задач пролетарскае літаратуры, літаратуры пераходнае эпохі дыктатуры пролетарыяту туманнымі ідэямі, літаратуры па-заклясавае, што, па сутнасьці, абазначае адмаўленьне пролетарскае культуры наогул. У сваім лёгічным разьвіцьці гэта тэорыя прыводзіць да шуканьня такога мастацтва, якое не кіравалася-б „усякімі пабочнымі інтарэсамі і патрэбамі таго ці іншага дня або той ці іншай грамады людзей, якую мастак выражае ў пісьменстве“. Адсюль ужо адзін крок да агалашэньня лёзунгу „мастацтва для мастацтва“.

Сваю далейшую працу „Маладняк“ у тым-жа артыкуле-звароце абгрунтоўвае на гэткіх прынцыпах: 1) „Маладняк“ лічыць, што беларуская пролетарская літаратура ўтворыцца ў процэсе пашырэньня і паглыбленьня агульнага соцыялістычнага будаўніцтва краіны шляхам паступовае, упартае і сьвядомае працы поэтаў і пісьменьнікаў над прысваеньнем клясавапролетарскай псыхолёгіі і ідэолёгіі, а таксама шляхам папаўненьня літаратурна-пісьменьніцкіх кадраў з мас беларускага пролетарыяту; 2) што „толькі дакладным веданьнем культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру“ (Н. Ленін); 3) што беларуская літаратура, паступова ўспрымае ў процэсе свайго разьвіцьця пролетарска-інтэрнацыянальны зьмест; 4) што „кожная пэўная грамадзкая формацыя мае свой пэўны мастацка-літаратурны стыль“ (В. Фрычэ), што эпоха дыктатуры пролетарыяту таксама выпрацуе свой асаблівы стыль або, іначай кажучы, літаратурна-мастацкі кірунак, які, бязумоўна, не ўкладзецца ў вядомыя да гэтага часу кірункі,— а таму „Маладняк“ (2) ставіць аднэй з галоўных і першачарговых задач упартую працу па сьвядома-крытычнаму аўладаньню культурнымі дасягненьнямі папярэдніх эпох; а таму (3) павінна адначасна разьвіваць і ўдасканальваць самабытную нацыянальную форму, дзеля чаго ў сваіх фармальных шуканьнях павінна перш за ўсё выкарыстоўваць мастацкія багацьці народнае творчасьці і дасягненьні ў гэтай галіне старэйшых беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў; а таму (4) „Маладняк“ выкарыстоўвае мастацкія спосабы розных літаратурных кірункаў пастолькі, пакольки прыгодны яны, як матэрыял для будаваньня новае літаратуры эпохі дыктатуры пролетарыяту і соцыялістычнага будаўніцтва“.

У гэтай-жа часопісі надрукаваны артыкул маладнякоўскага крытыка Тодара Глыбоцкага „Аб фальшы камэртонаў“. Аўтар ім ускрывае тыя прычыны, якія далі штырхач да расколу „Маладняка“. Згодна Тодару Глыбоцкаму, вышаўшыя з „Маладняка“ пісьменьнікі выяўляюць сабою прадстаўнікоў „упадачнічаства, расслабленасьці, містыцызму, што, бязумоўна, процілегла тым прынцыпам, якія выставіў абмаладжаны „Маладняк“. Калі верыць Тодару Глыбоцкаму, то настраёвы зьмест узвышаўцаў складаецца выключна з элемэнтаў—„плаксівасьці і фармальнай бескаштоўнасьці, аднастайнасьці (Я. Пушча), нікчэмнага калупаньня ўнутры сваёй псыхікі і бясконцага, бязмэтнага блуканьня ў цеснай клетцы свайго індывідуальнага сьвету (К. Чорны), істэрычнае крыклівасьці (У. Дубоўка), містыцызму (З. Бядуля)“. Панашаму, у гэтых сваіх вывадах крытык паддаўся суб'ектыўнаму пачуцьцю і пад яго націскам нямерна згусьціў фарбы ў шкоду сапраўднасьці. Тым болей, што выпадкі адыходу ад бадзёрасьці і грамадзкага натхненьня да мотываў „індывідуальнага сьвету“ трапляюцца заўжды і з кожным пісьменьнікам. Падобнае зьявішча можна адмеціць нават і ў саміх ідэолёгаў маладнякоўцаў, як М. Чарот, М. Зарэцкі і А. Александровіч. Мы ўжо ня кажам аб

А. Дудару, В. Маракову ці аб цэлым шэрагу іншых маладнякоўцаў, у якіх ноты суму зусім нярэдкія госьці. Аднак, гэта не выстаўляе пісьменьніка, як упадачніка.

Узвышаўцы, бязумоўна, маюць вострыя ўхілы ў бок ад грамадзкіх сучасных мотываў. Я Пушча і Ў. Дубоўка ня ўмеру шчыра трымаюцца пустое і хілкае плыні, якая точыць маладую расійскую літаратуру, плыні формалізму. Захапленьне сухою вобразнасьцю нямінуча прыводзіць да выветрываньня ня толькі рэволюцыйнае ідэолёгіі, а і ўсякага зьместу. Усё-ж мы бачым, што гэта не пераважная плынь у іх творчасьці: У. Дубоўка завярае нас на часе аб незыходзе з грунту грамадзкай сучаснасьці. Адзнакі гэтага відаць у яго пазьнейшым вершы „Навальніца“, густа прасочаным ідэямі клясавых супярэчнасьцяй.

Іншая справа, калі мы знаёмімся з абгрунтаваньнем ідэёвае пляцформы самымі ўзвышаўцамі. Тут сапраўды няздарава. Да прыкладу, А. Бабарэка, як тэорэтык узвышаўцаў, выказвае такі погляд на літаратуру: „У беларускім прыгожым пісьменстве ёсьць розныя творы. І гэта ад таго, што ня ўсякі пісьменьнік імкнецца даць мастацкі твор, а часта кіруецца ўсякімі пабочнымі патрэбамі ці інтарэсамі таго ці іншага дня, або тэй ці іншай грамады людзей, якую ён выражае ў пісьменстве“. Думка ясная—прэч усякую рэволюцыйнасьць, усякую пролетарскасьць, а падавай агульналюдзкасьць, надклясовасьць і сапраўды „мастацтва для мастацтва“ [1]). Яшчэ ў бытнасьць А. Бабарэкі ў шэрагах „Маладняка“ можна было чуць яго няўстойнасьць у справе пабудовы пролетарска-ідэолёгічнага зьместу ў літаратуры, да чаго ён імкнуўся. Тады ён (на зьезьдзе „Маладняка“) абараняў „клясавую сьвядомасьць пролетарска-сялянскай клясы“. Выйсьце з „Маладняка“ дазволіла А. Бабарэку пашырыць сваю тэзу ў бок надклясовасьці. Аднак, гэта не памяшала ўзвышаўцам у сваім комунікаце перадлюдне зьцьвердзіць, што „мы (узвышаўцы) у сваёй літаратурнай дзейнасьці напорна ішлі і йдзем па пролетарскаму шляху разьвіцьця беларускай літаратуры, і з гэтага шляху ніякія злыдні нас не саб'юць. Іншага шляху мы ня ведалі, ня ведаем і ня мысьлім“ [2]). Для абгрунтаваньня свае заявы ўзвышаўцы абмяжоўваюцца пакуль падкрэсьліваньнем формальнай неабходнасьці дыфэрэнцыяцыі „політасьвета для політасьветы, літаратурныя згуртаваньні—да разьвіцьця літаратуры“. Гэтым, вядома, не паказваюцца ні шляхі, ні лёзунгі, не выпукляецца і зьмест пролетарскіх асноў. Аднак, у творчасьці абодвух памянёных аб'яднаньняў амаль што роўна адбіваюцца ідэі пролетарскасьці ў тым зьмесьце, на згуст якога даюць мажлівасьць беларускія ўмовы. Паглядзім, як пойдзе далейшае разьвіцьцё кожнага з аб'яднаньняў.

---

[1]) „Чырвоны Сейбіт“ № 1 „За культуру мастацтва!“.

[2]) „Савецкая Беларусь“, № 285 ад 15 сьнежня 1926 г.

Помеж з гутаркамі аб расколе „Маладняка“, жылі думкі ў мінулым 1926 г. аб патрэбе згуртаваньня ўсебеларускага саюзу пісьменьнікаў. Адзін час гэтыя думкі набліжаліся да ажыцьцяўленьня, пасьля пацiху зьнiклі. Між тым яны адпавядалі вымаганьням часу. Заклад усебеларускага саюзу пісьменьнікаў дыктуецца самім жыцьцём. У нас, на Беларусі, паміма існуючых аб'яднаньняў „Маладняк“ і „Ўзвышша“ ёсьць шмат пісьменьнікаў, якія застаюцца па-за межамі організацый. Праўда, яны згрупаваны вакола „Полымя“, але гэты выгляд групаваньня, як-бы сказаць, плятонічны. Яно не адпавядае формам патрэбнае організацыі. З-за гэтага беларуская літаратура не прадстаўляе з сябе цэлага організацыйнага будынку, застаючыся ў пройгрышу. У РСФСР ня так даўно адбылося заснаваньне агульна-расійскага (?) саюзу пісьменьнікаў. Думка аб гэтым нарадзілася і на Украіне. 25 студзеня бягучага году адбыўся украінскі агульна-пісьменьніцкі зьезд, які, бязумоўна, паслужыць першым крокам да закладу ўсеукраінскага саюзу пісьменьнікаў. Чарга за намі...

III

Да катэгорыі літаратурных здабыткаў трэба яшчэ аднесьці тыя падзеі ў літаратурным беларускім жыцьці мінулага году, якія выказаліся ў фактах правядзеньня падрахунку дзейнасьці. Гэтым мы маем у воку здарэньні 20-гадовага юбілею Якуба Коласа і пяцігадовага юбілею выданьня часопісі „Полымя“.

Першае здарэньне тым болей набывае важнае значэньне ў літаратурных падзеях 1926 г., што Якуб Колас у ім засуцэліў доўгае кола свайго разьвіцьця. Пачынаючы ад палітычных вершаў на заслоне сэмінарыстага, ён перайшоў ступні моркату і нявер'я. Царская рэакцыя, абрэзаўшая скрыдлы поэтавай бадзёрасьці, прыдушыла яго надзеі, засмуціла яскравасьць небасхілу. Поэту ўсё пачало маляваццa ў сумным выглядзе. Яго настрою ня было выйсьця, чаму ён зьбегся ў „Песьнях жальбы“. Жальба, прасачыўшы Коласава нутро ў часы яго няволі, пакінула ў яго настроі глыбокі сьлед на доўгі тэрмін. Дзякуючы яе атрутнасьці, поэта ня мог нейкую пору асвойтацца ў праявах Кастрычнікавай рэволюцыі. Яе бурлівыя, уздымныя хвалі не маглі раскалыхаць веры і спадзей у Коласа ажно да пачатку 1926 г. І толькі пры сходзе дваццаці гадоў свае літаратурнае чыннасьці Я. Колас перавабразіўся сваім нутраным сьветам і ідэолёгічным зьместам. Адно за другім пачалі зьяўляцца яго апавяданьні, поўныя мотываў, сугучных бягучай сапраўднасьці. У апавяданьні „На прасторах жыцьця“ поэта завяршыў сваё ідэолёгічнае перараджэньне. І гэтым ён ухарошыў тую ўрачыстасьць свайго юбілею, ад якое пачынаецца шлях новае творчасьці. Вось чаму ў сьвяце падрахунку праробленага поэтам адначасова зіхацела вітаньне яго наступнаму. Разам з тым факт дваццацігодзьдзя літаратурнае працы Якуба Коласа адбівае сабою апраўданьне буйнага развою беларускае пісьменнасьці і яе цьвёрдае ўмацаваньне ў жыцьці.

---

У той-жа палогасьці можна разглядаць і пяцігодні юбілей выданьня адзінай тоўстай беларускай марксыцкай часопісі „Полымя“. На працягу свайго існаваньня часопісь адыграла вялікую ролю ў афармленьні беларускай марксыцкай думкі, у зьбіраньні і выяўленьні маладых беларускіх літаратурных сіл. „Полымя“ правяло вялікую працу выхаваўчага характару ў адносінах да савецкае грамадзкасьці. Яно перамагло рэшткі незалежніцкіх думак і настрояў у сям‘і беларускіх пісьменьнікаў. Адначасна часопісь парадзіла сталага беларускага чытача, які мае няпрыменнаю патрэбаю пільна сачыць за разьвіцьцём беларускае культуры і яе найважнейшай галіны—літаратуры. Таксама „Полымя“ служыла зьвяном, якое лучыла ў адну купу маладых і старэйшых пісьменьнікаў, незалежна ад іх належнасьці да тых ці іншых аб‘яднаньняў. Зразумела, што агульныя здабыткі, эробленыя часопісьсю для справы беларускае культуры, ставяць яго юбілей на ўзроўні з значнейшымі падзеямі на літаратурным фронце ў мінулым годзе.

Уцалку літаратурныя падзеі 1926 г. глыбока ўзбурлілі беларускае культурнае жыцьцё. Яны засьведчылі аб выдатным факце нясупыннага разьвіцьця беларускае літаратуры. Таксама гэтыя падзеі зацьвердзілі палажэньне, якое кажа аб неадрыўнасьці беларускае літаратуры ад грамадзкага жыцьця Савецкае Беларусі. Пашырэньне дзяржаўнага будаўніцтва, рост матэрыяльных багацьцяў рэспублікі, паглыбленьне будаўнічай працы ва ўсіх галінах жыцьця,—з‘яўляецца магутным штырхачом да выяўленьня духовых сіл беларускіх рабочых і сялян. Водлуг іх наличнасьці набывае ўсё шпарчэйшы і плёньнейшы росквіт беларуская літаратура. Нарадзіўшыся ў рэволюцыі, яна цесна зьвязана з яе жыцьцём і з яе будучынаю.

# КНІГАПІС

**Тарас Гушча (Якуб Колас) „На прасторах жыцьця“.** *Зборнік апавяданьняў. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск—1926 г., 217 стар. Цана 1 р. 50 кап.*

Калі гаварыць аб аўтару зборніка апавяданьняў—„На прасторах жыцьця“, ня ведаючы і не прачытаўшы яго ранейшых твораў, то застаецца ўражаньне, што гэта новы, сучасны, які зьявіўся на літаратурным небасхіле, пісьменьнік, імя якому Якуб Колас. Але не, гэта той самы Колас, аўтар вядомых найкаштоўнейшых твораў, як аповесьці „У палескай глушы“, поэм „Новая зямля“ і „Сымон Музыка“ і цэлага шэрагу іншых твораў! Толькі ў тых творах Якуб Колас, як вялікі мастак слова, малюе жыцьцё беларуса, прыгожасьць беларускай прыроды скрозь сьлёзы. У новым-жа зборніку апавяданьняў „На прасторах жыцьця“ аўтар дае ў мастацкіх словах пэрыод рэволюцыі, будаўнічы пэрыод савецкага соцыялістычнага жыцьця і, нарэшце, пэрыод будаваньня беларускай савецкай дзяржавы, беларускай культуры.

І зборнік „На прасторах жыцьця“ характарызуе, бязумоўна, новы пэрыод творчасьці Якуба Коласа (Тараса Гушчы). Праўда, яшчэ і да гэтага зборніка Якуб Колас пісаў апавяданьні з сучасным зьместам, але яны не маглі зьвярнуць на сябе належную ўвагу чытача, і толькі праз гэты зборнік Якуб Колас шчыльна падышоў да нашых дзён.

І вось паўстае пытаньне, чаму хочацца крытыкам і чытачом, каб пісьменьнік даваў малюнкі з сучаснага жыцьця? Ды, мусіць, таму, што для нашага чытача больш будуць блізкімі і зразумелымі вобразы з сучаснага жыцьця, якія яму больш патрэбны для яго жыцьцёвай практыкі і выхаваньня. А таму з вялікім захапленьнем і асалодаю чытаюцца такія творы, як роман Ф. Гладкова „Цемент“, ня гледзячы на тое, што ў гэтым романе шмат хібаў, да якіх трэба аднесьці некаторую няшчырасьць і тэндэнцыйнасьць пісьменьніка Гладкова, адкуль тыпы ў романе (Даша) вышлі ня зусім рэальнымі. Таксама ня зусім удалы і мастацкі бок романа: вобразы сухія, мала зразумелыя, мова цяжкая. Але ня месца ў кароткай рэцэнзіі спыняцца паралельна і на творах другіх пісьменьнікаў і толькі можна сказаць, што ў вогуле роман па замыслу і па зьместу цікавы і мае сваю каштоўнасьць.

Калі-ж мы пяройдзем да зборніка „На прасторах жыцьця“ Якуба Коласа, то чытач убачыць зусім іншы малюнак, чым у романе Ф. Гладкова. Той-жа самы замысел у абодвух творах, той-жа (па самому характару) зьмест, тая-ж эпоха. Але ўражаньне, вынікі ў чытача ад зборніку „На прасторах жыцьця“ складуцца і будуць зусім другія, чым ад роману „Цемент“. А чаму? Ды толькі таму, што Я. Колас (нават і мастацкі) лепш справіўся з тымі адмоўнымі бакамі, якія ёсьць у романе Ф. Гладкова. Хаця ў зборніку „На прасторах жыцьця“ ёсьць і свае адмоўныя бакі, але яны ня гэткія выразныя.

Каб ня было падзелаў на загалоўкі аддзельных апавяданьняў, то „На прасторах жыцьця“ можна было-б лічыць, што перад чытачом не-

вялікі роман альбо, па крайняй меры, вялікая аповесьць. Усе апавяданьні ў зборніку зьвязаны аднэй ідэяй, аднэй думкай і аднымі (траха што) гэроямі. Гэтыя апавяданьні характарызуюць жыцьцёвы шлях самога аўтара, пэрыод савецкага жыцьця, пачынаючы з 1918 г. і аж да сёньнешняга дню. Кожнае апавяданьне, кожнае слова і імкненьне ў большасьці гэрояў у апавяданьнях гавораць нам аб шчырасьці, каханьні да свайго працоўнага люду, да свайго краю. Якуб Колас любуецца сваімі гэроямі (і для гэтага не шкадуе фарб), калі Сьцёпка і Аленка („На прасторах жыцьця"), Астап („Туды на Захад") *будуюць* савецкае жыцьцё і борュцца за яго!

Усе апавяданьні ў зборніку „На прасторах жыцьця" можна разьбіць на тры групы. У першую можна аднесьці апав. „Хаім Рыбс", „Курская аномалія", „Называецца зарабіў", „Царскія грошы", „Прокурор" і „Колектыў пана Тарбецкага", якія напісаны ў гумарыстычным тоне, хоць, бязумоўна, маюць і адбітак трагізму.

Тут прад чытачом паўстае тып савецкага квартальнага, былога крамніка. І вось, каб паказаць, што такія „квартальныя" ня ёсьць ужо важныя дзяржаўныя праступнікі, а дзеля гэтага аўтар канчае гэтае апавяданьне ў такім гумарыстычным тоне. Арыштаваныя ў халоднай знайшлі бутлю самагону, якую там-жа і расьпілі. Угледзеўшы такі „непарадак" у халоднай, начальства з вялікім абурэньнем і са словамі—„Адчыняй дзьверы і гані вон гэтую сволач!"—выпускае ўсіх арыштаваных з халоднай (апав. „Хаім Рыбс"). Гэтае самае, поўнае кур'ёзаў, бачым і ў апав. „Курская аномалія", дзе сялянства (Куршчыны) побач з другімі дзяржаўнымі справамі, выбірае за папа (і прызначае вобчаствам) мясцовага настаўніка, які, як настаўнік таго часу (1918 г.) і пух з голаду і холаду,—прымушан быў згадзіцца.

Як-бы працягам папярэдніх ідзе апавяданьне „Прокурор". У ім удала выводзяцца тыпы інтэлігентаў, пачынаючы з прокурора і канчаючы папом, і іх адносіны да рэволюцыі 1918 г. і бальшавікоў. У гэтым найлепей відзён выразны твар тэй арыстократычнай часткі інтэлігенцыі, якая толькі і займалася саботажам і не хацела працаваць на карысьць рэволюцыі. Троху паасобку стаіць апавяданьне „Колектыў пана Тарбецкага". Гэта першы твор у Я. Коласа, дзе поўна зарысоўваецца маса, цэлы „колектыў" гарадзкіх тыпаў, пачынаючы з прачкі Грынды і канчаючы асыстэнтам „з засаленым плехам на шапцы".

Вось зусім аддзельна, як кажа і сам аўтар, „з боку жыцьця" стаяць у зборніку апав. „Агатка", „З боку жыцьця" і „Дзядзькаў сьведка". Гэта ёсьць другая група апавяданьняў зборніку. Тут апісана адцьвіўшае жыцьцё старых людзей у параўнаньні з квітнеючым жыцьцём дзяцей.

Гэтыя апавяданьні каштоўны глыбінёю рэалістычнага псыхолёгізму.

Але больш за ўсё зьвяртае ўвагу чытача трэцяя група апавяданьняў, як „Туды на Захад" і „На прасторах жыцьця". У апав. „Туды на Захад" ахопліваецца пэрыод беларусаў-бежанцаў, якіх імпэрыялістычная вайна разагнала па ўсёй б. царскай Расіі. Цікава тое, што ў гэтым апавяданьні, у якім апісваецца быт і псыхолёгія сялянства куршчыны, Я. Колас не ідэалізуе ўжо сялян, а паказвае прад чытачом селяніна з выяўна ўласьніцкай псыхолёгіяй, з яго спэцыфічнай хітрасьцю, а момантамі жорсткасьцю. Далей з усяго зборніку найлепшае ўражаньне застаўляе апав. „На прасторах жыцьця", у якім бачым новых гэрояў (Сьцёпка), лепшых барацьбітоў за савецкае жыцьцё, выгадаваных нашым часам. Гэта першы твор у беларускай літаратуры, дзе адбіта ў мастацкай літаратуры рабфакаўскае студэнцкае жыцьцё,

яго быт, шчырыя імкненьні, жаданьні лепшай часткі моладзі, як Сьцёпка і Аленка, да навукі, да шырокай будаўнічай працы. Але побач з гэтым Я. Колас дае нам і другую катэгорыю нашай моладзі, тыпаў Шулевічаў, якія скарыстоўваюць сваё палажэньне (партыйнасьць) і якія ня будуюць разумна, а наадварот, толькі перашкаджаюць будаваць новае савецкае жыцьцё. У гэткага тыпу людзей няма рэволюцыйнай цэльнасьці, а ёсьць „нейкая неабузданая“ раздвойнасьць. Пры спагаданых умовах такія Шулевічы могуць жыць... і „карыстацца“ жыцьцём, але *быць рэволюцыянэрамі* жыцьця, быць барацьбітамі такія Шулевічы ня могуць! Кожнага чытача могуць захапляць, цягнуць за сабою, сваім імкненьнем, жаданьнем да карыснай навукі, да *практычнай* працы ў штодзенным „будзённым“ жыцьці толькі Сьцёпка і Аленка. Чытач жыве ўсім тым, чым жывуць гэроі. Апавяданьні „На прасторах жыцьця“ Я. Коласа чытаюцца (як і ўсе яго творы) лёгка, з вялікім захапленьнем.

Адначасна, хочацца зазначыць аб некаторых нашых крытыках, якія часта няўважліва адносяцца як да твораў, так і да іх аўтараў. Вось, напр., нельга згадзіцца з т. Шукевічам-Трацьцяковым, які ў сваёй разумнай „крытыцы“ (гл. „Чырвоны Сейбіт“ № 3 за 1926 г.) прарочаскі гаворыць: „Не чакайце-ж ад Коласа сёньня *(а калі?!)* ні яскравых малюнкаў Федзіна („Города и годы“), ні Блокаўскіх „12“ (Вось чаго захацеў паважаны крытык!), ні „Цемента“ Гладкова. Не чакайце ўсяго гэтага ад яго (г. зн. ад Коласа!) сёньня— зарана (??) чакаеце. Тут т. Шукевіч шмат памыляецца ў сваіх прарочаскіх „предсказаниях“! У гэтым ён можа праканацца, калі *ўважліва прачытае* „На прасторах жыцьця“, бо паважаны крытык знойдзе больш таго, *што даў* і Федзін, і Гладков. Шукевіч можа сказаць, што Я. Колас дае толькі лапцюжную вёску, а гораду не. Вядома, што об'ектам мастацкай працы ў Я. Коласа зьяўляецца пераважна вёска. Так, пераважна, але ўжо ёсьць у Я. Коласа шмат такіх апавяданьняў, дзе апісваецца і сучасны горад, праўда, у беларускіх умовах, дзе наогул часта злучаецца горад і вёска ў адно цэльнае. А калі так, то гэта яшчэ ня значыць, тав. Шукевіч, што Якуб Колас ня можа сягоньня даць нават таго, што даў Гладков ці Федзін. Розьніца можа толькі тая, што Глеб у Гладкова ёсьць будаўнік аднаго заводу, а Сьцёпка ў Я. Коласа выхаванец рабфакаўскай пролетарскай школы, ёсьць будаўнік і вёскі і гораду. А Астап („Туды на Захад“) будаўнік агулам новага жыцьця і вёскі і гораду. Гэта свае беларускія Глебы (Сьцёпка) і Дашы (Аленка), але якія без усялякага крыку і *мата* прымаюць шчыры ўдзел у вялікай будаўнічай савецкай працы.

Я. Колас гэтым зборнікам унёс у сваю творчасьць новыя тэмы, новы зьмест, абраў новых гэрояў. Якуб Колас вышаў ужо на савецкія прасторы жыцьця, якія і перадае ў сваіх мастацкіх словах, у якіх пачуў новую мілагучнасьць і музыкальнасьць у творчай працы, дзе — „З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, нясучы з сабою пясок, кусочкі дрэва, траву. Уздоўж каналу стаяў пасьвяточнаму ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады. А з-пад „сьвятога калодзежу“ далятаў, як-бы з разьбітага чыгуна, нудны, гнусавы звон, але з-за шуму вады ў канале яго бадай што і ня чуваць было“. Гнілое балота пры колектыўнай працы асушана! А пагэтаму працоўны народ спраўляе свой „фэст“.

**Ян-Камарук.**

**„Новы Прамень“ № 1**—*часопісь паступовага студэнтства, лістапад 1926 г. Прага-чэская.*

„Новы Прамень“—гэта працяг часопісі „Прамень“, якая была выдадзена тэю-ж організацыяй беларус-

кага паступовага студэнцтва ў Празе ў адным нумары. Як выданьне не пэрыодычнае, часопісь ня мае пэўнага тэрміну выйсьця. Прагон часу ад выйсьця „Прамень“ да выйсьця „Новы Прамень“ досыць доўгі. Але, панашаму, гэта павінна было даць магчымасьць рэдакцыі на падбор матэрыялу і на яго ўдасканаленьне. Між тым, „Новы Прамень“ ні каліва не выграе ў параўнаньні з „Праменем“. Панашаму, часопісь гэтым нумарам яшчэ болей абясцварылася. У часопісі болей адведзена месца літаратуры, чым іншым пытаньням. Матэрыялу, які-б датычыў БССР, амаль што няма, калі ня лічыць артыкулу Асота „Беларускае студэнцтва, і яго шляхі“, рэцэнзыі ў Жылкі на зборнік „Першы Крок“ пачынаючых беларускіх пісьменьнікаў у Латвіі да двух-трох старонак беларускае хронікі. Публіцыстычныя артыкулы адведзены пытаньням становішча ў Польшчы, ангельскай забастоўцы, чэскай і нямецкай поэзіі, асобным напрамкам у літаратуры (прынцыпы конструктывізму) і інш. Бязумоўна, што многія з памянёных тэм маюць вялікую каштоўнасьць і не бясьцікаўны. З гэтага боку зьвяртаюць на сябе ўвагу артыкулы д-ра Ф. Ц. Вайскопфа—„Што новага ў нямецкай работніцка-рэволюцыйнай поэзіі“, Юліуса Фучыка—„Аб чэскай соцыяльнай поэзіі“ і Іжы Волькера—„Пролетарскае мастацтва“. Аднак, перагружанасьць часопісі матэрыялам аб літаратуры (5 артыкулаў!) робяць яе аднабокай і неадпаведнай для аб'яднаньня студэнтаў, якім у першую чаргу трэба было-б уганяць палітычныя мэты. Знаходжаньне ў акаленьні незалежніцка-буржуазнай эміграцыі, з аднаго боку, з другога боку—прысьвячаючы сваю часопісь для Заходняй Беларусі, рэдакцыя павінна была-б адчуваць усю адпаведнасьць гэткага стану. Дзеля беларуса-чытача з Заходняй Беларусі, панашаму, зусім не бясьцікаўным было-б даць матэрыял аб падзеях з беларускага савецкага жыцьця. Зараз у БССР і гаспадарчае будаўніцтва, і культурнае разьвіцьцё цякуць бурным джаралом. Літаратурныя падзеі прынялі надзвычайна шырокі размах. І маўчаць аб гэтым зусім ня слушна для рэдакцыі „Новага Праменю“. Чамусьці і літаратурны аддзел часопісі напалову запоўнены перакладным сказам. Няўжо нельга было знайсьці на гэта месца таго ці іншага апавяданьня з шэрагу беларускіх пісьменьнікаў?..

Да-рэчы, трэба адзначыць цікавыя і моцныя па сіле думкі вершаў сябры N, надасланыя ў рэдакцыю з Лукіскага вастрогу.

Нявызначаны аўтар вельмі ўдала апісвае свае настроі і думкі, седзячы ў адзіночнай камеры. Верш „Навальніца“ нейкага Д., якім адчыняецца зьмест „Новага Праменю“—слабы і бескаляровы.

Наогул, уся часопісь „Новы Прамень“ выглядае бледнаю і нявыразнаю.

На далейшае варта было-б рэдакцыі над гэтым падумаць.

**Абежнік.**

**Анатомія, фізыолёгія і гігіена,** *падручнік для сярэдніх школ д-ра* **Ів. Цьвікевіча,** *правадзейнага члена Інстытуту Беларускай Культуры. Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.*

У сваім падручніку, які толькі што вышаў з друку, аўтар разьмеркаваў увесь матэрыял на дзевяць разьдзелаў. Пасьля анатомічнага і гістолёгічнага агляду пэўных частак організму, у кожным разьдзеле робіцца агляд фізыолёгіі і гігіены гэтых органаў. Падобнае разьмеркаваньне матэрыялу трэба лічыць вельмі ўдалым дзеля таго, што вучні пры такім разьмеркаваньні лепш запамінаюць гігіену паасобных частак організму. У першым разьдзеле разглядаецца жыцьцё каморак і будова тканак. Каб высьветліць

жыцьцё каморкі, аўтар бярэ аднакаморкавыя організмы, разглядае іх жыцьцё, а потым ужо пераходзіць да разгляду каморак організму. Дзякуючы такому падыходу, вучню лёгка зразумець, што такое каморка і ўявіць яе функцыі. Апісаньне фізыолёгіі каморак і тканак організму зроблена даволі поўна і ўдала, чым аблегчыцца праца настаўніка і дзяцей. Толькі варта было спыніцца на крывятворнай тканцы, а аб гэтай тканцы зусім нічога не зазначана. На процэсе крывятворнасьці трэба было наогул больш падрабязна спыніцца. Гэтае пытаньне падросткаў вельмі цікавіць, гэта можа таму, што яшчэ да школы яны сустракаліся з выпадкамі, калі чалавек шмат траціць крыві ад раны і ад іншых прычын, і ўжо у іх да школы зьяўляецца пытаньне аб пахаджэньні крыві.

Пры апісаньні касьцей патрэбна было трохі спыніцца на эволюцыі формаў касьцей, інакш кажучы, патрэбна было трохі ўнесьці біолёгічнага элемэнту, дзякуючы якому гэты аддзел не выглядаў-бы такім сухім. Усё-ж такі трэба прызнаць, што апісаньне касьцей, як для сярэдняе школы, зроблена досыць поўна і добра. Сухасьць матэрыялу, якая дапушчана пры апісаньні, не адаб'ецца на вучнях, бо апісаньне касьцей займае нямнога месца; апрача гэтага, яно ілюстравана значнаю лічбаю прыгожых выразных малюнкаў. Апісаньне цягліц зроблена вельмі ўдала. Тут у кароткіх рысах аўтар абхапіў усе галоўныя цягліцы; апрача гэтага, усе цягліцы, пра якія зазначаецца ў апісаньні, паказаны на малюнку. Пры апісаньні фізыолёгіі і гігіены рухаў даюцца парады, як патрэбна трымаць сябе чалавеку, каб быць заўсёды здаровым; шмат зьвернута ўвагі на тое, пры якіх умовах розныя рухі для організма шкодны. Фізыолёгія і гігіена рухаў чытаецца з вялікай цікавасьцю, бо зроблена гэтае апісаньне навукова і популярна.

На працягу ўсяго падручніка, пры апісаньні фізыолёгіі і гігіены тых ці іншых частак організму, аўтар мала спыняецца, альбо зусім ня спыняецца на парадах аб гігіенічнасьці ў сялянскім быце. Падобныя парады значна наблізілі-б падручнік да вёскі і зрабілі-б яго сярод вёскі больш популярным.

Пры разглядзе крывязвароту аўтар слушна зазначае, што жылы, па якіх кроў ідзе ад сэрца, называюцца артэрыямі, а па якіх ідзе к сэрцу, называюцца вэнамі. Тут толькі патрэбна было дадаць, што гэта назва надана незалежна ад таго, якая па іх цячэ кроў—багатая тленам ці бедная. Такая агаворка ня выклікала-б непаразуменьняў, якія могуць узьнікнуць, бо фактычна ад правага адсэрдка цячэ да лёгкіх кроў вэнозная, але жылы, па якіх яна цячэ, называюцца артэрыямі. У вогуле крывязварот апісан добра і зразумела. Тут у гігіене крывязвароту аўтар разглядае барацьбу організму з шкоднымі элемэнтамі, вызначае тыя соцыяльныя фактары, якія спрыяюць барацьбе організму з рознымі хваробамі. Падобнае апісаньне гігіены крыві і яе звароту вельмі каштоўнае, бо яно надае вучню правільны погляд на агульнае значэньне ґрамадзкае гаспадаркі і санітарыі. Трэба сказаць праўду, што ўсе ранейшыя падручнікі нашае школы пры вывучэньні анатоміі амаль што зусім не зварочвалі ўвагі на соцыяльную гігіену, і гэта адбівалася на паводзінах вучняў. Амаль у кожнай школе пры наліччы плявацельніц можна заўважыць запляваную падлогу і сьценкі. Аўтар падрабязна спыняецца на шкоднасьці для організму п'янства і курэньня тутуну, а таксама вызначае тую адмоўную ролю, якую адыгрывае алкоголь у здароўі будучага пакаленьня. У разьдзеле „Гігіена крыві“ зроблены малюнкі розных заразьлівых мікробаў, а таксама дадзена тлумачэньне, пры якіх умовах

мікробы розных хвароб лепш за ўсё прыжываюцца ў організьме. У разьдзеле „Аб дыханьні“ прыведзена табліца, якая паводле амэрыканскай статыстыкі вызначае процант сьмяротнасьці ў сувязі з удыханьнем розных відаў пылу. Гэтая табліца мае аднолькавую вартасьць як для вучняў гораду, таксама і для вучняў вёскі. Гігіена разьдзелаў „Зварот крыві“ і „Дыханьне“ ў падручніку Цьвікевіча апісан вельмі добра. Таксама ня дрэнна апісаны і самыя органы дыханьня і крывязвароту. Што датычыць апісаньня органаў жыўнасьці, органаў выдзяленьня і абмену матэрыі, то тут матэрыял выкладзен дасьціпна як з навуковага боку, таксама і з пэдагогічнага. Толькі пры апісаньні абмену матэрыі і атляненьня аўтару патрэбна было больш спыніцца на апошнім. Патрэбна было вытлумачыць, адкуль бярэцца вада пры выдыханьні, бо гэтыя пытаньні ў вучняў могуць зьявіцца хутчэй за іншыя, да і ў навуцы яны распрацаваны як належыць. Сярод-жа значнай часткі інтэлігенцыі пашырана не навуковая думка, што тлен у нашым організьме адыгрывае тую ролю, якую адыгрывае пры гарэньні дроў. Такая-ж самая думка перадаецца ў школе і дзецям. Вось на гэтым патрэбна было спыніцца і высьветліць сапраўдную ролю тлену. Можна было аб гэтым напісаць хоць дробным шрыфтам і ў агульных популярных рысах, не заходзячы далёка ў хэмізм самога процэсу. Пры апісаньні голаду і сытасьці аўтар ужывае тэрмін „душэўны“, было-б, здаецца, лепш ужыць замест вышэйазначанага тэрміну тэрмін „псыхічны“ — гэта было-б, здаецца, больш навукова.

У падручніку даволі падрабязна разглядаецца дзейнасьць залоз нутраное сэкрэцыі. У пэдагогічных колах адносна вывучэньня ў школах дзейнасьці залоз нутраное сэкрэцыі існуюць два процілеглыя погляды — прадстаўнікі аднаго погляду імкнуцца да падрабязнага высьвятленьня дзейнасьці залоз, а прадстаўнікі другога погляду здавальняюцца толькі агульным зазначэньнем аб залозах. Гэты апошні погляд нават знайшоў свой адбітак у офіцыйных програмных выданьнях. Аўтар рэцэнзуемага падручніка добра зрабіў, што ня стаў на апошні пункт погляду, а распрацаваў пытаньне аб залозах досыць поўна: ад гэтага выйграе і падручнік і вучні, якія будуць мець магчымасьць азнаёміцца, хоць няглыбока, з таемнымі прычынамі нутраных рухачоў. Бязумоўна, гэта значна пашырыць сьветапогляд вучняў і прымусіць іх больш уважліва адносіцца да пазнаньня і саміх сябе, і іншых організмаў.

Пры апісаньні нэрвовае сыстэмы аўтар кажа: „Нэрва мае дзьве асноўныя фізыолёгічныя ўласьцівасьці: раздражальнасьць, або ўзбуджальнасьць і правадзімасьць“. Нам здаецца, лепей было-б, каб сюды была прыбаўлена яшчэ і трэцяя ўласьцівасьць, — гэта тая, што нэрва ня можа множыцца так, як множацца іншыя каморкі організму. Гэтую ўласьцівасьць аўтар зусім слаба адцяніў, а для таго каб вучні найлепш уявілі ўсё значэньне гігіены нэрвовае сыстэмы, то гэтую ўласьцівасьць патрэбна было асабліва падкрэсьліць. Тое-ж самае патрэбна была зазначыць адносна каморах вока.

Пры разглядзе мазгоў зроблена параўнаньне мазгоў людзей таленавітых і бесталянных, а таксама зроблена параўнаньне мазгоў чалавека з мазгамі розных жывёлін. Такі спосаб разгляду мазгоў вельмі каштоўны, ён значна аблегчыць вучням вывучэньне гэтае часткі організму.

Падробна і добра разабраны мазговыя цэнтры, а таксама перадача раздражненьняў к гэтым цэнтрам і назад ад цэнтраў. Добра высьветлена роля розных нэрвовых валокан у перадачы раздражненьняў і пры гэтым

захована популярнасьць выкладаньня і мовы.

Пры апісаньні вока шмат зьвернута ўвагі на апісаньне оптычнага процэсу бачаньня. Тут аўтар прыводзіць многа цікавых прыкладаў, якія відавочна кожнага ўпэўніваюць, што наш зрок далёка не дасканалы; дзякуючы гэтаму ў вучняў будзе разьвівацца крытычна-навуковы падыход да рэчаў.

На астатак трэба сказаць некалькі слоў аб тэрмінолёгіі. Многія з тэрмінаў зьяўляюцца штучнымі і з народнымі тэрмінамі зусім не пагоджаны. Возьмем к прыкладу тэрмін „падстраўнічная залоза“,—навошта ўведзены гэты тэрмін? Народ гэтую залозу называе проста „брыж“. Гэты тэрмін вельмі добра знаёмы абсолютна ўсім нацыянальнасьцям, якія жывуць на Беларусі: ні адзін яўрэй-мясьнік, ні адна гаспадыня ў Менску ня скажа на брыж, што гэта падстраўнічная залоза. Тэрмінам „брыж“ іншых частак нутранасьцяй організму не называюць, а значыць, гэтым тэрмінам вышэйазначаную залозу і патрэбна было назваць. Цяпер к прыкладу возьмем другі тэрмін—„валасяная цыбулька“, гэта значыць парасійску „валасяная лукавіца“. Навошта гэты літаральны пераклад з расійскага? У нас у народзе гэтую „валасяную лукавіцу“ называюць не „валасянай цыбулькай“, а проста камель воласа. Нам здаецца, што гэта больш навукова, чымся „цыбулька“ або „лукавіца“, бо ў сапраўднасьці волас будовäю сваёй асновы больш падобен на камель расьліны, чымся на лукавіцу. Расійскі тэрмін „полая вэна“ перададзены адпаведным штучным тэрмінам „пустая вэна“ (артэрыя). Не прыходзіцца тут многа гаварыць аб тым, што тэрмін „пустая“ не адпавядае праўдзівасьці, панашаму; замест тэрміна „пустая“ лепей было-б ужыць тэрмін „вялікаёмкасная“, альбо вэна вялікай ёмкасьці. Тое самае можна сказаць і адносна тэрміну „вілкавая залоза“. Чаму яна вілкавая? Што яна—з вілак зроблена ці на вілках знаходзіцца? Гэтая залоза мае толькі выгляд, падобны на выгляд вілак, а значыць, яе трэба назваць вілападобная залоза. Аб тэрмінах яшчэ можна і трэба было-б многа казаць, але мы больш аб іх ня будзем гаварыць, бо тут аўтар рэцэнзуемага падручніку браў гатовыя тэрміны, якія выпрацаваны адпаведнай навуковай інстытуцыяй, і не яго віна, што некаторыя з гэтых тэрмінаў няўдалыя.

У заключэньне мы павінны сказаць, што падручнік д-ра Ів. Цьвікевіча зьяўляецца досыць буйным каштоўным укладам у нашае школьнае будаўніцтва. Усе пералічаныя вышэй недахопы не зьяўляюцца такімі вялікімі, каб зьменшыць агульную вартасьць падручніка. Падручнік прыстасован для старэйшых клясаў другога концэнтру і тэхнікумаў, але яго можна ўжываць і для самаадукацыі. Наша школа даўно чакала такога падручніка, бо ён па сваім якасьцям ня ніжэй самых лепшых расійскіх падручнікаў, але напісан прыгожай мовай, і гэтым самым ён дапаможа хутчэйшай беларусізацыі школ.

К-ль.

1. **М. Байкоў і С. Некрашэвіч**. *Члены Інстытуту Беларускае Культуры*. **Беларуска-Расійскі слоўнік**. *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі Менск—1926 г.* Інстытут Беларускай Культуры. Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

2. **Віцебскае Акруговае Таварыства Краязнаўства**. *М. І. Касьпяровіч*. **Віцебскі краёвы слоўнік** (*Матар'ялы*) *I. Пад рэдакцыяй М. Я. Байкова і праф. Б. І. Эпімах-Шыпілы. Выданьне Віцебскага Акруговага таварыства краязнаўства і выдавецтва „Заря Запада“. Віцебск. 1926 г.*

Праца ў слоўнікавай Камісіі Інстытуту Беларускае Культуры ўваходзіць цяпер у другі кругабег свайго

разьвіцьця. Слоў-картак цяпер ужо маецца такая значная колькасьць, што трэба абмежаваць далейшы іх наплыў з месц.

Неабходна абмежаваць працу ўсіх мясцовых дапішчыкаў рэгістрацыяю рэдкіх, малавядомых слоў. Дзеля гэтага трэба даць мясцовым працаўнікам слоўнік звычайнае, нормальнае беларускае мовы, да якога яны павінны будуць далучаць свае дадаткі. Гэтая акалічнасьць магла, паміж іншым, прымацца пад увагу ўкладальнікамі. Але і, апроч таго, такі слоўнік можа быць карысным для перакладчыкаў і наогул для чытачоў беларускіх тэкстаў як навуковага, таксама й мастацкага зьместу.

У прадмове ўкладальнікі слоўніка паказваюць на гэтае апошняе заданьне, якое і сапраўды для шырокіх грамадзкіх колаў, зьяўляецца асабліва цікавым і паважным. Такім парадкам мы і будзем разглядаць слоўнік, як дапамогу для чытаньня і перакладаў.

У прадмове аўтары адзначаюць, што слоўнік не зьяўляецца поўным, што „як правіла, унесены тыя беларускія словы, што адрозьніваюцца ад расійскіх слоў або па вымове і транскрыпцыі або па сэнсу“.

Прыклады даюцца рэдка. Граматычнае характарыстыкі слоў мы таксама не знаходзім (аб чым чытачы папераджаюцца ў прадмове).

Цікавы сьпіс крыніц, дзе паказаны сапраўды ўсе найбольш каштоўныя матэрыялы.

Слоўнік мае 356 старонак нядробнага друку.

Гісторыя Віцебскага краёвага слоўніка некалькі іншая. Тут мы маем справу ўжо ня з прыватнаю ініцыятываю працавітых лексыколёгаў, а з працаю цэлага колектыву—Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, дзе, аднак, усё-ткі высоўваецца на першы плян актыўнасьць аднае асобы—М. І. Касьпяровіча. Першым вынікам яго лексыколёгічнае працы быў кароценькі (55 старонак) беларуска-расійскі слоўнічак, выдадзены ў Віцебску ў 1925 годзе, але зьбіраньне слоў пачалося яшчэ ў 1924 годзе.

Калі пачалася беларусізацыя Віцебшчыны, М. І. Касьпяровіч (тады інспэктар Віцебскага А Н А) зьвярнуў увагу на тую абставіну, што для сапраўднага набліжэньня школы да сялянства трэба яшчэ шмат папрацаваць. І ў першую чаргу трэба ведаць матчыну мову нашых вучняў. Трэба даць магчымасьць кожнаму настаўніку дасканала азнаёміцца з гэтаю моваю. Трэба ўкласьці мясцовы слоўнік Віцебшчыны.

Віцебскае АНА замовіла загадзя 800 паасобнікаў краёвага лексыкону, і такім парадкам падтрымала гэтую карысную працу.

Партыя, профсаюзы, Акруговы Выканаўчы Камітэт выказаліся за падтрыманьне культурнага пачыну — і праца распачалася. Вялася яна згодна выдадзенай Інбелкультам інструкцыі, якую сваячасова ўлажыла Слоўнікавая Камісія. Сабрана было 46.129 картак-слоў. Працавалі колектывы, але было і дзьве сотні індывідуальных дапішчыкаў.

Словы запісваліся з прыкладамі, часта вельмі цікавымі з боку ня толькі мовы, але і быту. Словы ды прыклады запісваліся фонэтычна, але паколькі гэты слоўнік мае ня выключна навуковую, а (як вышэй сказана) часткова і практычную мэту, дык можна не протэставаць супроць таго, што рэдакцыя ўвяла ў самых словах (ня ў прыкладах) літаратурны правапіс. Але здаецца, што ў чыста навуковых краёвых слоўніках, якія будуць друкавацца пасьля, камісія добра зробіць, калі ўхваліць фонэтычны мясцовы правапіс як для прыкладаў, гэтак сама і для слоў.

Разгледзім цяпер абодва слоўнікі з знадворнага і з унутранага бакоў.

З знадворнага боку ўражаньне ад абодвух добрае. Добрая папера, чытэльны друк; сустракаюцца друкар-

скія памылкі, але карыстаньню слоўнікамі не замінаюць.

З унутранага боку добра зроблена ў гэтых слоўніках тое, што ўсюдых, дзе магчыма, даецца лацінская номэнклятура.

Расьліны, жывёлы, хваробы маюць сваё бясспрэчнае міжнароднае азначэньне.

Таксама добра, што ёсьць націскі (націскны галосны друкуецца іншым шрыфтам). Мы ўжо ў сваім часе гаварылі аб слоўніку Байкова і Гарэцкага, што яго каштоўнасьць значна абніжаецца поўнаю адсутнасьцю націскаў. У тых слоўніках, што мы цяпер разглядаем, гэтага недахопу няма.

У Віцебскім слоўніку дакладна паказваецца мясцовасьць: гэта мае вялікае значэнне для дыялектолёгаў, бо ў прыкладах выяўляюцца граматычныя асаблівасьці мясцовых гутарак. У слоўніку Байкова і Некрашэвіча мы бачым першы крок да вывучэньня гутарак паасобных пісьменьнікаў іх індывідуальнае мовы, што сучасная мовазнаўчая навука лічыць вельмі паважнаю справаю. Часам даюцца і лінгвістычныя роўналежнікі.

Сапраўды, мы можам глядзець на гэтыя слоўнікі ня толькі, як на цэглы для вялізнае будыніны „акадэмічнага слоўніка беларускае мовы“,— яны маюць і сваю самастойную цану. Мы замала яшчэ ведаем мову нашага народу і мову нашых літаратурных і навуковых дзеячоў. Мы павінны шчыра вітаць усё тое, што больш-менш дапаможа нам у гэтай справе.

Колькі багацьця мае беларуская мова для абазначэньня хоць-бы звычайнае крапівы: ёсьць і страківа (ад *стракаць)* і джыгучка (ад *джыгаць)* і *жгучка* (ад джгаць).

А вось беларускае *дашчна* (з дъсчанъ, адкуль атрымалася й расійскае *чан)*; восапа—лацінскае vespa vulgaris; гузынства (ад франц. cousinage). Расійскія словы миг, мгновение ў Віцебшчыне перадаюцца пабеларуску „*камленьне*“ (ока мьгънение) і „*жыг*“. Слова „пенал“ — цікавым „*кайчэ*“, солнце—„*карона*“ (адзін з некалькіх сынонімаў); „*лотва*“ (як у Насовіча „*мардва*“) значыць „шумлівы натаўп“.

Мы ведаем, што „шалун, сорванец“ — панашаму перакладаецца гарэза (з грэцк. hajresis—„ересь“), але ў Віцебшчыне гавораць больш конкрэтна—*кальвін*—мусіць, з протэстантаў там было найбольш рэформатаў; ад яўрэяў запазычана слова „*кашарыць*“ — „совершать очищение“.

У нас часта гавораць, што народ ня ведае тых беларускіх слоў, якія знаходзяцца ў кніжках — гэта словы штучныя. Аднак, у Віцебскім слоўніку мы знаходзім і *гарбату*“, і „*імбрычак*“, і „*кайзэр*“, і „*лёс*“, і „*ліхтар*“. Ёсьць і словы „*адносьнік*“ і „*загадчык*“.

Апроч таго, мы знаходзім і такія словы, якія вельмі дакладна перадаюць сэнс чужаземных выразаў. Напрыклад, „фронтон“ перакладаецца на віцебскую гутарку словам *лоб* (лацінскае frons мае якраз гэта самае значэньне).

Рэўматызм—„*касталом*“.

Тыя словы, што мы чытаем у Энэідзе навыварат: „*кавярзьні*“ і „*качатых*“ або „*кацадых*“ і цяпер жывуць у народнай мове Віцебшчыны.

У некаторых выпадках у слоўніку Касьпяровіча сустракаюцца прыкрыя недагляды.

Так „затанна“ перакладзена „задёшево“, а з прыкладу відаць, што гэтае слова мае сэнс „слишком дёшево“, як і заўсёды бывае ў падобных выразах (тое самае мы маем і ў палякаў: za tanio і ў немцаў zu billig і наогул нашае за пры прыметніках значыць „*слишком*“.

Няўдала запісана слова *кзымс*; так ня можа быць ні ў правапісе, ні ў вымаўленьні. Магчыма, што Касьпяровіч хацеў тут падкрэсьліць вымаўленьне, як лацінскае *g*, а не як *h*. Паміж іншым адсутнасьць у нашых друкарнях знаку для гэткага *z* шко-

дзіць слоўнікам *значна* больш, чымся іншым кніжкам.

Адносна слоўніка Байкова і Некрашэвіча трэба сказаць, што ён мае значна большы практычны нахіл, чымся Віцебскі лексыкон. Словы, ахопленыя гэтым слоўнікам, складаюць ужо значную частку ўсяго нашага моўнага багацьця.

Тым больш шкада, што некаторыя словы дадзены не са ўсімі адценьнямі сэнсу.

Напрыклад, *бонда* ў Насовіча мае тры адценьні, а тут дадзена адно; *бунт* мае—два, а дадзена—адно; другое ёсьць толькі пры слове „бунцік", хоць яго мае і *бунт;* таксама і слова *адданы* (хоць у Насовіча і мае адно значэньне—„отданный обратно", „возвращенный") ужываецца яшчэ і ў сэнсе расійскага „преданный".

Узятае ў Сяржпутоўскага слова „затакавацца" ў сэнсе — „заговориться, заболтаться",—ёсьць вочавідна спэцыяльны тэрмін, запазычаны ў паляўнічых і ўжываны першапачаткова адносна глушцоў і цецярукоў, а пасьля ўжо мэтафорычна—і адносна людзей.

„*Зянон*" парасійску зусім ня Зиновий, а Зенон, або паіншаму вымаўленьню Зинон (два розныя йменьні Zenobios—Зиновий і Zenon—Зенон).

„*Мазур*" у Насовіча мае тры адценьні сэнсу, пры гэтым зусім няправільна на першым месцы пастаўлены „мазовшанин, черноруссˮ. Трэба мець на ўвазе, што аб мазурах добра ведаюць толькі ў Горадзеншчыне, а ў іншых мясцовасьцях „мазур" значыць „замазанный" або „смуглый, черномазый от природы".

Нават, калі-б мы і згадзіліся з тым, што „мазур" адначасна можа абазначаць і мазаўшаніна і чарнаруса, дык трэба паміж імі паставіць кропку і коску, бо гэта-ж зусім не адно і тое самае.

Толькі гэтыя значэньні і дадзены ў слоўніку Байкова і Некрашэвіча.

„*Мосенз*" перакладзена „бронза"—і толькі (так, як і ў Насовіча). Паміж іншым, здаецца, што і „латунь" перакладаецца на нашую мову гэтым-жа самым словам. (Папольску mosiądz значыць „*латунь*").

„*Мыт*" запазычана ў Ціхінскага (адзначана літараю Ц.).

„*Каліва*" ня толькі зерне, але, наогул, малая частка расьліны (Дай мне каліва расады—Касьпяровіч) або, нават, нейкіх іншых матэрыялаў.

„*Казальніца*" ня „трибуна", а „проповедническая кафедра" (у Насовіча—казанница).

„*Лёс*"—судьба, доля, рок, фатум. Паміж іншым, першае значэньне — гэта „жребий", таму я лічу зусім правільнымі: *лёсаваньне* — жеребьёвка і *лёсаваць*—метать жребий.

„*Маждзжэр*" у Байкова і Некрашэвіча—пестик, што зусім няправільна. Польскае moździerz значыць парасійску „ступка", у Насовіча таксама иготь-ступка, і прыклад: „стовчи въ можджеру соли", у Касьпяровіча—ступка і прыклад: „стаўчы перац у маждзжэры".

„*Немец*" не заўсёды мае сэнс „германец". Таму добра было-б поруч з „германец" паставіць і слова „немец", якое ўжываецца ў расійскай мове гэтак-жа сама ахвотна, як і ў беларускай.

„*Павеўна*"—„лёгкая воздушная женщина" сустрэлася адзін раз у вершы Я. Купалы. Магчыма, што гэта ёсьць імя прыметнае.

„*Падабед*" хутчэй за ўсё ня „завтрак", а „полдник" (паангельску было-б ня breakfast, a lunch).

„*Смаркавіны*" і „*смаркавіньне*", зразумела, не харкотины (якім адпавядаюць у нас кархавіны і кархавіньне), а „сопли", або больш далікатна—„носовая слизь, носовая мокрота".

„*Трыкляты* вораг" не *заклятый* (г. зн. заядлы), а хутчэй за ўсё—тройчы пракляты—надта агідны.

*Язычны,-члівы* — домоязычный, невоздержанный на язык.

Хоць першага тлумачэньня і няма ў індэксе друкарскіх памылак, але я ўсё-ткі лічу, што было напісана *зло-*

*язычны*, а ў друкарні з *зл* нейкім, ня зусім для мяне зразумелым, спосабам атрымалася злучэньне: *дом*.

Слоўнік Байкова і Некрашэвіча і краёвы лексыкон Касьпяровіча, не зважаючы на іх пэўныя недахопы, трэба лічыць вельмі карыснаю зьяваю ў нашым навуковым і практычным жыцьці.

Самыя прынцыпы, агульныя падставы і нават мэтоды слоўнікавае працы ў абодвух выпадках былі зусім правільныя. Частковыя, даволі рэдкія, недагляды не абніжаюць вялікае каштоўнасьці гэтых прац.

Слоўнік М. Касьпяровіча дае нам уяўленьне аб паточнай мове насельніцтва Віцебскае краіны. Настаўнікі, азнаёміўшыся грунтоўна з мясцоваю гутаркаю, наблізяць сваё выкладаньне да жывое мовы віцебскага сялянства. Гэта адзін бок заданьня (дзеля якога я не протэстую супроць агульна-літаратурнае афарбоўкі мясцовых слоў,—гэта компроміс, неабходны пры дапасаваньні слоўніка да практычных мэт).

Другі бок заданьня—усё-ткі навуковы—досьледы над мясцоваю гаворкаю. Прыклады, надрукаваныя з захаваньнем мясцовых фонэтычных асаблівасьцяй, даюць нам шмат чаго карыснага ў гэтым сэнсе. Уласна кажучы, мы можам лічыць такія прыклады дыялектолёгічным дакумантам вельмі высокае каштоўнасьці.

Што тычыцца да слоўніка Байкова і Некрашэвіча, дык адны ўжо прыклады з пісьменьнікаў, цікавыя, выбраныя ўмела і паводле пэўнае сыстэмы, маюць вялікую цану.

Наогул сабраць гэтакую колькасьць слоў (350 старонак) — гэта значыць даць ключ да нашае мастацкае, а ў пэўнай меры і да навуковае літаратуры; гэта мае значэньне як для школы, гэтак і для самаадукацыі.

* * *

Далейшая слоўнікавая праца можа пайсьці хутка і пасьпешна.

Укладальнікі мясцовых слоўнікаў атрымаюць лексыкон М. Касьпяровіча, як узор, і слоўнік Байкова і Некрашэвіча ў якасьці асновы (каб ведаць, што лічыць шырака распаўсюджаным і дзеля таго цяпер ужо непатрэбным камісіі матар'ялам).

Тады ўкладаньне мясцовых слоўнікаў значна палегчыцца. Зразумела, і іншыя дапісчыкі слоўнікавае камісіі будуць карыстацца гэтымі выданьнямі, і справа пойдзе хутчэй.

Бясспрэчна, тыя слоўнікі, што выдаюцца цяпер (хутка выйдзе яшчэ расійска-беларускі слоўнік Байкова і Некрашэвіча), маюць сваё ўласнае значэньне і сваю ўласную цану. Але, апроч гэтага, яны маюць яшчэ і тую каштоўнасьць, што часткова замяняюць будучы акадэмічны слоўнік і служаць для яго падрыхтоўкаю. Яны падрыхтоўваюць і запас слоў і саміх лексыколёгаў, даюць ім навыкі, уменьне, адным словам, усё тое, што трэба будзе ў поўнай меры пусьціць у зварот падчас апрацоўкі вялікага акадэмічнага слоўніка жывое беларускае мовы.

**Л. Цьвяткоў.**

**Наш Край.** *Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. № 10-11 (13-14) Кастрычнік-лістапад 1926 г. Менск, выд. і друк. Інбелкульту, 8°, 86 стар., 70 кап.*

Часопісь пачынаецца адозваю за подпісам Цэнтральнага Бюро Краязнаўства да ўсяго студэнцтва БССР; „Студэнт, пазнай свой край“.

Чытаючы адозву, відаць адразу нейкая недарэчнасьць. Так, напр., з слоў: „Мы на новы вучэбны год клічам беларускага студэнта. Студэнт, пазнай, свой край“—відаць, што адозву хацелі друкаваць у верасьні, калі пачынаецца вучэбны год, а часопісь з адозваю вышла ў канцы сьнежня—канцы першае паловы навучальнага году.

Артыкул М. Кіркевіча. „Перапіс насельніцтва“ пісаўся к усеагульнаму перапісу насельніцтва і таксама

спазьніўся па меншай меры на тры тыдні.

Далей ідзе артыкул Аляксандрава „Чарговыя задачы школьнага краязнаўства“. Аўтар зазначае, што да апошняга часу краязнаўчая праца настаўнікаў ішла шляхам зьбіраньня розных, пераважна этнографічных, матэрыялаў. Вынікам гэтага быў разрыў паміж мэтодычнаю і краязнаўчаю працаю настаўніцтва. Па думцы аўтара, для ўвязкі паміж гэтымі 2 галінамі працы: 1) канечна патрэбна організаваць мясцовыя музэі, 2) мэтодычную працу на мясцох прасякнуць краязнаўчым духам, 3) у плян падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі настаўніцтва ўключыць мэтодычную краязнаўчую працу і, урэшце, каб кожны настаўнік меў магчымасьць знаёміцца з існуючай краязнаўчай літаратурай. На жаль, аўтар не гаворыць, як вясковы настаўнік зможа дастаць усю новую краязнаўчую літаратуру.

Цікавы артыкул Зьбіткоўскага „Морва ў Полаччыне“.

Аўтар, апісваючы, як расьце ў Полаччыне морва, гаворыць: „Такім чынам, морва пачынае прышчапляцца ў Полаччыне, праўда, яшчэ занадта мала, але... цяжкімі бываюць толькі першыя крокі“.

У аддзеле „Матэрыялы з месц“ зьмешчаны 3 допісы: 2 з Барысаўшчыны і адзін з Віцебшчыны.

Аддзел „Програмы, інструкцыі і анкеты“ складаецца: 1) програма першапачатковага азнаямленьня з краязнаўствам, 2) інструкцыя для асноўных нагляданьняў над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк і 3) ад Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

Аб гэтым разьдзеле трэба заўважыць, што ён таксама спазьніўся, вышаўшы ў палове зімы.

Багаты аддзел хронікі, большая частка якога займае, за подпісам *А. К.*, артыкул „Праца Калінінскага Акруговага Т-ва Краязнаўства“. Апрача таго, тут зьмешчана хроніка прэзыдыуму ЦБК і блізка ўсіх акруговых краязнаўчых т-ваў.

Урэшце, зьмешчана бібліографія, зьяўленьне якое трэба вельмі вітаць. Шкода толькі, што няма ніводнае рэцэнзіі на мэтодычную краязнаўчую літаратуру, але толькі на беларускія краязнаўчыя выданьні.

Нашым провінцыяльным краяведам, ня маючым магчымасьці набыць усю мэтодычную краязнаўчую літаратуру, вельмі карысна было-б прачытаць тую або іншую рэцэнзію, каб мець магчымасьць пасьля з цэлае кучы выбраць найбольш для яго падыходзячую.

Часопісь з тэхнічнага боку выдана добра. Да недахопаў трэба аднесьці несваячасовы выхад у сьвет, ад чаго шмат матэрыялаў патрацілі сваю сэзонную каштоўнасьць, а таксама няверную інформацыю аб студэнцкай краязнаўчай працы.

**М. Улашчык.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў

* *Янка Купала* падрыхтаваў да друку IV т. поўнага збору твораў, які ў скорым часе здае Бел. Дз. Выдавецтву для надрукаваньня.

* *Міхайла Грамыка* падрыхтаваў да друку вялікі зборнік сваіх вершаў пад назвай „Плынь". Зборнік будзе выдаваць Бел. Дзярж. Выдавецтва.

* *З. Бядуля* здаў для друку Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву свае поэмы, якія выходзяць асобнай кніжкай.

* Інбелкульт разам з акадэміяй мастацкіх навук ладзіць у лютым месяцы гэтага году ў Маскве шырокую публічную вечарыну, прысьвечаную сучаснай мастацкай культуры Беларусі.

На вечары будзе прачытаны даклад аб стане беларускага мастацтва пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі і характары беларускае літаратуры і поэзіі, а таксама будзе організавана невялікая выстаўка, якая будзе характарызаваць народнае мастацтва Беларусі.

* ЦБ „Маладняка" праводзіць пераучот сваіх членаў па ўсёй тэрыторыі БССР.

* У студзені месяцы г. г. адбыўся агульны сход т-ва пісьменьнікаў, драматургаў і композытараў, на якім была заслухана справаздача часовага праўленьня а сваёй дзейнасьці. Цяпер т-ва налічвае па Беларусі 34 асобы. Сход абраў новае праўленьне ў складзе т.т. З. Жылуновіча, Ф. Ждановіча, Я. Дыла, Е. Міровіча і Макса Купэра.

* ЦБ „Маладняка" рыхтуе да друку зборнік вершаў маладога поэты Кляшторнага „Кляновыя завеі". Таксама выдавецтвам „Маладняк" выдаецца асобным выданьнем новая поэма Янкі Купалы „Яна і Я".

* Ня так даўно ў Маскве заснаваўся беларускі літаратурна-дасьледчы гурток, які мае на мэце зьбіраньне маладых дасьледчыкаў беларускае літаратуры і кіраваньне іх працай, а таксама інформаваньне расійскага і замежнага грамадзтва аб стане беларускага літаратурнага жыцьця. У гурток увайшлі маладыя дасьледчыкі: Бярозка, У. Дубоўка, Станкевіч, Шастакоў, Якаўчык і цэлы шэраг т. т., скончыўшых маскоўскія літаратурныя ўстановы.

Гурток наладжвае сувязь з маскоўскімі марксыстымі, профэсарамі літаратуры і літаратурнымі крытыкамі.

## Тэатр, мастацтва і музыка

* 23 студзеня ў Бел. 1-м Дзярж. Тэатры у дзень 25-гадовага юбілею артыста Ф. Ждановіча йшоў першы раз на беларускай мове трэці акт опэры „Русалка" Даргамыжскага. Роля князя мастацкі выканана Мацэлевічам, а млынара—В. Сэляхам.

* Утворана з прадстаўнікоў БДТ, музтэхнікуму, Рабіса, музычнай п-сэкцыі Інбелкульту і Галоўполітасьветы камісія для адзначаньня стагодзьдзя з дня сьмерці вялікага сусьветнага композытара Людвіга Ван-Бэтховэна.

* Бел. Першы Дзяржаўны Тэатр у бліжэйшыя часы абвяшчае конкурс на лібрэто орыгінальнага беларускага балету. Пастаноўка гэтага балету даручаецца балетмайстру тэатру Б. Шчарбініну.

* У бліжэйшы час Белдзяржкіно выпускае першую беларускую дзіцячую трукапрыключэнчаскую фільму „Прыключэньні Грышкі Сьвінапаса".

Монтаж фільмы робіцца з кавалкаў і эпізодаў, якія не ўвайшлі ў „Лясную Быль“.

* Галоўполітасьветам БССР часова прымацаваны да Беларускага Вандроўнага Тэатру рэжысэры: М. Рафальскі, Е. Міровіч, А. Ляжнэвіч і Ліцьвінаў. М. Рафальскі будзе ставіць у тэатры п‘есу з яўрэйскага жыцьця на беларускай мове. Апрача таго, прымацаваныя рэжысэры будуць праводзіць студыйную працу сярод артыстых тэатру.

* Галоўполітасьветы БССР выдае шэраг популярных п‘ес для сялянскай сцэны. У першую чаргу выдаюцца наступныя п‘есы: „Шчасьлівы дзень“ Мяцеліцы, „На вёсцы“—Грудзінскага, „Змаганьне з цемраю“—Цераха і популярную п‘есу драматурга Бэна „Чараўніца“.

* Пры Наркамасьвеце ўтворан вышэйшы мастацкі савет па справах тэатру і кіно. Старшынёю савету вызначан т. Ляжневіч.

Ініцыятыўнай групай мастакоў распрацован статут усебеларускага аб‘яднаньня мастакоў, які ўнесены ў вышэйшыя органы на зацьверджаньне. Аб‘яднаньне мае мэтай злучыць мастацкія сілы БССР і пашырыць працу па ўтварэньню нацыянальнага па форме і пролетарскага па зьместу беларускага і іншых нацыянальных мастацтваў народаў, насяляючых БССР. Аб‘яднаньне намячае шэраг дыспутаў і выставак.

* Пасьля доўгага перарыву Бел. Дзярж. Тэатр аднавіў на сваёй малой сцэне пастаноўку „Рысі“ і „Паўлінкі“.

* На вялікай сцэне БДТ у працягу другой паловы сэзону будуць пастаўлены: „Змрок“ — Шашалевіча (драматычныя эпізоды з сялянскага жыцьця), „Над Нёмнам“—М. Грамыкі (з жыцьця Зах. Беларусі), „На купальле“—у пераапрацоўцы М. Чарота з новай музычнай аранжыроўкай композытара Аладава, „Цэмант“ па роману Ф. Гладкова і „Віндзорскія кумушкі“ Шэксьпіра.

* У блішэйшыя часы на малой сцэне БДТ будуць пастаўлены: вечар француского гумару (Мольера), вечар беларускага гумару і юнацкая п‘еса „Пугачонак“ Проніна.

* Каб разьвіць самадзейнасьць і актыўнасьць сярод артыстых Беларускага 1-га Дзяржаўнага Тэатру вырашана даручаць артыстым самастойныя невялікія пастаноўкі. Як першы вопыт, групай артыстых лёборантаў будзе пастаўлен „Вечар скэтчаў“.

Апрача таго, пры сталай рэжысуры організуецца група артыстых-асыстэнтаў, якія будуць прымаць удзел у пастаноўцы і распрацоўцы паасобных п‘ес.

* У бягучым сэзоне БДТ дасьць балетны вечар, у які ўвойдзе балет „Вальпургіева ноч“ (з „Фауста“) у праваджэньні хору „Палавецкі стан“ (з „Князя Ігоря“) і іншыя сольныя нумары. Вечар будзе пастаўлен салістам тэатру Н. Гаевым.

* У 1926 г. тэатр пад кіраўніцтвам Галубка, абслугоўваючы БССР, паставіў 178 спэктакляў і 45 концэртаў.

У гэтым годзе, больш як у ранейшыя гады, тэатр працаваў па глухіх кутках БССР, у тым ліку і сярод фабрычных рабочых Гомельшчыны.

## У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве

* Перавыдаецца другім выданьнем зборнік апавяданьняў „У віры жыцьця“ М. Зарэцкага.

* Друкуецца романс „З асеньніх напеваў“, музыка М. Аладава, словы Янкі Купалы.

* Поэта - маладняковец Чарнушэвіч Н. перадаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву для друку зборнік сваіх вершаў „Дзіва“.

* БДВ друкуе другім выданьнем зборнік апавяданьняў „Трэскі на хвалях“ Цішкі Гартнага.

* Друкуецца Бел. Дз. Выдавецтвам кніга Л. Кагана „Нацыянальна-вызваленчы рух на Усходзе“. Кніга Л. Кагана складзена з цэлага шэрагу арты-

кулаў па ўсходняму пытаньню, якія друкаваліся ў часопісі „Полымя“.

* Здадзены ў друк БДВ зборнік вершаў „Табе“ Анатолія Вольнага.

* Знаходзіцца ў друку падручнік Карнілава па псыхолёгіі.

* Перавыдаецца БДВ 2-гім выданьнем поэма Я. Коласа „Новая зямля“.

* Вышла з друку другая частка політграматы Нікуліхіна.

**Рознае**

* Полацкая філія „Маладняка“ выдала свой першы альманах „Наддзьвіньне“.

* Бел. Дзярж. Бібліотэка атрымала ад Глаўнавукі РСФСР бібліотэку памешчыка Каладзеева, вывезеную з Барысава ў 1912 г., якая дагэтуль знаходзілася ў музэі 1812 г. Бібліотэка налічвае 8000 томаў кніжак.

* Беларускі Дзярж. Музэй атрымоўвае з усесаюзнага дзяржаўнага музэйнага фонду новы каштоўны уклад 30 розных карцін расійскіх і замежных мастакоў.

**У Інстытуце Беларускае Культуры**

* Прэзыдыум Інбелкульту пастанавіў распачаць працу па складаньню гістарычнага слоўніка беларускай мовы па матэрыялах архіваў.

* Да дзесятай гадавіны са дня сьмерці поэты Максіма Багдановіча ёсьць намер выдаць усе творы нябожчыка.

Апроч таго, прэзыдыум ІБК падняў пытаньне перад СНК і Наркамасьветы БССР аб вызначэньні штогадовай прэміі імя М. Багдановіча за лепшы мастацкі літаратурны твор у разьмеры 500 руб. і аднэй стыпэндыі павышанага тыпу студэнту ВНУ, які выявіў сябе ў літаратуры.

* Інбелкультам атрымана ад К. Езавітава з Рыгі (Латвія) аўтограф беларускага поэты Ф. Багушэвіча.

* 18студзеня адбыўся пленум навуковага бюро па с.-г. дасьледчай працы. На пленуме заслуханы даклады: проф. Кайгарадава—„Клімат Беларусі“, проф. Афанасьева — „Глебы Беларусі“, Адамава — „Гео-ботанічны нарыс БССР“, А. Смоліча—„Пытаньні экономічнага раёнаваньня“, проф. Скандракова—„Прынцыпы організацыі дасьледчых устаноў“.

* Вайсковая камісія пры ІБК распачала організацыю бібліотэк для вайскоўцаў-беларусаў.

* Пры Менскім акр. краязнаўчым таварыстве ўтворана камісія па складаньню менскага краявога слоўніка.

* ЦБ Краязнаўства склікае на 10 лютага 1927 году ўсебеларускі II-гі краязнаўчы зьезд, якому надаецца практычна мэтодычны характар.

* ІБК падняў пытаньне перад Наркамасьветы аб організацыі ў сёлетнім годзе 2-га драматургічнага сэмінарыю па прыкладу леташняга. Гэты сэмінары будзе абслугоўваць і культурных працаўнікоў провінцыі.

**Беларуская культура за рубяжом**

* У горадзе Чыкаго (Амэрыка) у вялікай залі „Вэст Сайд Аўдзіторыум“ адбылася з вялікім концэртам беларуская вечарына, організаваная Беларускім Нацыянальным Хаўрусам.

* У Чыкаго пачала выходзіць пад рэдакцыяй Язэпа Варонкі першая ў Амэрыцы беларуская газэта пад назвай „Беларуская Трыбуна“. Газэта спачатку выходзіць 2 разы ў месяц.

* У Вільні вышаў з друку першы нумар новай беларускай газэты „Народны Звон“, якая друкуецца лацінкай. Газэта падтрымлівае кірунак „Сялянска-Работніцкае Грамады“.

* У Чэха-Славакіі (Прага) пачала выходзіць замест часоп. „Прамень“— штомесячная часоп. „Новы Прамень“.





## ХРОНІКА З УКРАЇНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У сьнежні месяцы 1926 г. споўнілася 5 год з часу існаваньня Дзяржаўнага Квартэту імя Вільёма.

* Ваплітэ (Вольна Акадэмія Пролетарскай Літаратуры) прыступіла да выданьня сваёй часопісі „Ваплітэ". Часопісь будзе зьмяшчаць як мастацкія творы, так і крытычныя артыкулы.

* У студзені месяцы г.г. адбыўся шырокі пленум ЦК сялянскіх пісьменьнікаў аб'яднаньня „Плуг".

* У ВУФКУ паступілі новыя сцэнарыі „Жалезная баба"—дзіцячы сцэнары С. Васільчэнка, „Цемент"—сц. Д. Марыяна па роману Ф. Гладкова, „10.000"—сцэн. Бузька, „Уклон"—сц. Фартучнага, „Палундра"—сц. Глеба Затворніцкага.

* Група пісьменьнікаў г. Харкава ўтварыла коопэрацыйнае аб'яднаньне для збудаваньня будынку пісьменьнікаў.

* Пры Дзяржаўным Выдавецтве Украіны зложана камісія па выдавецтву дзіцячай мастацкай літаратуры.

* Выдавецтва пісьменьнікаў аб'яднаньня „Плуг" выдала: Остап Вішня—„Украінізуемся", „Вішнёвыя ўсьмешкі кооператыўны", М. Быкавец — „За дзіцячую кніжку і кінофільм" і інш.

* У лютым 1927 г. спаўняецца 100 г. з дню нараджэньня выдатнага байкара Леаніда Глебава. Да падрыхтоўкі юбілею ў г. Кіеве ўтворана камісія.

* Кіеўскі Мастацкі Інстытут ладзіць адкрытую выстаўку студэнцкіх прац за 1925-26 навучальны год. Выстаўка мае аддзелы: архітэктуры, малярства, скульптуры, поліграфії, тэкстылю, тэатральнага афармленьня і мастацкай пэдагогікі.

* Вышаў з друку першы нумар літаратурна-крытычнай часопісі „Маладняк". Аб'яднаньне маладых пісьменьнікаў поэтаў-комсамольцаў.

* У апошніх чыслах сьнежня 1927 г. ў Харкаве адбыўся ўсеукраінскі зьезд пролетарскіх пісьменьнікаў. На зьезьдзе прысутнічалі пісьменьнікі з усіх месц УССР.



*Рэдакцыйная калегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

## ПРЫВІТАНЬНІ ЧАСОПІСІ „ПОЛЫМЯ“

**У рэдакцыю часопісі „Полымя“.**

Вельмі шкадую, што я не меў магчымасьці прысутнічаць на пасяджэньні 5-гадовага юбілею часопісі „Полымя“.

З прычыны гэтага шлю сваё прывітаньне і жадаю, каб часопісь яшчэ мацней і бязьлітасьней сваім пролетарска-клясавым вастрыём пяра кроіла ўсё мяшчанскае, усё старое.

З прывітаньнем *М. Карклін.*

27-XII—26 г.

---

**Рэдакцыя „Полымя“, Савецкая, 63, Менск—Рагачэў.**

Вітаем часопісь з днём пяцігодзьдзя і жадаем надалей быць полымем у полымі беларускае культуры.

*Імшэньнік, Харэвіч.*

25-XII—26 г.

---

**До Рэдакції журналу „Полымя“.**

Редакція журналу „Червоний Шлях“ вітає вас і з п'ятирічним ювілеєм і щиро бажає Вам і надалі служити проводирем революційного слова серед робітниче-селянських мас Вашої молодої Радянської Республіки.

Секретар *Петро Панч*

16 грудня 1926 р.

# ЗЬМЕСТ

# ЗЬМЕСТ ЧАСОПІСІ „ПОЛЫМЯ“

## за 1926 г.

Рымскія лічбы азначаюць нумар часопісі, арабскія—старонку.

### Мастацкая літаратура

## Навуковыя артыкулы

## Грамадзка-політычна-экономічныя артыкулы



## Артыкулы па гісторыі і рэволюцыйнаму руху Беларусі

## Літаратурна-крытычныя артыкулы



## Кнігапіс